ныя войны з Вялікім княствам Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, якое аб'ядноўвала тады землі сучасных Украіны, Беларусі і Літвы. Адзін з эпізодаў гэтых войнаў нават адлюстраваны на гербе Магілёва.

Якія пачуцці ўсё гэта можа выклікаць у вас? Вельмі не хацелася б, каб гэта прывяло да насцярожанасці, падазронасці і іншых нядобрых пачуццяў у адносінах да суседняй Расіі і яе народа. Гісторыя гісторыяй, а жыццё жыццём. Гісторыю трэба ведаць, каб не паўтараць і не даваць другім паўтараць яе памылак.

Мы, беларусы, не прызнаём легенду пра тры братнія народы не таму, што цураемся сваяцтва з украінцамі і расіянамі. Не! Нам прыемна мець такіх братоў, жыць з імі побач ва ўзаемаразуменні, узаемаспагадлівасці і ўзаемадапамозе. Але ў нас братоў болей, чым два. Мы лічым сваім братамі і летувісаў з палякамі, з якімі нас звязваюць агульныя крыніцы пісьменнасці, культуры, мовы. Мы лічым братамі індусаў, кітайцаў, грэкаў і іншыя народы, якія закладвалі асновы сучаснай навукі аб Прыродзе, Космасе і Чалавеку. Мы імкнемся да таго, каб усе народы Зямлі былі братнімі народамі, каб усе народы не такой ужо вялікай планеты жылі ў братняй згодзе, самастойна вызначаючы свой шлях у гісторыі. І паказчыкам такога імкнення з даўніх часоў з'яўляецца тое, што ніколі за ўсю сваю гісторыю Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае не вяло захопніцкіх войнаў, ніколі народ беларускі не імкнуўся падначаліць сабе іншы народ, каб панаваць над ім, рабаваць яго.

Ні адзін з герояў нашай Айчыны не мог сказаць словы, падобныя тым, якія ў свой час сказаў А.В. Сувораў: «Зямля, на якую ступіла нага расійскага салдата, належыць Расіі!» Сувораў быў выдатным заваёўнікам. З яго часоў беларускія землі належаць Расіі. Ён паклаў свой талент на тое, каб пашырыць уладу расійскіх цароў на шмат якія новыя землі, што сёння абарочваецца для Расіі вялікімі праблемамі. Узяць хаця б рускі горад Цірaспаль, заснаваны Суворавым на заваёваных землях сучаснай Малдовы. Колькі крыві ўжо пралілося там за мінулы год і колькі яшчэ — не дай Бог! — можа праліцца!

Гледзячы на гэта, як не ўсвядоміць, што гісторыя не церпіць насілля і гвалту, што гісторыю ствараюць не заваёўцы, якімі б вялікімі яны ні былі. Гонар і слава беларускага народа — у яго цярплівасці і добразычлівасці да іншых народаў, павагі да іх звычаяў, мовы і веры. Усё гэта праглядаецца з самых даўніх часоў. Яшчэ князь Гедымін,

адзін з пачынальнікаў стварэння Вялікага княства, так адказаў Папу Рымскаму на яго прапанову аб пераходзе маладой дзяржавы ў каталіцкую веру: «… дазволю хрысціянам маліцца па звычаі іх веры, русінам — па іх звычаі, палякам — па іх. Самі ж будзем маліцца па нашым звычаі, бо ўсе мы вызнаем аднаго Бога…» Гэткіх жа прынцыпаў імкнуліся прытрымлівацца і князі пасля Гедыміна, бо такой была воля народа. Ці не ў гэткай пазіцыі прычына таго, што пытанне аб каранацыі Вялікага князя, аб наданні Вялікаму княству Літоўскаму, Рускаму і Жамойцкаму статуса каралеўства так і не было Ватыканам даведзена да лагічнага канца?

Але, што б там ні было, якія б цяжкія часіны не даводзілася перажываць народу беларускаму, праз усю сваю гісторыю ён пранёс сваю талерантнасць як сцяг. І, я ўпэўнены, такія «правілы жыццестваральнасці» хутка запануюць ва ўсім свеце, бо на іншых прынцыпах свет не выжыве.

Мы, беларусы, і надалей збіраемся жыць, паважаючы самабытнасць любога іншага народа, у тым ліку народаў і людзей, якія знайшлі прытулак на нашай зямлі. Кожны чалавек сам у свядомым узросце зробіць выбар, якой мовай яму карыстацца, якому Богу маліцца, якую культуру засвойваць. І хочам, каб гэтак жа адносіліся іншыя народы да нас, бо беларуская мова, культура і традыцыі беларускага народа ніколькі не горшыя за мову і культуру нашых суседзяў. Магчыма, за тры стагоддзі прыгнёту яны крыху запазніліся ў сваім развіцці, але не згубілі сваёй прыцягальнасці і жыццяздольнасці. Пройдзе некалькі год, і новыя паэты, мастакі, архітэктары праславаяць Беларусь. Яны ўжо й сёння з’яўляюцца.

Магчыма, і наш ліцэй будзе спрыяць гэтаму, і сярод вас, першых і наступных навучэнцаў пакуль нядзельнага, а ў недалёкім будучым сапраўднага ліцэя, будуць і свае паэты, і пісьменнікі, і проста добрыя людзі, якія ганарацца належнасцю да беларускага народа і за якіх гэтаму народу не сорамна.

*Міхась Булавацкі, старшыня адукацыйнай камісіі гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы.*

*Так, з верасня 1992 года ў Магілёве пачаў дзейнічаць нядзельны ліцэй. Дырэктарам яго быў прызначаны Юрась Півуноў, на той час студэнт-завочнік педагагічнага інстытута, зараз — журна-*

*ліст. Мы чакалі, што навучэнцы ў гэты ліцэй знойдуцца, але не чакалі, што іх будзе так шмат. Замест адной планаванай групы былі створаны дзве. Для заняткаў падбіралі самых цікавых людзей, выкладчыкаў гісторыі, мовы, літаратуры, іншых дысцыплін. Яны раскрывалі маладым людзям тое, што не раскрывала школа, яшчэ па інерцыі савецкая. Ці не ўпершыню навучэнцы чулі пра першы ў Еўропе кодэкс законаў — Статут Вялікага княства, дый пра само княства як беларускую дзяржаву («Я думаў, дзе тая Вільня, былая сталіца Беларусі, аказваецца, гэта Вільнюс!» — здзіўлена прызнаваўся адзін з навучэнцаў), пра перамогу пад Воршай, пра Тадэвуша Касцюшку, пра Браніслава Тарашкевіча, які ўпарадкаваў нормы беларускай мовы, пра яе сталінскую рэформу ў 1933 годзе, пра БНР і пра лёс Зміцера Жылуновіча, першага кіраўніка БССР, жыццё якога закончылася ў Магілёўскай псіхлячэбніцы...*

*Натуральна, што губляць (хай сабе й на карысную справу) адзіны выходны дзень было праблематычна, і заканчвалі навучальны год нядзельнага ліцэя менш за дваццаць навучэнцаў. Але тое было прадказальна. Мы разумелі, што нядзельны ліцэй — гэта толькі частковае вырашэнне праблемы беларускай адукацыі ў Магілёве, што трэба рыхтаваць глебу для стварэння сапраўднага беларускага ліцэя.*

*Перамовы прадстаўнікоў ТБМ з абласным упраўленнем адукацыі пачаліся яшчэ тады, калі ўпраўленнем кіраваў Г. Пятроўскі. Тыя перамовы абнадзеілі. «Рыхтуйце дакументацыю», — сказаў Генадзь Мікалаевіч. Рыхтаваць дакументацыю пачалі з дапамогай Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, пры якім ужо пачаў дзейнічаць ліцэй імя Я. Коласа. Але, пакуль тая дакументацыя была падрыхтавана, Г. Пятроўскага перавялі ў міністэрства, а начальнікам упраўлення адукацыі стаў А. Раманаў. Ён прыняў нашы паперы: «Пакідайце, разбярэмся». На тэлефонны запыт праз некалькі дзён адказаў: «Пытанне будзе разглядацца на чарговым паседжанні аблвыканкама». — «Мы б хацелі прысутнічаць». — «Не, гэта не трэба. Дакументы падрыхтаваны, там усё зразумела. На аблвыканкаме разгледзім». Трэ было камусьці з нас усё ж прадрацца на тое паседжанне, не хапіла на гэта розуму.*

*Пазней мы даведаліся, што на аблвыканкаме адхілілі прапанову аб стварэнні ў Магілёве беларускага ліцэя. Раманаў на паседжанні*

*асвятліў пытанне так, што пры адкрыцці ліцэя яму спатрэбіцца намеснік па беларускамоўным навучанні і адпаведны інспектар дый нечага яшчэ нагаварыў, з чаго чальцы аблвыканкама зразумелі, што беларускі ліцэй — занадта дарагое задавальненне для Магілёва і прагаласавалі супраць. Хаця рускамоўныя ліцэі адкрываліся адзін за адным.*

*Нас крыху залагодзілі абяцаннем адкрыць беларускую гімназію. Яна была адкрыта на базе школы № 9 (дырэктар — Мінаў Л.М.). Да таго ж, яшчэ школа № 30 была пераназвана нацыянальнай гімназіяй. Пераназвана — таму што нацыянальнай яна так і не стала. Калі ў 9-й школе беларускія класы ўсё ж адкрываліся (у адным з іх працаваў і аўтар гэтых радкоў), то ў 30-й абмежаваліся «паглыбленым вывучэннем» мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі. Дырэктар школы № 30 З. Пянькова, стаўшы дэпутатам Вярхоўнага Савета краіны, вырашыла, што дырэктар школы — для яе нейкае неадпаведнае званне, усё ж дырэктар гімназіі — гучыць лепш. Мясцовыя ўлады пайшлі насустрач жаданню дэпутата. У Вярхоўным Савеце яна пазнаёмілася з Нілам Гілевічам і ўпрасіла яго напісаць гімн гімназіі, што той і зрабіў. І вось жа парадоксы сённяшняга дня — калі Ніл Гілевіч адышоў у лепшы свет, у гімназіі, якая мае гімн на словы Гілевіча, нават не павесілі паведамленне аб смерці Народнага Паэта ў чорнай рамачцы, нічым і ніяк гэтую падзею не адзначылі. Праўда, гімназія ўжо не называецца нацыянальнай, проста — гімназія № 4. Там маленькія дзеткі «падарожнічаюць у горад Октябрятск». І школа № 9 зараз ужо зноў звычайная школа, не гімназія.*

*Мара пра беларускі ліцэй пакуль засталася марай.*

# ДЫРЭКТАР ШКОЛЫ ЯК АПІРЫШЧА АНТЫНАЦЫЯНАЛІЗМУ

*Надышоў 1994 год, калі адзін чалавек падняў уладу, якая «валялася пад нагамі, у гразі», і пачаў гэтую ўладу скарыстоўваць на замілоўванне з Расійскай Федэрацыяй, каб атрымліваць адтуль сяброўскія дывідэнды. Прайшлі рэферэндумы 1995, 1996 гадоў…*

*У траўні 1998 года, да трэціх угодкаў моўнага рэферэндуму, старшыня Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ Я. Клімуць вырашыў правесці навукова-практычную канферэнцыю «Беларуская мова: стан ужытку пасля рэферэндуму». Матэрыялы гэтай канферэнцыі змешчаны ў кніжцы «Сацыякультурная прастора мовы» (Мінск, «Веды», 1998). Мой даклад «Дырэктар школы як апірышча антынацыяналізму» змешчаны ў кніжцы пад некалючай назвай «Беларуская мова ў сістэме сярэдняй адукацыі» і надрукаваны з арыгінальнай назвай і без купюраў у газеце «Тыднёвік Магілёўскі» № 8 (24.04.1998) і № 9 (8.05.1998). Здаецца, што моўную сітуацыю таго часу ён раскрывае выразна, таму варта яго тут змясціць.*

Па афіцыйных звестках, у 1997–1998 навучальным годзе 243 вучні горада Магілёва навучаюцца на беларускай мове. Гэта складае менш за паўпрацэнта ад агульнай колькасці (50 тыс.) магілёўскіх школьнікаў.

У 1995–1996 навучальным годзе такіх вучняў было ў 14 разоў болей (3453 вучні або 6,6 % ад агульнай колькасці).

Паколькі 1995 год з’яўляецца пераломным у справе вяртання беларускіх дзяцей да беларускай мовы, прааналізуем сітуацыю першага паслярэферэндумнага навучальнага года па г. Магілёве. Яна паказана табліцай:

| *1995–1996 навуч. год<br>Класы* | *Колькасць вучняў у беларускіх класах па раёнах горада Магілёва (без гімназій)* | | | *Па Магілёве* |
|---|---|---|---|---|
| | *Цэнтральны* | *Ленінскі* | *Кастрычніцкі* | |
| першыя | 0 | 0 | 12 | 12 |
| другія | 38 | 64 | 178 | 280 |
| трэція | 159 | 331 | 573 | 1063 |
| чацвёртыя | 301 | 652 | 426 | 1379 |
| пятыя | 17 | 40 | 28 | 85 |
| шостыя | 0 | 13 | 0 | 13 |
| сёмыя | 0 | 8 | 0 | 8 |
| восьмыя | 0 | 25 | 0 | 25 |
| дзявятыя… | 0 | 0 | 0 | 0 |
| Усяго: | 515 | 1133 | 1217 | 2865 |
| Бел. гімназіі | 360 | — | 228 | 588 |
| Усяго з гімназіямі: | 875 | 1133 | 1445 | 3453 |
| У працэнтах да агульнай колькасці вучняў | 5,6 | 8,0 | 6,5 | 6,6 |

Першае, што кідаецца ў вочы пры разглядванні гэтай табліцы, — тое, што найбольшая колькасць навучэнцаў беларускамоўных класаў прыпадае на трэція і чацвёртыя класы, г.зн. на вучняў, якія прыйшлі ў школу ў 1992 і 1993 гадах.

З 1994 года (года абрання першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) колькасць першакласнікаў, прынятых у беларускамоўныя класы, рэзка скарачаецца (амаль у 4 разы), а ў наступным 1995 годзе (пасля рэферэндуму) на ўвесь горад адкрыты (акрамя двух класаў у беларускіх гімназіях) толькі адзін першы беларускамоўны клас з дванаццаццю навучэнцамі. Прычынамі такога рэзкага змянення сітуацыі называюць, па-першае, недахоп беларускамоўных падручнікаў, па-другое, жаданне бацькоў вучыць сваіх дзяцей на расійскай мове. Аўтар гэтых радкоў паспрабаваў высветліць, наколькі названыя прычыны адпавядаюць рэчаіснасці.

Першай прычыны, як растлумачыў тагачасны начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі У. Булыбенка, не магло існаваць, бо беларускіх падручнікаў заказвалася на горад (і атрымана!) з разлі-ку, што колькасць беларускамоўных класаў будзе павялічвацца ў пачатковай школе і не змяншацца пры пераходзе ў класы базавай школы. Але паколькі такіх класаў, наадварот, станавілася менш, то ў горадзе стварылася сітуацыя, калі падручнікаў на беларускай мове было залішне, а расійскамоўных не хапала. Па гэтай прычыне нават некаторыя расійскамоўныя класы забяспечваліся часткова беларускамоўнымі падручнікамі. Калі ж такія праблемы ўзнікалі ў беларускамоўных класах, то яны, на погляд У. Булыбенкі, былі штучна створаныя адміністрацыямі школ. Падмацоўвае гэтае аўтарытэтнае меркаванне і той факт, што калі дырэктары школ (№ 11, № 26, № 42 ды інш.) гаварылі аб недахопе падручнікаў, то на прапанову дапамагчы разабрацца з гэтай дзіўнай з'явай усе як адзін (!) даволі энергічна адмаўляліся ад такой дапамогі.

Застаецца другая прычына — дзіўныя паводзіны бацькоў, якія спачатку захацелі вучыць сваіх дзяцей на беларускай мове, а пазней гэтак жа энергічна пажадалі перавесці іх на расійскую мову навучання. Ёсць падставы меркаваць, што адно з гэтых «хаценняў» было няшчырым. Магчыма, першае? Даволі шмат фактаў пацвярджаюць такое падазрэнне, асабліва ў адносінах да школ Ленінскага раёна (раёна-лідара), дзе ўзнікалі канфлікты на моўнай глебе найчасцей.

Перавод на беларускамоўнае навучанне не заўсёды суправаджаўся грунтоўнай падрыхтоўкай, асабліва там, дзе гэтага хацелі занадта моцна (здаралася, напрыклад, што настаўнікі, якім выпадала працаваць у гэтых класах, не вельмі добра валодалі мовай), што ўжо выклікала пратэсты бацькоў. Але часцей моўныя канфлікты былі створаны штучна. Фактычна моўнымі канфліктамі прыкрываліся канфлікты зусім іншага роду.

Паказальным у гэтым плане з'ўляецца канфлікт у сярэдняй школе № 24 Ленінскага раёна. З чатырох першых класаў, адкрытых тут у 1994 годзе, два былі з беларускай мовай навучання, іншыя два — з расійскай. Бацькі дзяцей беларускамоўных класаў пачалі даволі агрэсіўна патрабаваць пераводу сваіх вучняў у расійскамоўныя класы. Сапраўдная сутнасць канфлікту праявілася на бацькоўскім сходзе, на якім прысутнічаў і аўтар гэтых радкоў. Як высветлілася,

абодва расійскамоўныя класы зрабілі «эксперыментальнымі» (у адным матэматыка выкладалася па расійскіх падручніках развіццёвага навучання, якія нейкім чынам адшукала для сябе настаўніца, і гэта стала важкім аргументам для расійскамоўнага навучання; у другім вывучалася англійская мова, што зноў жа «патрабавала» расійскай мовы навучання). Для гэтых двух класаў адабралі лепшых вучняў і стварылі найлепшыя ўмовы. А астатніх сабралі ў два беларускамоўныя класы з маладымі настаўніцамі, не вельмі навучанымі працаваць з такім «кантынгентам». І шмат каго з бацькоў пакрыўдзіў менавіта нізкі статус класаў, а не мова навучання.

— Чаму майго сына адправілі ў беларускі клас, — абуралася адна маці, — калі ў яго па матэматыцы адныя «пяцёркі», а англійскую мову ён яшчэ ў садку вывучаў?!

— Тады прычым тут беларуская мова? — спытаў я. — Калі б эксперыментальныя класы былі з беларускай мовай навучання, вы ўсё адно лічылі б, што сын павінен вучыцца там?

— Канечне, — шчыра адказала жанчына.

Аналіз гэтага канфлікту дае яскравы адказ на пытанне аб тым, як зрабіць беларускую мову прывабнай, а навучанне на беларускай мове прэстыжным для бацькоў.

І ўсё ж «канфліктныя» класы з беларускай мовай навучання не складалі большасці. Часцей бацькі спакойна пагаджаліся з навучаннем дзіцяці на беларускай мове, а ў некаторых выпадках актыўна настойвалі на гэтым. І калі **па ініцыятыве адміністрацыі школ** пачаўся працэс вяртання да расійскай мовы навучання, наколькі маглі, супраціўляліся яму.

Некалькі разоў бацькі з розных школ звярталіся да ТБМ, паведамляючы пра тое, што ад іх патрабуюць напісаць заявы аб пераводзе дзіцяці на расійскую мову навучання (такія паведамленні прыходзілі не толькі з магілёўскіх школ, але і з іншых гарадоў, напрыклад, ад бацькоў школы № 28 г. Бабруйска). На жаль, умяшальніцтва ТБМ праз адпаведныя органы адукацыі толькі крыху замаруджвала гэты працэс, не спыняючы яго.

Характэрныя падзеі, якія адбываліся ў школе № 42 г. Магілёва. У пачатку навучальнага года бацькі аднаго з пятых класаў не пагадзіліся на расійскамоўнае навучанне, і клас застаўся беларускамоўным. У гэты клас быў нават пераведзены адзін з вучняў суседняй

школы, бо там мова навучання была змененая. Тым не менш, ужо ў сярэдзіне навучальнага года (!) усіх пяцікласнікаў 42-й школы сталі вучыць на расійскай мове. Аргументацыя традыцыйная: не хапае беларускамоўных падручнікаў (успомнім У. Булыбенку — «штучна створаная праблема»), не хапае настаўнікаў з веданнем беларускай мовы (яшчэ адна штучная праблема, бо калі перад настаўнікам паставіць мэту праз год-два ведаць беларускую мову, то для большасці гэта не стане праблемай; сцвярджаць іншае — гэта значыць не паважаць настаўніка), і — «бацькі так захацелі». Цікавая з'ява: у пачатку года бацькі не хацелі, а ў сярэдзіне захацелі. Але няцяжка паверыць: калі бацькам з дня ў дзень дзяўбці пра недахоп падручнікаў і пра настаўнікаў, якія не валодаюць мовай, то ўрэшце тыя здадуцца і махнуць рукой — вучыце на расійскай мове, абы дзіця што ведала!

У тым, што «бацькі захацелі» менавіта пад напорам кіраўніцтва школ, я пераконваўся шмат разоў. Вось яшчэ адзін досыць выразны факт. У канцы жніўня 1996 года зайшоў да дырэктара сярэдняй школы № 11 пацікавіцца, колькі беларускамоўных першых класаў збіраюцца там адкрываць. Выявілася: ніводнага — «бацькі не хочуць». Тады я напрасіўся на бацькоўскі сход, каб самому пачуць гэтае «не хочуць». «Прыходзьце, калі ласка», — запрасілі мяне дырэктар і яе намесніца і назвалі дату і час сходу. У названы дзень і час я прыйшоў у школу, але школа была зачыненая. Потым высветлілася, што сход бацькоў першакласнікаў прайшоў напярэдадні. «Вы б стварылі для нас праблемы», — задаволіла маю цікаўнасць аб прычыне пераносу сходу намесніца дырэктара. А хто б падумаў аб праблемах, якія ствараюць такія кіраўнікі школ для беларускага народа?

Падводзячы рысу пад усім вышэйсказаным, можна адзначыць, што натуральны працэс адыходу ад беларускамоўнага навучання не быў бы такім масавым, такім абвальным, калі б ён не правакаваўся адміністрацыямі школ. Што падштурхоўвала дырэктараў школ і іх намеснікаў да такіх крокаў? З боку органаў адукацыі (прынамсі, па г. Магілёве) ніякіх загадаў па згортванні беларускамоўнай адукацыі не было. Хутчэй за ўсё, тут праявілася асабістае імкненне кіраўнікоў школ пазбавіцца ад «лішніх» турботаў, якія стварала двухмоўнае навучанне. Рашэнне знойдзена не на карысць роднай мовы, якую амаль ніхто з іх не ведае, а той, хто больш-менш ведае, не кары-

стаецца ёю ў паўсядзённым жыцці як роднай мовай. Характэрна і тое, што некаторыя з іх выкладаюць беларускую мову, але беларуская мова для іх — толькі сродак атрымання заробку. Па-за межамі школы (нават па-за межамі класа!) яны пераходзяць на няродную, але звыклую іншую мову. І вось гэта ёсць, на маю думку, самае небяспечнае для беларускай мовы — настаўнік беларускай мовы, які беларускай мовай у побыце не карыстаецца, — бо такі настаўнік з дня ў дзень дэманструе сваім вучням непатрэбнасць беларускай мовы, яе рэальны адыход у нябыт. Вучні, з маленства прывучаныя да такой думкі, потым вырастаюць у агрэсіўных супраціўленцаў вяртанню беларусаў да жывой (жывой!) роднай мовы.

І цяпер праблема перастае быць праблемай школы і становіцца агульнагарадской, праблема перадаецца органам адукацыі. Першапачатковае яе рашэнне бачыцца такім: у кожным раёне горада павінна быць створана адна беларускамоўная школа. Яна павінна быць размешчана так, каб да яе быў зручны пад'езд з любога кутка гэтага раёна. І для гэтай школы трэба знайсці такіх настаўнікаў (а перш-наперш дырэктара), якія не толькі ведаюць мову, але і карыстаюцца ёю ў паўсядзённасці, г.зн. для якіх беларуская мова сапраўды родная. Такія настаўнікі ёсць. І аўтар гэтых радкоў — адзін з тых, хто гатовы пайсці ў такую школу выкладаць матэматыку.

Канечне, праблемы тут ёсць, і немалыя. Але ўсякія праблемы вырашальныя, калі за іх вырашэнне брацца з жаданнем і ахвотай.

*Міхась Булавацкі, старшы выкладчык універсітэта, старшыня абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*

# ХОЧАШ БЕЛАРУСКІ КЛАС? — ЕДЗЬ У ВЁСКУ!

*У 1998 годзе я вымушаны быў пакінуць універсітэт і меркаваў, што з маім досведам выкладання матэматыкі месца ў школе мне знойдзецца. Але…*

А. Трусаў «**Забарона на прафесію па моўнай прыкмеце**» («Наша слова» 14.10.1998; паўторана ў газеце «Народная воля» 9.02.1999 і ў кнізе «Аняменне. З хронікі знішчэння беларускай мовы» — Вільня, Gudas, 2000)

Міхась Пятровіч Булавацкі. Настаўнік матэматыкі. Катэгорыя — вышэйшая. Узрост — 50. Стаж педагагічнай працы: у школе — 11 гадоў, у ВНУ (кафедра методыкі выкладання матэматыкі) — 19 гадоў. Адзін з заснавальнікаў Асацыяцыі педагогаў-даследчыкаў Беларусі, кіраўнік творчай лабараторыі настаўнікаў матэматыкі «УМОМ» пры Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў (1986–1993). Аўтар звыш трыццаці навуковых публікацый па праблемах выкладання матэматыкі ў школе (на чатырох мовах). Кіраўнік эксперыментальнай работы па засваенні настаўнікамі г. Мінска наватарскіх тэхналогій (1987–1992), за што ўзнагароджаны Ганаровай граматай упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама. Удзельнік некалькіх міжнародных навуковых канферэнцый. Актыўны папулярызатар перспектыўных тэхналогій навучання матэматыцы праз масавую прэсу і непасрэдныя выступленні перад настаўнікамі, з якімі аб’ехаў дзясяткі гарадоў былога Савецкага Саюза. Аўтар першага ў Беларусі падручніка для пятых класаў беларускіх гімназій (падручнік выдадзены пробным выпускам у выдавецтве Магілёўскага ўніверсітэта)…

Поспехі яго работы ў школе засведчаны перамогамі яго вучняў на алімпіядах і ў конкурсах у розныя ВНУ. Аб яго працы ў педагагічным інстытуце студэнты так гаварылі карэспандэнту

І. Аўчыннікавай: «Для нас он был идеалом преподавателя. Ни у кого столько не взяли. Он влюбил нас в профессию, смысла которой мы до встречи с ним не понимали. Нам по-настоящему посчастливилось, что мы занимались у Буловацкого» («Известия», 6.04.1985).

Сёння, на пачатак кастрычніка 1998 года, гэты чалавек ужо тры месяцы беспрацоўны. Кафедра Магілёўскага ўніверсітэта, на якой ён працаваў 19 год, адмовілася ад яго паслуг, бо ён — не кандыдат навук. Чаму ж тады ён не ў школе? Адказ неймаверны: чалавек шукае школу, дзе б ён мог выкладаць матэматыку на беларускай мове. Шукае і не знаходзіць. Просіць: дайце мне хаця б адзін клас! Няма такога класа. Просіць: дайце мне магчымасць набраць такі клас, — да мяне пойдуць вучні. Адказваюць: спачатку вы ўладкуйцеся ў рускамоўную школу, а потым з дырэктарам гэтай школы і вырашайце пытанне. Аказваецца, шлях да беларускай мовы ляжыць праз рускую.

Ці ж патрэбныя Беларусі настаўнікі матэматыкі (мабыць, не толькі матэматыкі), якія валодаюць беларускай мовай, любяць яе і хочуць вучыць дзяцей на гэтай мове?

*14.11.1998 г.* *Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскай вобласці Багданаву Валерыю Стэфанавічу*

Мы, дэлегаты ІІ Кангрэса Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі, заклікаем Вас працаўладкаваць вядомага ў Беларусі і за яе межамі настаўніка матэматыкі Булавацкага Міхаіла Пятровіча ў беларускамоўным класе; ён ужо 5 месяцаў з'яўляецца беспрацоўным. Спадзяемся на пазітыўнае вырашэнне праблемы.

*Подпісы: В. Цімошак, В. Чарноў, І. Сакалова, І. Кірын, Л. Мазураева, І. Паўловіч, А. Шчарбак, А. Доўнар, А. Катляроў, І. Смірноў, А. Фёдараў, М. Баўшовіч, А. Самец, А. Цынкевіч, А. Пагуляеў, А. Макараў, У. Рунге, В. Швед, І. Кузьміч, В. Руднік, Э. Дзьмухоўскі, Ю. Беленькі, А. Баршчэўскі, В. Карач, К. Кавальчук, Л. Кухарчык, З. Тычына, А. Лапановіч, Ю. Жылко, М. Малахаў, С. Куратнік, М. Кобаса, А. Лісічык, А. Капуцкі, В. Шумілаў, С. Салаш, У. Кунцэўскі, П. Сарыпеня, У. Леднік, С. Русецкі, В. Вячорка, А. Банкевіч, М. Кляшторная... (усяго 54 подпісы)*

*20.11.1998 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Багданаву В.С.*

Паважаны Валерый Стэфанавіч!

Мне паведамілі, што Другі Кангрэс Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі звярнуўся да Вас з просьбай працаўладкаваць мяне ў беларускім класе. Сапраўды, тут ёсць праблема даволі высокага гучання — аб самаадчуванні беларуса ў Беларусі.

Мы з Вамі ўжо размаўлялі на гэтую тэму, і Вы мне параілі працаўладкавацца ў рускамоўную школу, а потым з дырэктарам гэтай школы вырашаць пытанне аб адкрыцці ў школе беларускамоўнага класа. Але я не магу скарыстаць Вашу параду па той прычыне, што апошнія 9 гадоў я вёў заняткі і чытаў лекцыі ў інстытуце на беларускай мове. Беларуская мова стала мовай майго пастаяннага ўжытку і пераход на рускую мову для мяне цяпер такі ж балючы і праблематычны, як для Вас пераход на беларускую мову.

Атрымліваецца так, што па моўнай прычыне я не магу ўладкавацца на працу (ужо 5 месяцаў) і мае неблагія здольнасці настаўніка матэматыкі не знаходзяць прымянення. Але ж ці варта губляць настаўнікаў такога ўзроўню?

Спадзяюся, што мой настаўніцкі вопыт яшчэ спатрэбіцца беларускай сістэме адукацыі.

*М. Булавацкі*

*15.12.1998 г.* *В. Богданов — М. Буловацкому*

На Ваше обращение в управление образования Могилевского облисполкома по вопросу трудоустройства учителем математики в классы с белорусским языком обучения сообщаем, что в городе Могилеве такой возможности нет. Можем предложить работу в сельской местности.

*Начальник управления образования В.С. Богданов*

*Снежань 1998 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэта Т. Процька*

Шаноўная спадарыня Процька!

Сітуацыя, у якую я патрапіў, вымушае мяне звярнуцца ў БХК — не столькі дзеля нейкай дапамогі мне ці асабістай падтрымкі (хаця і гэта не было б лішнім), колькі дзеля таго, каб сваёй гісторыяй падкрэсліць і канкрэтызаваць важкую праблему беларускага этнасу, праблему дыскамфортнасці існавання беларуса ў Беларусі.

19 апошніх гадоў (з 1.09.1979 па 30.06.1998) я працаваў на кафедры методыкі выкладання матэматыкі Магілёўскага педагагічнага інстытута (цяпер — універсітэт). З 1989 года чытаў лекцыі і праводзіў заняткі толькі на беларускай мове, што адпавядала маім унутраным патрэбам і зусім нармальна ўспрымалася студэнтамі (за рэдкімі выключэннямі, у якіх заўсёды знаходзілася паразуменне). Значная частка выкладчыкаў кафедры і сам загадчык Л. Латоцін рабілі тое ж. Беларускамоўнае асяроддзе на працы і па-за працай (да чаго я імкнуўся і знаходзіў) дазваляла мне карыстацца **толькі** роднай мовай, удасканальваючы валоданне ёю, і так атрымалася, што ад рускай мовы я аддаліўся даволі значна. Пераход на рускую мову патрабуе цяпер ад мяне значных намаганняў, нягледзячы на якія беларускія словы раз-пораз прарываюцца на мой язык.

У канцы 1997 года я быў не абраны радай фізіка-матэматычнага факультэта на пасаду старшага выкладчыканазванай кафедры на наступны пяцігадовы тэрмін і па заканчэнні навучальнага года з 1.07.1998 г. звольнены з універсітэта. Афіцыйная версія прычыны невыбрання — адсутнасць у мяне навуковай ступені. Версія спрэчная хаця б таму, што на маё месца ўзята нядаўняя студэнтка — выкладчык таксама без навуковай ступені і нават без вопыту педагагічнай працы. Але размова тут не пра прычыны звальнення, таму не буду іх аналізаваць. Больш цікава тое, што адбываецца далей.

Я іду да кіраўнікоў адукацыйных службаў горада і вобласці і прашу працаўладкаваць мяне, вопытнага і вядомага не толькі ў краіне, але і за яе межамі, настаўніка матэматыкі, у школу, у беларускамоўны клас, бо я — беларускамоўны настаўнік. Вось прыблізна якая размова адбылася ў мяне з начальнікам упраўлення адукацыі Магілёўскага гарвыканкама З.В. Пяньковай і з начальнікам упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама В.С. Багданавым:

— У нас няма магчымасці даць вам работу ў беларускамоўным класе.

— Тады дазвольце мне набраць хаця б адзін такі клас. Мяне ведаюць у горадзе і да мяне пойдуць вучні. Упэўнены, што нават конкурс будзе.

— Уладкоўвайцеся ў рускамоўную школу і з дырэктарам школы вырашайце пытанне аб адкрыцці беларускага класа.

Дзве абставіны не даюць мне магчымасці скарыстаць атрыманую параду. Па-першае, дзе знайсці дырэктара школы, які пагодзіцца адкрыць у сваёй школе адзін беларускі клас сярод астатніх рускіх? Кожны дырэктар паспеў на розных узроўнях заявіць, што ў яго школе няма дзяцей, чые бацькі хацелі б вучыць іх на беларускай мове (як гэта дасягалася — пытанне асобнае, пакінем яго па-за межамі гэтай размовы). А тут раптам захочуць! — скандал! А па-другое, пачынаць мне прыйдзецца ўсё ж у рускамоўных класах, што для мяне ўжо праблематычна па прычынах, выказаных вышэй.

Такім чынам, я вось ужо пяць месяцаў не маю працы. І мне, настаўніку, які хоча і можа навучаць падлеткаў матэматыцы на высокім узроўні, крыўдна, што беларускай (ці магілёўскай) сістэме адукацыі мае здольнасці аказваюцца непатрэбнымі.

Я ўпэўнены, што ёсць вучні, якім мая праца вельмі патрэбная, якія з маёй дапамогай будуць засвойваць матэматыку на беларускай мове, удасканальваючы спадарожна і валоданне роднай мовай. Мне такія вучні патрэбныя не менш, чым я ім. **Як мне з імі сустрэцца?**

Міхась Булавацкі, настаўнік матэматыкі, стаж педагагічнай працы 27 гадоў, сябра Беларускай асацыяцыі педагогаў-даследчыкаў, ініцыятар і кіраўнік педагагічных эксперыментаў па засваенні беларускімі настаўнікамі наватарскіх тэхналогій навучання, аўтар 36 навуковых публікацый па педагагічных праблемах (на чатырох мовах), у тым ліку падручніка па матэматыцы для пятых класаў беларускіх гімназій, удзельнік II з’езда Саюза настаўнікаў СССР, удзельнік некалькіх міжнародных навуковых канферэнцый…

*29.12.1998 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскай вобласці Багданаву В.С.*

Шаноўны Валерый Стэфанавіч! У пачатку 90-х гадоў, калі абласным упраўленнем адукацыі кіраваў Г.М. Пятроўскі, пачыналася падрыхтоўка да стварэння ў Магілёве беларускага ліцэя. Потым Генадзя Мікалаевіча перавялі ў міністэрства, і распачатую працу Таварыства беларускай мовы заканчвала ўжо з новым начальнікам упраўлення А.П. Раманавым. На вялікі жаль, А.П. Раманаў непрыязна паставіўся да гэтай ідэі і зрабіў усё, каб яе прыдушыць. Яму гэта ўдалося і, як вынік, беларускага ліцэя ў Магілёве няма дагэтуль. Прозвішча гэтага чалавека будзе занесена ў «Шэрую кнігу беларускай мовы»,.. яго ролю ў магілёўскай адукацыі ацэняць нашчадкі, у тым ліку яго ўнукі і праўнукі.

Цяпер праблему беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве даводзіцца вырашаць Вам. Вы пішаце, што ў Магілёве няма магчымасці працаўладкаваць мяне ў класах з беларускай мовай навучання. Тады давайце будзем ствараць такую магчымасць. Ёсць настаўнікі, гатовыя працаваць у такіх класах, і ёсць вучні, якія хочуць вучыцца ў такіх класах (Вам і Вашым намеснікам даводзілася адказваць на пісьмы такіх бацькоў). Чаму б ім не дапамагчы сустрэцца?

Вашу ж прапанову мне перайсці працаваць у вясковую школу я ўспрымаю як няўдалы жарт. Не таму, што для мяне гэты варыянт непрымальны. Я восем гадоў працаваў у вясковых школах і вяртанне туды — для мяне цалкам магчымы варыянт, калі гэта будзе школа з нармальнымі жыллёвымі ўмовамі. Няўдалы жарт я бачу ў тым, што Вы нібыта хочаце пазбавіць магілёўскіх школьнікаў і школьнікаў раённых цэнтраў шчасця вучыцца на роднай мове, адпраўляючы ўсіх беларускамоўных настаўнікаў у вёску. Успрымаць гэта сур’ёзна не хочацца.

Шаноўны Валерый Стэфанавіч! Мне б хацелася, каб Вы задумаліся над некаторымі фактамі. Раней я вёў спецкурсы ў абласным тэхналагічным ліцэі. Вучні, якія паступілі ў ліцэй з вясковых школ, размаўлялі са мной на часткова беларускай мове, бо рэзкі пераход з прывычнай беларускай мовы на рускую быў для іх няпростым. Урэшце і я стаў дзяліць групы на гарадскіх вучняў і вясковых вучняў, размаўляючы з апошнімі на роднай для іх мове. І мне, і ім так было больш камфортна.

Яшчэ факт. У ліцэі, якім некалі кіравалі Вы, вучыцца Міша Гайкоў. Гэты таленавіты хлопчык з Шклоўскага раёна (В.В. Барашкаў лічыць яго адным з найбольш здольных у фізіцы і адпраўляе на абласную алімпіяду) у мінулым годзе амаль не быў выключаны з ліцэя з-за нізкіх ацэнак у рускай мове.

Раней гэтак жа актыўна спрабавалі выправіць леваручных. Лічылася, што леваручнасць — гэта загана, трэба пісаць правай рукой. Цяпер, дзякаваць Богу, зразумелі неразумнасць такога выпраўлення.

Калі ж мы зразумеем, што гэтак жа неразумна пераломваць мову чалавека, выпраўляць яе на іншую? Восем гадоў чалавека вучылі на беларускай мове, ён зжыўся-зрадніўся з ёю, і вось — паступіў у ліцэй і пачынаецца ломка. Дзеля чаго гэта робіцца?

Вельмі спадзяюся, што праблема майго працаўладкавання ў беларускім класе можа быць вырашана і ў Магілёве. Давайце шукаць такую магчымасць на карысць школьнікам і Беларусі, бо трымаць настаўніка майго ўзроўню ў беспрацоўных — занадта дарагая для краіны з’ява.

З павагай і навагоднімі пажаданнямі,

*Булавацкі М.П.*

*(Ліст надрукаваны ў газеце «Наша слова» 24.02.1999 г. пад назвай «Змаганне за права выкладаць у школе па-беларуску працягваецца»)*

*6.04.1999 г.*

*М. Булавацкі — Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь В.І. Стражаву*

Шаноўны Васіль Іванавіч!

Вымушаны звярнуцца да Вас з просьбай аб дапамозе ў працаўладкаванні. Я — настаўнік матэматыкі з вопытам работы ў школе (11 год) і на кафедры методыкі выкладання матэматыкі педагагічнага інстытута (19 год). Маю больш за трыццаць навуковых публікацый па праблемах выкладання матэматыкі ў школе, удзельнічаў у шматлікіх навуковых канферэнцыях, у тым ліку міжнародных, дзе мае даклады адзначаліся каштоўнымі падарункамі. З 1987 па 1993 год кіраваў эксперыментальнай работай беларускіх настаўнікаў па засваенні імі наватарскіх тэхналогій (упраўленне адукацыі

Мінгарвыканкама ўзнагародзіла мяне за гэтую работу Ганаровай граматай). Аўтар падручніка матэматыкі для пятага класа беларускіх гімназій, які выдадзены пробным выпускам у выдавецтве Магілёўскага ўніверсітэта.

Я не маю вучонай ступені і таму вымушаны быў пакінуць кафедру методыкі выкладання матэматыкі. Цяпер шукаю працу ў школе. Але ўжо 10 месяцаў знайсці не магу. Узнікла праблема, для магілёўскіх органаў адукацыі невырашальная. Таму і звяртаюся да Вас.

Справа ў тым, што на пачатку 90-х гадоў я ўрэшце атрымаў магчымасць карыстацца роднай мовай, магчымасць, якой не меў дагэтуль. І я актыўна пачаў карыстацца гэтай магчымасцю, перавёўшы свае заняткі і чытанне лекцый на беларускую мову. Працэс такога пераходу не быў для мяне простым пасля некалькіх дзясяткаў гадоў рускамоўнай практыкі, але ўсё ж завяршыўся паспяхова. Я вярнуў сабе родную мову і цяпер не хачу больш яе губляць. Таму і прашу даць мне магчымасць выкладаць матэматыку ў беларускім класе. На гэтую просьбу і начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі В.С. Багданаў, і начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі З.В. Пянькова адказалі, што ў Магілёве такой магчымасці няма, бо няма беларускіх класаў (В. Багданаў прапанаваў мне ехаць у вёску). Але я ведаю, што ў Магілёве ёсць бацькі, якія хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускіх класах (некаторыя з іх турбавалі сваімі пісьмамі і Міністэрства адукацыі). І я прашу: дайце мне магчымасць набраць беларускі клас. Гаворка не ідзе пра прыватную адукацыю, гаворка ідзе аб звычайным беларускім класе ў дзяржаўнай школе, для чаго я прашу толькі памяшкання, бо вучні ў такі клас знойдуцца.

Я нагадваю пры гэтым, што на рэферэндуме людзі выказаліся за роўныя правы для беларускай і рускай моў, а не за рускае аднамоўе. У Магілёве ж, на жаль, роўнымі правамі і не пахне, ідзе жорсткае задушэнне беларускай мовы на ўсіх узроўнях.

Не маючы магчымасці вырашыць пазначаную праблему ў Магілёве, звяртаюся непасрэдна да Вас, спадзеючыся, што станоўчае рашэнне гэтай важнай дзяржаўнай праблемы ўсё ж знойдзецца. Галоўнае, каб хацелася яго шукаць. Бо знаходзіць той, хто шукае.

З павагай,

*М. Булавацкі*

P.S. Дадатак — ліст ад 29.12.1998 да начальніка Магілёўскага абласнога ўпраўлення адукацыі В.С. Багданава, адказу на які не было.

*22.04.1999 г.* *Минобразования — Начальнику Могилёвского областного управления образования Богданову В.С.*

Уважаемый Валерий Стефанович!

В адрес Министерства образования Республики Беларусь поступила жалоба бывшего преподавателя математики Могилёвского государственного университета Булавацкого М.П., не имеющего работы на сегодняшний день. Он сообщает о невозможности устройства его как учителя математики в класс с белорусским языком обучения и просит помочь ему в решении данной проблемы.

Министерство образования просит областное управление образования внимательно разобраться в данном вопросе и дать аргументированный ответ заявителю и в адрес министерства.

*Заместитель министра Г.Д. Дылян*

*18.05.1999 г.* *В. Богданов — М. Булавацкому*

На Ваше письмо в Министерство образования Республики Беларусь управление образования Могилевского облисполкома сообщает, что в г. Могилеве вакансий учителей математики в классах с белорусским языком обучения нет.

С просьбами об открытии дополнительно классов с белорусским языком обучения в управления образования Могилевского облисполкома и горисполкома родители учащихся не обращались.

*Начальник управления образования В.С. Богданов*

*Міністэрству ж Валеры Стэфанавіч адказаў нешта іншае:*

*18.05.1999 г.* *В. Богданов — Министерству образования Республики Беларусь*

Управление образования Могилевского облисполкома сообщает, что в 1994/95 учебном году Булавацкий М.П. работал по совместительству учителем математики СШ №9 г. Могилева в 5 классе.

По желанию родителей учащихся школа перешла на русский язык обучения. [*Па такому «желанию» не толькі гэтая школа, а ўсе магілёўскія школы перайшлі на рускую мову — гл. тэкст раней «Дырэктар школы як апірышча антынацыяналізму»; прычына не ў бацьках.*] Никакой работы с родителями Булавацкий М.П. не провел и уволился. В настоящее время учащиеся, которых он обучал, заканчивают 10 класс с русским языком обучения [*вось-вось, заканчваюць з рускай мовай і некаторыя ходзяць да М. Булавацкага дадому давучвацца матэматыцы на беларускай мове*].

По вопросу своего трудоустройства Булавацкий М.П. обращался в областное управление образования. Ему была предложена работа в школах г. Могилева с русским языком обучения [*гэта няпраўда, канкрэтнай прапановы аб працы ў рускамоўнай школе не было, была толькі парада «працаўладкоўвайцеся ў рускамоўную школу» кшталту «пайдзі туды, ня ведаю куды»*] и в Могилевском районе в школах с белорусским языком обучения [*і такіх прапаноў не было*]. От этих предложений он отказался [*што ні слова, то хлусня!*].

В соответствии с пожеланиями родителей в средних школах № 5 и № 39 г. Могилева функционируют классы с белорусским языком обучения. Вакансий учителей математики в этих классах нет [*апошнія беларускія класы, праз год-два і яны знікнуць*].

В управление образования Могилевского облисполкома с просьбами об открытии классов с белорусским языком обучения родители не обращались [*і гэта няпраўда, пра што ніжэй*].

На все обращения Булавацкого М.П. в областное управление образования даны ответы [*не на ўсе*].

*Начальник управления образования В.С. Богданов*

*Ліст даволі крывадушны і хлуслівы. Наконт таго, што «родители не обращались», маецца ліст ад 30 красавіка 1996 года за подпісам Фяськова М.С., начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі, адрасаваны*

*С. Капаткевічу (копія: Магілёўскаму абласному ўпраўленню адукацыі), наступнага зместу:*

«Паважаны Сяргей Мікітавіч! Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі накіравала Ваш ліст у Магілёўскае абласное ўпраўленне адукацыі для рашэння пытання аб адкрыцці беларускамоўнага класа ў адной з бліжэйшых да Вас школ. Пытанне будзе ўзята пад кантроль кіраўніцтвам абласнога ўпраўлення».

*Вось жа, «обращались» і «ўзята пад кантроль». І што з таго кантролю? А проста забылі!*

*5.11.1999 г.* *М. Булавацкі — Намесніку старшыні Магілёўскага аблвыканкама Д.Сівіцкаму, старшыні Магілёўскага гарвыканкама М. Краснову*

Паважаны Дзмітрый Аляксандравіч! Паважаны Міхаіл Аляксеевіч!

Задумваўся гэты ліст яшчэ тады, калі гарвыканкамам кіраваў Дзмітрый Аляксандравіч, а пішацца цяпер, калі на гэтай пасадзе ўжо Міхаіл Аляксеевіч.

Таму я адрасую яго вам абодвум — з тых меркаванняў, што змешчанае тут трэба ведаць і аднаму, і другому.

У 1979 годзе мяне, настаўніка матэматыкі (на той час вядомага па газетных публікацыях), запрасілі працаваць у Магілёўскі педагагічны інстытут. Мне не хацелася пакідаць сталіцу (я жыў тады ў Мінску) і таму я, падзякаваўшы за давер, адмовіўся ад прапановы. Але прыйшло паўторнае запрашэнне — з абяцаннямі і запэўніваннямі (перш-наперш у тым, што мае здольнасці атрымаюць больш высокі ўзровень прымянення), — і я здаўся. Такім чынам, з 1 верасня 1979 года я пачаў працаваць у Магілёўскім педагагічным інстытуце…

На жаль, даволі хутка выявілася, што педагагічныя ідэі, прыхільнікам якіх з’яўляўся я, не адпавядалі ідэям майго новага кіраўніцтва. Для навукі гэта нармальная з’ява (і нават прыдатная глеба), калі глядзець на такія разыходжанні непрадузята і спакойна шукаць ісціну. Але ў нашым выпадку так не атрымалася. Навуковыя разыходжанні перайшлі на асабістыя адносіны, і ў 1984 годзе я быў скандальна звольнены. Мне тады ўдалося абараніцца ад неспра-

вядлівасці, праз нейкі час мяне аднавілі на працы. Тым не менш, напружанасць у нашых адносінах засталася.

Перыяд перабудовы (1985–1992 гг.), здавалася, вырашыў нашы навуковыя спрэчкі: педагагічныя ідэі, якімі валодаў я, сталі вельмі папулярнымі сярод настаўнікаў. Мне прыходзіла шмат запрашэнняў з самых розных гарадоў і рэспублік Савецкага Саюза прачытаць лекцыі ці правесці семінары з настаўнікамі. Каб мець магчымасць адклікацца на такія запрашэнні, я нават перайшоў на працу ў інстытуце ў памеры паўстаўкі. З 1987 па 1992 год я ажыццяўляў кіраўніцтва эксперыменталынай работай настаўнікаў матэматыкі г. Мінска па засваенні імі наватарскіх тэхналогій, па выніках якой узнагароджаны Ганаровай граматай Мінгарвыканкама. Мае артыкулы друкаваліся ў педагагічных часопісах і навуковых зборніках. Паступалі запрашэнні на міжнародныя канферэнцыі. За межамі Магілёва мяне лічылі аўтарытэтным і паважаным педагогам.

Зусім не так было ў родным педагагічным інстытуце. Тут мяне, як і раней, «не разумелі». Урэшце ў 1998 годзе я не быў абраны на наступны тэрмін і звольнены летам гэтага года (супрацоўляцца мне ўжо не хацелася).

Але з гэтага вырастае праблема, на якой хачу засяродзіць Вашую ўвагу.

Я — настаўнік матэматыкі з багатым вопытам і з шырокай вядомасцю. Мае даклады адзначаліся на міжнародных канферэнцыях у Велінградзе (Балгарыя) і Казані. Галоўным вынікам Казанскай канферэнцыі стала тое, што ўсе распрацаваныя мною ці пад маім кіраўніцтвам навучальныя матэрыялы перакладзены на татарскую мову, надрукаваны ў татарскіх педагагічных часопісах і дагэтуль актыўна выкарыстоўваюцца ў татарскіх школах. Можна было б доўга пералічваць іншыя мае заслугі, але на гэтым я сэканомлю.

Факт тое, што такі настаўнік не патрэбен магілёўскай сістэме адукацыі, бо ўжо 16 месяцаў я не маю працы. Кіраўніцтва ўніверсітэта, выкрасліўшы мяне з ліку сваіх супрацоўнікаў, не палічыла мэтазгодным прапанаваць мне іншую працу, хаця з матэматычнай адукацыяй у ліцэі ўніверсітэта ёсць праблемы. І кіраўніцтва гарадскога ўпраўлення адукацыі пакуль не знайшло нічога, што магло б мне прапанаваць. Пры гэтым трэба адзначыць, што задача для ўпраўлення ўзнікла няпростая. Я чакаю не проста прапановы месца

ў школе, але менавіта ў беларускамоўным класе. 10 год назад я з цяжкасцю аднавіў сваю родную мову і цяпер, натуральна, не хачу яе губляць. Мне здаецца цалкам натуральным жаданне настаўніка-беларуса працаваць у беларускай школе на беларускай мове. І калі мне адказваюць, што беларускіх класаў у Магілёве няма, бо няма дзяцей, чые бацькі хацелі б вучыць іх на беларускай мове, то ў мяне знаходзіцца контраргумент: дайце мне толькі памяшканне — і тады мы высветлім, ёсць такія вучні ці няма. Калі не знойдуцца, то пытанне закрыецца само сабой і ў мяне не будзе прычыны настойваць. Калі ж знойдуцца, то для вучобы такіх вучняў трэба стварыць адпаведныя ўмовы, бо людзі, што не страцілі цягі да роднай мовы, ёсць дзяржаўны скарб, які трэба ахоўваць і ўзбагачаць.

Я ўдзячны начальніку абласнога ўпраўлення адукацыі В.С. Багданаву, які прапаноўваў мне месца ў вясковай школе. Магчыма, я прыму гэтую прапанову. Але пакуль я чакаю адпаведнай прапановы ад горада.

Зразумела, што калі гэтая праблема не зможа быць вырашаная на ўзроўні горада, я буду спрабаваць вырашыць яе на больш высокім узроўні, да чаго даводзіць не хацелася б.

З павагай і спадзяваннямі,

*М. Булавацкі, настаўнік матэматыкі, пакуль беспрацоўны*

*30.11.1999 г.* *Управление образования — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

Управленне образовання Могилевского горисполкома сообщает, что Ваше письмо, направленное в городской исполнительный комитет, рассмотрено.

В настоящее время решить вопрос о трудоустройстве в школах г. Могилева не представляется возможным из-за отсутствия вакансии учителей математики и отсутствия классов, где преподавание математики велось бы на белорусском языке.

*Начальник управления образования Могилевского горисполкома*
*Т.А. Барановская*

*26.12.1999 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама Краснову М.А.*

Шаноўны Міхаіл Аляксеевіч!

На свой ліст ад 5.11.1999 г, адрасаваны Вам, я атрымаў адказ начальніка ўпраўлення адукацыі гарвыканкама Т.А. Бараноўскай (*цытуецца*).

Амаль год назад я атрымаў гэткі ж адказ, толькі аўтар там быў другі: З.В. Пянькова. Здагадваюся, што праз год я магу атрымаць яшчэ адзін такі адказ, толькі з новым подпісам. Цікавая збярэцца калекцыя для гістарычнага музея. Не ведаю, ці задавальняе Вас такая сітуацыя, але мяне не задавальняе.

Магчыма, што маладая начальнік упраўлення адукацыі не зразумела, чаго я хачу. Я **не настойваю на неадкладным** працаўладкаванні мяне ў школу. Няхай гэта будзе праз паўгода, праз год, праз два гады… Але шукаць варыянты вырашэння гэтай праблемы трэба **ўжо цяпер.** Ёсць настаўнік, які хоча вучыць сваіх вучняў матэматыцы на роднай для сябе і для іх мове і які можа гэта рабіць на досыць высокім узроўні. І ёсць вучні, якія хочуць засвойваць матэматыку на такім узроўні. Ёсць вучні, якія хацелі б вучыцца на роднай мове! Дапамажыце ім сустрэцца! Дайце ім гэтую магчымасць!..

Я мог бы нагадаць Вам аб колькасці магілёўскіх медалістаў, якія атрымалі «двойкі» на ўступных экзаменах па матэматыцы ў ВНУ за апошнія некалькі гадоў, але, мабыць, Вы і без маёй падказкі ведаеце гэтыя лічбы. Не думаю, што Вас гэта радуе. А калі не радуе, то дапамажыце тым вучням, якія хочуць ведаць матэматыку добра. Дапамажыце Т.А. Бараноўскай знайсці нейкае рашэнне гэтай праблемы.

З навагоднімі пажаданнямі,

*М. Булавацкі*

*13.01.2000 г.* *Старшыні Магілёўскага гарвыканкама Краснову М.А.*

ЗАЯВА

Даводжу да Вашага ведама, што **28 студзеня 2000 года плануецца шэсце пратэсту супраць заціскання беларускамоўнай**

**адукацыі** ў Магілёве, прысвечанае 10-годдзю прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь.

**Мэта шэсця:** Прыцягненне ўвагі грамадства да парушэння правоў грамадзян г. Магілёва на атрыманне адукацыі на роднай мове.

**Форма шэсця:** шэсце па тратуары аднаго чалавека (магчыма з памочнікамі) з адпаведнымі плакатамі, у якіх выказваецца пратэст супраць таго, што беларусы ў Магілёве не могуць атрымоўваць адукацыю на роднай мове, што беларускамоўным настаўнікам не даецца магчымасці працаваць, нават вядомы за межамі краіны настаўнік матэматыкі (гаворка ідзе пра аўтара заявы) ужо другі год не мае працы па прычыне яго беларускамоўнасці. Фактычна, у Магілёве існуе забарона на прафесію па нацыянальных адметнасцях.

**Маршрут шэсця:** пачатак ад месца пражывання заяўніка — інтэрната № 2 універсітэта (вул. Ленінская, 33), далей па вуліцы Ленінскай, бульвары Леніна праз плошчу Леніна да Дома Саветаў, дзе будзе перададзена петыцыя пратэсту кіраўніцтву гарвыканкама, адтуль — па вуліцы Першамайскай, Камісарыяцкім завулку да будынка ўпраўлення адукацыі гарвыканкама, дзе петыцыя пратэсту будзе перададзена кіраўніцтву ўпраўлення адукацыі, адтуль — па Камісарыяцкім завулку, вуліцы Першамайскай і вуліцы Карла Лібкнехта да інтэрната № 2 універсітэта — пачатковага і канечнага пункта шэсця.

**Пачатак шэсця:** 28 студзеня 2000 года, 13 гадзін 00 мінут.

**Заканчэнне шэсця:** 28 студзеня 2000 года, 17 гадзін 00 мінут.

**Колькасць удзельнікаў:** да пяці чалавек.

**Адказны за забеспячэнне парадку** падчас шэсця: Булавацкі Міхаіл Пятровіч (заяўнік).

**Ініцыятар мерапрыемства:** Булавацкі Міхаіл Пятровіч

**Звесткі аб ініцыятары**

Хатні адрас: Магілёў, вул… Узрост: 52 гады. Месца працы: няма.

**Дата падачы заявы:** 13 студзеня 2000 года

*Подпіс заяўніка:*

**Абавязацельства**

Я, Булавацкі Міхаіл Пятровіч, адпаведна дэкрэту № 5 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь бяру на сябе абавязацельства па арганізацыі і

забеспячэнні парадку падчас шэсця, заяўленага мною на 28 студзеня 2000 года.

*Подпіс*

*17.01.2000 г.* *Горисполком — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

Рассмотрев Ваше заявление о проведении в г. Могилёве шествия 28 января 2000 года, руководствуясь Законом Республики Беларусь «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании», решением Могилёвского городского исполнительного комитета от 20.10.1999 года №31–48 «О порядке проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетировании в г. Могилёве», Могилёвский горисполком предлагает Вам провести шествие 28.01.2000 г. с 13.00 до 15.00 часов по ул. Челюскинцев (от пересечения с ул.Романова до ДК ЗИВ им. Куйбышева (пешеходная часть).

Напоминаем Вам об обязательствах по обеспечению общественного порядка и безопасности при проведении указанных мероприятий.

*Заместитель председателя Могилёвского горисполкома Е.А. Мельников*

*Пляцоўка каля Палаца культуры завода штучнага валакна імя Куйбышава — гэта магілёўскі Бангалор. Туды адпраўляюць усіх пратэстоўшчыкаў, бо людзей, якія там ходзяць і могуць пачуць тыя пратэсты, бывае мала.*

*Я прыняў гэты дазвол і ў прызначаны дзень выйшаў на Вакзальную плошчу, апрануў на сябе папяровыя плакаты і пайшоў на дазволенае месца па цэнтральнай вуліцы горада (цэнтральная ў Магілёве не Ленінская, хаця й такая маецца, а Першамайская). Маё чатырохкіламетровае падарожжа скончылася ў кабінеце дырэктара Палаца культуры. Я паказаў яму паперу з дазволам на шэсце і, паціснуўшы плячыма, сказаў:*

*— Я не разумею, чаму мой пратэст супраць заціскання беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве спадар Мельнікаў вырашыў атрымаць праз вас, але калі ён так захацеў, то я вам яго і перадаю.*




*Фота А. Ліціна*

*Дырэктар весела засмяяўся і сказаў:*

*— Ну што ж, давайце ваш пратэст, я яго прыму і перадам у гарвыканкам.*

*Узяў мае паперы, зафіксаваў іх у журнале ўваходнай дакументацыі, і мы, паціснуўшы рукі, развіталіся. Перадаў куды тыя паперы ці не перадаў — не ведаю. Адказу я не атрымаў.*

З артыкула Святланы Кліменценка «Чым пазіцыя сучаснага чыноўніка Кірэева адрозніваецца ад пазіцыі царскага генерал-губернатара Мураўёва?» («Народная воля», 27.01.2000):

…красамоўны пасаж, які дазволіў сабе… галоўны інспектар упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Л. Кірэеў, апублікаваны на старонках гарадской газеты «Де-факто» 19 лістапада 1999 года. «…Большинство из родителей предпочитают не отдавать своих детей в классы с углубленным изучением белорусского языка. В Беларуси всегда было двуязычие, причем белорусский язык был по своей значимости далеко не самым главным. И все это знают… Наш, можно сказать, национальный язык — русский,.. а людей, говорящих на национальном языке, — очень мало. Для большинства жителей республики он ассоциируется с иностранным языком. И потому я могу сказать, что даже через сто лет белорусский язык не сможет занять место русского языка».

…Не варта, сп. Кірэеў, спасылацца на тое, што нібыта «большинство из родителей предпочитают не отдавать своих детей»

у беларускія класы. Гэта ж вы і такія, як вы, нішчыце беларускамоўную адукацыю, а потым прымушаеце бацькоў і дзяцей, нават тых, хто ўжо вучыўся па-беларуску, прымаць статус-кво: пераўтварэнне беларускіх класаў у рускамоўныя…

Не трэба фарысейства, непаважаныя сучасныя русіфікатары. Калі робіце ганебную справу, дык пасаромцеся хаця б падводзіць пад яе «навукова-тэарэтычную базу»… Пераканаўча адказалі Л. Кірэеву і іншым русіфікатарам студэнты Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова, Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута, група выкладчыкаў і настаўнікаў абласнога цэнтра (подпісы ў рэдакцыі ёсць), якія з гэтай нагоды звярнуліся з абуральным пісьмом да Міністра адукацыі Васіля Стражава:

«Такія адносіны да роднае мовы работніка адукацыі проста ашаломліваюць і шакіруюць. Складаецца такое ўражанне, што гэта выпадковы чалавек у сферы народнай адукацыі. Такімі выказваннямі сп. Кірэеў дыскрэдытуе ганаровае званне педагога. Гэткіх людзей нельга дапускаць да кволых дзіцячых душ, каб не атрымаць потым такіх жа, як ён, нацыянальных нігілістаў. Школа павінна выхоўваць павагу да культуры свайго народа, да роднае мовы, а не наадварот.

Мова народа — гэта ягоны грунт, ягоная святыня. Не з’яўляецца выключэннем і беларускі народ, які цягам стагоддзяў уславіў сваю мову, пранёс яе праз нягоды і пакуты, захаваў і перадаў нашчадкам. І зусім не для таго, каб ад яе пагардліва адмаўляліся, як ад нейкае непатрэбшчыны, што зараз якраз і робіцца ў нашай краіне.

Беларуская мова выкідаецца на задворкі грамадскага жыцця, зневажаецца і калечыцца агрэсіўным невуцтвам дэнацыяналізаванага чынавенства, якое дэманструе і сп. Кірэеў.

Мы лічым такое становішча недапушчальным у краіне, дзе, згодна з апошнім перапісам, 37% насельніцтва размаўляе па-беларуску, і звяртаемся да Вас, сп. Міністр, з заклікам абараніць родную мову ад такіх чыноўнікаў, як сп. Кірэеў…

Ад Вас як ад Міністра ў вялікай ступені залежыць будучыня нацыянальнай адукацыі…»

Цікава, што адкажа міністр? Няўжо пацвердзіць пазіцыю царскага губернатара, ідэнтычную пазіцыі яго падначаленага, які фактычна плюнуў у твар — толькі згодна з афіцыйнай лічбай — больш чым трэці грамадзян краіны? А, можа, Васіль Іванавіч усяго толькі

мякка паўшчувае Л. Кірэева за неасцярожную шчырасць у друку? Вынесе яму падзяку, павысіць на пасадзе?.. А мо і зусім чытаць ліст не стане… Хаця сам міністр В. Стражаў, рускі па нацыянальнасці, няблага валодае беларускай мовай…»

*27.01.2000 г.* *Горисполком — М. Буловацкому*

Могилёвский городской исполнительный комитет на Ваше обращение сообщает, что Вам неоднократно давались разъяснения по Вашему вопросу.

В дальнейшем в соответствии со ст. 11 Закона «Об обращениях граждан» по данному вопросу переписка с Вами будет прекращена.

*Заместитель председателя Могилёвского горисполкома Е.А. Мельников*

*3.03.2000 г.* *М. Булавацкі — Намесніку старшыні Магілёўскага гарвыканкама Мельнікаву Я.А.*

Шаноўны Яўген Аляксандравіч!

Я разумею, што Вам няма чаго адказваць на мае пытанні і таму хацелася б проста спыніць гэтую перапіску. Так яно, відаць, і будзе. Але ўсё ж на адзін мой ліст Вам (ці таму, каму Вы даручыце гэта зрабіць), трэба будзе адказаць.

Справа ў тым, што я звяртаўся ў гарвыканкам з двума пытаннямі — асабістым (пра маё працаўладкаванне) і дзяржаўным (пра навучанне на роднай мове тых дзяцей, чые бацькі гэтага хочуць). Па першым пытанні адказ я атрымаў, і тут усё зразумела: працаўладкаваць мяне «не представляется возможным». Таму па гэтым пытанні я пакуль перастану турбаваць гарвыканкам і вас асабіста, мяркуючы ўсё ж, што Вы шукаеце магчымасць працаўладкаваць у школе высокакваліфікаванага настаўніка (бо іншае ж не на карысць дзяржаве).

Цяпер я мушу нагадаць Вам, што адказу на другое пытанне я не атрымаў. І таму вымушаны цяпер звярнуцца да Вас не як асобны грамадзянін, а як прадстаўнік уплывовай арганізацыі, зацікаўленай у вырашэнні адпаведных пытанняў, — Таварыства беларускай мовы.

Шаноўны Яўген Аляксандравіч! Магілёўская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прапануе Магілёўскаму гарвыканкаму ў Вашай асобе пачаць стварэнне адзінай у горадзе Магілёве беларускамоўнай школы з адкрыцця аднаго (магчыма, двух-трох) класаў. Дэталі стварэння такога класа могуць быць абмеркаваныя з удзелам усіх зацікаўленых бакоў. Наша арганізацыя гатова ўзяць на свае плечы значную частку арганізацыйнай працы і працы па забеспячэнні дзейнасці такога класа, у тым ліку конкурсны адбор вучняў і настаўнікаў (хаця мы лічым, што лепш было б гэта рабіць пры ўдзеле упраўлення адукацыі гарвыканкама). Калі гарвыканкам не зможа знайсці памяшкання для такога (пакуль адзінага) класа, то і гэтую праблему гатова ўзяць на сябе ТБМ. У прынцыпе, нам дастаткова толькі згоды гарвыканкама на адкрыццё такога класа, усё астатняе зробім мы самі. Зробім. Аднак жа, як нам падаецца, ухіленне гарвыканкама ад гэтай справы будзе выразным памылковым крокам і негатыўна адаб’ецца на іміджы гарвыканкама як дзяржаўнага органа ў беларускай дзяржаве.

Вельмі спадзяемся на паразуменне.

*М. Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны*

*10.04.2000 г.* *Управление образования — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

Управление образования Могилевского горисполкома на Ваше письмо сообщает, что вопрос о возможности открытия в городе белорусскоязычной школы (или класса) повторно изучался районными отделами образования в течение текущего учебного года. Установлено, что заявлений и просьб от родителей на обучение их детей на белорусском языке не поступает.

Созданная в 1992 году по решению исполкома администрации Центрального района белорусскоязычная гимназия на базе средней школы № 9 была закрыта в 1998 году (решение № 8–16 от 14.08.1998 г.) из-за резкого сокращения детей и нежелания большинства учащихся обучаться в белорусскоязычных классах.

В настоящее время изучается вопрос о возможности открытия в 2000–2002 учебном году первого белорусскоязычного класса на базе средней школы № 15 Ленинского района в рамках экспериментальной программы «ЭТНОШКОЛА».

*Зам. начальника управления образования Могилёвского горисполкома*
*Т.А. Барановская*

*3.05.2000* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі*
*Магілёўскага гарвыканкама Т.А. Бараноўскай*
*Копія: намесніку старшыні Магілёўскага гарвыканкама*
*Мельнікаву Я.А.*

Шаноўная Тамара Анатольеўна!

Прачытаў Ваш адказ і стала мне так самотна, што доўгі час не мог узяцца за гэты ліст, каб патлумачыць Вам тое, што Вы і без мяне разумець павінны б.

Ну чаму вы, людзі сённяшняй улады, ставіцеся да беларусаў, як у Амерыцы да індзейцаў? Навошта гэтая рэзервацыя на ўскрайку горада — школа № 15? Каб потым ківаць: вось, маўляў, стваралі беларускі клас, а вучняў не знайшлося? ТАМ, магчыма, не знойдзецца. Але гэта зусім не азначае, што іх няма.

Іх няшмат, але яны ёсць! Вы ж самі пішаце пра закрыццё беларускай гімназіі на базе школы № 9 па прычыне «нежелання **большинства** учащихся обучаться в белорусскоязычных классах». Большасць не хоча, ну і Бог з імі. Але ж чаму Вы не хочаце падумаць пра меншасць, частка якой прыходзіла потым да мяне займацца індывідуальна? Ці, на Ваш розум, меншасць і тут абавязаная падпарадкавацца большасці? Але з гэтага выглядвае адрынутая гісторыяй пачвара бальшавізму. Вы — бальшавічка?

Дзеці, якія хочуць вучыцца ў беларускіх класах (і іх бацькі таго ж хочуць!), у Магілёве ёсць. Іх няшмат і яны раскіданыя па ўсім горадзе. Таму, калі адкрываць такі клас, то яго трэба адкрываць там, куды ёсць зручны пад’езд, найперш — па тралейбусных маршрутах (а не ў 15-й школе, да якой не даехаць).

А тое, што не пада**ю**ць заяў, дык хіба ж Вы ім прапаноўвалі? Толькі аб’явіце, што адкрываецца беларускі клас на базе школы № 21 (ці 22, 23… — любой, да якой можна зручна дабрацца), дзе

выкладаць матэматыку будзе А, біялогію — Б, гісторыю — В і г.д. (а гэтыя А, Б, В… — вядомыя і аўтарытэтныя настаўнікі), — і заявы пасыплюцца.

І ўвогуле. Шаноўная Тамара Анатольеўна! Ужо была спроба зрабіць беларускую адукацыю без Таварыства беларускай мовы. Атрымалася кепска. Не трэба паўтараць ранейшых памылак. Мы прапануем вам супрацоўніцтва. Супрацоўніцтва на карысць усім бакам — і магілёўскім дзецям, і магілёўскай сістэме адукацыі, і Беларусі ўвогуле. Мы не хочам з вамі ваяваць. Мы хочам разам (з вамі і з усімі іншымі) рабіць агульную і вельмі патрэбную справу па выхаванні сапраўдных сыноў і дачок Бацькаўшчыны, людзей, якія, да прыкладу, гуляючы ў футбол на школьным стадыёне, выказваюць свае пачуцці не расійскім матам (павандруйце каля школьных стадыёнаў — што пачуеце!), а шчырым беларускім словам.

Давайце ж аб'яднаем нашы магчымасці! Не адштурхоўвайце нашай рукі!

З надзеяй і добрымі спадзяваннямі,

*М. Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

# АДСТУПАЦЬ НЯМА КУДЫ! ЗА НАМІ… БЕЗЗАКОННЕ

*Пачалося новае тысячагоддзе. Набліжаліся першыя выбары Прэзідэнта краіны па абноўленай Канстытуцыі. Абласная рада ТБМ вылучыла свайго прадстаўніка ў склад раённай выбарчай камісіі. Гэтае вылучэнне было падтрымана і зборам патрэбнай колькасці подпісаў выбаршчыкаў. Адпаведныя паперы былі перададзены ў гарвыканкам. Але ў складзе сфарміраваных камісій прозвішча нашага прадстаўніка не было. Патлумачана тым, што вылучэнне ад абласной арганізацыі незаконнае, бо гэтая арганізацыя ў Магілёве не зарэгістравана. Некалькі дзён мне спатрэбілася, каб даказаць, што гэта не так, што арганізацыя зарэгістраваная. Мне прынеслі прабачэнні за «памылку», але папраўляць яе не сталі, бо выдзелены законам тэрмін на фарміраванне камісій закончыўся. Мне стала цікава разабрацца, як тыя камісіі фарміраваліся.*

*22.06.2001 г.* *Пракурору Магілёўскай вобласці*

ЗАЯВА аб парушэнні Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусь

12 чэрвеня 2001 года мною асабіста была перададзена ў Магілёўскі гарвыканкам заява 37 выбаршчыкаў аб вылучэнні мяне ў якасці іх прадстаўніка ў склад Цэнтральнай раённай г. Магілёва камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Заява была прынята галоўным спецыялістам агульнага аддзела гарвыканкама Лазарэнка Ж.Э. і зарэгістравана пад нумарам 2180. На маё пытанне, калі будуць разглядацца пададзеныя заявы, Лазарэнка Ж.Э. не змагла адказаць і прапанавала мне звярнуцца з гэтым пытаннем да супрацоўніцы аддзела арганізацыйна-кадравай працы Н.В. Вігуры. Н.В. Вігура патлумачыла, што рашэнне аб фарміраванні камісій павінна быць вырашана да 20 чэрвеня і менавіта на 20 чэрвеня запланавана чарговае пасяджэнне прэзідыуму гарвыканкама. 20 чэрвеня я даведаўся, што рашэнне аб стварэнні вы-

барчых камісій прынята 18 чэрвеня і што мая кандыдатура ў склад камісіі не патрапіла. На пытанне, чаму мяне не запрасілі на пасяджэнне гарвыканкама, загадчык аддзела арганізацыйна-кадравай працы А.М. Белавусаў адказаў мне, што не абавязаны былі гэта рабіць. Я папрасіў азнаёміць мяне з пратаколам пасяджэння гарвыканкама, на якім прымалася рашэнне аб стварэнні камісій, але Белавусаў А.М. сказаў, што пратакол яшчэ не аформлены і там не будзе нічога, акрамя тэксту рашэння аб стварэнні камісій, які будзе надрукаваны ў газеце «Веснік Магілёва». Не далі мне азнаёміцца і з дакументамі, прадстаўленымі тымі людзьмі, якія ўвайшлі ў склад выбарчых камісій. Усё гэта стварае ўражанне таямнічасці ў правядзенні выбарчай кампаніі, што можа выклікаць у выбаршчыкаў недавер да дзеянняў уладных структур і парушае артыкулы 34 і 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкул 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Акрамя таго, парушаны артыкул 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і артыкул 6 Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь. Сутнасць парушэння заключаецца ў наступным. У гарвыканкам былі пададзены заявы 59 выбаршчыкаў аб уключэнні іх у раённыя выбарчыя камісіі горада Магілёва. На аснове гэтых заяў створаны тры раённыя камісіі па 13 чалавек у кожнай. Усяго ў склад камісій увайшлі 39 чалавек. Прыблізна трэцяя частка ўсіх заяў адхілена. З пададзеных 59 заяў 3 заявы былі аформлены на беларускай мове і 56 заяў на рускай мове. Адпаведна прынцыпу роўнасці беларускай і рускай моў натуральна было чакаць, што ў склад выбарчых камісій горада будуць уключаны 2 прадстаўнікі, якія падалі заявы на беларускай мове, і 37 прадстаўнікоў, чые заявы былі пададзены на рускай мове (прапарцыянальна — і там, і там была б адхілена прыблізна трэцяя частка заяў). Гарвыканкам і Прэзідыум гарсавета парушылі прынцып роўнасці моў: уключылі ў склад камісій толькі тых прадстаўнікоў, чые заявы былі аформлены на рускай мове, і не ўключылі ў склад камісій ніводнага прадстаўніка з заявамі, аформленымі на беларускай мове. Гэта з’яўляецца грубым парушэннем артыкула 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, у якім гаворыцца: «Усякія прывілегіі ці абмежаванні правоў асобы па моўных прыкметах недапушчальныя», і артыкул 6 Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні

ў Рэспубліцы Беларусь, дзе сказана: «Не дапускаюцца ніякія абмежаванні правоў грамадзян на ўдзел у мясцовым кіраванні і самакіраванні». У прынятым Магілёўскім гарвыканкамам сумесна з прэзідыумам Магілёўскага гарадскога савета дэпутатаў рашэнні праглядваецца абмежаванне правоў беларускамоўных грамадзян на ўдзел у мясцовым самакіраванні.

Адпаведна вышэйпададзенаму я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь, абураны грубымі парушэннямі Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусь, патрабую:

1) Прыняць меры пракурорскага рэагавання да асоб, якія парушаюць Канстытуцыю і Законы Рэспублікі Беларусь;

2) Забяспечыць мае правы на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі па арганізацыі і правядзенні кампаніі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, гарантаваныя артыкуламі 34 і 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкулам 13 Выбарчага Кодэкса Рэспублікі Беларусь;

3) Унесці пратэст на сумеснае рашэнне Магілёўскага гарвыканкама і Прэзідыума Магілёўскага гарсавета па стварэнні раённых у г. Магілёве выбарчых камісій у сувязі з тым, што гэтае рашэнне парушае артыкул 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і артыкул 6 Закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь.

*3.07.2001 г.* *И.о. прокурора Центрального района г. Могилёва юристу 1 класса Мурашкевичу С.А.*

Для рассмотрения по существу направляется обращение Буловацкого М.П. по вопросу формирования Центральной районной г. Могилева комиссии по выборам Президента Республики Беларусь.

О результатах информируйте заявителя и прокуратуру Могилевской области.

*Первый заместитель прокурора Могилевской области старший советник юстиции Э.А. Сенькевич*

*10.07.2001 г. Первому заместителю прокурора Могилевской области старшему советнику юстиции Сенькевичу Э.А.*

Согласно устной договоренности возвращается обращение Буловацкого М.П. по вопросу формирования Центральной районной г. Могилева комиссии по выборам Президента Республики Беларусь как ошибочно направленное в прокуратуру Центрального района г. Могилева. Приложение: на 2 листах первому адресату.

*И.о. прокурора Центрального района г. Могилева юрист I класса С.А. Мурашкевич*

*13.07.2001 г. Прокуратура Могилёвской области — М. Буловацкому*

Прокуратурой Могилевской области проведена проверка по Вашему обращению по вопросу формирования Центральной районной г. Могилева комиссии по выборам Президента Республики Беларусь.

В ходе проверки нарушений действующего законодательства Республики Беларусь не установлено.

Ваше обращение является необоснованным и удовлетворению не подлежит.

При несогласии с принятым решением Вы вправе обжаловать его в Прокуратуру Республики Беларусь.

*Первый заместитель прокурора Могилевской области старший советник юстиции Э.А. Сенькевич*

*15.07.2001 г. М. Булавацкі — Пракурору Магілёўскай вобласці*

22 чэрвеня 2001 г. мною была пададзена заява ў пракуратуру Магілёўскай вобласці аб грубых парушэннях Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусь пры фарміраванні раённых у г. Магілёве выбарчых камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

4 ліпеня 2001 г. мая заява была накіравана в.а. пракурора Цэнтральнага раёна г. Магілёва Мурашкевічу С.А.

10 ліпеня 2001 г. С.А. Мурашкевіч вярнуў заяву ў абласную пракуратуру (першаму намесніку пракурора Магілёўскай вобла-

сці Э.А. Сянькевічу) як «памылкова накіраваную ў пракуратуру Цэнтральнага раёна».

Гэтыя дзіўныя дзіцячыя памылкі сур'ёзнай дзяржаўнай установы я расцэньваю як спробу пракуратуры ўхіліцца ад рашэння важнай дзяржаўнай праблемы, якой з'яўляюцца выбары Прэзідэнта. Тым самым, выбарчы працэс пракуратурай пускаецца на самацёк, пракуратура маўкліва гатовая прыняць любыя парушэнні Канстытуцыі і Законаў з боку тых, у чыіх руках сённяшняя ўлада.

Тады навошта такая пракуратура?

*Булавацкі М.П.*

*19.07.2001 г.* *М. Булавацкі — Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь*

25 чэрвеня 2001 года мною асабіста была пададзена заява ў пракуратуру Магілёўскай вобласці аб парушэнні Канстытуцыі і Законаў Рэспублікі Беларусь пры фарміраванні раённых у г. Магілёве выбарчых камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (копія заявы — дадатак 1). Магілёўскі гарвыканкам і Прэзідыум Магілёўскага гарадскога савета дэпутатаў парушылі наступныя нормы Закона:

артыкулы 34 і 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкул 13 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь: фарміраванне камісій было праведзена таемна без удзелу тых людзей, якія падавалі заявы на прадстаўніцтва ў камісіях (шляхам збору подпісаў ці ад працоўных калектываў або грамадскіх аб'яднанняў), у тым ліку і без майго ўдзелу як аднаго з такіх прэтэндэнтаў; пры гэтым мне не далі азнаёміцца з пратаколам пасяджэння і з іншымі дакументамі;

артыкул 6 Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь: камісіі сфарміраваныя толькі з тых асобаў, якія падавалі заявы на рускай мове, заявы прадстаўнікоў беларускамоўнага насельніцтва адхілены ўсе без выключэння.

13 ліпеня 2001 мне быў накіраваны адказ пракуратуры за подпісам намесніка пракурора Магілёўскай вобласці Э.А. Сянькевіча (копія адказу — дадатак 4). У гэтым адказе 2 парушэнні. Па-першае, ён дадзены з вялікім спазненнем (выбарчы кодэкс дае на падрых-

тоўку такога адказу тры дні, а ў выпадках, калі патрабуецца праверка, — 10 дзён). З тэксту адказу відавочна, што ніякай праверкі не праводзілася, але адведзеныя Законам тры дні расцягнуліся ў 19. Намеснік пракурора Магілёўскай вобласці чамусьці не лічыць выбары Прэзідэнта настолькі важнай справай, каб пытанні, якія ў сувязі з гэтым узнікаюць, вырашаць першачаргова. Другое парушэнне ў тым, што адказ дадзены не на мове заяўніка. Гэта выклікае падазрэнне, што ў высокім юрыдычным органе не валодаюць адной з дзвюх дзяржаўных моў, і дае падставы ўсумніцца ў юрыдычнай кампетэнтнасці асобных высокапастаўленых супрацоўнікаў пракуратуры. Гэтыя сумненні падмацоўваюцца і досыць грубымі юрыдычнымі памылкамі ў дзейнасці тых жа супрацоўнікаў: мая заява была спачатку накіраваная ў пракуратуру Цэнтральнага раёна г. Магілёва, якая не правамоцная вырашаць такія пытанні (копіі адпаведных дакументаў — дадаткі 2 і 3).

Прашу прыняць рашэнне па сутнасці маіх патрабаванняў, выкладзеных у заяве ад 25 чэрвеня 2001 года.

*3.08.2001 г.* *Пракуратура Рэспублікі Беларусь — М. Булавацкаму*

Ваша скарга на парушэнні заканадаўства аб выбарах пры фарміраванні раенных камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у г. Магілеве з вывучэннем матэрыялаў праверкі пракуратуры Магілеўскай вобласці разгледжана.

У адпаведнасці з арт. 13 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, на якую вы спасылаецеся ў сваім звароце, наглядальнікам сапраўды прадастаўлена права прысутнічаць на пасяджэннях адпаведных камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Разам з тым, выкладзеныя ў звароце абставіны сведчаць, што абскарджаныя Вамі дзеянні работнікаў Магілеўскага гарвыканкама мелі месца да моманту стварэння камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і статусам назіральніка Вы не маглі быць надзелены.

Стварэнне Цэнтральнай раеннай г. Магілева камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь згодна з арт. 34 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь было правамерна ажыццеўлена гарадскім выканаўчым камітэтам. Пры гэтым неабходна адзначыць, што дзе-

ючым заканадаўствам патрабаванне аб прысутнасці на пасяджэнні выканкама асоб, вылучаных у склад камісій, не ўстаноўлена.

Што датычыцца доказаў, выкладзеных у скарге, аб парушэнні пракуратурай Магілеўскай вобласці і Магілеўскім гарвыканкамам пры разглядзе Вашых зваротаў прынцыпу ўсебакавога развіцця і функцыянавання беларускай і рускай моў, то яны зяўляюцца юрыдычна неабгрунтаванымі і маюць надуманы характар.

У адпаведнасці з арт. 3 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантавана права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім гарантавана таксама права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове. Пазначанае права Вамі было бесперашкодна рэалізавана пры звароце ў органы пракуратуры і выканаўчай улады.

Афармленне рашэнняў па сутнасці звароту на рускай мове ў адпаведнасці з вышэйпазначанай нормай Закона з'яўляецца правамерным.

У сувязі з выкладзеным, падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання па Вашаму звароту не маецца.

*Начальнік аддзела па нагляду за выкананнем правоў і свабод грамадзян*
*Г.А. Шостак*

*10.08.2001 г.* *Могилёвский облисполком — М.Буловацкому*

Ваше заявление, адресованное Могилевскому облисполкому, рассмотрено.

Сообщаем, что в результате проверки фактов, изложенных в Вашем заявлении, установлено следующее.

В соответствии с Избирательным кодексом Республики Беларусь, формирование участковых комиссий по выборам Президента Республики Беларусь входит исключительно в компетенцию районных исполнительных комитетов и администраций районов в городах.

В Центральном районе г. Могилева образовано 52 участковые комиссии с общей численностью значительно меньшей, чем

выдвинутых для этого представителей, в том числе, и от Вашей организации. Таким образом, данный вопрос решался на исполкоме администрации Центрального района на конкурсной основе. Поэтому, факт регистрации или не регистрации Вашей организации не являлся определяющим. Вместе с тем, руководству администрации Центрального района указано на необходимость более тщательного изучения документов о деятельности различных общественных формирований с целью исключения в дальнейшем конфликтных ситуаций.

*Начальник управления организационно-кадровой работы облисполкома*
*А.Н. Сиваев*

*29.07.2001 г.* *М.Булавацкі — Намесніку старшыні Магілёўскага гарвыканкама Васільчанку І.У.*

Шаноўны Іван Уладзіміравіч!

На мінулым тыдні я звярнуўся да загадчыка аддзела арганізацыйна-кадравай работы гарвыканкама Белавусава А.М. з просьбай азнаёміць мяне з усімі матэрыяламі па фарміраванні выбарчых камісій у раёнах г. Магілёва, уключаючы пададзеныя людзьмі заявы. Права на такое знаёмства даюць мне артыкулы 34 і 65 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкул 13 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь. Але Анатоль Мікалаевіч не даў мне азнаёміцца з гэтымі матэрыяламі і сказаў, што патрабуецца Ваш дазвол. Таму я звяртаюся да Вас: дазвольце Белавусаву А.М. азнаёміць мяне з названымі матэрыяламі. Спадзяюся атрымаць адказ на гэты запыт у вызначаны Выбарчым кодэксам тэрмін.

З павагай,

*Булавацкі М.П.*

*2.08.2001 г.* *И. Васильченко — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

На Ваше письмо, адресованное в Могилёвский горисполком, предлагаю в удобное для Вас время придти ко мне для обсуждения

поднимаемых Вами вопросов. Предварительно о времени встречи позвоните по тел…

*Заместитель председателя горисполкома И.В. Васильченко*

*13.08.2001 г.* *М. Булавацкі — І. Васільчанку*

Шаноўны Іван Уладзіміравіч!

Ваш адказ на мой запыт ад 29.07.2001 выклікаў маё здзіўленне. Я ўжо другі месяц спрабую азнаёміцца з матэрыяламі па фарміраванні выбарчых камісій у г. Магілёве, але гарвыканкам (у Вашай асобе) упарта не пускае мяне да гэтых матэрыялаў. Вось і зараз: замест таго, каб паведаміць мне, дзе і калі я магу азнаёміцца з заявамі грамадзян, Вы прапануеце мне нешта «обсудить». Аб чым можа быць гэтая размова? На маё меркаванне, калі ў тых матэрыялах ніякіх парушэнняў закону не будзе знойдзена, то і абмяркоўваць няма чаго. Калі ж парушэнні знойдуцца, тады і ўзнікне патрэба ў абмеркаванні. І калі Вы мне загадзя прапануеце нешта абмяркаваць, значыць Вы ўжо ведаеце, што такія парушэнні ёсць і хочаце паўплываць на мяне, каб я іх «не заўважыў».

Шаноўны Іван Уладзіміравіч! Вы распачынаеце са мной непрыстойную і рызыкоўную гульню.

Я паўторна звяртаюся да Вас: я маю намер азнаёміцца з заявамі грамадзян, вылучаных у выбарчыя (раённыя) камісіі г. Магілёва. Прашу паведаміць мне час і месца, дзе я магу гэта зрабіць. Спадзяюся атрымаць дакладны адказ, бо інакш Вы (Вы асабіста!) будзеце несці адказнасць за перашкоды ў правядзенні выбарчай кампаніі.

*Булавацкі М.П.*

*21.08.2001 г.* *И. Васильченко — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

На Ваше заявление… по вопросу ознакомления с заявлениями граждан, выдвинутых в районные избирательные комиссии по выборам Президента Республики Беларусь, сообщаю, что по

интересующему Вас вопросу Вы можете встретиться со мной в к. 230 горисполкома в любое удобное для Вас время, предварительно согласовав мой график работы на текущий день с секретарём приёмной по тел…

*Заместитель председателя городского исполнительного комитета*
*И.В. Васильченко*

*29.08.2001 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама М. Краснову*

Шаноўны Міхаіл Аляксеевіч!

Мне непрыемна, што даводзіцца звяртацца да Вас па такой справе, але абставіны вымушаюць.

Справа ў тым, што ёсць падазрэнні, нібыта раённыя ў г. Магілёве выбарчыя камісіі сфарміраваны пад кіраўніцтвам Вашага намесніка Васільчанкі І.У. з парушэннем закону. Пацвердзіць ці, наадварот, адкінуць такія падазрэнні можна было б пры непасрэдным знаёмстве з дакументамі, адпаведна якім камісіі сфарміраваныя, у тым ліку з заявамі прэтэндэнтаў, уключаных у камісіі. Маё грамадзянскае права на такое знаёмства пазначана ў артыкуле 34 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: «Дзяржаўныя органы… службовыя асобы абавязаны даць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі, якія закранаюць яго правы і законныя інтарэсы». Акрамя таго, што выбары Прэзідэнта ўвогуле закранаюць мае законныя інтарэсы, я быў сярод тых прэтэндэнтаў, якіх І.У. Васільчанка не ўключыў у склад камісіі, і мяне цікавіць, якія больш важкія падставы мелі тыя людзі, што ўвайшлі ў камісіі.

29.07.2001 г. я звярнуўся з пісьмовым запытам да І. Васільчанкі аб сваім намеры азнаёміцца з названымі матэрыяламі… мне быў дадзены адказ дзіўнага зместу: «…предлагаю в удобное для Вас время придти ко мне для обсуждения поднимаемых Вами вопросов. И. Васильченко». На мой погляд, калі б я не знайшоў у тых дакументах ніякіх парушэнняў, то і абмяркоўваць няма чаго. Падставы для нейкага абмену думкамі маглі б з’явіцца тады, калі парушэнні былі б выяўлены. І прапануючы мне такое абмеркаванне загадзя, Іван Уладзіміравіч, відаць, дапускаў наяўнасць такіх парушэнняў. Тым самым ён узмацніў мае падазрэнні. Адказ І. Васільчанкі ўжо

дастатковы, каб прыцягнуць яго да судовай адказнасці за перашкоды ў правядзенні выбарчай кампаніі. Але я вырашыў не спяшацца з гэтым і паўторна звярнуўся да І. Васільчанкі з патрабаваннем азнаёміць мяне з матэрыяламі па стварэнні выбарчых камісій. Гэты зварот адпраўлены 13.08.2001 г.

21.08.2001 г. (ужо з парушэннем артыкула 49 Выбарчага кодэкса пра тэрмін адказу) мне быў накіраваны адказ такога ж зместу: «…Вы можете встретиться со мной…»

27.08.2001 г. такая сустрэча адбылася, але доўжылася 5–7 хвілін, бо Іван Уладзіміравіч пачаў мне тлумачыць, што я няправільна разумею Выбарчы кодэкс і Канстытуцыю, аргументуючы тым самым сваё нежаданне паказваць мне тыя дакументы, і я спыніў гэтую бясплённую размову.

Цяпер звяртаюся да Вас як да кіраўніка дзяржаўнага органа: прашу забяспечыць маё законнае права і даць мне магчымасць азнаёміцца з дакументамі, на падставе якіх сфарміраваныя раённыя камісіі. Нагадваю, што адкрытасць і галоснасць выбарчай кампаніі гарантуюцца артыкулам 65 Канстытуцыі і артыкулам 13 Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь.

Прашу даць адказ на працягу трох дзён, як таго патрабуе Выбарчы кодэкс. У выпадку адмовы я вымушаны буду абараняць сваё права ў судзе.

*М. Булавацкі*

*3.09.2001* *Горисполком — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

Рассмотрев Ваше очередное обращение по вопросу ознакомления с документами, относящимися к образованию районных избирательных комиссий, городской исполнительный комитет сообщает, что их формирование осуществлялось в установленном порядке в соответствии с Избирательным Кодексом Республики Беларусь. По этому вопросу Вам неоднократно давались разъяснения. Дополнений на Ваше обращение к ранее данным ответам горисполком не имеет.

*Первый заместитель председателя городского исполнительного комитета В.В. Дюбайлов*

*Пры фарміраванні ўчастковых выбарчых камісій пра абласную арганізацыю ТБМ зноў жа забылі. Маўляў, не пастаўлена на ўлік.*

## АКТ аб парушэнні Выбарчага кодэксу Рэспублікі Беларусь

Мы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь Булавацкі Міхаіл Пятровіч і Бухель Барыс Леанідавіч, склалі дадзены акт аб парушэнні выбарчага кодэксу абласной і раённымі выбарчымі камісіямі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Сутнасць парушэння заключаецца ў наступным. Цэнтральны і Ленінскі райвыканкамы г. Магілёва не ўключылі ніводнага прадстаўніка, вылучанага Магілёўскай абласной арганізацыяй грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», у склад участковых камісій у названых раёнах, матывуючы гэта тым, што такая арганізацыя не пастаўлена на ўлік. Інфармацыю аб тым, якія арганізацыі пастаўлены на ўлік, раённыя камісіі атрымліваюць ад абласной камісіі. Сакратар абласной выбарчай камісіі Макаранка Людміла Васільеўна азнаёміла нас з тым спісам пастаўленых на ўлік арганізацый, які абласная камісія рассылала раённым камісіям. У гэтым спісе названай вышэй арганізацыі [*ТБМ*] няма, хаця яна пастаўлена на ўлік 3 мая 2000 года, аб чым маецца адпаведнае пасведчанне. Такім чынам, абласная камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дае раённым камісіям непраўдзівую інфармацыю, на падставе якой раённыя камісіі і адпаведныя райвыканкамы прымаюць свае рашэнні, якія мы лічым неправамоцнымі.

На пытанне, адкуль абласная камісія ўзяла гэты спіс, Макаранка Л.В. адказала, што прынесла яго з упраўлення юстыцыі, хаця ніякіх подпісаў, пячатак ці іншых адзнакаў упраўлення юстыцыі там не было.

На аснове вышэйсказанага адказнасць за дэзінфармацыю раённых выбарчых камісій і райвыканкамаў кладзецца на абласную выбарчую камісію па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, на яе сакратара Макаранка Людмілу Васільеўну.

Акт складзены 30 ліпеня 2001 года у 16 гадзін 40 хвілін у памяшканні абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (Магілёў, Дом саветаў, каб.108).

*Подпісы: М. Булавацкі, Б. Бухель*

*Далей прыпіска:*

Я, Макаренко Л.В., не согласна с той мотивацией, которая сделана в предпоследнем абзаце «дезинформация». Список был мной нарочным забран в управлении юстиции облисполкома, согласно которому и выдали информацию районным комиссиям. 30.07.2001. Подпись: Макаренко

*Вось і шукай вінаватага. Магутны савецкі досвед, як у Райкіна: «Адзін мерку здымае, другі каронку штампуе, трэці ўстаўляе, а за дыкцыю ніхто не адказвае». Сакратарцы ніхто не патлумачыў, што яна пасаджана на вельмі адказнае месца (якая там адказнасць — паперкі перакладваць!) і павінна сачыць, каб усе афіцыйныя паперы былі з подпісамі адказных асоб і з пячаткамі. У выпадку чаго яе (стрэлачніцу) і зробяць вінаватай. А таго кіраўніка ўпраўлення юстыцыі, які падрыхтаваў дэзу-паперку, да адказнасці не прыцягнеш, яго ж подпісу няма. «Я ёй такога не даваў!» — абурыцца ён (ці яна). А калі б уявіць, што Л. Макаранка была крыху разумнейшай і папрасіла спіс з подпісам і пячаткай, тады б абурэнне выбухнула ў яе адрас: «Што вы тут праблему ствараеце! Вам далі спіс — вось і ідзіце! Вы, што, нам не давяраеце?» — «Калі вы баіцеся падпісаць, тады не давяраю», — на такі натуральны адказ яе смеласці не хопіць. А таго, у каго хапіла б смеласці так сказаць, проста замянілі б іншым, больш дагодлівым і менш здагадлівым. Так і суіснуем…*

*У тых установах заўсёды знаходзяцца такія служакі, на якіх спіхваюць самыя непрыемныя, самыя ганебныя ролі і якія яны з руплівасцю гатовыя выконваць, кшталту І. Васільчанкі (мы яшчэ сутрэнемся з ім у гэтай кнізе).*

# СТУКАЙЦЕ — АДЧЫНЯЦЬ

*У жыхара Магілёва А. Агеева закончылася абаненцкая кніжка па разліках за газ, і ён звярнуўся ў кіраўнічы орган гэтай структуры з просьбай выдаць яму новую кніжку на беларускай мове. Супрацоўніцу газавай службы такая просьба здзівіла, і яна выказалася з'едліва ў бок абанента, што ён палічыў абразай і зрабіў адпаведны запіс у кнізе заўваг і прапаноў. Атрымаў адказ кіраўніка службы.*

*30.11.2001 г.* *МРПУ газового хозяйства — А. Агееву*

На Ваше заявление… сообщаем следующее: согласно Закону РБ «О языках в Республике Беларусь» от 26 января 1990 г… и Конституцией Республики Беларусь, государственными языками Республики Беларусь являются белорусский и русский языки. Согласно ст. 8 вышеуказанного Закона языками делопроизводства и документации являются также русский и белорусский языки и руководителей организаций и предприятий Закон не обязывает иметь документацию на обоих языках, так как они оба являются государственными.

Предлагаем Вам еще раз внимательно прочитать Закон и пересмотреть свои необоснованные требования.

*Директор МРПУ газового хозяйства С.П. Феоктистов*

*23.01.2002 г.* *А. Агееў — Дырэктару МРВУ газавай гаспадаркі С. Феактыставу*

На Ваш ліст… мушу паведаміць наступнае: на мой погляд, ён з'яўляецца форменнай адпіскай, а не адказам па сутнасці пытання. Сапраўды, адпаведна Канстытуцыі Беларусі і Закону «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» дзяржаўнымі мовамі РБ з'яўляюцца белару-

ская і руская мовы, і прадпрыемствы маюць права выбіраць любую з іх у якасці мовы справаводства. Але толькі ўнутраная дакументацыя — ёсць прыватная справа прадпрыемства. Усю ж бланкавую прадукцыю для працы з кліентамі Вы абавязаны мець на абедзьвюх дзяржаўных мовах, таксама, як і прамысловая прадукцыя павінна маркіравацца і на беларускай, і на рускай мовах. Дарэчы, каб пераканацца ў няправільнасці Вашай пазіцыі, не абавязкова мець добрага юрыста ў арганізаццыі, а дастаткова было б слухаць перадвыбарчыя выступленні Прэзідэнта РБ Лукашэнкі А.Р.

Прапаную Вам і вашаму юрысту яшчэ раз уважліва прачытаць Закон і перагледзець практыку фармальных адказаў на законныя патрабаванні грамадзян.

Каб аблегчыць Ваш адказ, я паспрабую сфармуляваць свае пытанні максімальна проста і канкрэтна:

1) Калі Ваша арганізацыя будзе мець абанентныя кніжкі на беларускай мове?

2) Якія меры прыняты Вамі да грамадзянкі Дойлідавай С.І., якая на сваім рабочым месцы дапусціла выказванні, што распальваюць міжнацыянальную варожасць?

Шчыра спадзяюся на канструктыўны, а не амбіцыйны адказ!

*Агееў А.Р.*

*12.02.2002 г.* *МРПУ газового хозяйства — А. Агееву*

По существу Вашего обращения, Могилевское РПУ газового хозяйства сообщает следующее:

1. В настоящее время в управлении имеется достаточное количество абонентских книжек для оплаты населением за использованный газ на русском языке, которые продаются гражданам, имеющим приборы учета газа. Вы имеете возможность индивидуально заказать абонентскую книжку на белорусском языке в типографии г. Могилева и производить по ней оплату равно как и по книжке на русском языке.

2. Начальником службы учета газа сделано строгое замечание оператору ПЭВМ Дойлидовой С.И., проработаны некоторые статьи

Конституции Республики Беларусь и Закон о языках в Республики Беларусь…

*Директор Могилевского РПУ газового хозяйства С.П. Феоктистов*

*27.03.2002 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Дырэктару Магілёўскага раённага вытворчага ўпраўлення газавай гаспадаркі Феакціставу С.П.*

Шаноўны Сяргей Пятровіч!

Да нас звярнуўся спадар Агееў А.Р., які ў паўсядзённым жыцці імкнецца карыстацца сваёй роднай мовай (тытульнай мовай нашай дзяржавы) і, на вялікі жаль, сустракае перашкоды ў гэтых натуральных і законных памкненнях з боку некаторых устаноў і прадпрыемстваў, у тым ліку асобных дзяржаўных (на шчасце, не ад усіх; і нас радуе, што большасць кіраўнікоў прадпрыемстваў і устаноў з разуменнем ставяцца да адпаведных просьбаў не толькі з боку Агеева). Спадар Агееў звяртаўся і да вашага ўпраўлення з просьбай выдаць яму абаненцкую кніжку для аплаты за выкарыстаны газ на беларускай мове, але яму было адмоўлена ў гэтым на той падставе (як мы зразумелі з падпісанага Вамі адказу…), што кніжак на беларускай мове ваша ўпраўленне чамусьці не мае.

Нагадваем вам, што ў любой дзяржаве, якая мае некалькі дзяржаўных моваў (не будзем рабіць Беларусь выключэннем), нормай дзейнасці любой дзяржаўнай установы ці прадпрыемства лічыцца адказваць на запыты людзей на той мове, на якой яны (гэтыя запыты) паступаюць, дзеля чаго ў штат установы ці прадпрыемства ўключаюцца супрацоўнікі, што валодаюць рознымі дзяржаўнымі мовамі. Спадар Агееў звяртаўся да ўпраўлення газавай гаспадаркі на беларускай мове, але адказы атрымліваў чамусьці на іншай мове. Мы не маем намеру думаць, што Вы прынцыпова падбіраеце ў свой штат супрацоўнікаў, якія не валодаюць беларускай мовай. Хутчэй, адсутнасць беларускамоўных супрацоўнікаў — гэта памылка вашага аддзела кадраў, якую вельмі пажадана выправіць. Наша арганізацыя гатова дапамагчы вам знайсці такіх супрацоўнікаў, калі для кіраўніцтва вашага прадпрыемства гэта будзе праблемай.

Акрамя таго, наша арганізацыя гатова за невялікую плату дапамагчы ўпраўленню газавай гаспадаркі распрацаваць кампутарны макет абаненцкай кніжкі на беларускай мове, калі тэхнічныя сродкі ўпраўлення не дазваляюць гэта зрабіць. Спадзяемся, што агульнымі намаганнямі законнае патрабаванне спадара Агеева будзе выканана і ваша прадпрыемства дапаможа яму ў нармальным і натуральным жаданні карыстацца сваёй роднай мовай (бо якой жа мовай і карыстацца ў Беларусі, калі не беларускай?).

*Старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны М. Булавацкі*

*19.04.2002 г.* *Могилёвской областной организации общественного объединения «Общество белорусского языка им. Франциска Скорины»*

На Ваше письмо… Могилевское РПУ газового хозяйства информирует, что в наличии имеются абонентские книжки для расчётов за использованный газ на белорусском языке. Стоимость одной книжки…

*Директор Могилёвского РПУ газового хозяйства С.П. Феоктистов*

*На чарговай справаздачна-выбарчай канферэнцыі абласной арганізацыі ТБМ спадару Агееву была ўрачыста ўручана абаненцкая кніжка для разлікаў за выкарыстаны газ на беларускай мове.*

# ІМЯ З НЕБЫЦЦЯ

*У 2001 годзе, калі набліжаўся 100-гадовы юбілей пісьменніка Міхася Зарэцкага, Шклоўская арганізацыі ТБМ (і асабіста яе кіраўнік А. Грудзіна) усклапацілася тым, каб сустрэць юбілей выбітнага земляка найлепшым чынам. Але звароты да кіраўніцтва райвыканкама не мелі плёну, там не выказалі жадання ўшаноўваць імя рэпрэсаванага «нацдэма» (хаця ўжо й рэабілітаванага). Адзінае, што ўдалося выціснуць, — абяцанне надаць Зарэчанскай бібліятэцы імя М. Зарэцкага. Паведамленне аб тым, што імя прысвоена, было змешчана ў раённай газеце. Але ў наступным нумары газеты было зроблена «ўдакладненне».*

17.11.2001 г. Шклоўская раённая масавая грамадска-палітычная газета «Ударны фронт»:

«УДАКЛАДНЕННЕ. У мінулым нумары нашай газеты за 14 лістапада 2001 года ў артыкуле «Прысвоена імя Зарэцкага» памылкова змешчана інфармацыя аб прысваенні Зарэчанскай бібліятэцы імя М. Зарэцкага».

*22.11.2001 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Намесніку старшыні Шклоўскага райвыканкама В. Гузаву*

Шаноўны Валерый Андрэевіч!

У тэлефоннай гутарцы са мною Вы паведамілі, што Зарэчанскай бібліятэцы прысвоена імя Міхася Зарэцкага, славутага беларускага пісьменніка, якім можа ганарыцца шклоўская зямля. Вельмі шкада, што райвыканкам не знайшоў магчымасці правесці масавыя мерапрыемствы ў Шклове і Зарэччы, прысвечаныя 100-годдзю з дня нараджэння таленавітага земляка. Ніякіх матэрыяльных выдаткаў на гэта не спатрэбілася б, бо ўсю арганізацыйную справу гатова была выканаць мясцовая арганізацыя Таварыства беларускай

мовы. Але найбольш непрыемна мы былі здзіўлены, прачытаўшы ў раённай газеце «Ударны фронт» (ад 17 лістапада) «удакладненне» аб тым, што інфармацыя аб прысваенні бібліятэцы імя Міхася Зарэцкага памылковая. Мы былі б удзячны Вам за ўдакладненне да гэтага «ўдакладнення»: усё ж, **прысвоена бібліятэцы імя Міхася Зарэцкага ці не?**

Спадарожна хочацца выказаць наступнае. Магілёўская абласная і Магілёўская гарадская арганізацыі Таварыства беларускай мовы актыўна супрацоўнічаюць з абласной і гарадской адміністрацыямі з узаемнай карысцю. Адпаведна гэтаму ўсё больш на вуліцах Магілёва з'яўляецца інфармацыі на беларускай мове, беларускіх шыльдаў з назвамі вуліц, вывесак на крамах, іншых установах. Калі праводзяцца абласныя ярмаркі, на якія з'язджаюцца гандляры з усіх раёнаў Магілёўшчыны, то кідаюцца ў вочы беларускамоўныя шыльды прадпрыемстваў і ўстаноў Магілёва, на фоне якіх дысанансам выглядаюць рускамоўныя шыльды устаноў з раёнаў, у тым ліку шклоўскіх. Нібыта ў раёнах родную мову ўжо забылі, закінулі на задворкі жыцця і вывелі з карыстання. Магчыма нават у складзе райвыканкама няма тых, хто добра валодае роднай мовай, але ж у Шклове ёсць цудоўныя настаўнікі беларускай мовы, ёсць мясцовая арганізацыя Таварыства беларускай мовы з аўтарытэтным і паважаным кіраўніком Грудзінам А.П. Супрацоўніцтва з імі дапамагло б шклоўскай адміністрацыі вярнуць родную мову на вуліцы Шклова, горада з багатай гісторыяй.

Спадзяемся, што ўрэшце так і будзе.

З добрымі пажаданнямі,

*М. Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

*4.01.2002 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Намесніку старшыні Шклоўскага райвыканкама В. Гузаву*

Шаноўны Валерый Андрэевіч!

22 лістапада мінулага года на Ваша імя быў накіраваны заказны ліст з запытам аб наданні бібліятэцы вёскі Зарэчча Шклоўскага раёна імя Міхася Зарэцкага. Будзе хутка два месяцы, як мы з не-

цярпеннем чакаем Вашага адказу. Нагадаем, што закон патрабуе ад афіцыйных асобаў адказваць на такія запыты на працягу месяца. Магчыма, наш ліст згубіўся сярод Вашай карэспандэнцыі? Тады паўтараем яго змест…

*10.02.2002 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Старшыні Шклоўскага райвыканкама А. Агееву*

[*ліст, адрасаваны раней В. Гузаву, паўтораны яшчэ раз*]

*7.03.2002 г.* *Председателю Могилёвской областной организации товарищеского объединения «Таварыства беларускай мовы имя Францишка Скарыны» М. Булавацкаму*

На Ваше письмо сообщаем, что решением райисполкома № 20–48 от 25 декабря 2001 года библиотеке в д. Заречье Шкловского района присвоено имя белорусского писателя М. Зарецкого.

*Заместитель председателя райисполкома С.Н. Новиков*

*17.03.2002 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Старшыні Шклоўскага райвыканкама А. Агееву*

Шаноўны Аляксандр Міхайлавіч!

Добра, што імя таленавітага беларускага пісьменніка, вашага земляка Міхася Зарэцкага ўвекавечана Шклоўскім райвыканкамам у назве адной з бібліятэк раёна. Крыўдна толькі, што зроблена гэта толькі пасля прыняцця адпаведнага рашэння аблвыканкамам і пасля таго, як беларуская прэса абвінаваціла Шклоўскі райвыканкам у «паўторных рэпрэсіях» пісьменніка. Мы не разумеем пазіцыі Вашага намесніка В.А. Гузава, які хацеў не дапусціць надання Зарэчанскай бібліятэцы імя М. Зарэцкага.

Абласная арганізацыя ТБМ вядзе летапіс абароны і развіцця роднай мовы і яе носьбітаў на Магілёўшчыне і, на жаль, імя В.А. Гузава будзе занесена туды ў непрыемным для яго кантэксце.

Як бы там ні было, адна справа зроблена, але ў лістах, накіраваных намі на адрас В.А. Гузава, гаварылася не толькі пра

Зарэцкага. Мы ставілі пытанне ўвогуле аб існаванні роднай мовы на Шклоўскай зямлі, аб адносінах да яе з боку раённай адміністрацыі. Мы выказвалі трывогу аб тым, што родная мова ў Шклове вынішчаецца з ужытку, што вулічная інфармацыя, шыльды, вывескі гандлёвых і іншых прадпрыемстваў у Шклове падаюцца на рускай мове за вельмі рэдкімі выключэннямі. Мы непакоіліся пра тое, што службовыя асобы Шклоўскага райвыканкама забылі родную мову, не карыстаюцца ёю і ўвогуле выказваюць непавагу да тых людзей, якія шануюць і падтрымліваюць мову сваімі малымі сіламі і сродкамі. Наш непакой падмацоўваецца і лістом, падпісаным Вашым намеснікам С. Новікавым, аб наданні бібліятэцы імя Зарэцкага. Ну падумайце самі: у лісце гаворыцца пра слыннага **беларускага** пісьменніка і адрасуецца ліст абласной арганізацыі Таварыства **беларускай** мовы — на якой мове можа быць напісаны такі ліст у **беларускай** дзяржаве? Спадар Новікаў абраў чамусьці рускую мову, не думаючы пра тое, што гэтым выбарам ён зневажае годнасць не толькі тых, каму піша, але і сябе самога. Так, руская мова ў нас прыроўненая да беларускай, але ж ці азначае гэта, што беларускую можна забыць, што яе можна вывесці з ужытку? Далёка не ўсе пагодзяцца тут з С. Новікавым.

У Шклове яшчэ ёсць людзі, што добра валодаюць роднай мовай, ёсць арганізацыя ТБМ, якая аб'ядноўвае людзей, заклапочаных сітуацыяй вакол роднай мовы на Шклоўшчыне. Не адштурхоўвайце гэтых людзей — яны дапамогуць Вам зрабіць Шклоў, горад з багатай беларускай гісторыяй, сучасным **беларускім** горадам, якім ён і павінен быць. І родная мова запануе на вуліцах Шклова і зацепліць душы шклоўцаў.

У спадзяваннях на гэта,

*Міхась Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

*Без адказу*

# ЧАТЫРЫ БЕЛАРУСІКІ І АМАП

*4.01.2002 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Т. Бараноўскай*

Паважаная Тамара Анатольеўна!

27 жніўня 2001 года Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь зацвердзіла «Праграму дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі», якая прадугледжвае шэраг істотных мерапрыемстваў, скіраваных на паляпшэнне сітуацыі з беларускамоўнай адукацыяй (пастанова № 48). Наша арганізацыя і іншыя грамадскія аб’яднанні, заклапочаныя беларускім адраджэннем, успрынялі гэтую пастанову з радасцю і энтузіязмам, расцэньваючы яе як значны крок у развіцці беларускай дзяржаўнасці. Спадзяемся, што Вы, шаноўная Тамара Анатольеўна, падзяляеце нашу радасць, хаця гэтая пастанова і дадае Вам і ўсяму ўпраўленню новых клопатаў. Але Таварыства беларускай мовы гатова ў меру сваіх сіл дапамагаць Вам у вырашэнні адпаведных праблем. Больш за тое, мы нават спадзяемся на цеснае супрацоўніцтва па гэтых пытаннях.

Нагадаем Вам перадгісторыю пытання. У снежні 1989 года на ўстаноўчым сходзе Магілёўскай гарадской арганізацыі ТБМ, дзе прысутнічалі каля 200 дэлегатаў, сярод якіх былі і прадстаўнікі абласных і гарадскіх адміністратыўных структур, у тым ліку ўпраўленняў адукацыі, упершыню прагучала прапанова аб адкрыцці ў Магілёве беларускага ліцэя. Прапанова была горача падтрыманая дэлегатамі і аднагалосна ўключана ў праграму першачарговых праектаў Таварыства. Абранае на сходзе кіраўніцтва гарадской арганізацыі ТБМ адразу ж пачало актыўныя кантакты з абласным і гарадскім упраўленнямі адукацыі. Гэтыя кантакты не засталіся безвыніковымі: у Магілёве быў адкрыты нядзельны беларускі ліцэй, у якім займаліся каля 40 навучэнцаў. Пачалася распрацоўка дакументаў на стварэнне беларускага ліцэя. Гэта было тым болей актуаль-

ным, што два рускамоўных ліцэі ўжо былі адкрыты (што стварала перакос у гарманічным суіснаванні дзвюх моваў), і стала яшчэ больш актуальным пасля адкрыцця ў Магілёве беларускай гімназіі на базе сярэдняй школы № 9 (пазней і на базе сярэдняй школы № 30), бо разрываўся ланцуг беларускай адукацыі. Супрацоўніцтва з тагачасным начальнікам абласнога ўпраўлення адукацыі Г. Пятроўскім давала падставы для аптымізму. Але Г. Пятроўскага, пераведзенага на вышэйшую пасаду ў міністэрства, змяніў А. Раманаў, і сітуацыя з беларускамоўнай адукацыяй рэзка змянілася не на карысць беларусам. Падчас кіраўніцтва А. Раманава спыніў дзейнасць беларускі нядзельны ліцэй, а падрыхтаваныя намі дакументы на стварэнне беларускага ліцэя згубіліся ў нетрах упраўлення адукацыі, ніякага рашэння па іх не было прынята. Пачало тармазіцца і развіццё беларускіх гімназій, яны паступова зачахлі. Школа № 9 ужо і не называецца гімназіяй, а школа № 30, якая нібыта мае статус гімназіі, ніякай грунтоўнай беларускай адукацыі не дае. Некалькі апошніх год у Магілёве няма ніводнага беларускага класа, хаця вучні, якія б хацелі вучыцца ў беларускіх класах, ёсць. У мяне захоўваецца важкі стос перапіскі з двума Вашымі папярэднікамі У. Булыбенкам і З. Пяньковай. Сутнасць яе ў наступным: «Я гатовы выкладаць матэматыку ў беларускім класе» — «У Магілёве няма беларускіх класаў» — «Давайце адкрыем» — «Бацькі не хочуць» — «Знайдзіце памяшканне, я знайду вучняў…» На гэтым месцы дыялог звычайна перарываўся. Але праблема не знікала, яна абвастралася. Сведчаннем таму стала тое, што шэраг маладых бацькоў стварылі бацькоўскі камітэт, які пачаў дамагацца стварэння беларускага садка (ці хаця б беларускай групы ў садку). Спадзяюся, што Вы ўжо мелі кантакты з гэтым бацькоўскім камітэтам?

І вось цяпер ёсць падставы для вырашэння гэтай набалелай праблемы. Памянутая пастанова № 48 прадугледжвае «пачынаючы з 2002–2003 навучальнага года ў кожным раённым цэнтры, раёне гарадоў адкрыць не менш адной школы з беларускай мовай навучання». Адпаведна гэтаму пункту ўжо з наступнага навучальнага года ў Магілёве павінны быць адкрыты тры беларускія школы (па адной — у кожным раёне). Нам думаецца, што тры — гэта, магчыма, занадта. Але хаця б пра адну трэба пачынаць думаць. У ТБМ ёсць некаторыя канкрэтныя прапановы на гэты конт.

Калі Вы будзеце ў бліжэйшы час праводзіць нараду па ўзнятым тут пытанні, то прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы падрыхтуюць і выкажуць свае прапановы на гэтай нарадзе.

Ад сябе асабіста дадам, што я з вялікім задавальненнем пачну выкладаць матэматыку ў беларускай школе (ліцэі, гімназіі), будучы ўпэўненым, што вучняў, якія захочуць вучыцца ў мяне матэматыцы па-беларуску, знойдзецца шмат. Гэта адна з нашых прапаноў — спачатку трэба знайсці настаўнікаў з добрым валоданнем беларускай мовай і не менш добрым валоданнем сваёй дысцыплінай, тады і праблемы з вучнямі не будзе (які ж бацька ці маці не захоча добрай адукацыі для свайго дзіцяці?).

Будзем чакаць Вашага запрашэння на нараду.

*Старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» М. Булавацкі*

*27.03.2002 г.* *М. Булавацкі — Пракурору Ленінскага раёна г. Магілёва*

4 студзеня 2002 года наша арганізацыя зрабіла запыт упраўленню адукацыі Магілёўскага гарвыканкама (на імя начальніка ўпраўлення Т.А. Бараноўскай) па пытанні, звязаным з рэалізацыяй праграмы Міністэрства адукацыі па пашырэнні беларускамоўнай адукацыі. Сутнасць пытання мы не будзем тут закранаць, бо гаворка не аб гэтым. Ліст быў накіраваны заказным пісьмом і быў своечасова дастаўлены па прызначэнні. Але адказу мы не атрымалі. 10 лютага мы накіравалі паўторны ліст да Т.А. Бараноўскай, нагадаўшы пра наш запыт, але адказу зноў не атрымалі.

Просім нагадаць начальніку ўпраўлення пра неабходнасць адпаведна закону даваць адказы на такія запыты на працягу месяца і прыняць меры пракурорскага рэагавання, каб названы закон упраўленнем адукацыі Магілёўскага гарвыканкама выконваўся.

*М. Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

*29.03.2002 г. Председателю Моггорисполкома Шорикову В.И., Булавацкому М.*

Направляю заявление т. Булавацкого М. о допущенной волоките при рассмотрении его писем, направленных в адрес управления образования горисполкома.

Булавацкому М. для сведения разъясняю, что надзор за исполнением законности в деятельности Могилёвского горисполкома осуществляется прокуратурой области.

*Прокурор Ленинского района г. Могилева советник юстиции С.В. Копытов.*

*Напрыканцы красавіка адбылася размова ў кабінеце Т. Бара— ноўскай. «Ну давайце паспрабуем, — здалася нарэшце Тамара Анатольеўна. — Якія вашы прапановы». — «Мы прапануем адкрыць адзін сёмы клас з паглыбленым вывучэннем матэматыкі і з беларускай мовай навучання, напрыклад, на базе нацыянальнай гімназіі». — «Чаму сёмы?» — «Таму што ў сёмым класе пачынаецца сістэматычнае вывучэнне алгебры і геаметрыі і там з'яўляюцца першыя праблемы пры засваенні вучнямі матэматыкі…».*

*Пакуль вяліся розныя ўдакладненні, перамовы з дырэктарам гімназіі і з органамі адукацыі, імаверны падбор настаўнікаў і класнага кіраўніка, прайшло больш за месяц. Толькі 15 чэрвеня ў газеце «Веснік Магілёва» з'явілася абвестка:*

**Нацыянальная гімназія**
(сярэдняя школа № 30 — пр. Шмідта, 44)
аб'яўляе прыём у сёмы беларускі клас
з матэматычнай спецыялізацыяй.

Навучанне ўсім дысцыплінам у класе будзе весціся на **беларускай мове** кваліфікаванымі настаўнікамі, у тым ліку выкладчыкамі ВНУ і ліцэяў. У клас прымаюцца вучні, якія скончылі 6 класаў любой школы і маюць па матэматыцы і беларускай мове адзнакі «4» і «5». Па заканчэнні дзевяці класаў вучні гэтага класа змогуць працягваць адукацыю ў беларускім класе ліцэя ці ў любой навучальнай установе з беларускай або рускай мовай навучання, а па заканчэнні адзінаццаці класаў — на беларускіх або рускіх плынях ВНУ Беларусі і суседніх краін.

На арганізацыйным сходзе, які адбудзецца 25 чэрвеня а 18-й гадзіне ў актавай зале гімназіі, зацікаўленыя бацькі атрымаюць адказы на ўсе пытанні і напішуць заявы.

Папярэднія кансультацыі па тэлефонах…

*Зразумела, што самы зручны час быў страчаны. Пра тое, дзе вучыцца дзіцяці ў наступным навучальным годзе, бацькі думаюць вясной, калі папярэдні навучальны год заканчваецца. У чэрвені ўсе гэтыя пытанні звычайна ўжо вырашаны і на абвесткі кшталту нашай увагі не звяртаюць. Тым не менш, абвестку заўважылі, паступілі заявы ад бацькоў чатырох вучняў.*

*Варта іх тут назваць: Бычкова Ірына, Дарошчанка Кацярына, Камінскі Мікалай, Цюльмянкова Наталля — у такім складзе мог адкрыцца першы беларускі клас у нацыянальнай (!) гімназіі. Мог, але…*

*28.06.2002 г.* *М. Булавацкі — Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Магілёўская нацыянальная гімназія абвесціла на новы навучальны год прыём у сёмы беларускі клас, клас, у якім выкладанне ўсіх дысцыплін вядзецца на беларускай мове. Заявы напісалі бацькі чатырох сямікласнікаў і па прычыне малой колькасці клас вырашана не адкрываць.

Неабходнасць эканоміі сродкаў не выклікае сумнення. Але патлумачце, калі ласка: якім чынам, у якіх варыянтах гэтыя чацвёра дзяцей могуць рэалізаваць сваё права вучыцца на роднай мове? Двое з іх гатовыя былі ездзіць з другога канца горада, бо ні ў воднай школе горада беларускіх сёмых класаў няма. Гэта паказвае іх вялікае жаданне вучыцца ў такім класе. Але гэтае жаданне перакрэсліваецца адсутнасцю магчымасці, дакладней, адсутнасцю сродкаў.

Ці ўсё ж у іх яшчэ ёсць магчымасць, пра якую яны не ведаюць? Будзем удзячныя за тлумачэнні.

З павагай,

*М. Булавацкі, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

*5.07.2002 г. Міністэрства адукацыі — Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ*

Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі паведамляе, што Ваша пісьмо… накіравана для разгляду і адказу ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама.

*Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі*
*М.С. Фяськоў*

*23.07.2002 г. Председателю Могилевской областной организации «Товарищество белорусского языка им. Ф. Скорины» Буловацкому М.П.*

Уважаемый Михаил Петрович!

Управление образования Могилевского горисполкома, рассмотрев Ваше обращение, направленное в адрес Министерства образования Республики Беларусь, сообщает, что открытие класса, наполняемостью 4 человека, является невозможным в связи с экономической нецелесообразностью функционирования такого класса.

Вместе с тем, сообщаем, что учащимся, пожелавшим учиться в белорусскоязычном классе (исходя из заявлений родителей таких детей четверо), будет предложено углубленное изучение белорусского языка и литературы на базе тех школ, в которых обучаются эти ученики.

*Начальник управления образования Могилевского горисполкома*
*Т.А. Барановская*

*Гэта як бы: дзіця хоча есці, а яму пустышку ў рот. Навошта паглыбленае вывучэнне літаратуры дзецям, якія падалі заявы ў матэматычны клас?*

*Апошняй спробай знайсці нейкае выйсце з безвыходнай сітуацыі стала сустрэча з галавой вобласці Барысам Батурам. Гэтай сустрэчы нам давялося доўга чакаць, яна адбылася 23 жніўня. На сустрэчы былі Б. Батура з памочнікам, начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі В. Багданаў і — ад ТБМ — аўтар гэтых радкоў і С. Украінка. Застаўся гуказапіс той сустрэчы. Вось фрагменты размовы, спісаныя з магністужкі ў перакладзе на нашу мову.*

...**М. Булавацкі**. ...Беларуская мова сёння ў такім стане, калі ёй трэба дапамагаць вярнуць тое, што ёй павінна належаць у нашым грамадстве... Я ўзначальваю абласную арганізацыю Таварыства беларускай мовы і наша арганізацыя зацікаўлена тым, каб пашыралася беларускамоўнае навучанне ў школах і іншых навучальных установах. Мы разумеем, што бацькоў, згодных аддаць сваіх дзяцей у беларускі клас, сёння няшмат. Але ўзнікае праблема: як дапамагчы гэтым, каго няшмат? Вось зараз аб'явілі набор у сёмы беларускі клас нацыянальнай гімназіі. Падалі заявы чатыры чалавекі. Чацвёра дзяцей хочуць, каб іх вучылі на беларускай мове... Я разумею, што грошай у нашай дзяржавы няшмат... Але, можа, мы з вамі пашукалі б, дзе можна знайсці патрэбныя сродкі?..

**Б. Батура**. Ну, а як гэта можна? (*глядзіць на Багданава*).

**В. Багданаў** (*сядзеў далекавата ад нас і яго словы не вельмі разборлівыя. Гаворыць пра вясковыя школы, у якіх адкрываюцца класы на тры-чатыры вучні*). ... А ў гарадах упраўленні, аддзелы адукацыі такога права не маюць.

**Б. Б**. Гэта ўвогуле класы. Тут усё зразумела. А мы ж гаворым пра іншае, пра беларускі клас.

**В. Б**. У прынцыпе, гэта права выканкама, гарадскога ці раённага.

**Б. Б**. Гэта вы пра грошы. Усё ўпіраецца ў грошы?

**В. Б**. Так, натуральна.

**Б. Б**. А можна ж па-іншаму падысці. Ёсць, напрыклад, беларускамоўныя выкладчыкі матэматыкі, фізікі, іншых дысцыплін, людзі, адданыя беларускай мове. Чаму б, напрыклад, не пайсці на нейкі факультатыў, каб яны дадаткова...

**В. Б**. (*нешта ўстаўляе, неразборліва*)

**Б. Б**. ... Чаму для іх не арганізаваць без нават дадатковых затрат... а гэтаму выкладчыку, магчыма, зрабіць надбаўку... Тут невялікія затраты.

**В. Б**. Вы правы. І для гэтага ёсць гадзіны так званага школьнага кампанента, дзе па выбары бацькоў і вучняў можна займацца некалькі гадзін дадаткова. Тут няма пытанняў, гэта вырашаецца на ўзроўні школы.

**Б. Б**. (*раздумліва*). Не... Вось ён прыйшоў, паслухаў матэматыку на рускай мове ў агульным класе, а потым ідзе на факультатыў

і слухае тую ж матэматыку на беларускай мове. Гэта трэба неяк раз’яднаць.

**В. Б.** Тады трэба асобны клас. На гэта можна было б пайсці… рашэннем выканкама аформіць…

**Б. Б.** А ёсць у нас у Магілёве школа, ці можа не ў Магілёве, на раёне…

**М. Б.** Гаворка не пра раён. Гаворка пра чацвярых гарадскіх дзяцей.

**В. Б.** Тады трэба гаварыць пра школу…

**Б. Б.** Не, ён жа не гаворыць, каб перавесці школу на беларускую мову. Сёння не прымусіш… Ён жа з разуменнем гаворыць, што ёсць чатыры, якія хочуць вучыцца на беларускай мове.

**В. Б.** Ну тады клас трэба… рашэннем выканкама аформіць…

**М. Б.** Барыс Васільевіч, настаўнік матэматыкі перад вамі. Я збіраюся выкладаць у гэтым класе матэматыку. І я гатовы пайсці нават на тое, каб выкладаць матэматыку без аплаты.

*Паўза.*

**Б. Б.** А ў нас ёсць, дапусцім, школа ў Магілёве, дырэктар якой аддзаны беларускай мове?

**В. Б.** Скажам так, калі ў свой час мы пераводзілі на беларускую мову… (*неразборліва*)

**Б. Б.** Я скажу, што лухта ўсё гэта. Таму што сілай, канечне, не прымусіш. Але паступова ўцягваць у гэта трэба. Беларуская мова прыгожая, калі ёю нармальна валодаюць.

**В. Б.** Задача так была пастаўлена Прэзідэнтам на з’ездзе: нягледзячы на раўнапраўе моваў… [*цікава было б пачуць канец гэтага сказу: што там сказаў Прэзідэнт Багданаву пра «несмотря на равноправие языков»? Якую дзяржаўную таямніцу гатовы быў выдаць чыноўнік?*]

**Б. Б.** (*перабівае*) Давай мы, можа, па такім шляху пойдзем. Гэта на перспектыву, не зараз. Трэба падабраць адданага беларускай справе чалавека, нармальнага, без усякіх завіхрэнняў, каб ён стаў, калі няма такога дырэктара школы…

**В. Б.** Такога няма.

**Б. Б.** Дык трэба знайсці яго і паставіць дырэктарам. І паступова, крок за крокам, мы зробім адну беларускую школу ў Магілёве. Але паступова, без прымусу. Трэба знайсці такога мужыка!

**В. Б.** Я зразумеў. Я займуся гэтым. Займуся.

**Б. Б.** Трэ было б і ідэалогію прадумаць. Праз радыё, тэлебачанне свядомасць пераломваць. Жывем у Беларусі, а ні храна не ведаем па-беларуску… Ёсць п’есы добрыя на беларускай мове, а дзе яны ў нашым тэатры?.. Вось мае ўнукі — як толькі загаворыць на беларускай мове, дык у яго язык выварочваецца.

**В. Б.** (*нешта пра цяжкасці засваення*)

**Б.Б.** А вось узяць тое ж паскоранае навучанне замежным мовам. Калі ты яму і ноччу, і днём таўчэш усё на гэтай мове, дык ён і сам загаворыць. А ты кажаш — руская і беларуская. Урокі беларускай мовы — гэта мала. А фізіка, матэматыка на рускай мове — хіба гэта не навучанне мове?

**В. Б.** Навучанне.

**Б. Б.** Ну дык вось падлічы — колькі беларускай атрымліваецца і колькі рускай.

**В. Б.** (*неразборліва*)

**Б. Б.** Вось давай па гэтых чатырох, што магчыма — зрабі. Але трэба распрацаваць праграму паступовага далучэння да беларускай мовы…

**В. Б.** Прапаганды, развіцця… Абмяркуем гэта на выканкаме.

**Б. Б.** Не трэба катэгарычна так адштурхоўваць… Тут нармальная, дзельная прапанова. І трэба падтрымаць…

*Размова скончылася тым, што В. Багданаў паабяцаў, што клас з чатырма вучнямі будзе адкрыты.*

*Нагадаю, што размова адбылася ў пятніцу 23 жніўня і на выкананне абяцанага заставаўся адзін тыдзень, пяць працоўных дзён. Што адбывалася ў тыя пяць дзён, бачна з наступнага ліста.*

*1.09.2002 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта Батуру Б.В.*

Аб першай спробе беларускамоўнай адукацыі ў г. Магілёве

Шаноўны Барыс Васільевіч!

У пятніцу, 23 жніўня г.г., на сустрэчы з Вамі ў прысутнасці начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі Багданава В.С. мы абмяркоўвалі пытанне аб навучанні чатырох сямікласнікаў, якія хочуць атрымаць адукацыю на роднай мове. Адпаведна Канстытуцыі

Рэспублікі Беларусь і Закону аб адукацыі яны (іх бацькі) такое права маюць. Але нялёгкі эканамічны стан нашай дзяржавы (і вобласці ў прыватнасці) прымушаў думаць, што мы не настолькі багатыя, каб выконваць сваю ж Канстытуцыю. Таму мы, прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы, і напрасіліся на сустрэчу з Вамі, каб абмеркаваць гэтую няпростую праблему. Абмеркаванне прайшло ў досыць канструктыўным рэчышчы і скончылася вельмі прыемнай для нас нечаканасцю: В.С. Багданаў заверыў, што беларускі клас з чатырох вучняў будзе адкрыты ў нацыянальнай гімназіі.

Раскажу, што адбывалася далей, у храналагічнай паслядоўнасці.

Адразу ж пасля сустрэчы Валерый Стэфанавіч патэлефанаваў дырэктару гімназіі Вульцову У.У. і паведаміў гэтае рашэнне. І калі я ў той жа дзень прыехаў туды, дырэктар і яго намеснікі абмяркоўвалі, як яго выконваць. Мы разам вырашылі ўсе кадравыя пытанні, бо Таварыства беларускай мовы ўзяло на сябе абавязак знайсці настаўнікаў высокай кваліфікацыі з добрым валоданнем беларускай мовай па тых дысцыплінах, беларускамоўнае выкладанне якіх не змогуць забяспечыць настаўнікі гімназіі. Для вырашэння астатніх пытанняў дырэктар прапанаваў мне падысці ў сераду (28 жніўня), бо на панядзелак была запланаваная нарада дырэктараў, а на аўторак — гарадская настаўніцкая канферэнцыя. Дарэчы, на гэтай канферэнцыі Валерый Стэфанавіч збіраўся сустрэцца з главой адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Лебедзевым Я.А., каб вырашыць арганізацыйна-фінансавыя пытанні, таму ён сказаў, што канчатковы адказ мы атрымаем у сераду.

Мяркуючы атрымаць гэты адказ крыху раней, я завітаў на настаўніцкую канферэнцыю, але, на жаль, В.С. Багданава там не ўбачыў. Раніцай 28 жніўня я зайшоў у гімназію і збянтэжаны дырэктар паведаміў мне, што Я.А. Лебедзеў не дае згоды на адкрыццё такога класа. Я паехаў у адміністрацыю Кастрычніцкага раёна, каб пагутарыць з Яўгенам Аляксеевічам, але ён збіраўся некуды ад’ехаць і сказаў, што будзе толькі пасля абедзеннага перапынку. У 14 гадзін 05 хвілін я зноў падыйшоў да прыёмнай Я.А. Лебедзева. Прыёмная была зачынена на замок, але за дзвярыма чуліся галасы, і я пачаў чакаць, пакуль дзверы адчыняцца. Хвілін праз 10 да мяне падыйшла жанчына і, спытаўшы прозвішча, сказала, што мяне чакаюць на трэцім паверсе ў аддзеле адукацыі. Намесніца загадчыка аддзела

пагутарыла са мной і сказала, што мне трэба пачакаць загадчыка Лысова А.І., які хутка павінен з’явіцца. Аляксандр Іванавіч сапраўды хутка з’явіўся і запрасіў мяне ў кабінет. Спачатку ён паспрабаваў патлумачыць мне, што адкрыццё такога маленькага класа ніякімі дакументамі не рэгламентавана, а на маё пярэчанне, што гэта рэгламентавана Канстытуцыяй і Законам аб адукацыі, паведаміў, што ніякага дакумента аб адкрыцці такога класа з абласнога ўпраўлення адукацыі не паступала. Тады я паехаў у абласное ўпраўленне адукацыі. В.С. Багданаў прынёс мне прабачэнні, што пакуль не змог пагутарыць з Лебедзевым Я.А., бо ў аўторак прысутнічаў на іншай канферэнцыі, канферэнцыі работнікаў прафтэхадукацыі [*пазней я высветліў, што яго і там не было*], і пачаў тэлефанаваць Лебедзеву Я.А. Але ні тэлефон главы адміністрацыі, ні тэлефон прыёмнай не адклікаўся. Валерый Стэфанавіч заверыў мяне, што ў бліжэйшыя дні ўсе пытанні з Лебедзевым будуць вырашаны, калі трэба папера — будзе напісана папера, і прапанаваў мне зайсці да яго ў суботу, 31 жніўня. Я здзівіўся гэтай даце, бо прывык лічыць, што субота ў адміністрацыйных органах выходны дзень, але В.С. Багданаў запэўніў, што гэтая субота — дзень працоўны і ўсе пытанні можна будзе вырашыць.

У пятніцу я ўсё ж падстрахаваўся, патэлефанаваў Валерыю Стэфанавічу і ён удакладніў, што а 10-й гадзіне ў суботу я змагу забраць патрэбную паперу і перадаць яе Я.А. Лебедзеву. Нагадаю, што субота — гэта апошні дзень жніўня, і вырашаць наша праблемнае пытанне днём пазней ужо не мела ніякага сэнсу: у панядзелак пачынаўся навучальны год. А 10-й гадзіне я быў ля дзвярэй начальніка ўпраўлення адукацыі. Як выявілася, паперы яшчэ няма. Пакуль знайшлі намесніка Леонаву С.В., з якой узгаднілі тэкст, пакуль гэты тэкст надрукавалі, пакуль дачакаліся Валерыя Стэфанавіча, каб ён падпісаў (ён з’ехаў аглядаць гатоўнасць кадэцкай школы), прайшло каля дзвюх гадзін. Набліжаўся абедзенны перапынак. І я вызваўся выканаць ролю кур’ера: завезці дакумент главе адміністрацыі Кастрычніцкага раёна, мяркуючы, што той зможа мне дакладна адказаць: будзе такі клас ці не. Бо ў тым дакуменце (вось яго тэкст: «Главе администрации Октябрьского района гор. Могилёва ЛЕБЕДЕВУ Е.А. Уважаемый Евгений Алексеевич! В связи с поручением председателя областного исполнительного комитета Батуры

Б.В. прошу со 2 сентября 2002 года открыть на базе национальной гимназии с общественно-гуманитарным профилем 7-ой класс с белорусским языком обучения на основании четырёх заявлений родителей учеников школ г. Могилёва. С уважением, Начальник управления образования В.С. Богданов») мяне крыху бянтэжыла слова «прашу». Калі гэта просьба, а не загад, то выкананне яе цалкам залежыць ад меркавання Я.А. Лебедзева. Гэтае меркаванне мне і хацелася ведаць, і ведаць менавіта ў гэты дзень.

Я спазніўся на некалькі хвілін. Вахцёрка паведаміла мне, што Я.А. Лебедзеў толькі што некуды з'ехаў. Я паехаў у гімназію, каб даведацца меркаванне дырэктара гімназіі наконт названага дакумента, але і дырэктара ў гімназіі ўжо не было. Я вярнуўся ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёна з цвёрдым намерам дачакацца вяртання главы і пагутарыць з ім. Любы вынік гэтай размовы я паведаміў бы бацькам чацвярых дзяцей, якія ўжо стаміліся чакаць гэтага выніку. На маё задавальненне, Я.А. Лебедзеў быў у сваім кабінеце. З вахты я патэлефанаваў яму, сказаўшы, што прывёз дакумент з упраўлення адукацыі і разлічваю на кароткую гутарку. У катэгарычнай форме Яўген Аляксеевіч адмовіўся прыняць мяне, прапанаваўшы перадаць дакумент у панядзелак у агульны аддзел. Мая заўвага, што пытанне можа быць вырашана толькі сёння, нічога не змяніла. Размова перарвалася.

Мяне глыбока абурыла такое стаўленне дзяржаўнага чыноўніка да аднаго з важнейшых пытанняў дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі: такія пытанні, мяркую, не могуць вырашацца гвалтам, за чатыры дні можна было б знайсці час для кароткай гутаркі, каб давесці свае аргументы і выслухаць іншыя. І я вырашыў дачакацца Яўгена Аляксеевіча каля вахцёра, бо хацеў пачуць дакладны адказ на пытанне — рыхтавацца да працы з класам ці класа не будзе, бо няма сродкаў. Далей пачалося нешта дзіўнае. Вахцёр патэлефанавала главе, што я яшчэ чакаю і, мабыць, ёй было загадана выдаліць мяне, што яна і пачала даволі энергічна рабіць, патрабуючы, каб я сышоў. Я адмовіўся. Тады Яўген Аляксеевіч паклікаў да сябе свайго вадзіцеля і, вяртаючыся, той далучыўся да вахцёркі, патрабуючы, каб я пакінуў будынак. Я адмовіўся. Яны ўдвох узгаднілі сітуацыю з Лебедзевым Я.А. і выклікалі міліцыю. Прыехалі сержант патрульна-паставой службы Кулікоўскі (так ён назваўся) і з ім тры магутных

мужчыны, адзін з аўтаматам. Я патлумачыў сітуацыю, сказаўшы, што ў якасці кур'ера прывёз паперу з абласнога ўпраўлення адукацыі і маю намер перадаць яе непасрэдна главе Лебедзеву Я.А., калі той будзе выходзіць з кабінета. Кулікоўскі і яшчэ адзін прадстаўнік міліцыі (ці АМАП, я не вельмі арыентуюся ў форме і пагонах) пачалі высвятляць па тэлефонах, што рабіць з такім «хуліганам», як я. Я прапанаваў скласці пратакол, але на гэта мне адмовілі: маўляў, пратаколы складаюць афіцэры, а мы не афіцэры. Прапанавалі завезці мяне да начальніка РАУС. Я пагадзіўся. Відаць, такая згода была нечаканай для іх, і яны зноў пачалі ўзгадняць, што са мною рабіць і, калі везці, то куды. Так прайшло з паўгадзіны. Нарэшце мы ўбачылі главу Лебедзева Я.А., які спускаўся па лесвіцы. Я зрабіў крок насустрач з паперай у руках, але Яўген Аляксеевіч замахаў рукамі, абышоў мяне і, павярнуўшыся, паўтарыў тое ж: у панядзелак перадайце паперу ў агульны аддзел, там зарэгіструюць і… (далейшага я ўжо не пачуў). «Ну вось, — павярнуўся я да супрацоўнікаў міліцыі, — размова адбылася. Я зразумеў пазіцыю главы. Больш мне нічога не трэба». — «І вы цяпер пойдзеце дадому?» — спыталі мяне. «Калі адпускаеце, то пайду». Далей пачалося доўгае ўзгадненне, як мяне адпусціць ці ўсё ж куды завезці. У выніку адпусцілі. Мы з Кулікоўскім пацiснулі адзін аднаму рукі і цёпла развіталіся.

Такім чынам, слова В.С. Багданава аказалася ў дадзеным выпадку невыкананым: сёмага беларускага класа ў гэтым годзе ў Магілёве не будзе. Гэтая сітуацыя з тых, калі адмова адразу (пры першай нашай сустрэчы) была б успрынята псіхалагічна лягчэй. Цяпер жа атрымалася так, што чатыром беларусам паказалі цукерку і тут жа схавалі. Крыўдна за Беларусь!

Калі дзіця не чакаюць, то яму і не трэба, відаць, нараджацца. Бо цяжка жыць малому, калі яно нежаданае і нялюбае ў бацькоў. Наша дзіця (беларускі клас) было непажаданым для большасці з пазначаных тут дзейных (ці бяздзейных) асоб і, калі б яно насуперак іх волі нарадзілася, радасці для гэтага дзіцяці было б няшмат. Прымем гэта як сённяшнюю жорсткую неабходнасць.

Такім чынам, беларускага класа пакуль няма. Але праблема застаецца. Я, настаўнік матэматыкі, буду з гэтымі дзецьмі праводзіць заняткі, каб удасканаліць іх матэматычныя веды і прывучыць да беларускай матэматычнай тэрміналогіі. Ёсць падставы меркаваць,

што іх намеры (і намеры іх бацькоў) праз год не зменяцца — тады паўстане праблема адкрыцця беларускага восьмага класа з чатырох вучняў (магчыма, далучацца новыя і іх стане крыху болей). Трэба думаць ужо цяпер, як вырашыць гэтую праблему праз год. І не толькі пра адзін гэты клас. Трэба думаць пра стварэнне (пакуль адзінай у Магілёве) беларускай школы (лепш гімназіі-ліцэя). Гэта павінна быць невялікая навучальная ўстанова, размешчаная ў цэнтры горада, куды лёгка прыехаць з любога кутка горада. З гэтай маленькай школы пачнецца адраджэнне беларускай адукацыі ў Магілёве. Магчыма, мы дажывем, калі беларускіх і рускіх школ у Магілёве стане пароўну. У Мінску іх таксама не было некалькі год таму. Цяпер адна газета надрукавала нататку з загалоўкам «У Мінску толькі 13 беларускіх школ!» Бачыце, не радасць ад таго, што такіх школ ужо 13, а смутак ад таго, што іх **толькі** 13. Значыць, гэтыя 13 не пустуюць. Не будуць яны пуставаць і ў Магілёве, калі да гэтага з разуменнем і з душою ставіцца.

Шаноўны Барыс Васільевіч! Чаму я пра гэта ўсё Вам пішу? Справа ў тым, што развіццё беларускай адукацыі патрабуе некаторых сродкаў (я б не сказаў, што надта вялікіх; грошай, якія пайшлі на афармленне клумбы з надпісам кветкамі «МОКШ» перад кадэцкай школай, хапіла б таму беларускаму класу на цэлы год, праўда, клумбы перад кадэцкай школай не было б), а ўпраўленне адукацыі такімі сродкамі, мабыць, не валодае. Давайце разам пашукаем гэтыя сродкі. Калі не атрымаецца рашыць праблему цалкам, то можна знайсці нейкія частковыя рашэнні з меншымі затратамі. Ну навошта ж упадабляць беларусаў нейкім баскам ці вепсам! У нас усё ж ёсць свая краіна, свая зямля, на якой мы павінны быць гаспадарамі. На гэтай зямлі наша мова нарадзілася, тут ёй і квітнець!

Спадзяюся на новую сустрэчу з Вамі па пазначаным пытанні. Але спачатку няхай уляжацца боль ад таго, што адбылося…

З павагай і ўдзячнасцю,

*Міхась Булавацкі*

*Адпаведныя публікацыі з'явіліся ў газетах «Народная воля» 11.09.2002 г. і «Наша слова» 25.09.2002 г.*

*Праз пэўны час я зайшоў у адміністрацыю аблвыканкама пацікавіцца лёсам майго ліста да Б. Батуры. Памочнік старшыні здзі-*

*віўся, што такі ліст я пісаў, бо ён яго не бачыў. Потым ён зайшоў у службу перапіскі і пацікавіўся, дзе ліст. Высветлілася, што ліст перададзены ўпраўленню адукацыі (г. зн. В. Багданаву), бо там гаворка ішла пра адукацыю.*

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў напісаў запыт міністэрству наконт сітуацыі з нашым класам і атрымаў адказ.*

*10.10.2002* *Грамадскае аб'яднанне «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны»*

Трусаву А.А.

Паважаны Алег Анатольевіч!

Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі ў сувязі з Вашым зваротам адносна адкрыцця ў Магілёўскай нацыянальнай гімназіі класа з беларускай мовай навучання паведамляе наступнае.

Як праінфармавала ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, у жніўні гэтага года аблвыканкамам было прынята рашэнне аб адкрыцці ў гімназіі беларускамоўных класаў нават пры мінімальнай колькасці вучняў. Аднак ні адзін клас не быў укамплектаваны.

Міністэрства адукацыі аблвыканкама даручыла ўпраўленню адукацыі аблвыканкама паўторна звярнуцца да разгляду гэтага пытання.

*Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі*
*У.К. Шчэрба*

*12.03.2003 г.* *М. Булавацкі — Намесніку старшыні Магілёўскага аблвыканкама Глазу А.Ц.*

Шаноўны Анатоль Ціханавіч!

Магчыма, недахоп часу ці нешта іншае не дазволіла нам з Вамі пагутарыць пры сустрэчы ў аўторак (11.03) больш змястоўна аб праблемах існавання беларускай мовы ў Беларусі (у прыватнасці, на Магілёўшчыне).

«Праблемы беларускай адукацыі ў Магілёве няма», — сказалі Вы, адхіліўшы тым самым нават магчымасць абмеркавання такой праблемы. Хацелася, каб сказанае Вамі было праўдай. Але, на жаль,

гэта не так. Праблема такая ёсць, і заключаецца яна ў тым, што сярод больш чым сарака школ абласнога цэнтра няма ніводнай беларускай. «Няхай падаюць заявы — і клас будзе адкрыты», — зноў жа Вашы словы. Але ж заявы падаваць няма каму, бо заявы трэба падаваць на імя дырэктара школы, а школы, як ужо адзначана вышэй, няма. Падаваць жа заявы «ў белы свет» людзі не будуць. У гэтым можна было пераканацца шматкроць. Пакуль не было канкрэтнай школы, — не было і заяў. Але як толькі нацыянальная гімназія (школа № 30) аб’явіла летам 2002 года набор у сёмы беларускі клас, адразу з’явіліся і заявы. Усяго чатыры, але шмат і чакаць не трэба на пачатку такой работы. Іх будзе станавіцца больш і больш, калі гэтыя чатыры адчуюць падтрымку з боку дзяржаўных органаў, адзін з якіх Вы прадстаўляеце, калі на развіццё беларускай адукацыі будзе нацэлена дзяржаўная палітыка. Яна й нацэлена, калі глядзець з самага «верху»: Міністэрства адукацыі прыняло пастанову аб пашырэнні ўжытку беларускай мовы ў сферы адукацыі, адпаведна якой ужо з 2002 года ў кожным раёне горада павінна быць адкрыта адна беларуская школа (у Магілёве, такім чынам, тры) ці адна на горад, калі ён не дзеліцца на раёны. Ёсць іншыя пастановы Міністэрства, скіраваныя на «беларусізацыю беларусаў», бо там такая неабходнасць адчуваецца і робяцца спробы вырашэння звязаных з ёю праблем. Цяпер патрэбна падтрымка з боку мясцовых органаў, у тым ліку — з Вашага боку.

Пра тры такія школы для Магілёва гаварыць пакуль не выпадае, але пра адну гаворку пачынаць трэба. І наш (Таварыства беларускай мовы) вопыт вывучэння сітуацыі паказвае, што калі такая школа будзе вызначана дзесьці на ўскрайку горада (ці ўвогуле — у прыгарадзе; мне даводзілася чуць прапановы пра Бароўку, напрыклад), то заяў туды будзе вельмі мала ці не будзе зусім. Так можна рабіць, калі захочацца заваліць справу. Мяркую, што такога жадання ў Вас асабіста (і ў аблвыканкаме ў цэлым) няма.

Трэба выбраць невялікую школу на адной з вуліц з актыўным рухам гарадскога транспарту, у тым ліку з тралейбуснымі маршрутамі, каб да яе зручна было пад’язджаць з розных канцоў горада. І пераход на беларускую мову ажыццяўляць не рэзка, а паступова, падбіраючы настаўнікаў з добрым валоданнем сваёй дысцыплінай і роднай мовай і адкрываючы класы па меры паступлення заяў (не

абавязкова з першага). Тады Вы зможаце рэальна ацаніць гэтае «хочуць — не хочуць».

Наконт «не хочуць» скажу яшчэ пра адно. Наша таварыства пачынаючы з 1999 года ладзіць беларускія матэматычныя алімпіяды (з 2001 года пераўтвораныя ў «Беларускае пяціборства»), дзе патрабуецца рашаць задачы з афармленнем на роднай мове, а пераможцы вызначаюцца па суме балаў за матэматыку і мову (у пяціборстве — і іншых дысцыплін). Гэтыя спаборніцтвы збіраюць па 30–40 удзельнікаў найперш з ліцэяў і гімназій. І калі карэспандэнт Магілёўскага тэлебачання на апошнім пяціборстве задавала пытанне ўдзельнікам, ці хацелі б яны, каб ім матэматыку, фізіку выкладалі па-беларуску, то адмоўных адказаў не было. Часцей адказвалі: «Не ведаю, не думаў пра гэта». Але былі і такія адказы: «Чаму б не. Толькі, мабыць, каб з першага класа». А адзін ліцэіст нават здзівіўся такому пытанню: «Дык гэта ж родная мова!» Калі ўзяць толькі гэтага аднаго, то — чаму ён не вучыцца на роднай мове, калі таго хоча. Адказ журботны: бо няма ў Магілёве ліцэя з выкладаннем праграмных прадметаў на роднай мове.

Паправіць гэтую ненармальную сітуацыю і выпадае нам з Вамі. Давайце ж супрацоўнічаць па гэтым пытанні — на карысць Радзіме нашай.

А калі я нейкімі сваімі ранейшымі няўдалымі крокамі парушыў субардынацыю ці нешта іншае і тым самым выклікаў Вашу крыўду (якую адчуваў пры размове), то прыміце мае прабачэнні.

З надзеяй на ўзаемаразуменне,

*М. Булавацкі, намеснік старшыні Магілёўскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»... настаўнік вышэйшай катэгорыі... (на сённяшні дзень — беспрацоўны)*

*21.04.2003 г.* *Упраўленне адукацыі аблвыканкама — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхаіл Пятровіч!

Упраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, уважліва азнаёміўшыся з Вашым лістом, падзяляе Вашу заклапочанасць пытаннем недастатковага ўжывання беларускай мовы.

У вобласці вядзецца работа на выкананні абласных і рэгіянальных планаў мерапрыемстваў па рэалізацыі Праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі, вырашаецца пытанне стварэння неабходных умоў для матывацыі выбару бацькамі і вучнямі беларускай мовы навучання, прадумваецца перспектыва навучання дзяцей па ўсёй вертыкалі адукацыі. У гэтым навучальным годзе ва ўстановах адукацыі вобласці арганізавана вывучэнне беларускай мовы і літаратуры на павышаным і паглыбленым узроўнях для 2300 вучняў 8–11 класаў, адкрыты факультатывы, курсы па выбары, заняткі па інтарэсах, гурткі на беларускай мове для 17,5 тысяч вучняў, рэгулярна праводзяцца разнастайныя пазакласныя мерапрыемствы. Стан вывучэння беларускай мовы і літаратуры вучнямі шэрагу рэгёнаў вобласці знаходзіцца на тэматычным кантролі ва ўпраўленні адукацыі аблвыканкама.

У новым навучальным годзе плануецца дадаткова адкрыць у гарадской мясцовасці класы з паглыбленым і павышаным узроўнямі вывучэння беларускай мовы і літаратуры, дзіцячыя групы ў дашкольных установах.

Аддзелам і ўпраўленням адукацыі райгарвыканкамаў даручана правесці неабходную інфармацыйную і арганізацыйную работу з вучнямі і іх бацькамі па вывучэнні магчымасці навучання ў беларускамоўных класах.

Пытанне адкрыцця школы з беларускай мовай навучання ў горадзе Магілёве знаходзіцца на кантролі ва ўпраўленні адукацыі Магілёўскага гарвыканкама.

*Начальнік упраўлення адукацыі В.С. Багданаў*

*12.06.2003 г.* *Старшыні грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Трусаву А.А.*

Паважаны Алег Анатольевіч!

Магілеўскі гарадскі выканаўчы камітэт на Ваш зварот № 144 ад 26.05.2003 г. паведамляе, што ўпраўленнем адукацыі сумесна з педагагічнымі калектывамі школ і дашкольных устаноў горада праводзіцца работа па рэалізацыі рэгіянальнай «Праграмы дадат-

ковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі».

У 2002–2003 навучальным годзе, адпаведна з гэтай праграмай, у сярэдняй школе № 5 г. Магілева працуюць тры беларускамоўныя класы (дзевяты, дзесяты і адзінаццаты), *ў* якіх навучаюцца 42 вучня. На павышаным узроўні беларуская мова вывучаецца ў 25 класах 644 вучнямі, беларуская літаратура — у 13 класах 323 вучнямі (Магілеўская гарадская гімназія № 1, нацыянальная гімназія, сш №№ 8, 9, 17, 21, 22, 23, 26, 28, 31, 33, 34, 35, 37, 40, 43). У сш № 15 г. Магілева працягвае работу «этнаклас» (другі клас, 27 вучняў). Праграмай нацыянальнага выхавання «Я і мая Радзіма» ахоплена 1572 вучня нацыянальнай гімназіі г. Магілева.

Праводзіцца пэўная работа па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў дашкольных установах горада, што дасць магчымасць у перспектыве вырашыць праблему беларускамоўнага навучання дзяцей з падрыхтоўчага класа. Арганізавана сістэматычная работа па азнаямленню дзяцей з беларускай мовай, нацыянальнай культурай.

У якасці апорных дашкольных устаноў з арганізацыей комплекснай работы на беларускай мове вызначаны я/с №№ 25, 86. У гэтых установах адкрыты групы з беларускай, мовай навучання (па адной групе для дзяцей 5–6 год). Да сумеснага выхавання дзяцей дашкольнага ўзросту на народных традыцыях далучаецца і бацькаўская грамадскасць.

Што тычыцца адкрыцця беларускамоўных класаў у 2003–2004 навучальным тодзе, інфармуем, што гэта будзе магчыма пры наяўнасці заяў ад бацькоў з улікам мінімальна магчымай напаўняльнасці класа.

Зараз разглядаецца пытанне аб адкрыцці беларускамоўнага класа (падрыхтоўчага) у сш № 35 г. Магілева.

*З павагай, Намеснік старшыні Магілеўскага гарвыканкама*
*І.У. Васільчанка*

[*Гэтае прозвішча вы ўжо сустракалі на старонках кнігі*]

…Якая карысць чалавеку, калі ён здабудзе ўвесь свет, а душу сваю змарнуе?

*(Мф. 16:25–26)*

*29.08.2003 г.* *М. Булавацкі — Міністру адукацыі А. Радзькову*

Добры дзень, Аляксандр Міхайлавіч!

Дазвольце павіншаваць Вас з прызначэннем на высокую і адказную пасаду і разам з тым выказаць спачуванне, бо адукацыйная гаспадарка, якая дасталася Вам, усё яшчэ знаходзіцца ў прыгнечана-крызісным стане, а беларуская адукацыя настолькі заціснутая, што неяк няёмка нават гаварыць пра яе наяўнасць. Ваш папярэднік спрабаваў нешта зрабіць у патрэбным кірунку (аддадзім яму належнае), але ў варунках антынацыянальнай дзяржаўнай палітыкі зрабіць нешта годнае ў яго не атрымалася. І калі яго прымусілі закрыць Беларускі гуманітарны ліцэй (установу вельмі высокага ўзроўню адукацыі і фактычна адзіную, якая рыхтавала нацыянальна свядомых людзей, патрыётаў), ён не вытрымаў грамадскага абурэння і падаў у адстаўку.

Ваша ж дзейнасць (хочацца Вам таго ці не) будзе ацэньвацца менавіта з пункту погляду пашырэння ці звужэння беларускай адукацыі (беларускай па сутнасці і па духу). Калі Вы не зможаце вырашыць праблемы закрытага Беларускага ліцэя (менавіта ў тым рэчышчы, каб гэты ліцэй пачаў зноў працаваць як дзяржаўная ўстанова з тымі ж выкладчыкамі і тымі ж навучэнцамі), то Ваша згода на міністэрскую пасаду пераўтворыцца ў прымітыўны чыста кар’ерны акт.

Цяпер Вам прыйдзецца займацца і адпаведнымі пытаннямі па абласцях, у тым ліку па Магілёўшчыне, пытаннямі, якія раней заставаліся па-за колам праблем, што мелі да Вас непасрэднае дачыненне. Таму праінфармую Вас, што ў першай палове 90-х гадоў каля 6% магілёўскіх школьнікаў вучыліся на беларускай мове. Але пасля прызначэння на пасаду начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі В.С. Багданава беларускія класы пачалі імкліва закрывацца, і на сёння не засталося ў горадзе ніводнага класа з беларускай мовай навучання. Хаця ёсць настаўнікі, якія хацелі б вучыць пабеларуску (адзін з іх — аўтар гэтага ліста), і ёсць вучні, чые бацькі хацелі б, каб іх дзеці вучыліся ў гэтых настаўнікаў. У жніўні 2002

года пры сустрэчы прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы з главой адміністрацыі вобласці Б.В. Батурам В.С. Багданаў паабяцаў нам і Б.В. Батуру, што беларускі клас з 1 верасня 2002 года будзе адкрыты. Але абяцанне так і засталося нявыкананым.

Нагадаю, што гэтым самым сабатуецца пастанова Міністэрства адукацыі (№ 48 ад жніўня 2001 г.) аб пашырэнні ўжытку беларускай мовы ў сферы адукацыі. Ігнаруюцца і далейшыя пастановы Міністэрства ў гэтым рэчышчы. Цяпер ад Вас залежыць, будуць яны выконвацца ці не. Спадзяюся, што Ваша дзейнасць на новай пасадзе будзе скіраваная на развіццё і ўзвышэнне беларускай адукацыі, а не на яе далейшую галечу і заняпад. І ў гэтым — зычу поспехаў!

З прывітаннем,

*Міхась Булавацкі, былы сусед па студэнцкім інтэрнаце, цяпер старшыня адукацыйнай камісіі Магілёўскай абласной арганізацыі грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»*

*Адказу на гэты ліст не было. Хаця адказам можна лічыць дзейнасць чалавека на новай высокай пасадзе, дзейнасць, якая была пераважна антыбеларускай. Можна, канечне, паразважаць аб тым, што міністр — фігура залежная (тым болей, міністр адукацыі), ён праводзіць палітыку ўрада, якая… і г. д. Але кожны выбірае адзенне і асяроддзе па сабе. Калі б палітыка антыбеларускага ўрада не адпавядала яго ўнутраным памкненням, ён бы там не апынуўся. Але ён упісаўся туды вельмі выразна. І нават дасягнуў яшчэ больш высокіх пасад. З той «вышыні» Беларусь здаецца амаль непрыкметнай, не вартай увагі, плямкай на мапе яго інтарэсаў, а пакуль яшчэ жывыя беларусы — мітуслівымі мурашкамі, якімі лягчэй грэбаваць, чым унікаць у іх клопаты.*

# ГУЛЯЦЬ ЗА КРАІНУ? — ЗА ЯКУЮ?

*Чэмпіянат свету па футболе ў 2002 годзе беларускія аматары гэтай гульні маглі й не ўбачыць на сваіх тэлеэкранах, набыць правы на тэлетрансляцыі было для нашай дзяржавы задорага. Але на дзявяты дзень чэмпіянату тэлетрансляцыі пачаліся. Далей цытую «Народную волю» ад 11.06.2002 г.:*

«Уладальнік правоў паказу матчаў кампанія «Кірхмедыя», атрымаўшы грошы [*істотна меншыя, чым называлася напачатку — М.Б.*], дазволіла весці трансляцыі на адзіным тэлеканале краіны, патлумачыўшы, праўда, што каментарый павінен весціся на матчынай, беларускай мове. І пачалося. Якой толькі «трасянкі» мы не наслухаліся ў эфіры. Цяжка было працаваць нават Навіцкаму, для якога, прынамсі, расказваць пра футбол усё роўна, што пра хакей ці «падводныя шашкі» (тэкст амаль аднолькавы!), і ён вымушаны быў запрасіць у студыю чалавека, які ведае футбол, — трэнера футбольнага клуба з Маладзечна Людаса Румбуціса. Усё ішло больш ці менш прыстойна, пакуль хтосьці не перадаў запіску мэтру беларускага эфіру, у якой тэрмінова прапанаваў перайсці з рускай на беларускую. Маўляў, абодва яны гавораць па-руску! Уладзімір Мікалаевіч хутка зрабіў гэта, і было цікава слухаць каментарый, які вёўся на адну і тую ж краіну адразу на дзвюх мовах...»

*Але беларуская мова ў вуснах У. Навіцкага гучала ўсё радзей і, на жаль, не паляпшалася, а нават пагаршалася.*

*13.05.2003 г.* *М. Булавацкі — Спартыўнаму каментатару Беларускага тэлебачання Уладзіміру Навіцкаму*

Шаноўны спадар Навіцкі!

Слухаў вашы эмацыянальныя рэпартажы з Чэмпіянату свету па хакеі і думаў: ну чаму чалавек, які вядзе рэпартажы на Беларусь і ведае беларускую мову, не карыстаецца ёю? Мы ператвараем Беларусь у нейкае сусветнае пасмешышча, калі беларускую мову

бяруцца абараняць немцы, а беларусы пры ўладзе звысоку паплёўваюць на яе. Я маю на ўвазе сітуацыю з атрыманнем права на паказ гульняў Чэмпіянату свету па футболе (2002 год), калі гэтае права нашай дзяржаве было напалову падаравана з-за нашай беднасці, але падаравана з умовай весці рэпартажы на сваёй мове. І вось — БТ сярод сваіх супрацоўнікаў не знайшло нікога (акрамя Вас), хто б родную мову ведаў (!?!). Было невыносна сорамна слухаць тыя рэпартажы, сорамна і балюча за сваю краіну. На тым фоне Ваша, хай сабе і недасканалая, беларуская мова слухалася прывабна.

Я ў свае сталыя гады люблю глядзець спартыўныя перадачы і такім чынам слухаю Вашу мову досыць часта. Дык вось, раней я заўважаў, што Ваша валоданне роднай мовай паступова паляпшалася, удасканальваліся канчаткі, суфіксы, з'яўляліся сакавітыя беларускія словы, якія раней у Вашай мове не сустракаліся. І гэта мяне радавала, хаця й засмучала, што такіх каментатараў на БТ усяго адзін-два. А вось у апошнія гады я заўважаю, што Вы спыніліся ў сваім моўным развіцці, што родная мова ў Вашым выкананні не толькі перастала паляпшацца, але стала ўжо пагаршацца. Калі-нікалі, ведучы рэпартаж па-беларуску (што бывае чамусьці ўсё радзей), Вы з натугай шукаеце падыходнае слова і не заўсёды знаходзіце, замяняючы яго русізмам. І атрымліваецца гэта, на мой погляд, менавіта з-за таго, што Вы самі не лічыце патрэбным ёю карыстацца. Яна ўжо пачынае абцяжарваць Вас? Мне здаецца, што такім сваім выбарам Вы робіце памылку. І гэтую памылку яшчэ не позна паправіць. Падумайце аб гэтым.

І яшчэ адна нагода майго ліста да Вас (нібыта пра другое, але й пра тое ж).

Калі Вы вядзеце рэпартаж пра гульню беларускай каманды з камандай іншай краіны і выказваеце пры гэтым свае сімпатыі да нашай каманды, то беларускія заўзятары вас зразумеюць і ўхваляць. Але калі Вы каментуеце матч паміж іншымі камандамі, то тут Вам трэба займаць нейтральную пазіцыю, нават калі Вы сам шчыра сімпатызуеце адной з іх. Бо ў Беларусі могуць быць як заўзятары адной каманды, так і другой. І каментатару не трэба крыўдзіць ні адзін з гэтых бакоў.

Каментуючы матч паміж Чэхіяй і Расіяй, Вы крыўдзілі мяне, бо я сімпатызаваў чэхам, а Ваш каментар быў адкрыта прарасійскім.

Справа ў тым, што яшчэ ў часы СССР пасля 1968 года ў любых спартыўных гульнях паміж Чэхаславакіяй і Савецкім Саюзам я, нягледзячы на сваю тагачасную савецкасць, сімпатызаваў чэхаславакам, бо лічыў акупацыю Чэхаславакіі савецкімі войскамі бязглуздым рашэннем. Хілы пратэст супраць яго і выражаўся ў мяне (і ў шэрагу маіх сяброў) сімпатыямі да чэхаславакаў у спорце. Сёння ж людзей, якія ў такіх матчах (не абавязкова з чэхамі) сімпатызуюць не Расіі, значна больш, чым тады. Прыміце гэта як сённяшнюю рэальнасць і ўлічвайце ў сваіх рэпартажах. Усё ж мы з Вамі жывем зараз не ў Расіі. Не ведаю, як Вас, а мяне гэта задавальняе.

Я не русафоб. У мяне шмат сяброў і сваякоў у Расіі, я ахвотна кантактую з імі, езджу да іх. Але ў мяне ёсць сябры і на Украіне, і ў Літве, і ў Польшчы. І я не хачу неяк выдзяляць Расію сярод іншых памежных краін. Трэба й Вам неяк прызвычайвацца да гэтай рэальнасці, што Расія для нас — краіна замежная, нягледзячы на любыя саюзы і аб’яднанні, краіна, з якой трэба сябраваць, кантактаваць, мець рознабаковыя дачыненні. Але Радзіма наша — Беларусь.

Зразумеўшы і сэрцам успрыняўшы апошняе, Вы не будзеце карыстацца беларускай мовай як мовай-госцяй (магчыма, не заўсёды жаданай), а зробіце яе мовай-гаспадыняй у сваёй творчай працоўнай дзейнасці (і ўвогуле ў жыцці) і пачнеце ўдасканальваць і ўпрыгожваць яе, каб яна зіхацела, як хата дбайнага і руплівага гаспадара. Чаго Вам і зычу!

З прывітаннем,

*Міхась Булавацкі, настаўнік матэматыкі*

*12.06.2003* *ТЛУМАЧЭННЕ ДЛЯ НАВІЦКАГА З РУМБУЦІСАМ*

*(Надрукавана ў «Народнай волі»)*

Аўстрыя — Беларусь 5:0 — найбуйнейшая параза нашых футбалістаў за ўсе гады існавання Рэспублікі Беларусь. Узрушаныя і разгубленыя каментатары Уладзімір Навіцкі і Людас Румбуціс справядліва вырашылі, што важны тут не лік, а тое, што гульня бляклая, невыразная. І ўспомнілі аб патрыятызме: футбалісты, маўляў, не адчуваюць адказнасці перад сваёй краінай, соўваюцца па полі як сонныя. Вунь Зідан, нават траўмаваны, гуляў за Францыю, ды як гуляў! А тут!..

Яно й праўда: калі чалавек не адчувае за сабою краіны, радзімы, якая натхняе і падтрымлівае, то гуляць (і жыць!) за такую краіну, гуляць (і жыць!) да самаадданасці, да апошняй кроплі сіл не захочацца. Натуральны і вынік.

Калі я кажу пра падтрымку краіны, то маю на ўвазе не толькі і нават не столькі падтрымку матэрыяльную. Нашмат важней тое, што чалавек мог бы з гонарам сказаць: «Я з Беларусі!» І адчуць у адказ павагу да прадстаўніка паважанай у свеце краіны. Але сёння не так. Сёння ён пачуе спачувальна-іранічнае: «А, Бельарусь… Чарньёбіль… Люкаш'енка…»

Сёння ўвогуле ёсць дзве Беларусі.

Адна ганарыцца сваёй шматвяковай гісторыяй і яе стваральнікамі, шануе свае старажытныя сімвалы — герб «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг, гербы гарадоў і мястэчкаў, помніць старыя легенды і песні, карыстаецца мовай, што дасталася нам ад далёкіх продкаў, не прызнае ні цароў, на каралёў, ні іншых аднаасобных начальнікаў, якіх ніколі не мела ў сваім вольным мінулым, роўнапаважна ставіцца да ўсіх краін-суседак…

Другая грэбуе тымі сімваламі, не ведае ні гісторыі далёкай (ды і блізкую скажае), ні мовы роднай, прызнае аднаго чалавека за начальніка над усім і над усімі, якому трэба дагаджаць, а тых, хто не дагаджае, выказвае ўласныя думкі, знішчае маральна ці фізічна, з краін-суседак сябруе толькі з той, адкуль можна што-нішто атрымаць на халяву…

Узрост першай — мінімум 750 гадоў. Узрост другой — максімум 50. Але першую ў свеце амаль не ведаюць, бо яна, нібыта абалонкай, закрыта другой. А другую не паважаюць.

Кожны выбірае, якой Беларусі служыць. У. Навіцкі выбраў другую. Ён нават не краіне служыць, а аднаму чалавеку, які пасылае яго то ў Японію, то ў Аўстралію і плоціць грошы. Навіцкаму зручна і ўтульна ў **гэтай** краіне, настолькі зручна і ўтульна, што ён і мову той, першай, перастае выкарыстоўваць. Без патрэбы яна яму. І няўцямна Навіцкаму, чаму гэта **ягоную** краіну не паважаюць у свеце. І крыўдзіцца ён на аператараў замежнага тэлебачання, якія калі-нікалі паказваюць адзінага беларуса (з той, першай Беларусі), які нейкім чынам патрапіў на стадыён і вітае землякоў-футбалістаў бел-чырвона-белым сцягам. Ведае таварыш Навіцкі, што па вяр-

танні начальнік строга спытае яго, чаму гэта ён не паклапаціўся пасадзіць побач дзесяць дужых малойцаў з чырвона-зялёнымі сцягамі, каб таго выскачку закрыць, а то і ўвогуле прыціснуць.

Але хочаш не хочаш, а факт трэба прызнаць: краіну, у якой жыве У. Навіцкі, у свеце не паважаюць. І спартоўцы, выязджаючы за мяжу, гэта вельмі востра адчуваюць. І няёмка ім гуляць у камандзе **гэтай** краіны, нібыта (але й не «нібыта») гуляюць не за краіну, а за таго чалавека, які падмяў краіну пад сябе. І як ні заклікай, як ні папракай, не будзе ў такой камандзе самаадданасці і самаахвярнасці, бо «мы жывём, под собою не чуя страны». І ніякія варыянты — «выпусціць Цыгалку» ці «памяняць Малафеева» тут не дапамогуць.

І нагадванні пра «патрыятызм» не знойдуць адрасата. Бо патрыятызм не можа быць выбарным. Узровень патрыятызму сённяшняй Беларусі — у лёсе Васіля Быкава.

Гіне краіна. Але калі згіне **гэтая** — «абалонка», адкрыўшы свету **тую**, сапраўдную Беларусь, то пра гэта мала хто заплача, хіба што ад радасці. Але яны могуць знікнуць разам. Тады й плакаць не будзе каму, не тое, што ў футбол гуляць.

*Міхась Булавацкі, футбольны заўзятар з 40-гадовым стажам*

*Пасля няўдалага для беларускай зборнай па хакеі Чэмпіянату свету-2017 кіраўнік дзяржавы абураўся, папракаючы хакеістаў, што ў іх няма* «гордости за цвета своего флага». «Безвольные выступления, отсутствует командная игра… Да и тренерская работа отвратительная!.. Пятая часть денег идёт на один вид спорта [*18% усіх выдаткаў на фізкультуру і спорт забірае хакей*], а отдачи никакой!»

*Хто б яму патлумачыў, што гонар за свой сцяг грашыма не купляецца. Сцяг, колеры якога так падабаюцца гэтаму крытыку, мае вельмі кароткі век, крыху болей за 20 год, і гэты перыяд далёка не самы лепшы ў гісторыі нашай краіны. Чым тут можна ганарыцца?*

*А тым болей, які гонар за гэты сцяг можа быць у такіх «беларусаў», як Кевін Лаланд, Крысціян Хенкель, Шарль Лінгле. Яны цудоўныя хакеісты, але іх сэрцы належаць іншай радзіме. «Балюча, калі гімн роднай краіны гучыць не ў твой гонар», — прызнаваўся К.Лаланд пасля перамогі Канады.*

*Ні гонар, ні талент, ні аддачу, ні патрыятызм, нішто падобнае ніякімі грашыма не купіш! У 1995 годзе Лукашэнка прайграў усё гэта на рэферэндуме. І таму зараз ніякія мантры пра гонар за колеры сцяга не падзейнічаюць.*

*11.08.2017 «Народная воля» надрукавала чарговы мой эпісталярый «Права на… невуцтва». Коратка перадам яго змест.*

*Люблю глядзець спартыўныя тэлетрансляцыі. Радуюся, калі каментар ідзе на маёй роднай мове. На тэлеканале «Беларусь 5» такое здараецца — з удзячнасцю ўзгадваю Паўла Баранава, Зміцера Герчыкава, Сяргея Новікава. Але каментатары тэнісных спаборніцтваў чамусьці нашай мовай не карыстаюцца, дый не нашай валодаюць не вельмі дасканала. Напісаў пра тое кіраўніцтву тэлеканала. Атрымаў адказ галоўнага рэдактара Паўла Булацкага: у нас свабода выбару мовы. Маўляў, «хто как хаціт…»*

*Пра гэтыя «права выбару», «свабоду выбару» я так часта чуў дагэтуль, што на гэты раз не ўтрымаўся, ускіпеў, напісаў П. Булацкаму сярдзіты ліст (на жаль, з перахлёстамі, прызнаю́). І даў адпаведны тэкст у «Народную волю». Якая ж рэакцыя галоўнага рэдактара? Яму ж не баліць тое, што баліць мне. Ён не паспрабаваў зразумець, чым выкліканы мой выплеск, а па-дзіцячы пакрыўдзіўся: ах, раз ты так, дык вось атрымай! І ўжо болей за месяц спартыўных трансляцый на нашай мове я не чую. Нават ухваленыя мною Новікаў, Баранаў і Герчыкаў «раптам» беларускую мову забылі і перайшлі на іншую дзяржаўную мову (не веру, што па сваёй волі). Вось такая «свабода выбару мовы» на тэлеканале «Беларусь 5».*

*І смешна, і горка...*

# АДРОДЖАНЫ КОРАНЬ



*9 чэрвеня 1661 года ўказам караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра гораду Магілёву за выяўленую мужнасць магілёўцаў у часе паўстання супраць маскоўскіх акупантаў было нададзена Магдэбургскае права і герб: у блакітным полі — тры вежы, у адчыненай браме сярэдняй — рыцар у панцыры з паднятым мячом у руцэ; на вежы круглы шыльд з выявай дзяржаўнага герба «Пагоня».*

*На пачатку 90-х гадоў XX ст. старажытны герб быў вернуты Магілёву рашэннем мясцовай улады. Але на пачатку новага стагоддзя гербы беларускіх гарадоў ужо павінны былі зацвярджацца на больш высокім узроўні. І ў Магілёве пачалася таямнічая мітусня па стварэнні новага варыянту герба горада. Без «Пагоні» і без рыцара.*

*18.02.2003 г.* *М. Булавацкі, І. Шаруха — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама В. Шорыкаву*

Шаноўны Віктар Іванавіч!

Як нам стала вядома, гарвыканкам плануе замяніць сённяшні герб Магілёва, нададзены яму яшчэ ў 1661 годзе, на нейкі новы, які распрацоўваецца кімсьці па даручэнні гарвыканкама. Такі крок гарадской адміністрацыі нам уяўляецца непрадуманым і рызыкоўным. Сімвалы, з якімі народ, ці сям’я, ці горад, ці краіна пражылі такі доўгі век, сталі часткай (і досыць важкай часткай) яго-яе жыцця,

яго-яе гісторыі, сталі акумуляваным адбіткам памкненняў і дзеяння вялікай колькасці людзей, большасць якіх назірае за намі ўжо з іншага свету. Змяняць сімволіку іх жыцця на іншую — азначае адмаўляцца ад іхных набыткаў, адмаўляць каштоўнасць іх жыцця, прызнаваць іх памкненні і дзеянні неразумнымі, памылковымі. На такі непапулярны ў гісторыі крок патрэбна вельмі важкая аргументацыя, аргументацыя, вывераная доўгім часам роздуму не аднаго чалавека і нават не аднаго пакалення людзей. Вы, сённяшні кіраўнік горада, прызначаны на гэтую пасаду на гістарычна нязначны прамежак часу, сілай давеаранай Вам улады можаце паспрабаваць умяшацца ў ходу гісторыі, можаце паспрабаваць зрабіць яе пераацэнку. Але бойцеся зрабіць памылку, бо гісторыя жорстка помсціць за такія памылкі, гісторыя жорстка карае за няўдалыя спробы яе перайначвання. Зменены асобным чалавекам пры ўладзе гістарычныя сімвалы звычайна праз пэўны час вяртаюцца на свае месца, яшчэ больш умацоўваючы сваю ролю, як сімвалы-пакутнікі. А Ваша прозвішча і прозвішчы Вашых памагатых могуць стаць на працяглы час гістарычным пасмешышчам, прыкладам няўдалага змагання камара-чалавека з зубрам гісторыі. І Ваш род будзе доўгі час адчуваць на сабе Вашу памылку. Не рызыкуйце зрабіць такую памылку! Асцерагайцеся наклікаць на сябе праклён Вашых нашчадкаў!

*Міхась Булавацкі, настаўнік, старшыня Магілёўскай суполкі Беларускага PEN-цэнтра,*
*Ігар Шаруха, выкладчык універсітэта, сябра Беларускага геаграфічнага таварыства*

*13.03.2003 г.* *Горисполком — Председателю Могилёвского отделения Белорусского PEN-центра Буловацкому М.П.*

Уважаемый Михаил Петрович!

Герб города Могилёва в настоящее время не утвержден. Решение об утверждении символа города принимается коллегиально, рассматривается на заседании городского исполнительного комитета и сессии городского Совета депутатов.

В городскую топонимическую комиссию для рассмотрения поступило несколько вариантов герба. Один из них был рекомендован для рассмотрения на сессии городского Совета депутатов. Только

после утверждения на сессии он сможет быть направлен на рассмотрения топонимической комиссии при Президенте Республики Беларусь.

Касательно вывески городского исполнительного комитета. Сегодня она установлена только на русском языке в связи с тем, что изготовителем были допущены ошибки при оформлении доски на белорусском языке. После устранения недостатков она также будет установлена на отведённом ей месте.

*Заместитель председатель Могилёвского горисполкома*
*И.В. Васильченко*

*І тут не абышлося без Васільчанкі. Мабыць, менавіта ў яго галаве ўзбуяла гэтая думка аб змене герба? Ці нехта падказаў, хто не хацеў засвечвацца сам. Магчыма, нехта разумее, што засвечвацца ў такой гісторыі не варта, бо заплямішся так, што не адмыцца. А Васільчанка не разумее...*

*21.04.2003 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама В. Шорыкаву*

Паважаны Віктар Іванавіч!

На свой ліст ад 18.02.2003 я атрымаў адказ, падпісаны вашым намеснікам І.В. Васільчанкам. Мой ліст быў напісаны на беларускай мове, адказ чамусьці напісаны на іншай мове, што не стыкуецца ні з «Законам аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», ні з практыкай цывілізаваных краін, у якіх маецца некалькі дзяржаўных моваў. Адказ чалавеку даецца на той мове, на якой ён звяртаецца ў дзяржаўны орган — у гэтай норме і павага да дзяржавы, і павага да мовы, і павага да асобнага чалавека, без чаго дзейнасць дзяржаўнага органа не мысліцца.

Калі ніхто з Вашых намеснікаў насуперак Закону не валодае тытульнай мовай нашай дзяржавы, то чаму б Вам не знайсці хаця б сакратарку, якая валодае беларускай мовай і якая дапамагала б гарвыканкаму выконваць гэтую норму. Таварыства беларускай мовы, думаю, змагло б дапамагчы гарвыканкаму пашукаць такую кандыдатуру, калі ёсць такая праблема; сёння людзей, якія вольна,

без натугі размаўляюць і пішуць па-беларуску, ужо шмат і іх колькасць, дзякаваць Богу, расце.

Праблема з беларускамоўнай шыльдай гарвыканкама, як напісаў І.В. Васільчанка, таксама звязана з недастаткова добрым веданнем роднай мовы: пры афармленні гэтай шыльды былі дапушчаны памылкі і таму шыльда перарабляецца. Дасць Бог, пераробіцца без памылак. Але пытанне **аб мове вулічных шыльдаў** у горадзе (не толькі шыльдаў гарвыканкама) Вы, мяркую, павінны ўзяць пад свой кантроль, бо там творыцца немаведама што. Вось вучылішча культуры (!!!) адкрыла сваю краму сувеніраў. Для назвы скарысталі цудоўнае беларускае слова «СУЗОР'Е». І напісалі яго з памылкай: «СУЗОРЬЕ». Шмат людзей за дзень праходзяць паўз вучылішча, спатыкаючыся вокам на гэтым мяккім знаку. І такіх прыкладаў можна доўга множыць. Дарэчы, у рускамоўных шыльдах памылак таксама хапае. Няёмка за наш горад. Бо прыгажосць горада не толькі ў прыгожых плітках пад нагамі.

Прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы ўжо звярталіся да Вашага папярэдніка М. Краснова з прапановамі па гэтай праблеме, але разумнай формы нашага ўзаемадзеяння тады не было знойдзена. І памылкі на вулічных шыльдах працягваюць множыцца.

Цяпер пра герб.

І.В. Васільчанка напісаў, што герб Магілёва «в настоящее время» не зацверджаны. Але ж ён зацверджаны ў 1661 годзе. Хіба ж яго кожны год зацвярджаць трэба?

Можна пагадзіцца з І.В. Васільчанкам, што пытанне пра герб павінна вырашацца гарадскім Саветам дэпутатаў. Але я перагледзеў падшыўку газеты «Веснік Магілёва» (орган гарсавета і гарвыканкама) за 2002 і 2003 гады і не знайшоў паведамлення аб тым. што гарсавет аб'явіў конкурс на стварэнне новага герба. І калі такі конкурс не аб'яўлены, то якім чынам «в городскую топонимическую комиссию поступило несколько вариантов герба»? Я гутарыў з мастаком В. Камаровым (членам Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь), які грунтоўна займаецца вывучэннем геральдыкі і асабліва ў дачыненні да роднага горада. Яго слова пры распрацоўцы герба было б вельмі важкім. Але ён таксама не чуў пра аб'яўленне такога конкурсу.

А наступная фраза І.В. Васільчанкі мяне, можна сказаць, заінтрыгавала: «один из них был рекомендован для рассмотрения на сессии…». Чаму толькі адзін? І, галоўнае, кім рэкамендаваны? Хто менавіта выбіраў гэты адзін? І чаму выбіраў патаемна, а не адкрыта, не ў свабодным конкурсе?

На жаль, адказ Вашага намесніка пакінуў больш пытанняў, чым адказаў. Спадзяюся, што адказы ўсё ж будуць знойдзены.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*3.05.2003 г.* *Гарвыканкам — М. Булавацкаму*

Паважаны спадар М. Булавацкі!

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь дзяржаунымі з яуляюцца 2 мовы: беларуская і руская. Нормы ужывання дзяржауных моу рэгламентуюцца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Республіцы Беларусь», у артыкуле 3 якога гаворыцца, што «рашэнне па сутнасці звароту грамадзяніна афармляецца на беларускай або рускай мовах».

Што датычыцца пытання аб прыняцці герба города Магілева, то нагадваем Вам, што у папярэднім звароце Вам ужо былі дадзены тлумачэнні.

*Намеснік старшыні Магілеускага гарадского выканаучага камітэта*
*І.У. Васільчанка*

Шауцова [*У тэлефоннай размове я падзякаваў спадарыні Шаўцовай, дарэчы, «чырвонай» выпускніцы беларускага аддзялення філалагічнага факультэта, за добрую мову і пацікавіўся, чаму ў тэксце прапушчаны апостраф і у-нескладовае; выявілася, што сакратарка не ведала, як актывізаваць на камп'ютары беларускую мову, паабяцала, што гэта хутка выправіцца*].

*13.05.2003 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама В. Шорыкаву*

Шаноўны Віктар Іванавіч!

Вельмі прыемна было (незалежна ад зместу) атрымаць адказ гарвыканкама на нашай роднай мове. Добра, што ёсць у гарвыканкаме спадарыня Шаўцова, якая роднай мовай някепска валодае і такім чынам гарвыканкам можа выконваць норму адказваць на запыты грамадзян той мовай, на якой чалавек звяртаецца ў гарвыканкам. Адзначу, што такую норму даўно выконваюць у аблвыканкаме і, тым болей, у Адміністрацыі Прэзідэнта. Гэтай нормы прытрымліваюцца і ўсе міністэрствы, з якімі мне даводзілася мець перапіску. Такім чынам, Магілёўскі гарвыканкам быў дасюль нейкім непрыемным выключэннем.

Спадзяюся цяпер, што, знайшоўшы агульную мову, мы (гарвыканкам і грамадскія аб'яднанні) зможам знаходзіць і агульнапрымальныя рашэнні праблем, якія існуюць і ўзнікаюць у нашым горадзе. У прыватнасці пра старажытны герб горада. І.У. Васільчанка ўхіліўся ад адказаў на пастаўленыя ў маім папярэднім звароце пытанні (маўляў, усе тлумачэнні мне былі дадзены раней). Такім чынам, я магу лічыць, што рашэння пра аб'яўленне конкурсу на стварэнне новага герба гарсаветам не прымалася (І.У. Васільчанка не абверг гэтага сцвярджэння). Таму адпаведная дзейнасць нейкіх асоб ці нейкіх структур не мае прававых падстаў. Атрымліваецца, што нейкі чалавек ці нейкая група асоб самачынна вырашыла змяніць герб і навязваюць гэтую ідэю кіраўніку горада, які прабыў на гэтай пасадзе зусім няшмат часу і, не маючы неабходнага прававога досведу, можа далучыцца да гэтай неправавой дзеі. Але справа ў тым, што той чалавек ці тая група асоб ніякай адказнасці за прынятае рашэнне несці не будуць. Адказнасць ляжа на Вас, на кіраўніка — і далей я мог бы паўтарыць тое, што пісаў у першым лісце да Вас (ад 18.02.2003). Атрымліваецца, што Вас хочуць падставіць, на Вас хочуць узваліць цяжар прыняцця неправавога рашэння. Думаю ўсё ж, што Вы — дастаткова разумны чалавек, каб гэта ўсвядоміць і адпаведна дзейнічаць.

Вас ужо аднойчы падставілі на скандал, звязаны з закрыццём цэнтральнай гарадской бібліятэкі. Хто быў аўтарам такой парадаксальнай ініцыятывы, цяпер мала каго цікавіць. Скандал звязалі з

Вашым прозвішчам. І ўсе абурэнні людзей скіраваныя супраць Вас. [*Гаворка пра цэнтральную бібліятэку горада, будынак якой побач з гарвыканкамам; гэты будынак у гарвыканкаме вырашылі прадаць нейкаму бізнэсоўцу, бо вельмі выгоднае месца ў цэнтры горада, а бібліятэку перанесці на ўскраіну горада; гэтае рашэнне выклікала ў горадзе актыўныя пратэсты грамадскасці, якія змусілі гарвыканкам адмяніць рашэнне і пакінуць бібліятэку ў сваім будынку.*]

Два-тры такіх скандалы — і пра кіраўніка пачынаюць складваць анекдоты, якія часта і застаюцца ў гісторыі. Хацелася б, каб ад кіраўнікоў нашага горада ў гісторыі заставалася нешта іншае.

Карыстаючыся нагодай, я хацеў бы яшчэ раз звярнуць Вашу ўвагу на неабходнасць умацавання роднага, беларускага, бо гэтае святое месца сёння займае вульгарна-расійскае. Я не супраць Расіі, у гісторыі і культуры гэтай нашай суседкі шмат чаго прывабнага і змястоўнага. Але так, як з амерыканскага кіно нам часцей прапануюцца вульгарныя баявікі ды «ужасцікі», так і з расійскага агароду да нас часта лезе пустазелле ды брыдота. Да прыкладу, надпіс «РНЕ» запляміў усе тралейбусныя-аўтобусныя прыпынкі горада і, каб людзі бачылі, з кім маюць справу, надпіс падмацоўваюць выявай фашысцкай свастыкі. А для тых, каму гэта вельмі цікава, даецца і адрас: «212022 Могилёв, а.я.29». Як бачыце, запрашаюць, не хаваюцца. А нядаўна зайшоў у рэдакцыю газеты «Веснік Магілёва» (орган гарвыканкама) і ўбачыў у кабінеце намесніка рэдактара вялікі партрэт Сталіна. Ці такі бог нам сёння патрэбны?

З прывітаннем,

*Міхась Булавацкі*

*22–23 мая 2003 года ў Магілёве прайшла III міжнародная навуковая канферэнцыя «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць» (ініцыятар і адзін з кіраўнікоў канферэнцыі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт універсітэта харчавання Ігар Пушкін). Канферэнцыя не магла абмінуць праблему герба горада. Паведамленне І. Васільчанкі (старшыні аргкамітэта канферэнцыі) аб тым, што рыхтуецца да зацвярджэння новы герб, выклікала бурныя спрэчкі. Амаль усе выступоўцы-гісторыкі пераконвалі, што зацвердзіць трэба менавіта герб, нададзены Магілёву ў 1661 годзе. І. Васільчанка, як мог, супраціўляўся, што яшчэ больш узмацніла мае падазрэнні аб яго*

*аўтарстве гэтай дзікай ідэі. Даканала яго тое, што ў падтрымку навукоўцаў выступіла і прадстаўніца Адміністрацыі Прэзідэнта. Гэта стала пераломным момантам спрэчкі. І. Васільчанка звяў, спахмурнеў і хутка сышоў.*

*На пачатку чэрвеня старшыня гарвыканкама В. Шорыкаў правёў прэс-канферэнцыю для журналістаў на тэму «Стан і перспектывы развіцця Магілёва». Сярод зададзеных пытанняў было і пытанне пра герб. Шорыкаў адказаў, што «больше на герб посягать не будет» («Вечерний Могилёв», 4.06.2003 г.).*

*Але, мабыць, яшчэ нейкі час ішла валтузня. І толькі 10 лютага 2004 года абласная газета «Магілёўскія ведамасці» абвесціла:*

«Исторический герб Могилёва 1661 года представлен к утверждению в качестве официального герба областного центра, сообщила… начальник отдела информации горисполкома Алла Сушкова. По её словам, все необходимые документы для получения разрешения на государственную регистрацию главных городских символов — герба и флага — после долгих споров и дебатов в городском исполнительном комитете, среди депутатов горсовета, учёных-историков, общественности подготовлены. Исторический городской герб, утверждённый 9 июня 1661 года грамотой короля Яна Казимира, представляет собой «щит, в основе которого изображены три серебряные башни, в открытых воротах средней башни находится серебряный рыцарь в доспехах с поднятым над головой мечом; вверху над воротами на круглом красном щите под кровлей центральной башни находится изображение серебряного вооружённого всадника с мечом и щитом». После рассмотрения в Геральдическом совете при Президенте республики своё согласие на утверждение герба города дал Комитет по архивам и делопроизводству при Совете Министров Беларуси».

***Гістарычны герб Магілёва чарговы раз атрымаў афіцыйны статус 3 студзеня 2005 г.***

*Сучасны герб Магілёва — важкая перамога магілёўскай грамадскасці. Адроджаны адзін з наймагутнейшых гістарычных каранёў старажытнага горада. Крыху пазней здабыта яшчэ адна перамога: адноўлена гарадская ратуша, збудаваная ў Магілёве ў XVII стагоддзі і ўзарваная ліпеньскай ноччу 1957 года. Яшчэ адзін корань горада стаў напаўняцца гістарычнымі сокамі, яны пайшлі*

*па капілярах, галінках старога дрэва, ажыўляючы зялёную лістоту. І вось ужо на вуліцах горада пачалі з'яўляцца прыгожыя шыльды з ранейшымі назвамі вуліц (пакуль яшчэ побач з назвамі камуністычных часоў, але няцяжка здагадацца, якія назвы перамогуць у перспектыве), новым вуліцам даюцца назвы славутых магілёўцаў і беларускіх дзеячаў, у гарадскім траспарце абвесткі аб прыпынках даюцца нашай мовай ды інш. На пагляд скептыка, як бы й мала, але гістарычным працэсам вялікія хуткасці не ўласцівыя.*

*Прыемна, што ў гэтай перамозе маецца кропелька і майго ўдзелу: наш з Ігарам ліст быў заўважаны ў выканкаме. Алесь Агееў, на той час дэпутат гарсавета, які таксама выступаў за вяртанне Магілёву гістарычнага герба, пры сустрэчы неяк пацікавіўся: «Што за ліст ты напісаў Шорыкаву, які ўсе ў гарвыканкаме абмяркоўваюць?»*



*Пры ўездзе ў Магілёў з боку Мінска (магчыма, і з іншых кірункаў) гарвыканкам пачаў усталёўваць на слупах выявы герба горада, але там, дзе павінен быць вершнік з мячом, заставаўся пусты круг. На запыты ўважлівых магілёўцаў з адпаведнай структуры адказвалі: маўляў, выяву вершніка тэхнічна складана зрабіць. Але ж, — не супакойваліся магілёўцы, — тэхнічна складана зрабіць і выяву збройнага рыцара ў браме, а яна ж зроблена. Да таго ж, калі цалкам выяву герба складана зрабіць, тады ўвогуле не трэба яе рабіць. Навошта ж скажаць герб!*

*Дапісаліся — выявы герба на слупах паправілі.*

# ШТО БЕЛАРУСКАГА Ў БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІМ?

*10.06.2003 г.* *М. Булавацкі — Рэктару Магілёўскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта І. Сазонаву*

Шаноўны Ігар Сяргеевіч!

Напачатку хацеў зайсці да Вас, каб абмеркаваць усё гэта ў непасрэднай размове, але вырашыў, што пісьмовы зварот тут больш падыходзіць, бо ён не патрабуе тэрміновага адказу і дазваляе прыняць рашэнне абдуманае.

Арганізацыя, якую я прадстаўляю, — Таварыства беларускай мовы (ТБМ) — клапоціцца, як няцяжка здагадацца, пра лёс роднай мовы — мовы, якая мае багатую і слаўную гісторыю, але сёння знаходзіцца ў крытычным стане. І калі не дапамагчы ёй вярнуць страчаныя пазіцыі, вярнуць тую ролю, якую яна і павінна адыгрываць у сваёй дзяржаве, то чалавецтва можа збяднець яшчэ на адну мову, а значыць — яшчэ на адзін народ.

Але не толькі пра мову клапоціцца наша арганізацыя, яна клапоціцца пра ўсё **сваё.** Пра **сваю** дзяржаву, роўную сярод іншых вольных дзяржаў, пра **сваю** зямлю, пра **свае** традыцыі, пра **сваю** гісторыю, пра **сваю** сістэму выхавання і навучання, пра **сваю** культуру, пра **сваю** вытворчасць і індустрыю…

Нас непакоіць агрэсіўная інтэрвенцыя ў Беларусь замежных «адыходаў» — ад «адыходаў» амерыканскай кінавытворчасці да «адыходаў» расійскай харчовай прамысловасці (бо тыя кілбасы, якія да нас завозяць з Расіі, інакш як «адыходамі» назваць не выпадае; з іншага боку, нават калі б тыя кілбасы былі высокай якасці, Беларусь здольная вырабляць лепшае, бо якасць нашай мясной вытворчасці заўсёды прызнавалася ў Расіі — і пры царскім рэжыме, і ў часы СССР Масква кармілася беларускім мясам).

Але я адхіліўся ад галоўнага. Нас, натуральна, найбольш непакоіць інтэрвенцыя сучаснай рускай мовы, вынікам чаго беларусы ў

сваёй краіне вымушаны туляцца на ўзбочыне гістарычнага працэсу. У Магілёве, да прыкладу, сёння няма ніводнага беларускага класа, хаця ёсць бацькі, якія б хацелі вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, і ёсць настаўнікі (адзін з іх — аўтар гэтага пісьма), якія б хацелі навучаць па-беларуску. І мы вельмі балюча ўспрымаем новыя праявы пашырэння такой інтэрвенцыі.

З гэтага года Магілёўскі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт стаў **расійска-беларускай** (ці беларуска-расійскай?) установай адукацыі. Прычыну такога пераўтварэння трэба шукаць не ў імкненні да павышэння якасці адукацыі (бо якасць беларускай адукацыі ніколькі не горшая за якасць расійскай адукацыі, што можна прасачыць і па выніках міжнародных прадметных алімпіяд, і па запатрабаванасці нашай адукацыі ў іншых краінах свету, і па іншых праявах), а ў **пашырэнні магчымасцяў** дасягнення патрэбнай якасці. Магчымасцяў, якіх сёння наша збяднелая краіна не мае. І тое, што такія магчымасці ваш універсітэт знайшоў у Расіі, успрымаецца намі з разуменнем. Але! — установа адукацыі мае статус расійска-беларускай. І ўзнікае натуральнае пытанне — а што тут беларускага? Толькі месца размяшчэння ці нешта большае? Хацелася б, каб было нешта большае. І цяпер я пераходжу да прапановы.

Пры ўніверсітэце адкрываецца свой ліцэй. Аб’яўлена аб наборы чатырох дзясятых класаў. Ліцэй будзе рыхтаваць найперш студэнтаў вашага ўніверсітэта, і ўніверсітэт натуральна зацікаўлены, каб якасць такой падрыхтоўкі была найвышэйшай. Пры гэтым, спадзяюся, для Вас асабіста не мае значэння, праз якую мову гэтая якасць дасягнута. Таму я прапаную дазволіць мне **выкладаць у <u>адным</u> з гэтых класаў матэматыку на беларускай мове.** Сваё права на такую прапанову я падмацоўваю копіямі двух дакументаў — хадайніцтва ліцэя № 2 да Міністэрства адукацыі аб прысваенні мне вышэйшай настаўніцкай катэгорыі, якое мела станоўчы вынік, і Ганаровай граматы ўпраўлення адукацыі Мінскага гарвыканкама за маё кіраўніцтва эксперыментальнай работай настаўнікаў г. Мінска. Я маю шмат такіх узнагарод, але гэтая для мяне найбольш значная, бо яна атрымана на падставе ацэнкі маёй працы самімі настаўнікамі. З гэтых дакументаў вынікае, што матэматыцы я магу навучыць някепска.

Вы можаце сказаць (я часта такое чую), што беларускамоўнае навучанне матэматыцы можа стварыць некаторыя праблемы для вучняў. Але практыка як вышэйшы крытэр ісціны (я маю на ўвазе найперш маю асабістую практыку) не пацвярджае такога апасення. Невялікія праблемы ўзнікаюць толькі на пачатку, калі чалавек прывыкае да крыху нязвыклай для яго тэрміналогіі, і ўзнікаюць толькі таму, што сённяшнія школы не навучаюць беларускай мове на патрэбным узроўні (гаворка пра большасць школ, але, дзякаваць Богу і настаўнікам, не пра ўсе). Я выкладаў матэматыку па-беларуску ў вясковых школах, і гэта не перашкаджала маім вучням перамагаць на алімпіядах і паступаць у ВНУ на матэматычныя спецыяльнасці. Я выкладаў матэматыку і методыку матэматыкі па-беларуску ў педагагічным інстытуце, дзе вучыліся людзі, якія ніколі матэматыкі па-беларуску не чулі (у тым ліку з Смаленскай і Бранскай вобласцяў Расіі), і гэта не замінала ім засвойваць гэтую навуку і паспяхова здаваць залікі і іспыты. Некаторыя з іх потым пад маім кіраўніцтвам пісалі курсавыя і дыпломныя працы на беларускай мове і цяпер самі працуюць у ВНУ (у тым ліку выкладаюць матэматыку ў вашым універсітэце). Нарэшце, як рэпетытар я дапамагаў (праз сваю мову) засвойваць матэматыку тым, каму не вельмі дапамагла школа, і яны паспяхова пераадольвалі конкурсы і паступалі ў абраныя імі ВНУ (і ў вашым універсітэце вучыцца зараз некалькі паднятых мною).

Я магу пагадзіцца, што вучні, якія прыдуць зараз у ліцэй, могуць не чакаць такога павароту лёсу, бо іх ніхто не папярэджваў, і таму выказаць пратэст супраць беларускамоўнага выкладання матэматыкі. Я прызнаю за імі права на такі пратэст і тады пачну ў гэтым класе выкладаць матэматыку па-руску. Але, спадзяюся, пры ліцэі будуць адкрыты падрыхтоўчыя курсы (як гэта робіцца ў іншых ліцэях) і там я мэтанакіравана буду рыхтаваць вучняў да свайго класа, пасля чаго ніякіх моўных канфліктаў ужо не будзе.

Вы можаце запытацца: а дзе ў далейшым выпускнікі гэтага класа змогуць працягваць беларускамоўнае навучанне? Пачну з таго, што рускамоўнае навучанне для іх зусім не будзе закрыта, і праблем у такім пераходзе я не бачу. Але адзначу, што ў многіх ВНУ Беларусі ўжо ёсць выкладчыкі, што выкладаюць матэматычныя і тэхнічныя дысцыпліны па-беларуску. Да прыкладу, дацэнт Радына

(мехмат БДУ) ці дацэнт Майсеня (універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі). Ёсць такія і ў дзвюх ВНУ Магілёва (пра ваш універсітэт не ведаю, здаецца, тут такіх няма). Дарэчы, там у студэнтаў не пытаюць, на якой мове ім чытаць лекцыі. Падразумоўваецца, што яны павінны разумець абедзве.

Наяўнасць аднаго такога класа ў ліцэі створыць новую сітуацыю ў адукацыйнай сістэме Магілёва. Паколькі ў школьнікаў з'явіцца перспектыва працягваць навучанне па-беларуску, то можна будзе адкрыць некалькі беларускіх класаў у школах Магілёва (тым самым выконваючы пастанову Міністэрства адукацыі № 48, прынятую ў 2001 годзе, адпаведна якой у кожным раёне горада павінна быць адкрыта адна беларуская школа і якая дагэтуль у Магілёве не выконваецца). А пра якасць навучання ў такіх класах паклапоціцца ў тым ліку і наша арганізацыя. Мы паспрыяем таму, каб вучні гэтых класаў маглі атрымаць самую лепшую адукацыю па розных кірунках.

Закончыць свой ліст хачу наступнай думкай. У любога чалавека, які мае тую ці іншую ўладу, ёсць магчымасць скарыстаць гэтую ўладу на карысць Беларусі ці не на карысць ёй. Вельмі спадзяемся, што Вы, Ігар Сяргеевіч, сваю ўладу скарыстаеце для Беларусі. І калі яна ўрэшце адродзіцца ва ўсёй сваёй красе і сваёй самабытнасці, то сярод тых, каго захавае яе ўдзячная памяць, будзе і Ваша прозвішча.

З добрымі пажаданнямі,

*Булавацкі М.П., настаўнік матэматыкі*

*2.07.2003* *И. Сазонов — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

В ответ на Ваше обращение о трудоустройстве в Лицей Белорусско-Российского университета учителем математики сообщаю следующее: в 2003–2004 уч. году Лицей набирает четыре 10 класса. В соответствии с учебным планом это 1,5 ставки часов математики. На момент Вашего обращения уже были приняты на работу учитель математики на полную ставку и методист с правом преподавания математики на 0,5 ставки для организации и проведения приемных экзаменов.

В настоящее время свободных вакансий учителей математики нет.

*Ректор Белорусско-Российского университета И.С. Сазонов*

*6.07.2003 г.* *М. Булавацкі — Рэктару Беларуска-Расійскага ўніверсітэта І. Сазонаву*

Паважаны Ігар Сяргеевіч!

Ваш адказ на маю прапанову аб працаўладкаванні ў адным з класаў вашага ліцэя крыху збянтэжыў мяне. З адказу атрымліваецца, што я проста спазніўся з сваёй прапановай і вакансій настаўніка матэматыкі (нават на адзін клас) ужо не было. Але гэта не адпавядае рэчаіснасці. Я выказаў сваю прапанову Голікаву І.Е. у **першы ж дзень** яго прызначэння на пасаду дырэктара ліцэя. Далей мы не раз абмяркоўвалі гэтую прапанову ў тэлефонных размовах і ў непасрэднай сустрэчы з ім напрыканцы мая. Ігар Емельянавіч мог пераканацца ў маёй зацікаўленасці выкладаць матэматыку ў новым ліцэі і дастатковай аргументаванасці на карысць такога варыянту. Таму сцвярджэнне аб маім «спазненні» выглядае ненатуральна. Магчыма, былі іншыя прычыны, каб адмовіць мне. І я хацеў бы ведаць іх, каб ацаніць мэтазгоднасць пастаноўкі пытання аб маім працаўладкаванні ў ліцэі на наступны навучальны год.

З добрымі пажаданнямі,

*Булавацкі М.П., настаўнік матэматыкі*

*16.07.2003* *И. Сазонов — М. Буловацкому*

Уважаемый Михаил Петрович!

В ответ на Ваше письмо сообщаем, что Ваше предложение рассмотрено, и, если понадобятся Ваши услуги в качестве преподавателя лицея, об этом Вам будет сообщено в письменном виде.

С уважением

*Ректор Белорусско-Российского университета Сазонов И.С.*

*4.07.2004* *М. Булавацкі — Рэктару Беларуска-Расійскага ўніверсітэта І. Сазонаву*

Дзень добры, Ігар Сяргеевіч!

Паколькі я год таму ўжо праявіў цікавасць да вашага ліцэя, то грэх губляць гэтую цікавасць надалей. Таму прыміце як належнае маю неабыякавасць да поспехаў вашых навучэнцаў (найперш, натуральна, у матэматыцы). Я парадаваўся за Насцю Сцяцюгіну, якая заняла шостае месца на абласной матэматычнай алімпіядзе з досыць высокім вынікам (67%). Але мяне засмуціла тое, што замест трох удзельнікаў, якіх ліцэй мог накіраваць да ўдзелу ў гэтай алімпіядзе, туды з’явіліся толькі двое вашых прадстаўнікоў. Тут важна нават не тое, што нейкага там прызавога месца не занялі (гэта справа нажыўная: прыдзе досвед — будуць і перамогі), а тое, што навучэнцы не выявілі інтэлектуальнай актыўнасці. Рабіць такую выснову па ўдзеле ў адной матэматычнай алімпіядзе я б не стаў. Але паралельна з абласнымі алімпіядамі ўжо трэці год у Магілёве праводзіцца «Беларускае пяціборства», спаборніцтва адмыслова для здольных у матэматыцы і фізіцы старшакласнікаў. Пра гэтае спаборніцтва падрабязна распавядалі і магілёўскія газеты, і «Звязда», і «Настаўніцкая газета», і часопіс «Репетитор», і іншыя выданні, даючы яму досыць высокую ацэнку. «Настаўніцкая газета» артыкул пра пяціборства аб’ёмам звыш паловы газетнай паласы змясціла пад рубрыкай «Рэформа школы». Удзел у пяціборстве добраахвотны, і многія навучэнцы ліцэяў Магілёўшчыны ахвотна скарыстоўваюць дадатковую магчымасць ацаніць у такім змаганні ўзровень сваёй адукаванасці і зарабіць крыху грошай уласным розумам.

Кіраўніцтву вашага ліцэя было даслана запрашэнне да ўдзелу ў «Беларускім пяціборстве», але ні адзін (?!) з навучэнцаў ліцэя не выявіў цікаўнасці да гэтага спаборніцтва. У той час, як, напрыклад, ліцэй № 3 прыслаў каманду з адзінаццаці чалавек, якія, дарэчы, і забралі большасць з васьмі прызоў пяціборства. Вось гэта сумнае параўнанне, бо інтэлектуальная пасіўнасць навучэнцаў можа стаць перашкодай да атрымання імі адукацыі на тым узроўні, які Вам хацелася б тут мець.

Спадзяюся, што ў наступным навучальным годзе навучэнцы вашага ліцэя выявяць больш інтэлектуальнай актыўнасці і ў гэтым выпадку зычу ім поспехаў.

Нагадаю, дарэчы, што мая леташняя заява аб выкладанні мною матэматыкі ў адным з класаў вашага ліцэя застаецца ў сіле.

*М. Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі*

*Адказу на гэты ліст не было. Мне вядома, што кіраўнікі Расійска-Беларускага ўніверсітэта і ліцэя прыкладвалі намаганні, каб палепшыць узровень выкладання матэматыкі ў ліцэі, туды нават перайшоў выкладчык кафедры методыкі матэматыкі ўніверсітэта імя А. Куляшова, і навучэнцы ліцэя на абласных алімпіядах ужо не выглядаюць так блякла, калі-нікалі заглядваюць нават на «Беларускае пяціборства». Прэтэнзій да матэматычнай адукацыі ў ліцэі, думаецца, не будзе. Але пытанне, вынесенае ў загаловак гэтага блока лістоў, застаецца: што беларускага ў Расійска-Беларускім універсітэце і ў яго ліцэі? Каму і якой дзяржаве будуць служыць іх выпускнікі?*

# ЦІ ПРАЎДА, ШТО 6 = 6?

*19.03.2004* *М. Булавацкі — Вядучаму інспектару ўпраўлення адукацыі аблвыканкама Н. Маргуновай*

Шаноўная Наталля Уладзіміраўна!

Нас, сяброў Таварыства беларускай мовы, непакоіць сітуацыя з вывучэннем беларускай мовы ў школах горада Магілёва. Як нам бачыцца, якасці валодання роднай мовай і настаўнікамі (не ўсімі, але значнай часткай), і адміністрацыяй школ, і, на жаль, кантрольнымі службамі аддзелаў і ўпраўленняў адукацыі надаецца значна меншая ўвага, чым якасці валодання рускай мовай. У першым выпадку патрабаванні відавочна заніжаныя. І атрымліваецца так, што выпускнік школы, які мае **аднолькавыя** адзнакі па беларускай і рускай мовах, рускай мовай валодае больш-менш прыстойна, а беларускай амаль ніяк. А калі і валодае, то далёка **не аднолькава.** Мы ведаем пра выдатных настаўніц роднай мовы (Г. Бандарэнка, І. Ткачова, нябожчыца Г. Шчэрба ды інш.), якія дамагаліся і дамагаюцца высокай выніковасці сваёй працы. Але агульная тэндэнцыя нас, на жаль, засмучае.

Мы не хочам кідаць камень у настаўнікаў і настаўніц, якія прыкладваюць намаганні дзеля дасягнення добрых вынікаў, але не сустракаюць паразумення ў значнай часткі сваіх вучняў, якія самі (ды і іх бацькі) лічаць валоданне роднай мовай неабавязковым элементам сваёй адукацыі. Толькі ў такім выпадку нам хочацца, каб гэткае стаўленне да мовы адлюстроўвалася адпаведнымі адзнакамі. Чалавек, які атрымлівае па мове адзнаку «7» і вышэй, павінен свабодна размаўляць і пісаць на роднай мове. Але давайце пагутарым з выпадкова выбраным вучнем з такой адзнакай — ці пакажа ён адпаведнае валоданне мовай? Хутчэй — не.

Мы прапануем Вам як аднаму з кіраўнікоў абласнога ўпраўлення адукацыі, адказнаму ў тым ліку і за стан выкладання роднай мовы ў школах вобласці, звярнуць увагу на гэтую істотную праблему.

Нас асабліва непакояць факты грэбавання роднай мовай з боку асобных настаўнікаў. Аднойчы вяртаўся з Мінска ў цягніку. Са мной ехаў дзесяцікласнік адной з школ, які расказаў, што ў іх школе беларускую літаратуру маладая настаўніца выкладае на рускай мове, бо вучні яе заверылі, што беларускай мовы яны не разумеюць. Магчыма, нават і праўда, што не разумеюць, бо сціплая спроба майго спадарожніка размаўляць са мной на роднай мове закончылася поўным крахам: два беларускіх словы ён з натугай скарыстаў, а на трэцім слове махнуў рукой і перайшоў на звыклую рускую мову (дарэчы, і па рускай, і па беларускай мовах ён мае аднолькавыя адзнакі — «6»). Але ж пытанне ў тым, **што** зрабіла гэтая настаўніца, каб вучні нашу мову разумелі?

Мая спроба пагутарыць з дырэктарам гэтай школы, каб завастрыць яго ўвагу на пазначанай праблеме, скончылася безвынікова. Дырэктар не ўбачыў тут праблемы. Потым я даведаўся, што ён сам выкладае гісторыю Беларусі не па-беларуску, як патрабуецца праграмай, а па-руску.

Мова выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі — гэта яшчэ адна вялікая праблема. Не праўда, як сказаў той дырэктар, што знайсці настаўнікаў з веданнем роднай мовы немагчыма. Такіх настаўнікаў і ў Магілёве, і ў іншых гарадах вобласці дастаткова. Таварыства беларускай мовы гатова дапамагчы вырашыць гэтую праблему, калі яна акажацца невырашальнай для ўпраўлення адукацыі.

Свядома не называю прозвішча дырэктара, каб не зводзіць пазначаную праблему да ўзроўню адной школы. Гэта — праблема ўсёй вобласці (і горада Магілёва ў прыватнасці).

Абласная і гарадская арганізацыі Таварыства беларускай мовы гатовы супрацоўнічаць з абласным упраўленнем адукацыі для вырашэння пазначанай праблемы. Мы спадзяемся, што наша супрацоўніцтва прывядзе да прыемных зменаў у адносінах і вучняў, і настаўнікаў да роднай мовы. А праз яе — і да ўсяго роднага.

Давайце пачнем наша супрацоўніцтва з таго, што пры выкананні планавых праверак школ па вывучэнні беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі вы будзеце падключаць прадстаўнікоў ТБМ.

*Міхась Булавацкі, старшыня адукацыйнай камісіі Магілёўскай абласной арганізацыі грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», намеснік старшыні арганізацыі*

*Калі верыць паштоваму паведамленню, гэты заказны ліст уручаны 22.03.2004 г. Маргуновай Н.У. асабіста. Але адказаць адрасатка не парупілася.*

*У маёй прапанове маецца і адваротны бок, над якім варта падумаць. Калі павышаць патрабаванні да якасці валодання роднай мовай, якія непазбежна прывядуць да зніжэння адзнак, то гэта можа выклікаць агрэсію супраць мовы. Зараз вучні валодаюць мовай настолькі, наколькі іх гэтаму вучаць і наколькі ў гэтым зацікаўлена родная (нібыта родная!) дзяржава. Вучні не вінаватыя ў тым, што валодаюць роднай мовай кепска.*

# МОВА ТЭСТАЎ

*19.01.2004* *М. Булавацкі — Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Беларускія школьнікі, гімназісты, ліцэісты рыхтуюцца да цэнтралізаванага тэставання, якое адбудзецца ў красавіку гэтага года. Рыхтуюцца як навучэнцы рускамоўных навучальных устаноў, так і беларускамоўных. Хочацца сказаць слова ў абарону апошніх.

У маёй настаўніцкай практыцы ўжо быў выпадак, калі на фізіка-матэматычны факультэт педагагічнага інстытута паступала адна з найлепшых маіх выпускніц, якая марыла стаць настаўніцай і, я ўпэўнены, настаўніца з яе атрымалася б цудоўнай. На першым экзамене (матэматыка) яна ўзяла білет і прачытала першае пытанне: «Теорема о логарифме произведения». Словы «теорема» і «логарифм» яна зразумела, бо гэта і па-беларуску падобна: «тэарэма» і «лагарыфм». А вось «произведенне» яе здзівіла, бо ў школе «произведения» былі толькі на ўроках рускай літаратуры і яна ніколі не чула, каб тыя «произведения» лагарыфмаваліся. На ўроках матэматыкі я ім казаў пра «здабытак». Каб нехта пераклаў ёй адно толькі слова, яна б усміхнулася і даказала б гэтую просценькую тэарэму без падрыхтоўкі. Але — вясковае дзяўчо! — разгубілася і пасаромелася выявіць сваю «недаадукаванасць», пасаромелася запытацца. Так і прасядзела гадзіну са слязьмі на вачах, а калі падыйшоў час адказваць, не змагла нічога сказаць. Так адно чужое слова зламала лёс чалавеку.

Таму цяпер, калі я чую, што тэксты тэставых заданняў будуць давацца на рускай мове, а тым, **хто пажадае**, будуць давацца на беларускай мове, то не магу прыняць гэта як нармальную з’яву. Як сказалі б нашы браты, расіяне, гэта «от лукавого». Дзяўчына ці хлапчук, якія прыехалі з вёскі, могуць і пасаромецца папрасіць іншы тэкст на роднай мове, могуць падумаць, што і па-руску зразу-

меюць, бо вучылі ж яе. А потым выявіцца, што адно незразумелае слова ўсё сапсавала.

Таму катэгарычная просьба: тэксты заданняў цэнтралізаванага тэставання павінны давацца **кожнаму на дзвюх мовах** (напрыклад, на адным баку аркуша — на беларускай мове, на другім — на рускай, ці двума паралельнымі слупкамі). Давайце не будзем ствараць навучэнцам беларускіх школ дадатковых складанасцяў! Яны і без таго як пасынкі ў роднай краіне.

*Міхась Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі*

Там жа яшчэ адзін ліст:

Прашу адказаць: ці мае права настаўнік матэматыкі (фізікі, хіміі, біялогіі…) **рускамоўнай** школы выкладаць сваю дысцыпліну **пабеларуску**? Усё ж беларускую мову школьнікі рускамоўных школ вывучаюць і таму павінны разумець гаворку на любой мове. Але чамусьці дырэктары школ забараняюць настаўнікам такое «свавольства». Магчыма, маюцца адпаведныя пастановы Міністэрства?

*Міхась Булавацкі*

*05.02.2004* *Міністэрства адукацыі — М. Булавацкаму*

Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі на Ваш зварот адказвае наступнае.

У адпаведнасці з Адзіным моўным рэжымам установы, якая забяспечвае атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, зацверджаным загадам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 30.12.2003 № 519, выкладанне гісторыі Беларусі, геаграфіі Беларусі, курса «Мая Радзіма — Беларусь» ажыццяўляецца толькі на беларускай мове ва ўсіх тыпах навучальных устаноў. Што датычыцца іншых прадметаў, у тым ліку матэматыкі, то іх выкладанне можа ажыццяўляцца на беларускай мове пры ўзаемнай згодзе вучняў, іх бацькоў і адміністрацыі ўстановы адукацыі. Неабходнай умовай для ажыццяўлення выкладання асобных прадметаў на беларускай мове з’яўляецца наяўнасць у школе дастатковай колькасці падручнікаў на беларускай мове.

Падтрымліваем Вашу прапанову аб падрыхтоўцы тэкстаў заданняў цэнтралізаванага тэставання на дзвюх мовах, і ў далейшым Міністэрствам адукацыі будуць прыняты меры па забеспячэнні права выбару мовы пры праходжанні выпускнікамі ўстаноў адукацыі цэнтралізаванага тэставання па ўсіх прадметах.

*Начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі*
*У.К. Шчэрба*

*«…будуць прыняты меры…» Мармытнуў У. Шчэрба і забыў. Ніякіх мераў не было прынята; тэсты, як і раней, прапануюцца толькі на рускай мове. І калі б нехта з вучняў папрасіў на роднай мове, гэта збянтэжыла б кантралёраў, бо беларускага варыянту ім не дасылаюць.*

*Колькі год таму абласная матэматычная алімпіяда ў Магілёве пачалася са спазненнем на паўгадзіны. Стварылася няштатная сітуацыя ці, лепш сказаць, адбылося надзвычайнае здарэнне: двое алімпіяднікаў папрасілі сабе заданні на беларускай мове. Аргкамітэт замітусіўся ў разгубленасці, бо ў капэртах, дасланых з міністэрства, былі толькі рускамоўныя варыянты. Добра, што старшыня журы Б. Чабатарэўскі добра валодаў роднай мовай і ўзяўся перакласці міністэрскія заданні на мову…*

# МАГУТНЫ БОЖА!

…Вядучая Зінаіда Бандарэнка абвясціла фінальны нумар праграмы, а Віктар Роўда зрабіў прыгожы дырыжорскі жэст, і зала на адным дыханні заспявала «Магутны Божа»… Было здорава!…

*М. Рудкоўскі «Хай будзе любасць у людзях...» (рэпартаж з І фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа» — «Магілёўская праўда» 15.07.1993)*

*8.06.2004 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама В. Шорыкаву*

Паважаны Віктар Іванавіч!

Прыкрыя пачуцці засталіся ў мяне пасля ўрачыстага завяршэння фестывалю «Магутны Божа». Гэты фестываль — адна з найярчэйшых адметнасцяў сучаснага Магілёва. Адметнасць, якая стала добрай і характэрнай традыцыяй, бо фестываль нязменна ладзіцца ўжо дванаццаць год. За гэты час парадак адкрыцця, правядзення і закрыцця фестывалю набыў свае выразныя традыцыі, адпаведныя высокадухоўнаму зместу задумы. І змяняць гэтыя традыцыі, калі гэтага некаму вельмі захочацца, трэба вельмі асцярожна, каб не нашкодзіць фестывалю, не парушыць яго духоўнае начынне, каб не парваць той нітачкі сувязі паміж Богам і чалавекам, нітачкі іх духоўнай еднасці, што ўзвышае чалавека да ўзроўню Божага стварэння. На жаль, на гэты раз была парушана адна з найвыдатнейшых традыцый фестывалю, страчаны самы яскравы яго элемент — агульнае спяванне залай малітвы «Магутны Божа».

«Малітва» Міколы Равенскага і Наталлі Арсенневай стала за апошнія дзесяцігоддзі высокім знакавым сімвалам Беларусі. Гэтую «Малітву» ведаюць і спяваюць беларусы ўсяго свету. Услухайцеся і ўдумайцеся ў яе радкі:

*Магутны Божа! Ўладар сусветаў,*
*Вялікіх сонцаў і сэрц малых!*
*Над Беларуссю, ціхай і ветлай,*
*Рассып праменні свае хвалы…*

Адчуйце, якая магутная энергетыка ў гэтых словах. Гэтая энергетыка пранізвае і ўзвышае ўсю залу, калі яна супольна паўтарае словы «Малітвы» за прафесійнымі спевакамі з розных краін пад узнёсла-эмацыйным кіраўніцтвам выдатнага дырыжора Віктара Роўды. На жаль, не ўсе ведаюць словы «Малітвы». Таму аргкамітэту варта было б размножыць яе тэкст і раздаваць тым, хто прыходзіць на адкрыццё і закрыццё фестывалю. Грошы на гэта трэба мізэрныя. А эфект яднання з Богам быў бы варты і буйной сумы.

На маё вялікае здзіўленне і абурэнне, аргкамітэт не толькі не паклапаціўся ўзмацніць гэты клічнік напрыканцы фестывалю, але нават пачаў аслабляць, размазваць гэты элемент. Дванаццаты фестываль заканчваўся «Малітвай» не ў жывым гучанні, а з магнітастужкі. А людзі стаялі (стаялі!), слухалі і не ведалі, падпяваць гэтаму нежывому гучанню ці слухаць моўчкі. Многія сыходзілі, як і я, з пачуццём нейкай разладжанасці і крыўды.

Цяпер вось сяджу і думаю: ці гэта выпадковая памылка, ці тут свядомае імкненне кагосьці (тады каго?) на прыніжэнне гучнасці фестывалю, на размыванне яго духоўнага ўздзеяння на людзей? Спадзяюся ўсё ж, што гэта памылка, якую трэба не дапусціць у наступныя гады.

А каб гэтая дый іншыя памылкі не множыліся, я б раіў уключыць у склад аргкамітэта фестывалю чалавека, які не толькі ведае нашу родную мову, але і карыстаецца ёю ў штодзённым жыцці. Я заўважыў, што такія людзі і лепш ведаюць гісторыю нашай радзімы і лепш адчуваюць духоўную повязь з ёю.

Давайце думаць, як узмацніць уздзеянне фестывалю на магілёўцаў і гасцей горада, як пашыраць кола яго прыхільнікаў, як зрабіць, каб фестываль чакалі, каб на яго спадзяваліся і каб гэтыя спадзяванні праўдзіліся адухоўленымі душамі людзей.

З павагай,

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст*

*Фестываль «Магутны Божа» — цудоўная знаходка магілёўскіх інтэлектуалаў (людзей з асардэчаным розумам — па А. Герцэну; дадам: і з разумнай душой). Можна было б тут пералічыць ініцыятараў, але я не зраблю гэтага, бо — вельмі хочацца лічыць ідэю знаходкай усяго Магілёва. У дні першых фестываляў (а самага першага — найбольш) усе магілёўцы жылі адчуваннем высокадухоўнага свята, высокадухоўнай еднасці. Нават тыя, каму не шчасціла патрапіць на адкрыццё, закрыццё фестывалю ці на конкурсныя праслухоўванні, жылі ўсведамленнем таго, што ў горадзе адбываецца нешта высокае і значнае. Вось куды б павярнуць позірк розных упраўленняў ідэалогіі!*

*Галоўнае было нават не ў тым, што на фестываль прыязджалі выканаўцы з далёкіх краін (Бразілія, Ізраіль, ЗША, Чэхія, Англія ды шмат іншых) і людзі маглі пачуць духоўныя творы на розных мовах у самым выдатным выкананні.*

*Галоўная моц фестывалю вось у чым: на пачатку канцэрта-адкрыцця на сцэну выходзіў хор, узмах рукі Віктара Роўды — і пры цудоўным музычным суправаджэнні хор запяваў: «Магутны Божа! Ўладар Сусветаў…» Уся зала ўставала, Роўда паварочваўся да залы, і пад яго дырыжорскія жэсты спявала зала. Натуральна, спяваў той, хто ведаў словы, але такіх было нямала, і гук хора са сцэны ўліваўся ў гук залы і — было адчуванне, што спявае ўвесь Магілёў, уся Беларусь.*

*Пад канец канцэрта тое ж паўтаралася на яшчэ больш высокай і шчымлівай ноце: усе хоры і выканаўцы, якія ўдзельнічалі ў канцэрце, выходзілі на сцэну, але на сцэне не змяшчаліся і яны выходзілі ў праходы залы, народ (народ!!!) уставаў і… Роўда ўздымаў руку… Усе заціхалі. Гэтая паўза дазваляла ўсім настроіць душу на ўрачыстасць. І ўрэшце пад узмах рукі Дырыжора людзі пачыналі Малітва:*

*«…Над Беларуссяй, ціхай і ветлай,*
*Рассып прамені свае хвалы!..»*

*Спявалі артысты і журналісты, працоўныя і дактары, чыноўнікі (так-так, і яны, хаця й не ўсе), студэнты, настаўнікі, прадпрымальнікі…*

*«…Павагу, сілу і веліч веры*
*У нашу праўду, у прышласць дай!»*

*Спявалі палякі і латышы, амерыканцы і немцы, беларусы і расіяне, іспанцы і яўрэі, спявалі магілёўцы разам з усім светам…*

*«Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай*
*Краіну нашу і наш народ!»*

*Паўза. І выбух воплескаў. Людзі апладзіравалі самі сабе. Апладзіравалі доўга, несціхана. Роўда чакаў. Потым уздымаў рукі — зала заціхала. І пад узмах яго рукі «Малітва» паўтаралася.*

*Гэтак жа пачынаўся і заканчваўся канцэрт-закрыццё.*

*І тое было настолькі ўражлівым, настолькі ўзвышана-кранальным, што я найперш імкнуўся на тыя канцэрты, каб перажыць падобныя хвіліны яшчэ і яшчэ раз.*

*Але ж вось не ўсім падабалася тое духоўнае ўзрушэнне. То з аднаго, то з другога кутка закаркалі вароны: маўляў, «Малітва» напісана фашысцкай прыслужніцай, маўляў, на канцэрты прыходзяць з бел-чырвона-белымі сцяжкамі, маўляў… Гэтае карканне ціснула на аргкамітэт фестывалю, на кіраўнікоў горада. Спыніць, адмяніць фестываль было ўжо немагчыма, падзея стала даволі гучнай. Але «прычасаць» яго, змазаць самыя яркія элементы стараліся. Вось і тут: усенароднае выкананне «Малітвы» было заменена «Малітвай» з магнітастужкі.*

*Уявіце: прышоў чалавек у храм, стаў перад выявай Хрыста, уключыў дыктафон з запісанымі словамі да Бога, пастаяў і пайшоў. Як бы: я ж памаліўся.*

*Адказу на свой ліст да гарадскога галавы я не атрымаў. Фестываль з цягам часу стаў бляклым, нецікавым, маргінальна-непрыкметным, зараз і такі праводзяць не кожны год.*

*І вось «фініта ля камедыя»: у юбілейны для Магілёва год (750-годдзе!) на канцэрты адкрыцця і закрыцця фестывалю «Магутны Божа» квіткі распаўсюджваюць прымусова, па разнарадцы. Гарвыканкам выдаў паперку, якой «рэкамендуе» тое кіраўнікам арганізацый і ўстаноў. Вось яна, «наша» ідэалогія: спачатку аскапіць найвыдатнейшую ініцыятыву, якая магла б з’яднаць людзей у народ, а потым заганяць туды прымусова. А народ такой ласкі не хоча!..*

*«Беда, коль пироги берётся печь сапожник,*
*А сапоги тачаць — пирожник».*

*Іван Крылоў*

# НЯМА ВАКАНСІЙ… 10 ГОД

*18.06.2003 г.* *Загадчыку аддзела адукацыі Цэнтральнага раёна г. Магілёва*

Булавацкага Міхася Пятровіча,

настаўніка матэматыкі вышэйшай катэгорыі,

ЗАЯВА

Прашу працаўладкаваць мяне па спецыяльнасці ў адной з школ вашага раёна.

Звесткі аб сабе як настаўніку. У 1971 годзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. Маю вялікі стаж высокарэзультатыўнай педагагічнай працы…

Удзельнічаў у некалькіх міжнародных канферэнцыях па праблемах выкладання матэматыкі, маю 38 навуковых публікацый па гэтай тэматыцы на чатырох мовах, аўтар вучэбнага дапаможніка па матэматыцы для пятых класаў беларускіх гімназій. Шмат ездзіў па прасторах былога Савецкага Саюза з мэтай пошуку лепшых узораў настаўніцкай творчасці, знойдзеным дзяліўся з студэнтамі і настаўнікамі праз публікацыі ў прэсе і непасрэдныя выступленні (па запрашэннях з розных гарадоў Беларусі, Украіны, Расіі і Казахстана). З 1987 па 1992 г. ажыццяўляў навуковае кіраўніцтва эксперыментальнай працай настаўнікаў г.Мінска па засваенні імі наватарскіх тэхналогій выкладання матэматыкі; па выніках гэтай працы ўзнагароджаны Ганаровай граматай упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама. 16 год быў членам журы абласных матэматычных алімпіяд. Апошнія тры гады — старшыня журы «Беларускага пяціборства»; гэта сумесны праект некалькіх грамадскіх аб’яднанняў і дзяржаўных установ, у тым ліку абласнога ўпраўлення адукацыі і ўніверсітэта імя А. Куляшова (падрабязней — гл. «Настаўніцкую газету», 22.04.2003).

Пажаданні. Маючы III групу інваліднасці, хацеў бы працаваць недалёка ад месца пражывання. Згодны (і нават хацеў бы) працаваць не на поўную стаўку. Мяне задаволяць адзін-два класы.

*29.07.2003* *В.а. загадчыка аддзела адукацыі адміністрацыі Цэнтральнага раёна г. Магілёва Кавалёвай Л.М.*

Паважаная Людміла Міхайлаўна!

18 чэрвеня я накіраваў Вашаму папярэдніку заяву аб сваім працаўладкаванні. Прайшло больш за месяц, але адказу на заяву я не атрымаў. Магчыма, заява дзесьці згубілася. Таму я накіроўваю Вам дублікат заявы. Спадзяюся на станоўчае рашэнне гэтага пытання.

*Булавацкі М.П.*

*3.12.2003* *М. Булавацкі — Пракурору Цэнтральнага раёна г. Магілёва*

Аб невыкананні законаў упраўленнем адукацыі Цэнтральнага раёна г. Магілёва

18 чэрвеня 2003 года я накіраваў поштай на адрас загадчыка аддзела адукацыі Цэнтральнага раёна г. Магілёва заяву аб сваім працаўладкаванні настаўнікам матэматыкі ў адной з школ раёна. Заява была атрымана ўпраўленнем адукацыі 19.06.2003, аб чым я атрымаў паштовае паведамленне. Не дачакаўшыся адказу на сваю заяву, я паўтарыў яе 29 ліпеня 2003 г. Паўторнае пісьмо атрымана аддзелам адукацыі 30.07.2003, аб чым таксама маецца паштовае паведамленне. Але і на гэты раз адказу не атрымаў. 23 кастрычніка 2003 г. я нагадаў загадчыку аддзела адукацыі аб пададзеных заявах, на якія я чакаю адказу. Гэты мой ліст атрыманы аддзелам адукацыі 24.10.2003, аб чым зноў жа маецца паштовае паведамленне. Паўтара месяца новага чакання зноў не прынеслі ніякага выніку. Адказаў упраўленне адукацыі не дае.

Прашу прыняць меры для выканання закону гэтай дзяржаўнай установай.

*23.12.2003* *Пракурор С. Капытоў — М. Булавацкаму*

Сообщаю, что Ваше обращение на незаконные действия работников отдела образования администрации Ленинского района г. Могилева прокуратурой Ленинского района г. Могилева рассмотрено. В ходе проверки, изложенные в Вашем обращении факты, о не направлении в Ваш адрес ответов отделом образования на заявления о трудоустройстве, нашли свое подтверждение.

По результатам проверки в отношении работников отдела образования за допущенные нарушения Закона Республики Беларусь «Об обращениях граждан» прокурором Ленинского района г. Могилева возбуждено дисциплинарное производство, которое для исполнения направлено главе администрации Ленинского района г. Могилева.

*Прокурор Ленинского района г.Могилева советник юстиции С.В. Копытов*

[*Блытаніна з назвамі раёнаў тлумачыцца тым, што Ленінскі і Цэнтральны раёны г. Магілёва злілі ў адзін, пакінуўшы назву Ленінскі; што ж, ленінцы кіруюць Магілёвам. Кастрычніцкі раён хацелі перайменаваць у Задняпроўскі, але й тут пакінулі ленінскае*].

*31.01.2004* *М. Булавацкі — Пракурору Ленінскага раёна г. Магілёва, саветніку юстыцыі Капытову С.В.*

Паведамляю, што адказу на свае заявы з боку аддзела адукацыі Ленінскага (былога Цэнтральнага) раёна г. Магілёва я дагэтуль не атрымаў. Нагадаю: мая заява аб працаўладкаванні была накіравана ў аддзел адукацыі яшчэ напачатку лета 2003 г., потым праз некаторы час паўторана і яшчэ раз дасланы напамін, але на гэтыя тры звароты ніякага адказу не было. На свой зварот у пракуратуру я атрымаў Ваш адказ аб дысцыплінарнай справе, накіраванай для выканання главе адміністрацыі Ленінскага раёна. Я не ведаю, чым скончылася тая дысцыплінарная справа, але ў любым выпадку я хацеў бы атрымаць пісьмовы адказ аддзела адукацыі на сваю заяву. Прашу Вас дапамагчы кіраўніцтву аддзела адукацыі выконваць законы нашай краіны.

*Булавацкі М.П., настаўнік матэматыкі вышэйшай катэгорыі, на дадзены момант беспрацоўны*

*06.02.2004* *Пракурор С. Капытоў — М. Булавацкаму*

Сообщаю, что Ваше обращение прокуратурой Ленинского района г. Могилева рассмотрено.

В дополнение, к ранее направленному в Ваш адрес ответу… сообщаю, что по результатам рассмотрения постановления о возбуждении дисциплинарного производства за допущенные нарушения Закона Республики Беларусь «Об обращениях граждан», направленного прокурором района в адрес главы администрации Ленинского района г. Могилева, главному специалисту отдела образования Ковалёвой В.С. объявлен выговор, заместителю начальника отдела образования Ковалевой Л.М. — замечание.

Кроме того, проведенной проверкой установлено, что на третье Ваше обращение от 23.10.2003 г. отделом образования Вам давался письменный ответ 30.10.2003 г. за № Б-13/3 о том, что свободных вакансий по Вашей специальности на момент обращения в отдел образования администрации Ленинского района г. Могилева не было. Копию данного ответа Вы можете получить там же.

*Прокурор Ленинского района г. Могилева советник юстиции*
*С.В. Копытов*

*3.03.2004 зайшоў у аддзел адукацыі, каб атрымаць копію памянутага С. Капытовым адказу, пагутарыў з В.С. Кавалёвай, загадчыцай аддзела кадраў, якую пакаралі вымовай і дэпрэміраваннем. Жанчына скончыла фізмат на 3–4 гады пазней за мяне, мяне ведае. Патлумачыла, што затрымка з адказам выклікана тым, што хацела мне дапамагчы з працаўладкаваннем і абзвоньвала школы ў пошуках хаця б аднаго класа. Не знайшла.*

*— Ну і чаму не паведамілі мне пра гэта?*

*— Забыла.*

*Але ж было тры заявы — і на ўсе «забыла» адказаць. Адказ на трэцюю нібыта напісаны («*Отдел образования администрации Ленинского района г. Могилева в ответ на Ваш запрос сообщает, что свободных вакансий по Вашей специальности на данный момент нет. При наличии вакансии Вам будет сообщено дополнительно. И.о. начальника отдела образования Ковалёва Л.М.*»), але даслаць мне зноў жа «забылі».*

*Прайшло 5 год…*

*25.05.2009 М. Булавацкі — Загадчыку аддзела адукацыі адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва Гапееву А.М. на №Б-13/3 ад 30.10.2003 г.*

Паважаны Аляксандр Мікалаевіч!

Зараз, калі я ўжо дасягнуў пенсійнага ўзросту, у вас маюцца законныя падставы не прапаноўваць мне працу ў школах раёна. Але мая заява аб працаўладкаванні ляжыць у вашага інспектара па кадрах ужо 6 год і мяне вельмі цікавіць пытанне: чаму на працягу 6 год настаўніку майго ўзроўню не знайшлося магчымасці даць працу хаця б у адным класе? Я пагаджаўся нават на такі варыянт, аб чым гаварылася ў маёй заяве.

«Не было вакансій» — у гэтую стандартную фразу я не паверу, бо ведаю, што выпускнікоў фізіка-матэматычнага факультэта накіроўвалі ў ваш раён, у тым ліку па заяўках аддзела адукацыі. І вось думаю: чаму маладому і яшчэ няўмеламу настаўніку месцы ў школах раёна знаходзяцца, а настаўніка, які мае багацейшы досвед эфектыўнага навучання, туды не пускаюць?

Прашу зразумець мяне правільна. Я не турбуюся пра заробак, бо мае настаўніцкія здольнасці дастатковыя, каб пракарміць мяне і без дзяржаўнай зарплаты. Як індывідуальны прадпрымальнік у галіне адукацыі я зарабляю істотна болей, чым зарабляў бы ў школе. Я турбуюся аб тым, што за той час, за які я навучаю 10–15 чалавек, я мог бы навучыць 50–80 вучняў і навучыць на дастаткова высокім узроўні. Я турбуюся аб тым, што мае немалыя настаўніцкія здольнасці не маюць запатрабавання ў дзяржаўных структурах адукацыі.

Любая дзяржава (калі гэта нармальная дзяржава) павінна быць зацікаўленай, каб яе грамадзяне атрымлівалі самую якасную адукацыю. Няўжо наша дзяржава ў гэтым сэнсе адрозніваецца ад іншых дзяржаў? Ці, магчыма, я нечага не разумею. Тады патлумачце, калі ласка.

*Булавацкі Міхась Пятровіч, настаўнік вышэйшай катэгорыі, аўтар двух вучэбных дапаможнікаў і некалькіх дзясяткаў публікацый па праблемах навучання матэматыцы, экс-кіраўнік творчай групы настаўнікаў пры Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, навуковы кіраўнік эксперыментальнай працай настаўнікаў г.Мінска па засваенні імі наватарскіх тэхналогій навучання, удзельнік некалькіх міжнародных канферэнцый па праблемах выкладання матэматыкі...*

*09.06.2009* *А. Гапееў — М. Булавацкаму*

На Ваше обращение отдел образования администрации Ленинского района г. Могилева сообщает, что в школах района на протяжении последних пяти лет вакансий учителей математики не было.

Одновременно сообщаем, что заявок на молодых специалистов в МГУ им. А.А. Кулешова и другие ВУЗы Республики Беларусь отдел образования не дает.

В школах района работают десятки опытных учителей математики, результаты работы которых известны на уровне Республики.

В случае несогласия с данным ответом Вы вправе обратиться в отдел образования Могилевского горисполкома.

*Начальник отдела образования администрации Ленинского района г. Могилева А.Н. Гапеев*

*Такая ж гісторыя з другім раёнам г. Магілёва*

*19.06.2003 г.* *Галаве адміністрацыі Кастрычніцкага (ці ўжо Задняпроўскага?) раёна г. Магілёва Лебедзеву Я.А.*

Паважаны Яўген Аляксеевіч!

Наша з Вамі апошняя сустрэча закончылася Вашым абяцаннем запрасіць мяне ў канцы мая на паседжанне, прысвечанае планаванню працы школ раёна. Там меркавалася разгледзець і праблему адкрыцця ў раёне беларускага класа.

Зараз ужо заканчваецца чэрвень, але Вашага запрашэння я, на жаль, не дачакаўся. Магчыма, Вы забылі пра гэта ў мітусні сваіх спраў, не палічыўшы праблему дастаткова важнай, магчыма, нешта іншае перашкодзіла.

Тады я прапаную паспрабаваць вырашыць праблему з іншага боку. Летам, як звычайна, ідзе ратацыя кадраў у школах. Вы прымаеце мяне на працу ў адну з школ раёна — натуральна не дырэктарам, а настаўнікам матэматыкі — і праз год у гэтай школе будзе адкрыты беларускі клас. Будзе адкрыты са згоды бацькоў і, спадзяюся, пры падтрымцы дырэктара. Думаю, што знойдзецца дырэктар, які захоча, каб у яго школе працаваў настаўнік з такімі заслугамі ў выкладанні матэматыкі, і знойдуцца бацькі, якія захочуць, каб іх дзеці атрымалі якасную матэматычную адукацыю.

Пажадана, каб абраная школа была размешчана па праспекце Пушкіна, куды зручна будзе пад'язджаць і мне, і вучням з іншых мікрараёнаў. Для аблягчэння рашэння паведамлю, што я не прэтэндую на поўную стаўку, мне дастаткова мець **адзін клас.**

Спадзяюся, Вы разам з А.І. Лысовым знойдзеце правільнае рашэнне. Заяву на імя загадчыка аддзела адукацыі я напісаў.

З добрымі пажаданнямі,

*М. Булавацкі*

*19.06.2003 г.* *Загадчыку аддзела адукацыі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Булавацкага Міхася Пятровіча, настаўніка матэматыкі вышэйшай катэгорыі,*

ЗАЯВА

Прашу працаўладкаваць мяне па спецыяльнасці ў адной з школ вашага раёна.

*І далей — той жа тэкст, што і Ленінскаму загадчыку.*

*9.09.2003 г.* *Абласная арганізацыя ТБМ — Загадчыку аддзела адукацыі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Лысову А.І.*

Шаноўны Аляксандр Іванавіч!

Да Вас звяртаўся намеснік старшыні абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы Булавацкі М.П., вядомы ў горадзе і за яго межамі настаўнік матэматыкі, з просьбай аб яго працаўладкаванні. Звяртаўся двойчы: 19 чэрвеня і 29 ліпеня г.г. Другі яго ліст адпраўлены заказным пісьмом і атрыманы аддзелам адукацыі 30 ліпеня. Прайшло ўжо паўтара месяца, але Вашага адказу ён чамусьці не атрымаў.

Нагадваем, што Міхась Пятровіч прасіў працаўладкаваць яго не на поўную стаўку (ён быў бы задаволены і адным класам) у адной з школ Кастрычніцкага раёна, дзе яго добра ведаюць: ён там ужо працаваў і яго вучні былі сярод пераможцаў абласных матэматычных алімпіяд, а некаторыя яго былыя студэнты выкладаюць матэматыку ў школах вашага раёна.

Таварыства беларускай мовы зацікаўлена ў станоўчым вырашэнні гэтага пытання, бо супрацоўніцтва з адным з найактыўнейшых сяброў нашай арганізацыі дапамагло б кіраўніцтву Вашага раёна прыступіць да выканання пастановы № 48 Міністэрства адукацыі (ад 27.08.2001 г.), якая дагэтуль у вашым раёне, па словах М. Булавацкага, чамусьці не выконваецца. Магчыма, ён памыляецца?

Просім даць адказ спадару Булавацкаму М.П. на яго заяву і абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы на гэты ліст. Спадзяемся, што гэта будзе зроблена ў вызначаны законам час. У адказе Таварыству просім патлумачыць яшчэ і такое пытанне: у Кастрычніцкім раёне нібыта маецца нацыянальная гімназія. Які адрас гэтай гімназіі і якая сутнасць укладваецца ў тэрмін «нацыянальная»?

*Лебедзева Н.М., старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны»*

*26.09.2003 г.*

*Председателю Могилевской областной организации общественного объединения «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Лебедевой Н.Н.*

Уважаемая Наталья Николаевна!

Отдел образования администрации Октябрьского района г. Могилева по существу Вашего обращения сообщает следующее.

Трудоустроить Буловацкого М.П. учителем математики в одну из школ района не представляется возможным, т.к. учителя математики в школах района имеют недельную нагрузку не более 20 часов в неделю, и в 2003 в район направлены на работу трое молодых специалистов по специальности: математика и информатика, математика и физика.

В связи с отсутствием вакансий молодые специалисты приняты на работу учителями математики с неполной недельной нагрузкой, с их согласия.

Также следует отметить, что одному учителю математики была предложена другая педагогическая работа в связи с сокращением его штатной единицы в одной из школ района.

В своем обращении Вы задаете вопрос: почему гимназия называется «национальной»? Регламентируют работу учреждения Устав гимназии и еще 26 нормативных акта. У нее имеется свой герб, гимн (автор — Нил Гилевич).

Основополагающей программой является «Праграма нацыянальнага выхавання», через которую проходят все учащиеся 1-х-11-х классов. Изучается культура, история, музыка, литература Беларуси. Творческим отчетом изученного за год является фестиваль «Беларускае сузор е».

Национальная гимназия, как и все учреждения образования, подведомственные отделу, осуществляют свою деятельность в соответствии с законодательными актами в сфере образования.

*Начальник отдела образования С.Н. Козлов*

*11.11.2003 г.* *Буловацкому М.П.*

Уважаемый Михаил Петрович!

Отдел образования администрации Октябрьского района г. Могилева сообщает, что трудоустроить Вас учителем математики в одну из школ района не представляется возможным, т.к. учителя математики в школах района имеют недельную нагрузку не более 20 часов.

В связи с отсутствием вакансий один учитель математики переведен на другую педагогическую работу и молодые специалисты, направленные в район в 2003 году после окончания учреждения образования «Могилевский государственный университет», приняты на работу учителем математики с недельной нагрузкой, с их согласия.

*И.о. начальника отдела Е.П. Билан*

*Прайшло больш за 5 год.*

*28.05.2009 г. М. Булавацкі — Загадчыку аддзела адукацыі адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г.Магілёва Курсакову А.Я.*

Паважаны Аляксандр Яўгенавіч!

Зараз, калі я ўжо дасягнуў пенсійнага ўзросту, у вас маюцца законныя падставы не прапаноўваць мне працу …

*І далей тэкст, аналагічны тэксту на імя Ленінскага загадчыка.*

*12.06.2009 г. Буловацкому М.П.*

Уважаемый Михаил Петрович!

На Ваше письменное обращение по поводу Вашего трудоустройства отдел образования администрации Октябрьского района сообщает следующее.

На Ваше обращение в 2003 году Вам был дан ответ в установленный законодательством срок [*хлусіць Курсакоў і не чырванее: адказ атрыманы толькі праз сто дзён і толькі пад націскам кіраўніка ТБМ — гл.вышэй*], в котором Вам было разъяснено: при наличии достаточного количества запросов учащихся и их законных представителей может быть организовано обучение на белорусском языке.

По состоянию на 2008–2009 учебный год, как и в предыдущие годы, таких запросов не поступало.

Правом первоочередного приема на работу в учреждения образования пользуются выпускники УО «МГУ им. А.А.Кулешова» согласно полученной специальности [*вось як! — нявопытны, няўмелы настаўнік мае перавагу перад вопытным і ўмелым!*].

В общеобразовательных учреждениях района работают высококвалифицированные кадры по специальности «Математика», имеющие высшую и первую квалификационную категорию учителя и достигшие высоких результатов в подготовке учащихся на областных, республиканских олимпиадах, а также конкурсах по учебных предметам.

Согласно статье 14 Закона «Об обращениях граждан» Республики Беларусь, Вы имеете право обжаловать решение, принятое по Вашему обращению, в вышестоящую инстанцию — отдел образования Могилевского горисполкома…

*Начальник отдела образования А.Е. Курсаков*

*Што можна сказаць усім гэтым адукацыйным начальнікам беларускага горада Магілёва, якія не валодаюць мовай народа, да якога яны нібыта адносяцца? Не толькі не валодаюць, але й грэбуюць гэтай мовай, бо нават ліст на імя кіраўніка Таварыства беларускай мовы не змаглі напісаць правільнай мовай. Яны чамусьці лічаць, што ў ТБМ іхнюю мову абавязкова павінны ведаць і разумець. Цалкам вытлумачальна, чаму вывучэнне роднай мовы ў пераважнай большасці школ Магілёва на самым нізкім узроўні. Навошта тая мова вучню, калі яна не патрэбна начальніку!*

*З мовай так, а як з матэматыкай? «В школах района работают десятки опытных учителей математики, результаты работы которых известны на уровне Республики». З некалькіх сотняў магілёўскіх настаўнікаў — два дзясяткі, вядомых на ўзроўні рэспублікі. Гэта што — ужо перабор? Яшчэ адзін вядомы на ўзроўні рэспублікі будзе лішнім? А ў астатніх сотняў настаўнікаў, невядомых на ўзроўні рэспублікі, дзеці вучацца-вучацца, а потым бацькі вядуць іх да рэпетытараў давучвацца за немалыя грошы.*

*Тут як бы сацыяльная справядлівасць: адны вучаць, не навучаючы, другія давучваюць — і ўсе пры справе, і ўсе пры заробку! Але гэта сумны жарт.*

*Толькі ж іншай адукацыі ад гэткіх начальнікаў не дачакацца.*

# МОВА «НЕ ПОДЛЕЖИТ РАССМОТРЕНИЮ»

*Пенсія — шчаслівы вольны перыяд жыцця. Ніхто табою не кіруе, не камандуе, што рабіць. Рабі, што сам хочаш. Хочаш — спі, хочаш — футбол глядзі хоць увесь дзень. А што грошай мала, бо пенсія маленькая, — дык нашто галава? Процьма вольнага часу — зарабляй!*

СВИДЕТЕЛЬСТВО
о государственной регистрации
индивидуального предпринимателя

**Адміністрацыяй Ленінскага раёна г.Магілёва**
**рашэннем ад 28 верасня 2007г. № 19-1**
**зарэгістраваны**

**Булавацкі Міхась Пятровіч**

**пражываючы(ая) па адрасу:** г.Магілеў,
вул.Ленінская, д.33, п.317
**у якасці індывідуальнага прадпрымальніка**
у Адзіным дзяржаўным рэгістры
юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў за

**Намеснік**
**кіраўніка адміністрацыі**

Подпись должностного лица
регистрирующего органа
**В.Р. Лаўрыновіч**

М. П.

Дата выдачы пасведчання
«17» кастрычніка 2007 г.

Серия ИП № 0132162



774 Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь
па Ленінскім р-не г. Магілева N2

ПАВЕДАМЛЕННЕ
АБ ПРЫСВАЕННІ УЛІКОВАГА НУМАРА ПЛАЦЕЛЬШЧЫКА

1. Уліковы нумар плацельшчыка 790418169
2. Поунае найменне (прозвішча,імя,імя па бацьку) плацельшчыка
Індывідуальны прадпрымальнік Булавацкі Міхась Пятровіч

3. Скарочанае найменне плацельшчыка Булавацкі Міхась Пятровіч

4. Месца знаходжання,месца жыхарства г.Магілеу вул.Ленінская,33, п. 317

Дата уключэння у Дзяржауны рээстр плацельшчыкау падаткау,
збораў (пошлін) (іншых абавязаных асоб) 03.10.2007

Начальнік (намеснік начальніка,
упаунаважаная пасадавая асоба)
інспекцыі Міністэрства па падатках
і зборах Рэспублікі Беларусь па
Ленінскім р-не г. Магілева N2

(подпіс) (прозвішча,ініцыялы)

М.П.

*Што я магу рабіць добра? — вучыць матэматыцы. Ці трэба гэта каму-небудзь? Выяўляецца, што трэба, ды яшчэ як! Прафесіянал у выкладанні матэматыкі на пенсіі можа мець някепскі дазаробак. Вось і я вырашыў скарыстаць свой прафесіяналізм і досвед, аформіўся як індывідуальны прадпрымальнік (ІП) у галіне адукацыі.*

*ІП павінен весці сваё справаводства. На якой мове гэта рабіць — у мяне пытання не было. Я ж — беларус. Але пытанні паўсталі адразу.*

*Пасведчанне мне выдалі двухмоўнае. Калі я прапанаваў раённай адміністрацыі зрабіць той жа бланк на беларускай мове, то атрымаў катэгарычную адмову. Вось, здавалася ж, у нас дзве дзяржаўныя мовы, няхай будзе бланк на адной і на другой мове, тым болей, што другі бланк чалавек гатовы зрабіць безаплатна. Але нават і безаплатна не трэба. Цікавае двухмоўе.*

*Далей пачаліся мае кантакты з падатковай інспекцыяй. Паперку аб прысваенні ўліковага нумара плацельшчыка падаткаў мне напісалі на рускай мове, але я адмовіўся яе атрымліваць. Беларускамоўную пісалі болей за месяц і першы раз напісалі з памылкамі. Наступную выдалі амаль без памылак, калі не лічыць па-*

*мылкамі* **ё** *без кропачак (у нашай мове гэта памылка) і* **у** *замест* **ў** *(не змаглі актывізаваць беларускую мову на камп'ютары).*

*Паведамілі, што я павінен набыць кнігу заўваг і прапаноў і кнігу праверак і рэвізій, якія павінны быць зарэгістраваны ў падатковай інспекцыі.*

*Кнігу заўваг і прапаноў я набыў, пазней толькі спахапіўся, што яна на рускай мове. Таму, калі пайшоў набываць кнігу праверак і рэвізій, папрасіў на нашай мове. Але такіх, як выявілася, няма, не друкуюць на нашай мове. Саветам Міністраў нібыта распрацаваны і зацверджаны толькі рускамоўны варыянт. Давялося патурбаваць Савет Міністраў.*

*10.01.2008 г.* *Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь*

Да вас звяртаецца індывідуальны прадпрымальнік Міхась Булавацкі.

Адпаведна з пастановай СМ РБ № 1284 ад 09.10.2007 г. «Аб вядзенні юрыдычнымі асобамі і індывідуальнымі прадпрымальнікамі кнігі ўліку праверак (рэвізій)», мне як індывідуальнаму прадпрымальніку ўменена ў абавязак набыць такую кнігу. Як беларусу, які жыве ў Беларусі і які вядзе сваю дакументацыю на роднай мове, мне хацелася б набыць гэтую кнігу на беларускай мове. Але мне патлумачылі, што СМ РБ распрацаваў форму такой кнігі чамусьці толькі на рускай мове, і таму на беларускай мове «Белбланквыд» яе не выдае. Дарэчы, такая ж праблема ўзнікае і з кнігай заўваг і прапаноў, і з квітанцыямі, і з прыходнымі касавымі ордэрамі, і з іншай дакументацыяй.

Прашу выправіць гэтую ненармальнасць, якая, дарэчы, парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Прашу даслаць выдавецтву «Белбланквыд» форму кожнага неабходнага дакумента на нашай роднай мове, каб любы індывідуальны прадпрымальнік ці юрыдычная асоба мелі магчымасць набываць іх на любой з дзвюх дзяржаўных моў нашай краіны.

Да таго часу, пакуль такія формы дакументаў не будуць выдадзены для выкарыстання іх індывідуальнымі прадпрымальнікамі, прашу дазволіць мне завесці самаробную «Кнігу ўліку праверак (рэвізій)» на беларускай мове.

*Булавацкі Міхась Пятровіч*

*30.01.2008 г.* *Міністэрства па падатках і зборах — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Міністэрства па падатках і зборах па даручэнні Апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь разгледзела Ваш зварот… і паведамляе наступнае.

Кнігі ўліку праверак (рэвізій), якія прадстаўляюцца ў падатковыя органы для засведчання і ўнясення ў электронны банк дадзеных, павінны адпавядаць патрабаванням заканадаўства (устаноўленай форме макету кніг з прадстаўленай тыпаграфскім спосабам нумерацыяй) з мэтай ажыццяўлення ўліку з выкарыстаннем камп'ютарных сродкаў.

Улічваючы, што дадзеную кнігу набываюць усе суб'екты гаспадарання, у тым ліку з замежным удзелам, кнігі ўліку праверак (рэвізій), а таксама іншыя бухгалтарскія дакументы, надрукаваны ў адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь на адной з дзяржаўных моў (рускай).

Калі Вы жадаеце набыць дадзеную кнігу на беларускай мове, то Міністэрства па падатках і зборах можа задаволіць Вашу просьбу шляхам размяшчэння адпаведнага заказу на друкаванне кнігі ў РУП «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах», але гэта патрабуе дадатковых сродкаў.

*Намеснік Міністра В.Б. Каменка*

*5.02.2008 г.* *М. Булавацкі — Намесніку міністра В. Каменку*

Паважаны Васіль Барысавіч!

Апошні абзац Вашага адказу пачынаецца словамі «Калі Вы жадаеце набыць дадзеную кнігу на беларускай мове…» Жадаю. І не толькі гэтую кнігу. Яшчэ кнігу заўваг і прапаноў, бланкі квітанцый, прыходных ордэраў і іншую неабходную для маёй працы дакументацыю. Усё на беларускай мове.

Ведаеце, мне пашчасціла нарадзіцца ў краіне з назвай Беларусь. Усё беларускае для мяне роднае, мова асабліва. І я хацеў бы, каб гэтыя мае пачуцці паважаліся маімі суайчыннікамі, асабліва тымі, ад каго так ці інакш залежыць мая жыццядзейнасць. Ад вашага Міністэрства і ад Вас як аднаго з яго кіраўнікоў яна залежыць. Нават калі Вы ўжо не адчуваеце сябе беларусам і Вам «да лямпач-

кі» (вельмі спадзяюся, што гэта не так), будзе жыць і развівацца наша мова ці не будзе, Вы павінны ведаць, што ў Беларусі яшчэ шмат людзей, каму гэтае беларускае баліць.

Канстытуцыя краіны, пра якую Вы ўспамінаеце, зацвердзіла роўнасць дзвюх дзяржаўных моў. Нагадаю, што Канстытуцыя прымалася на рэферэндуме, на якім адно з пытанняў гучала прыблізна так: «Ці згодныя Вы, каб руская мова ў нашай краіне набыла статус, роўны з беларускай мовай?» Народ адказаў: так, згодны. **На роўных**! Вось і рабіце, як сказаў народ: на роўных. Аднак сёння шмат хто з кіраўніцтва розных міністэрстваў гэты прынцып роўнасці фарысейскі замяняе нейкім дзіўным правам выбару. Дзіўным таму, што ў аднаго боку (у рускамоўнай часткі насельніцтва) гэты выбар заўсёды ёсць, а ў другога (у беларускамоўных людзей) яго амаль ніколі няма. Вось і тут: вы паклапаціліся пра рускамоўных прадпрымальнікаў і нават пра замежных, а пра нас, родных беларусаў, гаспадароў гэтай зямлі, забылі. Што ж гэта за самаедства такое!

Артыкул 17 Канстытуцыі, на які Вы спасылаецеся, не дае ніякай перавагі якой-небудзь мове («Дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы», — вось поўны тэкст гэтага артыкула). У дзейнасці ж вашага (на жаль, не толькі вашага) Міністэрства гэтыя дзве мовы зусім не роўныя. Выпраўляйцеся, шаноўныя! Мы, беларусы, яшчэ не згінулі.

І чытайце, калі ласка, іншыя артыкулы нашай Канстытуцыі, напрыклад, артыкул 2 або 21–23, дзе гаворыцца аб правах чалавека, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь (гэта значыць, аб маіх правах), забеспячэнне якіх «з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы». Няўжо ж вы прымусіце мяне абараняць свае правы праз суд?

Натуральна, што друкаванне памянутай дакументацыі на беларускай мове «патрабуе дадатковых сродкаў», але спадзяюся, што Вы не мелі на ўвазе, быццам гэтыя сродкі павінен шукаць я. Калі Міністр не можа знайсці сродкаў, каб выконваць Канстытуцыю, то такі Міністр павінен саступіць месца іншаму чалавеку.

А да таго часу, пакуль Міністэрства знойдзе сродкі і надрукуе патрэбную дакументацыю на тытульнай мове нашай краіны, прашу дазволіць мне як часовую меру завесці самаробныя «Кнігу ўліку праверак (рэвізій)» і «Кнігу заўваг і прапаноў» адпаведна распрацаваным формам гэтых дакументаў, якія будуць зарэгістраваны ў раённай інспекцыі вашага Міністэрства.

Спасылка на камп'ютарныя сродкі мне таксама незразумелая. Я доўгі час працую з камп'ютарам і ведаю, што беларуская мова там падтрымліваецца гэтак жа, як і руская. Калі вашы праграмісты не маюць досведу працы з беларускай мовай, дык знайдзіце іншых. Жыў бы я ў Мінску, я б сам зайшоў да вас і зрабіў бы беларускамоўныя формы дакументацыі. Але ў Мінску і без мяне такіх спецыялістаў хапае.

Спадзяюся, што ў нас з вамі знойдзецца паразуменне.

*Міхась Булавацкі*

*13.02.2008 г.* *В. Каменка — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Міністэрства па падатках і зборах разгледзела Ваш зварот ад 05.02.2008 па пытанні вядзення кнігі ўліку праверак (рэвізій) і кнігі заўваг і прапаноў на беларускай мове.

У мэтах выканання дзеючага заканадаўства Міністэрства лічыць магчымым задаволіць Вашу просьбу праз набыццё вышэй указаных кніг па зацверджаных формах на рускай мове, зрабіць пераклад зместу на беларускую мову і ўчыніць адпаведныя запісы па тэксту.

*Намеснік Міністра В.Б. Каменка*

*19.02.2008 г.* *М. Булавацкі — В. Каменку*

Паважаны Васіль Барысавіч!

Мы з Вамі перапісваемся на адной мове, а ўражанне такое, нібыта на розных. І Вы ніяк не хочаце мяне зразумець.

**Я не буду набываць** кнігу ўліку праверак (рэвізій) і кнігу заўваг і прапаноў **на рускай мове**.

А да таго часу, пакуль у мяне з'явіцца магчымасць набыць іх на нашай роднай мове, ужо трэці раз прашу дазволіць мне завесці тыя кнігі ў самаробным выглядзе з адпаведнымі запісамі і зарэгістраваць у раённай інспекцыі вашага Міністэрства.

Пры гэтым ніякага заканадаўства парушана не будзе. Бо тое, што выдае тое ці іншае Міністэрства ці нават Савет Міністраў, законамі не з'яўляецца. Законы прымаюць абраныя народам дэпутаты, а не міністры. Неяк дзіўна, што мне даводзіцца гэта тлумачыць Намесніку Міністра.

Гаворка ідзе пра тое, што нейкі дакумент, выдадзены вашым Мінсітэрствам, не цалкам адпавядае Канстытуцыі нашай краіны (мяркую, што такі дакумент не адзіны). Менавіта гэта і выклікае ў мяне патрэбу звярнуцца да Міністэрства з вышэйзгаданай просьбай.

Спадзяюся, што чацвёрты раз мне не прыдзецца турбаваць Вас.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, індывідуальны прадпрымальнік*

*27.02.2008 г.* *В. Каменка — М. Булавацкаму*

Уважаемый Михаил Петрович!

Министерство по налогам и сборам сообщает, что Ваше обращение от19 февраля 2008 года не подлежит рассмотрению.

Ваши письма от 10.01.2008 и от 05.02.2008 по вопросу ведения книги учета проверок (ревизий) и книги замечаний и предложений на белорусском языке были предметом рассмотрення в Министерстве по налогам и сборам и по ним даны ответы.

В целях соблюдения действующего законодательства Министерство по налогам и сборам посчитало возможным удовлетворить Вашу просьбу путем приобретения данных книг по утвержденным формам на русском языке, сделать перевод их содержания на белорусскнй язык и соответствующие записи по тексту.

В связи с тем, что в Вашем обращении не приводятся новые доводы или вновь открывшиеся обстоятельства, в соответствии со статьей 12 Закона Республики Беларусь «Об обращениях граждан», обращение от 19.02.2008 является необоснованным и рассмотрению не подлежит.

Переписка с Вами по данному вопросу прекращается.

*Заместитель Министра В.Б. Каменка*

*Намеснік Міністра раз'ятрыўся настолькі, што вырашыў не цырымоніцца з беларускай мовай, напісаў на расійскай. Ты хочаш кнігу праверак на сваёй мове? — купляй на мове нашай, потым перакладай, мы гэта табе літасціва дазваляем. Падзякаваць бы за дазвол, але ж навошта мне дзве кнігі праверак, навошта дзве кнігі заўваг і прапаноў?*

*У раённай інспекцыі я паказаў ліст В. Каменкі і сказаў, што кнігу праверак на рускай мове я набываць не буду. «Дык мы ж вас аштрафуем!» — «Штрафуйце. Гэта будзе вельмі гучны судовы працэс, бо судзіць будзем мову».*

*Не ведаю, што там было, калі я пайшоў, раіліся мае інспектары з кім ці не раіліся, але аштрафаваць мяне «забылі». Так і працаваў увесь час без кнігі праверак і рэвізій, парушаючы міністэрскую інструкцыю.*

*Зараз думаю: дарэмна я папярэдзіў пра судовы працэс. Няхай бы штрафанулі, і мы б яшчэ раз паразмаўлялі ў зале беларускага суда. Большая імавернасць, што працэс скончыўся б не на маю карысць, але тут важны прэцэдэнт.*

*10.01.2008 г.* *М. Булавацкі — Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь*

Я, індывідуальны прадпрымальнік, па нацыянальнасці беларус, жыву ў Беларусі і працую ў Беларусі, таму натуральна, што мая дакументацыя вядзецца на беларускай мове. Лічу, што такое павінна быць нормай у нашай краіне. Але падатковая інспекцыя, спасылаючыся на Міністэрства фінансаў, не выдае мне бланкі патрэбных дакументаў на беларускай мове (копіі некаторых з іх на адваротным баку гэтага аркуша). Тлумачыцца гэта тым, што Міністэрства фінансаў перадае выдавецтву «Белбланквыд» формы адпаведных дакументаў толькі на рускай мове. Але ж такое грэбаванне нашай мовай з'яўляецца прамым парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Прашу Міністэрства фінансаў распрацаваць беларускамоўныя бланкі ўсёй дакументацыі, патрэбнай індывідуальным прадпрымальнікам і юрыдычным асобам, і перадаць адпаведныя формы ў «Белбланквыд» для іх раздрукавання.

*31.01.2008 г.* *Минфин — ИП Булаватский М.П.*

Управление методологии бухгалтерского учета и отчетности Министерства финансов Республики Беларусь рассмотрело Ваше письмо и сообщает следующее.

В соответствии со статьей 9 Закона Республики Беларусь «О бухгалтерском учете и отчетности» первичные учетные документы могут составляться как на русском, так и белорусском языке.

Что касается изготовления бланков первичных учетных документов на белорусском языке, то по информации Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь, на который возложены функции организации производства бланков первичных учетных документов и регистров бухгалтерского учета, заявок на изготовление бланков или регистров на белорусском языке от органов государственного управления, организаций, индивидуальных предпринимателей не поступало.

*Заместитель начальника Управления А.В. Крупнова*

*22.02.2008* *Дэпартаменту дзяржаўных знакаў*

Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь

Для вядзення фінансавай дакументацыі беларускімі прадпрымальнікамі прашу вырабляць бланкі першасных уліковых дакументаў і рэгістраў бухгалтарскага ўліку на беларускай мове.

*Індывідуальны прадпрымальнік Булавацкі М.П.*

*3.03.2008 г.* *Индивидуальному предпринимателю Булавацкому М.П.*

Об изготовлении финансовых документов

Департамент государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь, рассмотрев Ваше письменное обращение от 22.02.2008 г. по вопросу ведения финансовой документации предпринимателями на белорусском языке и изготовления бланков первичных учетных документов и регистров бухгалтерского учета на белорусском языке, в рамках своей компетенции сообщает следующее.

Согласно статьи 17 Конституции Республики Беларусь, государственными языками в Республике Беларусь являются белорусский и русский языки.

Департамент государственных знаков Министерства финансов согласно действующему законодательству обеспечивает организацию изготовления бланков строгой отчетности, в том числе и бланков первичных учетных документов, и их защиту от подделки, по заявкам и формам, утверждаемым эмитентами бланков (республиканскими органами государственного управления, иными государственными организациями, подчиненными Правительству Республики Беларусь, облисполкомами, Минским горисполкомом в пределах своей компетенции и юридическими лицами и индивидуальными предпринимателями в рамках осуществляемой ими деятельности). Решение о выборе языка для формы бланка принимается эмитентами бланков.

При принятии эмитентами решения об изготовлении бланков на белорусском языке, Департамент государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь готов в соответствии с действующими нормативными правовыми актами обеспечить изготовление бланков строгой отчетности на белорусском языке. Вопрос заполнения бланков на белорусском и русском языках должен быть предусмотрен в инструкциях по их заполнению, утверждаемых эмитентом одновременно с утверждением форм бланков.

*Заместитель директора В.Н. Беляков*

*1.03.2008 г.* *Председателю ОО «Общество белорусского языка имени Ф.Скорины» Трусову О.А.*

Уважаемый Олег Анатольевич,

Министерство финансов Республики Беларусь в связи с обращениями индивидуального предпринимателя Булаватского М.П. сообщает следующее.

Министерство финансов Республики Беларусь, а также другие республиканские органы государственного управления, подчиненные Совету Министров Республики Беларусь, осуществляющие методологическое руководство бухгалтерским учетом и отчетностью организаций соответствующих отраслей экономики, разрабатывают и утверждают формы бланков первичных учетных документов, в том числе, и относящихся к бланкам строгой отчетности.

Поскольку в соответствии со статьей 8 Закона Республики Беларусь «О бухгалтерском учете и отчетности» документирова-

ние хозяйственных операций, ведение регистров бухгалтерского учета и составление бухгалтерской отчетности осуществляются на русском или белорусском языке, то и бланки первичных учетных документов могут быть напечатаны на русском или белорусском языке. Выбор языка, на котором ведется делопроизводство, а также выбор языка, на котором печатаются бланки первичных учетных документов, зависит от желания субъекта хозяйствования. Он же является и заказчиком бланков.

В связи с этим, РУП «Издательство «Белбланкавыд» обеспечит изготовление бланков первичных учетных документов на платной основе по заявкам пользователей как на русском, так и белорусском языке в зависимости от их желания.

С уважением,

*заместитель Министра И.С. Шунько*

*Маўляў, плаціце — зробім! А. Трусаў не заўважыў гэтай цікавай акалічнасці, і ў «Нашым слове» з'явіўся гэты адказ намесніка Міністра з бравурным воклічам: заказвайце — надрукуюць пабеларуску! Але ж справа ў тым, што беларускамоўную форму дакумента, якую я змог бы зрабіць хутка і бясплатна,* ***там*** *зробяць за такую суму, што махнеш рукой і скажаш: не трэба.*

*Рускамоўную форму ім ніхто не заказваў, яе распрацавалі непасрэдна ў міністэрстве. І далей людзі плоцяць невялікія грошы за капіяванне. Такія грошы і я гатовы плаціць за беларускую форму. Але ж мне налічаць за распрацоўку макета, за дызайн, за дадатковую працу аператара і г.д. Налічаць за любы ківок пальцам, каб было як мага болей з адзінай мэтай: каб такія, як я, надалей не рыпаліся з сваёй мовай.*

*Дарэчы, у адказе на маё імя пра плату не ўпамянулі* («Департамент государственных знаков… готов в соответствии с действующими нормативными правовыми актами обеспечить изготовление бланков строгой отчетности на белорусском языке»). *Дэпартамент гатовы, але сунься туды індывідуальны прадпрымальнік з радасным воклічам «Зрабіце мне!», яму налічаць плату за гэтае «зрабіце» такую, што больш яму звяртацца ў дэпартамент не захочацца. А захочаш зрабіць гэта самастойна і падарыць ім бясплатна, — адмовяцца. «На фіг нам ваша мова! Нам і без яе добра!»*

# ЗА ЎСІХ ЖЫВЫХ ЖЫВЕЙШЫ!

Гвозди бы делать из этих людей:
Крепче бы не было в мире гвоздей.

*Николай Тихонов*

*Калі плошчу Леніна ў Мінску перайменавалі ў плошчу Незалежнасці, то і адпаведную станцыю метро сталі аб'яўляць як «Плошчу незалежнасці». Але праз некаторы час у вагоне метро пачуў: «Наступная станцыя — Плошча Леніна». Здзіўлены, падышоў да службовай асобы, высветліў, што гэта не памылка, і зрабіў запіс у кнізе заўваг і прапаноў. Атрымаў адказ ад намесніка начальніка станцыі. Захацелася пачуць меркаванне ад больш высокай асобы.*

*Снежань 2009 г.* *М. Булавацкі — КУП «Мінскі метрапалітэн»*

Наконт перайменавання станцыі «Плошча Леніна»

Начальнік станцыі Н.Чарнега паведаміў мне, што перайменаванне станцый метрапалітэна ажыццяўляецца рашэннем Мінгарвыканкама. Гэта сапраўды так. Але гарвыканкам прымае рашэнне на падставе прапановы кіраўніцтва станцыі ці кіраўніцтва метрапалітэна. Такіх прапаноў ім не паступала. Дык прапануйце, калі ласка. Лічу мэтазгодным, калі станцыя «Плошча Леніна» стане называцца або адпаведна плошчы, ля якой знаходзіцца (станцыя «Плошча Незалежнасці»), або, яшчэ лепш, станцыя «Вакзальная». Сучасная ж назва — гэта нейкі дзікі анахранізм.

І яшчэ адно. Кнігу заўваг і прапаноў на беларускай мове вы не заказвалі. Закажыце, калі ласка. Запаважайце крыху нас, беларусаў. Мы ўсё ж жывём на сваёй зямлі, а вымушаны выпрошваць ласкі расійскай. Вось і вашы бланкі зроблены не на беларускай мове, вось і вашы супрацоўнікі беларускай мовай грэбуюць.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст*

*Адказу не было.*

*26.08.2010 г. М. Булавацкі — Кіраўніцтву Мінскага гарвыканкама*

Летам мне давялося быць у Мінску і ехаць у метро. Здзівіла назва станцыі «Плошча Леніна». Наколькі мне вядома, такой плошчы у Мінску няма. Тады навошта ўзводзіць людзей у зман? На мой погляд, правільней было б назваць тую станцыю «Вакзальная», што было б вельмі зручна для людзей, якія прыязджаюць у Мінск.

З такой прапановай я звярнуўся да кіраўніцтва метрапалітэна. Мне адказалі, што перайменаванне станцый не знаходзіцца ў кампетэнцыі метрапалітэна, гэта можа зрабіць гарвыканкам. І яшчэ ў тым адказе была дзіўная фраза: маўляў, ветэранскія арганізацыі супраць перайменавання.

Я сам ветэран працы (так запісана ў маім пенсійным пасведчанні) і ў мяне шмат знаёмых такіх жа ветэранаў. Сярод іх няма ніводнага, хто быў бы супраць перайменавання станцыі. Ды ўвогуле, прычым тут ветэранскія арганізацыі?! У дадзеным выпадку парушана элементарная логіка: назва станцыі ніяк не адпавядае тапаніміцы Мінска і, каб выправіць гэтую памылку, зусім не трэба пытацца дазволу ў ветэранскай ці іншай грамадскай арганізацыі.

А тое, што сярод ветэранаў неразумных людзей крыху болей, чым сярод людзей працоўнага ўзросту, гэта факт псіхалогіі. Аб чым таксама не трэба забываць.

Спадзяюся, што ў Мінскім гарвыканкаме дастаткова цвярозых людзей і ў гэтым годзе станцыя набудзе нармальную назву.

З прывітаннем,

*Міхась Булавацкі, былы выкладчык універсітэта, зараз пенсіянер*

*27.09.2010 Мінскі гарвыканкам, упраўленне культуры — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Булавацкі!

Па даручэнню Мінгарвыканкома Ваш зварот аб назве станцыі метро «Плошча Леніна» разгледжаны ва ўпраўленні культуры Мінгарвыканкама. У адпаведнасці з рашэннем Мінскага гарадскога савета дэпутатаў ад 12.03.2008 № 127 камісія па найменаванні

і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Мінска ўпаўнаважана прымаць рашэнні толькі з улікам станоўчых меркаванняў жыхароў горада.

Мінгарвыканкомам было разгледжана звыш 30 лістоў супраць перайменавання назвы станцыі метро «Плошча Леніна», якія накіравалі жыхары горада, члены грамадскіх арганізацый «Белорусский Союз офицеров», «Коммунистическая партия Беларуси Партизанскага района г. Минска», «Минский горком партии «Справедливый мир».

Прымаючы да ўвагі неадназначныя меркаванні жыхароў горада па дадзенаму пытанню, а таксама тое, што новае найменаванне не будзе адпавядаць інтэр'еру станцыі, камісія па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Мінска вырашыла захаваць існуючую назву станцыі метро «Плошча Леніна».

*Выконваючы абавязкі начальніка ўпраўлення В.У. Рудзікава*

*4.11.2010 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Мінгарвыкакама М. Ладуцьку*

Паважаны Мікалай Аляксандравіч!

На маю прапанову аб змене назвы станцыі «Плошча Леніна» як неадпаведнай тапаніміцы горада і нязручнай для пасажыраў метро (асабліва іншагародніх) я атрымаў адказ чамусьці з упраўлення культуры… за подпісам в.а. начальніка ўпраўлення В. Рудзікавай. Маё здзіўленне выклікана найперш тым, што звычайна такія пытанні вырашаюць тапанімічныя камісіі ці, як яна названа ў лісце В. Рудзікавай, камісія па найменаванні і перайменаванні, ад кіраўніка якой і можна было чакаць адказу. Але будзем разглядаць адказ упраўлення культуры.

В. Рудзікава піша: «У адпаведнасці з рашэннем Мінскага гарадскога савета дэпутатаў ад 12.03.2008 № 127 камісія па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Мінска ўпаўнаважана прымаць рашэнні толькі з улікам станоўчых меркаванняў жыхароў горада». Ну добра, маё станоўчае меркаванне не ўлічана, таму што я не жыхар горада (хаця

Мінск — гэта не проста горад, гэта сталіца дзяржавы, у якой я жыву і грамадзянінам якой з'яўляюся ад нараджэння, таму маё меркаванне тут таксама павінна мець нейкую моц). Але ж ёсць тысячы жыхароў Мінска, якія маюць такое ж станоўчае меркаванне наконт перайменавання станцыі. Чаму ж іх станоўчае меркаванне камісія не ўлічвае? А насупраць, улічвае адмоўныя меркаванні асобных членаў Саюза афіцэраў. І чаму дагэтуль «Коммунистическая партия Беларуси Партизанскага района г. Минска» з'яўляецца «руководящей и направляющей силой» для Мінгарвыканкама? Калі ёсць розныя меркаванні наконт нейкага істотнага пытання гарадской тапанімікі (а так будзе заўсёды па істотных пытаннях), тады мэтазгодна правесці гарадскі рэферэндум, і на яго падставе гарвыканкам павінен вызначыцца. А не пытацца дазволу ў нейкай партыі.

Калі ж члены партыі Леніна ствараюць большасць у гарвыканкаме і турбуюцца пра назву, «адпаведную інтэр'еру станцыі», тады назавіце станцыю «Ленінскай», а не «Плошчай Леніна», бо, што ні кажы, а плошчы такой у горадзе няма.

Са спадзяваннямі на наяўнасць розуму ў Мінгарвыканкаме,

*Міхась Булавацкі, ветэран працы, былы жыхар Мінска*

*03.12.2010* *Упраўленне культуры Мінгарвыканкама — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Па даручэнню Мінгарвыканкама Ваш зварот аб змене назвы станцыі метро «Плошча Леніна» паўторна разгледжаны ва ўпраўленні культуры і камітэце архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкама, якія ўпаўнаважаны старшынёю камісіі па найменаванні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых састаўных частак г. Мінска інфармаваць грамадзян аб рашэннях камісіі.

Раней па сутнасці пытання Вам быў дасланы ліст з паведамленнем аб тым, што камісія вырашыла захаваць існуючую назву станцыі метро «Плошча Леніна».

Дадатковых звестак да накіраванай Вам інфармацыі не маем.

*Начальнік упраўлення В.У. Рудзікава*

*Як я нядаўна даведаўся, станцыя з назвай «Вакзальная» будзе на новай галіне метро. Але пытанне пра станцыю «Плошча Леніна» застаецца. Па-першае, сапраўды, плошчы такой няма, і таму назва не адпавядае тапаніміцы горада. Па-другое, імя Леніна сёння, калі ўжо абнародаваны раней сакрэтныя матэрыялы, успрымаецца інакш. Вось некалькі цытат з лістоў і загадаў «правадыра сусветнага пралетарыяту»:*

*«Суд должен не устранить террор, а обосновать и узаконить его принципиально».*

*«Интеллигенция — это не мозг нации, а говно».*

*«Нужно поощрять энергию и массовидность террора».*

*«Под видом «зеленых» (мы потом на них свалим) пройдем на 10–20 верст и перевешаем кулаков, попов, помещиков. Премия: 100 000 р. за повешенного».*

*«...чем большее число буржуазии и духовенства удастся нам по этому поводу расстрелять, тем лучше».*

*«1 мая 1919 г. № 13666/2. Председателю ВЧК тов. Дзержинскому Ф.Э.*

*УКАЗАНИЕ*

*В соответствии с решением ВЦИК и Сов. Нар. Комиссаров необходимо как можно быстрее покончить с попами и религией. Попов надлежит арестовывать как контрреволюционеров и саботажников, расстреливать беспощадно и повсеместно. И как можно больше. Церкви подлежат закрытию. Помещения храмов опечатать и превращать в склады. Председатель ВЦИК Калинин, Председатель Сов. Нар. Комиссаров Ульянов (Ленин)».*

*Калі такая крыважэрнасць ушаноўваецца сёння ў тапаніміцы нашай сталіцы і іншых гарадоў, то можна падумаць, што сённяшнія ўлады гатовыя вярнуцца да падобнай крыважэрнай палітыкі ў дачыненні да свайго народа.*

# ГОД РОДНАЙ МОВЫ

*Таварыства беларускай мовы актыўна прапаноўвала кіраўніку дзяржавы абвесціць 2010 год Годам роднай мовы. У СМІ ўжо неяк пралезла інфармацыя аб тым, што гэтая прапанова, магчыма, будзе прынята. Але…*

*«Вчера я подписал указ о том, что 2010 год в Беларуси — это Год качества. Это не случайно. Мы часто говорили о том, что из кризиса мы должны выйти первыми и окрепшими…» (А. Лукашэнка).*

*Ну вось, год якасці даўно мінуў, а мы ўсё яшчэ ці то выходзім з крызісу, ці то заходзім у яго.*

*Тым не менш, ідэя ТБМ знайшла падтрымку ў кіраўніцтве Магілёўскай вобласці.*

*17 жніўня 2010 г.* *Старшыні Магілёўскага аблвыканкама П. Рудніку*

Шаноўны Пётр Міхайлавіч!

Дазвольце выказаць Вам шчырую павагу і ўдзячнасць за Вашу прыхільнасць да беларускай мовы і ўсяго беларускага. Ваш папярэднік таксама быў прыхільнікам нацыянальнага адраджэння, але не выказваў гэтага так адкрыта.

2010 год абвешчаны ў Магілёве Годам роднай мовы. Спадзяемся, адным годам гэты кірунак дзейнасці не абмяжуецца. Але ўзнікае пытанне, што можна і трэба зрабіць (для пачатку ў гэтым годзе).

Што ні кажы, але паступова яно й само нешта робіцца. Пажадана адзначаць і фіксаваць. Заслугоўваюць цёплых слоў кіраўнікі тралейбуснага ўпраўлення, якое першым перайшло на беларускамоўныя абвесткі ў салонах тралейбусаў, гаспадар «Карчмы на Шклоўскім базары», дзе можна падсілкавацца беларускімі стравамі, прачытаўшы падрабязнае меню на добрай беларускай мове (яшчэ б і афіцыянтак крыху мове падвучыць). Актывісты мясцовай арганізацыі Таварыства беларускай мовы (ТБМ) сумесна з універсітэтам імя Куляшова з 2001 года ладзяць спаборніцтва для школьнікаў пад

назвай «Беларускае пяцiборства». Гэта толькi некалькi прыкладаў, якiя можна доўжыць.

Напрыканцы года можна адзначыць такiя дзеяннi ганаровай граматай аблвыканкама i, магчыма, невялiчкiмi прэмiямi цi прызамi. Але ж не справа старшынi аблвыканкама адсочваць гэтыя працэсы. Гэтую працу павiнен выконваць адзiн з Вашых памочнiкаў.

Паступова нешта змяняецца i ў свядомасцi мясцовых чыноўнiкаў розных структур. Напрыклад, раней у мяне не прымалi ў банках квiтанцыi, напiсаныя па-беларуску. Зараз прымаюць. Але вось пытанне: чаму я павiнен дома перакладаць бланк квiтанцыi на нашу мову? Чаму б тым банкам не зрабiць i беларускамоўныя бланкi. Дакументы (напрыклад, у падатковых iнспекцыях) ужо выдаюць на беларускай мове, але праз вялiкае супрацiўленне. Ды зноў жа — тут дапамога аблвыканкама не патрэбная, гэта зробiцца паступова пад цiскам знiзу.

Але вось самае iстотнае, чым, думаецца, павiнен усклапацiцца аблвыканкам — гэта стварэнне **беларускамоўнай навучальнай установы**.

Мне, як былому старшынi абласной арганiзацыi Таварыства беларускай мовы, добра вядома гiсторыя беларускамоўнай адукацыi ў Магiлёве. Крыху азнаёмлю з ёю i Вас.

У 1994 годзе 6% магiлёўскiх школьнiкаў вучылiся ў беларускiх класах. Былi ў гэтым працэсе непаразуменнi i праблемы, але яны спакойна вырашалiся. У 1995 годзе прайшоў рэферэндум, вынiкам якога руская мова была прыроўнена да беларускай i стала дзяржаўнай. Падкрэслiм: народ прагаласаваў за роўнасць дзвюх моваў, а не за вяршэнства якойсцi адной (i не за «права выбару», як заяўляюць асобныя чыноўнiкi, якiя забiраюць гэтае права сабе, а мяне яго пазбаўляюць). Таму з гэтага года пачаўся перавод беларускамоўных класаў на рускамоўнае навучанне. Значная частка бацькоў успрыняла гэта абыякава. Але былi такiя, якiя хацелi для сваiх дзяцей менавiта беларускамоўнай адукацыi. Адзiн бацька нават перавёў сваю дачку з 41-й школы ў 42-ю, бо ў 41-й беларускамоўныя класы знiклi, а ў 42-й яшчэ iснавалi. Але праз паўгода (у сярэдзiне навучальнага года!) i ў 42-й школе беларускамоўныя класы сталi рускамоўнымi. Як патлумачыла мне дырэктарка, не хапала беларускiх падручнiкаў i настаўнiкi кепска валодалi мовай.

Гэта была няпраўда. Бо начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі У. Булыбенка паведаміў мне, што беларускамоўных падручнікаў было заказана на горад з разліку, што колькасць беларускіх класаў будзе пашырацца, але яна зменшылася, і таму падручнікаў больш, чым трэба. А праблема з мовай настаўнікаў існавала на пачатку гэтага працэсу, а пазней яе ўжо не было. Дзіўна чуць, што чалавек тры гады выкладаў па-беларуску, і раптам высветлілася, што беларускай мовай ён не валодае. Усе гэтыя праблемы, па словах У. Булыбенкі, штучна створаны адміністрацыямі школ. Нашы назіранні пацвердзілі гэтую выснову: дырэктары школ любымі сродкамі пазбаўляліся ад беларускіх класаў, якія яны лічылі праблемнымі для сябе. Урэшце беларускамоўных класаў у магілёўскіх школах не стала (апошнімі яны зніклі ў 5-й школе, што ўжо выклікае павагу да тагачаснага дырэктара гэтай школы У. Міхальцова). У 1998 годзе на адной з канферэнцый, прысвечанай беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве, быў прачытаны даклад «Дырэктар школы як апірышча антынацыяналізму». Крыху пазней зніклі і беларускамоўныя групы ў дзіцячых садках. Пратэсты асобных бацькоў (іх сапраўды былі адзінкі) не браліся да ўвагі.

На працягу некалькіх год кіраўніцтва абласной і гарадской арганізацый ТБМ вяло перамовы з кіраўнікамі органаў адукацыі наконт адкрыцця беларускіх класаў. Нарэшце ў 2002 годзе начальнік гарадскога ўпраўлення адукацыі Т. Бараноўская пагадзілася на эксперыментальнае адкрыццё такога класа ў 30-й школе, якая тады называлася «нацыянальная гімназія». У прэсе пайшлі абвесткі аб адкрыцці ў 30-й школе 7-га матэматычнага класа з беларускай мовай навучання. Чаму сёмага? Таму што для матэматычнай адукацыі пераход ад 6-га класа да 7-га класа даволі істотны. У сёмым класе матэматыка дзеліцца на алгебру і геаметрыю, і асаблівасці вывучэння гэтых дысцыплін стваралі пэўныя праблемы. Таму і вырашылі пачаць з гэтага класа. Абвестка, на жаль, з’явілася ў сродках інфармацыі досыць позна, у канцы чэрвеня, калі ўсе пытанні з фарміраваннем класаў звычайна вырашаны. Тым не менш, былі пададзены 4 заявы. З гэтымі заявамі мы напрасіліся на прыём да старшыні аблвыканкама Б. Батуры, бо адпаведна з цыркулярам міністэрства клас можна было адкрываць пры наяўнасці не менш чым трох заяў. Той запрасіў начальніка ўпрўлення адукацыі В. Багданава,

і В. Багданаў паабяцаў, што клас будзе адкрыты. На жаль, гэтае абяцанне не было выканана. Ні ў Кастрычніцкім райвыканкаме, ні ў упраўленні адукацыі сродкаў на гэты клас не знайшлося.

Зараз невялікая група бацькоў зноў звярнулася ў гарвыканкам з пытаннем аб адкрыцці беларускамоўнага класа. Мне давялося прысутнічаць на сустрэчы гэтых бацькоў з начальнікам гарадскога ўпраўлення адукацыі С. Казловым. Сустрэчу пачаў С. Казлоў тырадай аб тым, што беларуская мова нідзе не ўжываецца і таму не карыстаецца папулярнасцю.

На гэта мне хацелася б сказаць наступнае. Сёння цалкам беларускамоўнай ВНУ ў Беларусі сапраўды няма. Але даволі шмат выкладчыкаў ВНУ чытаюць свае лекцыі па-беларуску. І гэта не толькі выкладчыкі мовы; дысцыпліны самыя розныя: матэматыка (напрыклад, Л. Майсеня, універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, Мінск), логіка (Л. Латоцін, універсітэт імя А. Куляшова, Магілёў), цеплахоладатэхніка (А. Смаляк, універсітэт харчавання, Магілёў), археалогія (І. Марзалюк, універсітэт імя А. Куляшова, Магілёў) ды інш. Можна доўга пералічваць прозвішчы дацэнтаў, прафесараў, якія не забылі, з якой краіны яны родам. А ў рускамоўнай школе № 168 г. Мінска працуе настаўнік матэматыкі Ул. Мартысюк, які свае ўрокі вядзе на беларускай мове. Дырэкцыя спачатку супраціўлялася такой яго ініцыятыве, але ўрэшце здалася, бо настаўнік добра вучыць матэматыцы, і ў яго класы бацькі імкнуцца ўладкаваць сваіх дзетак.

У Магілёве, на жаль, такое чамусьці не вітаецца. А папулярная фраза «дзеці не хочуць» не адпавядае рэчаіснасці. Я мог бы назваць лічбу выпускнікоў магілёўскіх школ, якія выбіраюць на тэстах беларускую мову. Але ёсць не менш выразныя факты. Напрыклад, да мяне, індывідуальнага прадпрымальніка ў галіне матэматычнай адукацыі, прыходзяць школьнікі пасля ўрокаў дзеля падрыхтоўкі да здачы тэстаў, слухаюць маю беларускую гаворку і плоцяць за гэта немалыя для сямейнага бюджэту грошы. Я мог бы добра навучаць матэматыцы не 10–15 чалавек, а 80–100. Мае заявы аб працаўладкаванні ў адной з магілёўскіх школ ужо 8 год ляжаць у абодвух раённых аддзелах адукацыі, але мне месца ў школах не знаходзілася. А зараз маю ўжо пенсійны ўзрост і пытанне такім чынам знята. Але важна тое, што беларуская мова ніякай перашкодай для адукацыі не

з’яўляецца. І калі будзе аб’ява аб наборы ў беларускамоўны клас, то жаданцы знойдуцца. Пры правільнай інфармацыйнай кампаніі іх будзе дастаткова, калі людзі пераканаюцца, што вучыць іх дзяцей будуць дасведчаныя вопытныя настаўнікі, для якіх родная мова існуе не толькі для ўрокаў, а для пастаяннага ўжытку. Такія настаўнікі ў Магілёве ёсць. І, магчыма, мае настаўніцкія здольнасці яшчэ спатрэбяцца.

Шаноўны Пётр Міхайлавіч! Зараз у розных гарадах і населеных пунктах Беларусі аднаўляюцца храмы — цэрквы, касцёлы, ратушы. Часткова ў гэтым працэсе ўдзельнічае і дзяржава сваімі сродкамі. І гэта правільна (хаця царква ў нас аддзелена ад дзяржавы), бо дзяржава гэтыя храмы знішчала, яна ж павінна дапамагаць іх аднаўляць. Тое ж і з беларускамоўнай адукацыяй. Дзяржава (СССР, БССР) вяла да вынішчэння нацыянальных моваў, да панавання аднамоўя. Першай такі лёс павінен быў напаткаць беларускую мову як мову найбліжэйшую да рускай. І, на вялікі жаль, шмат у гэтым кірунку зроблена, пачынаючы ад сталінскай рэформы нашай мовы ў 1933 годзе, ад масавага знішчэння пісьменнікаў-«нацдэмаў». Зараз апамяталіся ці яшчэ не, але ўжо гатовы апамятацца. Працэс адраджэння пачаўся. І дзяржава павінна падтрымліваць гэты працэс. Трэба знаходзіць сродкі, каб адкрываць клас нават на чатыры вучні. Ён, упэўнены, нядоўга будзе такім. Калі людзі ўбачаць, што працоўна-творчая атмасфера ў гэтым класе лепшая, чым у суседніх (а гэта будзе так пры правільным падборы настаўнікаў!), клас пачне папаўняцца. Такое ўжо было ў Горках. На беларускай мове пачала вучыцца адна дзяўчынка, Маша Каралькова (так захацелі яе бацькі і праз вялікае супраціўленне дамагліся такога для сваёй дачкі). Зараз Маша вучыцца ў беларускім класе, дзе паўтара дзясяткі вучняў.

Паважаны Пётр Міхайлавіч! Гісторыя запомніць вашых папярэднікаў не за лядовы палац, не за шматпавярховыя дамы-вежы і нават не за ачышчаную і ўпрыгожаную Дубравенку, хаця і гэта вельмі грунтоўна. Найперш гісторыя запомніць іх за вернуты Магілёву старажытны герб (якому ў наступным годзе будзе 340 год), за аднооўленую ратушу, за шыльды з гістарычнымі назвамі цэнтральных вуліц. Бо лядовы палац — гэта прышчэпленая галінка на дрэве горада, а ратуша — гэта адроджаны корань. Прышчапляць галінкі

трэба, але важней помніць, што дрэва мацуецца сваімі каранямі. І гэта трэба рабіць далей.

Землі Магілёўшчыны далі свету шмат выдатных людзей у розных галінах чалавечай дзейнасці. Спірыдон Собаль, Іван Насовіч, Максім Гарэцкі, Трафім Сурта, Аркадзь Смоліч… У Пячэрскім лесе пахаваны парэшткі таленавітага пісьменніка, першага кіраўніка ўрада БССР Зміцера Жылуновіча. Памяць пра гэтых асоб павінна адлюстроўвацца ў помніках, у назвах вуліц. Заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі Валянцін Ермаловіч перад смерцю прасіў перадаць свой наказ кіраўнікам горада: найперш паставіць два помнікі — каля абласнога тэатра помнік Максіму Гарэцкаму, а на галоўнай плошчы насупраць будынка абласной адміністрацыі помнік Зміцеру Жылуновічу. Лічым пажаданне Валянціна Іванавіча вельмі слушным.

На гэтым пакуль спынюся.

З павагай і добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі, былы выкладчык кафедры методыкі матэматыкі ўніверсітэта імя Куляшова, былы старшыня абласной арганізацыі Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (1993–2002), перакладчык твораў расійскай паэзіі на беларускую мову...*

*15.09.2010* *Аблвыканкам — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Па даручэнні старшыні аблвыканкама Рудніка П.М. пытанні, азначаныя ў Вашым звароце, разгледжаны Магілёўскім гарвыканкамам, упраўленнямі адукацыі, культуры, ідэалагічнай работы аблвыканкама.

Праблема пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы ў вобласці вырашаецца ў межах існуючага заканадаўства.

Распрацаваны Комплекс першачарговых мер Магілёўскага аблвыканкама па папулярызацыі беларускай мовы на 2010–2012 гады. Асаблівая ўвага надаецца вырашэнню гэтай праблемы ў г. Магілёве. У агульнаадукацыйных установах горада ў маі 2010 года адбыліся сходы бацькоў будучых першакласнікаў, на якіх абмяркоўвалася пытанне выбару мовы навучання. У маі-чэрвені 2010 года ў дзі-

цячых садках г. Магілёва прайшло апытванне бацькоў аб жаданні выхоўваць дзяцей на беларускай мове. На афіцыйным сайце гарвыканкама на старонцы «Адукацыя» на працягу апошніх двух гадоў сістэматычна размяшчалася аб'ява аб магчымасці вучыцца ў першым класе з беларускай мовай навучання.

Напрыканцы жніўня 2010 г. начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Казлоў С.М. сустрэўся з бацькамі, якія пажадалі навучаць дзяцей на беларускай мове. На пачатак новага навучальнага года была пададзена адна заява. Першы клас з беларускай мовай навучання адкрыты ў сярэдняй школе № 1 г. Магілёва.

Папулярызацыя беларускай мовы пачынаецца з дашкольнага ўзросту. У кожнай дашкольнай установе горада штодзень праводзяцца хвілінкі беларускай мовы, кожны тыдзень у рамках выканання Нацыянальнай праграмы «Пралеска» — заняткі па развіцці беларускамоўных суадносін.

Факультатыўныя заняткі па беларускай мове, гісторыі і культуры Беларусі арганізаваны практычна ва ўсіх агульнаадукацыйных установах горада.

Акрамя гэтага, паведамляем, што па жаданні бацькоў на беларускай мове арганізаваны навучальна-выхаваўчы працэс ў гімназіі г. Асіповічы, адкрыты класы з беларускай мовай навучання ва ўстановах адукацыі г. Горкі, на працягу двух апошніх гадоў існавала група з беларускай мовай выхавання дзяцей у дашкольнай установе г. Магілёва, якую наведвалі чацвёра дзяцей.

Увогуле, па вобласці больш за 50% агульнаадукацыйных установ з'яўляюцца беларускамоўнымі.

Надалей па жаданні бацькоў пытанні навучання і выхавання дзяцей на беларускай мове будуць вырашацца мясцовымі выканаўчымі і распараджальнымі органамі ўлады ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Выкладанне ўсіх вучэбных прадметаў у агульнаадукацыйнай установе (класе) у адпаведнасці з заканадаўствам ажыццяўляецца або на рускай, або на беларускай мове. Выкладанне матэматыкі на беларускай мове ў агульнаадукацыйнай установе (класе) з рускай мовай навучання не прадугледжваецца.

Па пытанні будаўніцтва помнікаў З. Жылуновічу (Ц. Гартнаму) і М. Гарэцкаму паведамляем аб тым, што стварэнне новых аб'ектаў

манументальнага мастацтва на тэрыторыі г. Магілёва ў бліжэйшы час не плануецца.

Згодна з рашэннем гарадской камісіі па тапаніміцы і ўвекавечванні гістарычнай і культурнай спадчыны г. Магілёва, у адпаведнасці са схемай дэталёвага плана жылога раёна «Казіміраўка» адной з запраектаваных вуліц будзе прысвоена назва «Вуліца Максіма Гарэцкага».

Адсочванне працэсаў папулярызацыі беларускай мовы ў грамадскіх і дзяржаўных арганізацыях і, пры неабходнасці, іх заахвочвання ажыццяўляе ўпраўленне ідэалагічнай работы аблвыканкама. Пытанне прадастаўлення па жаданні грамадзян бланкаў квітанцый на беларускай мове будзе разгледжана ўпраўленнем жыллёва-камунальнай гаспадаркі аблвыканкама.

Таксама тлумачым, што ў адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь ад 06.06.1996 «Аб зваротах грамадзян» іншыя пытанні, закранутыя Вамі ў звароце, не разглядаліся.

У выпадку нязгоды з вынікамі разгляду Вашага звароту, Вы маеце права звярнуцца ў вышэйстаячыя органы дзяржаўнай улады або ў суд.

З павагай,

*Намеснік старшыні аблвыканкама В.А. Малашка*

*11.03.2011 г.* *М. Булавацкі — Кіраўніцтву Магілёўскага аблвыканкама*

2010 год быў абвешчаны на Магілёўшчыне Годам беларускай мовы. Што-ніштто ў гэтым кірунку зроблена, аб чым мне вядома ў тым ліку з ліста намесніка старшыні аблвыканкама В. Малашкі… Але я мяркую, што па заканчэнні года падведзены нейкія вынікі, адзначаны людзі, установы, арганізацыі, якія праявілі найбольшую руплівасць у вяртанні нашай роднай мовы ў шырокі ўжытак і, магчыма, намечаны планы па развіцці гэтага працэсу. Буду ўдзячны, калі падкажаце, дзе пра гэтыя вынікі можна прачытаць, бо нешта мне падобная інфармацыя ў магілёўскіх газетах не патрапляла на вочы.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*07.04.2011* *Аблвыканкам — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Па факту Вашага звароту ў Магілеўскі аблвыканкам паведамляем, што вынікі рэалізацыі Комплекса першапачатковых мер па папулярызацыі беларускай мовы падведзены ў аблвыканкаме ва ўстаноўленным парадку.

Адзначаны людзі, унесшыя найбольшы ўклад у развіцце і папулярызацыю беларускай мовы. Лаўрэатам прэміі Магілеўскага аблвыканкама «Чалавек года» стаў рэдактар Бялыніцкай раеннай газеты «Зара над Друццю» Карпечанка М.П. Інфармацыя аб яго грамадскай, краязнаўчай і літаратурнай працы была апублікавана 11 лютага 2011 г. у газеце «Магілеўская праўда» (артыкул «Скарб для нашчадкаў»). Заснаваны спецыяльныя прэміі Бабруйскага гарвыканкама, Краснапольскага, Касцюковіцкага райвыканкамаў за актыўнае развіццё і папулярызацыю беларускай мовы.

Пытанні папулярызацыі беларускай мовы асвятляюцца ў сродках масавай інфармацыі. Створаны і рэгулярна абнаўляюцца тэматычныя рубрыкі і тэлерадыёперадачы «Векапомнае», «Святыні», «Гісторыя», «Культура», «Ветразь», «Літаратурная старонка», «Юнацтва» і інш.

Каля 90% тэлерадыеперадач гучаць у эфіры на беларускай мове.

*Начальнік упраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама*
*Л.С. Сматрыцкі*

*15.04.2011 г.* *М. Булавацкі — Л. Сматрыцкаму*

Паважаны Леанід Сцяпанавіч!

Дзякую за інфармацыю. Яна мяне крыху парадавала і крыху засмуціла. Парадавала тое, што знаёмы мне і паважаны мною чалавек М. Карпечанка атрымаў прэмію аблвыканкама, несумненна ён таго заслугоўвае. Радуе і тое, што некаторыя райвыканкамы пачынаюць думаць пра развіццё роднай нам мовы. А засмуціла тое, што ў абласным цэнтры аблвыканкам не знайшоў каго адзначыць хаця б не прэміяй, а цёплым словам на прыгожай паперцы. Мне здаецца, тут аблвыканкам не дапрацаваў. У сваім лісце да старшыні аблвыканкама ў жніўні мінулага года я называў некаторыя ўстано-

вы, якія заслугоўваюць добрых слоў за спрыянне ў адраджэнні роднай мовы. З аблвыканкама мне адказалі, што адпаведныя працэсы адсочваюцца ўпраўленнем ідэалагічнай работы. Ну і які ж вынік гэтага адсочвання? Няўжо ж у шматтысячным Магілёве не знайшлося руплііўцаў, якім можна сказаць слова падзякі з высокага кабінета? Давайце яшчэ пашукаем. З свайго боку гатовы дапамагчы, калі ўзнікне такая патрэба.

*Прыпіска:*

Спадарыні Маргуновай [*якая рыхтавала адказ Л. Сматрыцкага*]

У адрозненне ад рускай мовы, у беларускай мове непастаўленыя кропачкі над ***ё*** лічыцца памылкай, бо трэба ж неяк адрозніваць ***лес*** ад ***лёс***у і ***прыемны дзень*** ад ***прыёмнага дня***. Раю Вам ставіць гэтыя кропачкі і ў рускай мове (літара ***ё*** на камп'ютары маецца), бо гэтая заганная практыка рускамоўнага пісьма ўжо прывяла да скажэння многіх прозвішчаў. Напрыклад, мастакоў Святаслава і Мікалая ***Рорыхаў*** (Рёрихов) чамусьці сталі называць Рэрыхамі (Рерихами).

Іншых заўваг да Вашай мовы няма.

З добрымі пажаданнямі,

*М. Булавацкі*

*26.04.2011* *Л. Сматрыцкі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Па факту Вашага звароту ва ўпраўленне адукацыі аблвыканкама паведамляем наступнае.

Упраўленне адукацыі аблвыканкама вырашае пытанні заахвочвання вучняў, настаўнікаў, якія дабіліся найлепшых вынікаў у вывучэнні, выкладанні беларускай мовы і літаратуры.

На працягу некалькіх год за высокія прафесійныя дасягненні прэміяй аблвыканкама ў сацыяльнай сферы ўзнагароджваюцца педагогі ўстаноў адукацыі вобласці. У іх складзе былі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры Магілёўскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў Прохарава К.В., сярэдняй школы № 2 г. Кіраўска Бяляўская Т.І., Магілёўскага дзяржаўнага абласнога ліцэя № 2 Верам'ёва М.П., Магілёўскага абласнога ліцэя № 4 г. Крычаў Матыскіна Т.В.

З 2009 года прэміяй аблвыканкама ў галіне адукацыі ўзнагароджваюцца вучні, пераможцы заключнага этапу рэспубліканскай алімпіады па вучэбных прадметах, у тым ліку па беларускай мове і літаратуры, настаўнікі, якія іх падрыхтавалі. За два гады спецыяльныя дыпломы і прэміі атрымалі 14 вучняў устаноў адукацыі вобласці і 15 педагогаў.

Аналіз працэсаў папулярызацыі беларускай мовы ў дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях ажыццяўляе ўпраўленне ідэалагічнай работы аблвыканкама, якому даручана, пры неабходнасці, уносіць пэўныя прапановы аб заахвочванні.

*Начальнік упраўлення адукацыі Л.С. Сматрыцкі*

*12.05.2011* *Старшыні Магілёўскага аблвыканкама Рудніку П.М.*

Паважаны Пётр Міхайлавіч!

Ідзе пяты месяц, як закончыўся 2010 год, абвешчаны на Магілёўшчыне Годам роднай мовы. Чакалася, што па заканчэнні года будуць падведзены нейкія вынікі, будуць вызначаны асобы, установы, арганізацыі, якія праявілі найбольшую руплівасць у адраджэнні мовы, ім будуць аб'яўлены падзякі аблвыканкама і г. д. Я шукаў такіх паведамленняў у прэсе і не знаходзіў. Вымушаны быў звярнуцца з запытам у аблвыканкам… На маё здзіўленне, адказ атрымаў ад начальніка ўпраўлення адукацыі Л. Сматрыцкага… Здзіўлены быў таму, што адказ чакаўся ад іншай структуры аблвыканкама. Начальнік упраўлення адукацыі наўрад ці будзе цікавіцца, як дапамагаюць адраджэнню мовы ў тралейбусным упраўленні ці ў якой-небудзь карчме. Гэта не ўваходзіць у яго функцыі. Натуральна, што адказ Л. Сматрыцкага мяне не цалкам задаволіў і я напісаў Леаніду Сцяпанавічу наступны ліст (*цытуецца ліст да Л. Сматрыцкага ад 15.04.2011*).

У сваім чарговым адказе… Л. Сматрыцкі расказаў мне, што робіцца ў навучальных установах вобласці і закончыў падказкай «Аналіз працэсаў папулярызацыі беларускай мовы ў дзяржаўных і грамадскіх арганізацыях ажыццяўляе ўпраўленне ідэалагічнай работы». Менавіта ад гэтага ўпраўлення я і чакаў адказу на свой першы запыт, але чамусьці гэтае ўпраўленне ўхілілася ад адказу.

Гэта дае падставу задумацца: а чым займаецца гэтае ўпраўленне? Бо якая ж іншая ідэалогія павінна быць у нашай дзяржаве, як не спрыяць таму, каб Беларусь стала сапраўды Беларуссю з сваёй мовай, а не запазычанай у краіны-суседкі, з сваімі традыцыямі, правіламі жыцця, з сваёй працавітасцю і гаспадарлівасцю, а не расійскай лянотнасцю, з сваімі песнямі, з сваёй культурай, якая не менш багатая, чым культура любой з суседніх краін. Але я не заўважыў, каб упраўленне ідэалагічнай работы клапацілася аб гэтым. Тады чым яно займаецца? Не хочацца думаць, што ў гэтым упраўленні працуюць нашчадкі тых чыноўнікаў, якіх прызначыў сюды яшчэ граф Бенкендорф.

Таму я прашу Вас вярнуцца да гэтага пытання. Давайце шукаць людзей, якія кладуць свае сілы, свой час і свае сродкі на тое, каб наша родная мова ажыла і закрасавала ў нашым горадзе. Такіх людзей шмат. Давайце будзем гаварыць ім добрыя словы. Няхай яны бачаць зацікаўленасць кіраўніцтва горада і вобласці сваёй руплівасцю на гэтай ніве.

Прапаную прысвяціць гэтаму пытанню адно з пасяджэнняў аблвыканкама, на якім заслухаць начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы. З свайго боку гатовы дапамагаць аблвыканкаму ў гэтых пытаннях.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст*

*Відавочна, што добрую ініцыятыву П. Рудніка яго памочнікі паспяхова завалілі. А начальнік упраўлення ідэалогіі «сарамліва» адмоўчаўся. Выставілі начальніка ўпраўлення адукацыі, які са сваёй роляй, як сумеў, справіўся.*

# ХАМЕЛЕОНІСТАСЦЬ

Великая могучая река
Любви времён течёт издалека.
И только евнух, жаждущий любить,
Теченье жизни может погубить.

*Михаил Дудин*

*Неяк убачыў у інтэрнэце абвестку аб Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Сучасная моўная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: праблемы, перспектывы», прысвечанай 80-годдзю прафесара В. Протчанкі. Вырашыў падаць заяўку на свой даклад «Аб адным аспекце моўнай няроўнасці ў сістэме сярэдняй адукацыі». Спачатку думаў неяк прыгладзіць назву, бо яна калючая, з-за чаго могуць не прыняць даклад. Але вырашыў пакінуць як ёсць, бо і сам тэкст калючы, — не прымуць, дык не прымуць. Будзе нагода прад'явіць прэтэнзіі арганізатарам.*

*Арганізатары зрабілі рызыкоўна: тэксты дакладаў загадзя не праглядвалі, чым натуральна спрасцілі сабе падрыхтоўчую працу, прымалі заяўкі толькі па назвах. Назва майго даклада крыху насцярожыла, патэлефанавалі і параспытвалі пра змест. І ўсё ж, на маё прыемнае здзіўленне, даклад уключылі ў праграму канферэнцыі, ён быў надрукаваны без ніякіх зменаў у зборніку матэрыялаў канферэнцыі. Мяне запрасілі выступіць нават не на секцыі, а на пленарным паседжанні, што і адбылося 9 красавіка 2010 года.*

## Аб адным аспекце моўнай няроўнасці ў сістэме сярэдняй адукацыі

Рэспубліка Беларусь мае дзве дзяржаўныя мовы, па Канстытуцыі роўныя. Натуральна, што іх выкладанне ў любой школе краіны павінна быць ураўнаваным і па часе, і па аб'ёме праграмы, і па ўзроўні патрабавальнасці. Сёння, на жаль, школа вельмі далёкая ад такой

роўнасці. Асабліва гэта кідаецца ў вочы тым, хто працуе непасрэдна з беларускай мовай у моладзевым асяродку.

З 2001 года на базе Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова праводзіцца «Беларускае пяціборства» — спаборніцтва навучэнцаў старшых класаў Магілёўшчыны на шырыню і глыбіню іх агульнай адукацыі. Праводзіцца гэтае спаборніцтва тады, калі лепшыя вучні вобласці збіраюцца на абласныя прадметныя алімпіяды. Па заканчэнні алімпіяд іх удзельнікаў запрашаюць пазмагацца і за прызы «Беларускага пяціборства». Адгукаюцца на гэтае запрашэнне звычайна тры-чатыры дзясяткі навучэнцаў. На пяціборстве ім прапануецца паказаць свае веды і ўменні па шырокім спектры школьных дысцыплін — мове, літаратуры, гісторыі, прыродазнаўстве і матэматыцы.

Пра цікавыя вынікі пяціборства і некаторыя высновы шмат пісалася ў беларускай прэсе. Найбольш значныя публікацыі ўказаны ніжэй.

Як ужо адзначана, на «Беларускае пяціборства» прыходзяць лепшыя з лепшых, прыходзяць юнакі і дзяўчаты з высокімі адзнакамі па ўсіх дысцыплінах, у тым ліку па роднай мове. Маючы высокія адзнакі па мове, яны лічаць, што гэтую мову ведаюць і ўмеюць карыстацца. Аднак, калі ім даводзіцца выказаць на гэтай мове свае думкі ў развязванні матэматычнай ці фізічнай задачы, адказаць на пытанне з біялогіі ці астраноміі, яны (даволі нечакана для іх саміх!) адчуваюць недастатковасць гэтых ведаў.

Выяўляецца тут вельмі істотны недахоп школьнай адукацыі: беларускай мове навучаюць так як мове замежнай. Калі чалавек больш-менш ведае моўныя правілы і валодае нейкім даволі абмежаваным наборам слоў, каб пабудаваць сказы пра сям'ю, прыроду ды іншыя тэмы «шырокага ўжытку», настаўнікі мовы лічаць гэта дастатковым і ставяць самыя высокія адзнакі. Настаўнікаў мовы, на наш (аргкамітэта і журы пяціборства) погляд, папракаць тут не трэба. Не іх справа даводзіць да вучня тое, як гучаць на роднай мове адмысловыя тэрміны з матэматыкі, геаграфіі, хіміі ды інш. Гэтую працу, як нам думаецца, павінны выконваць настаўнікі адпаведных прадметаў.

Вось настаўнік матэматыкі вядзе ўрок на тэму «Акружына» ў рускамоўнай беларускай школе. Ён расказвае пра *диаметр*, *хорду*,

*сектор*, *касательную*, *секущую*, пра *вписанные* і *описанные треугольники*. Цалкам натуральным і вельмі дарэчным было, калі б ён паведаміў вучням, як гучаць новыя для іх словы на беларускай мове: *дыяметр*, *хорда*, *сектар*, *датычная*, *сечная* і г.д. Часу на гэтую карысную і патрэбную справу страціцца няшмат і вучням запомніць няцяжка, бо пераважная большасць матэматычных тэрмінаў на беларускай і рускай мовах гучаць амаль аднолькава. Але вельмі рэдка які настаўнік робіць гэта (радуе, што такія настаўнікі ўсё ж ёсць). І вучні прыходзяць на пяціборства, не ведаючы адпаведнай беларускамоўнай тэрміналогіі. І, каб выказаць сваю думку, ім даводзіцца займацца словатворчасцю. *Трывугольнік*, *высата*, *лічыцель* (гэта так перакладаюць *числитель*), *частнае*, *разварочаны вугал* (разгорнуты), *праізводная*… А новых «перакладаў» слова *касательная* я сабраў з вучнёўскіх прац ужо цэлую калекцыю: *касальная*, *касацельная*, *даткнутая*, *кранальная*, *дакранальная*, *кранацельная*, *датыкальная*, *зачэпная*, *чапальная*, *датыкацельная*, *дакранутая*…

Што ж перашкаджае настаўніку матэматыкі проста паведаміць сваім вучням, як гучыць гэты тэрмін на іншай дзяржаўнай мове? Настаўнікі беларускамоўных школ амаль заўсёды гэта робяць. А настаўнікі рускамоўных школ чамусьці не лічаць такое патрэбным. Няма адпаведнай дырэктывы міністэрства? Магчыма, такая дырэктыва часткова праблему вырашыла б. Але галоўнае ў саміх настаўніках, значная частка якіх займаюць агрэсіўную пазіцыю нацыянальнага нігілізму.

Аднойчы аўтар гэтых радкоў выказаў прапанову паведамляць вучням беларускамоўныя назвы матэматычных тэрмінаў на сходзе настаўнікаў, якія прывезлі сваіх вучняў на абласныя алімпіяды. І некалькі настаўнікаў актыўна абурыліся: «Зачем это? У нас же русская школа!» На жаль, гэтых настаўнікаў лёс тытульнай мовы нашай дзяржавы ўжо не хвалюе. Існуе рызыка, што бацыламі нацыянальнага нігілізму будуць заражаны і іх вучні.

Потым гэтыя юнакі і дзяўчаты закончаць школу, ВНУ і пачнуць працаваць на дзяржаўных пасадах, грэбуючы мовай гэтай дзяржавы і ствараючы немалыя праблемы для беларускамоўнай часткі яе насельніцтва. Аўтар гэтых радкоў адносіць сябе да гэтай часткі. Як індывідуальны прадпрымальнік я павінен весці пэўную дакументацыю, кантактуючы з банкамі, падатковай інспекцыяй, сацыяльнымі

службамі ды іншымі дзяржаўнымі інстанцыямі. Натуральна, што я, як беларус, абраў беларускамоўны варыянт свайго справаводства. І амаль кожны раз узнікаюць праблемы. Пасведчанне прадпрымальніка пасля настойлівых патрабаванняў мне выдалі на беларускай мове, але на рускамоўным бланку. Паперку аб уліковым нумары плацельшчыка выдалі на беларускай мове толькі пасля трэцяга наведвання падатковай інспекцыі. Чатырохстаронкавы бланк падатковай дэкларацыі, якую я павінен запаўняць штомесяц, давялося самому перакладаць на беларускую мову; тое ж — з банкаўскімі квітанцыямі. Беларускамоўныя бланкі ўвогуле не друкуюцца. Кожны індывідуальны прадпрымальнік павінен мець «Кнігу заўваг і прапаноў» і «Кнігу праверак і рэвізій». На беларускай мове гэтыя кнігі чамусьці не выдаюцца. Я катэгарычна адмовіўся набываць іх на рускай мове і мне падатковае міністэрства пагражае штрафамі. Тут пералічана толькі маленькая частка праблем беларускамоўнага прадпрымальніка. Выяўляецца, што жыццё беларуса ў роднай Беларусі, калі ён хоча актыўна карыстацца роднай мовай, значна абцяжарана. І ўсё гэта «дзякуючы» ў тым ліку і настаўнікам сярэдніх навучальных устаноў, якія не лічаць патрэбным навучаць школьнікаў роднай мове ў поўным аб’ёме.

Некалькі год назад актывісты Магілёўскай абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы зрабілі апытанне сярод настаўнікаў горада Магілёва і вобласці аб адносінах да беларускай мовы. Найбольшы негатыў выказалі настаўнікі фізічнай культуры (тут ні адзін з апытаных 22 чалавек не выказаў прыхільнасці да мовы), за імі настаўнікі хіміі і біялогіі, крыху меншы — настаўнікі іншых негуманітарных дысцыплін. Не пацвердзілася меркаванне, што сярод «лідараў» тут будуць настаўнікі рускай мовы і літаратуры. Значная частка гэтых настаўнікаў усё ж адчуваюць каштоўнасць не толькі рускай мовы. Мы не называем лічбы, паколькі апытанне было недастаткова масавым, каб рабіць нейкія абагульненні.

Тым не менш, выкажам некаторыя пажаданні Міністэрству адукацыі. Няблага было б распрацаваць рэкамендацыі настаўнікам-прадметнікам, адпаведна з якімі яны павінны знаёміць сваіх вучняў з беларускімі варыянтамі ўжываных тэрмінаў. У ідэале (калі для настаўніка такое пасільна) пажадана правесці адзін-два ўрокі новага раздзелу на беларускай мове. Нам думаецца, што вучні зра-

зумеюць тое правільна і ўспрымуць без негатыву, бо, напрыклад, у Магілёве, дзе няма ніводнай беларускамоўнай школы, прыблізна палова абітурыентаў абірае на цэнтралізаваным тэставанні беларускую мову. Мова жыве, а таму і ставіцца да яе трэба як да з'явы рэальнай і неабходнай адукаванаму чалавеку.

Скарыстаныя тэксты:

1. Булавацкі М.П. «Беларускае пяціборства» у Магілёве, альбо Як алімпіяды дапамагаюць засвойваць родную мову» (рубрыка «Рэформа школы») // «Настаўніцкая газета», 22.04.2003.

2. Булавацкі М.П. Пра мову для матэматыкаў — кранальна… // «Наша слова», 7.05.2003.

3. Булавацкі М.П. Вярнуць інтэлекту радзіму // «Звязда», 28.02.2004.

4. Булавацкі М.П. «Праізводная» ці «вытворная» // «Советская Белоруссия», 6.02.2008.

*Даклад зацікавіў удзельнікаў канферэнцыі і выклікаў жывое абмеркаванне. Напачатку прафесар Л. Мурына пачала выказваць крытычныя погляды на высновы, зробленыя ў дакладзе (у сваім дакладзе, прачытаным раней, яна абвесціла, што раўнапраўе абедзвюх дзяржаўных моваў адлюстравана і ў школьных праграмах і на ўроках, а тут чалавек сцвярджае зусім супрацьлеглае), але адчуўшы, што калегі яе не падтрымліваюць, пераключылася і стала развіваць думкі майго даклада, а ў канцы нават выказала цікавую і, на мой погляд, вельмі вартасную прапанову аб тым, што кожны рускамоўны падручнік матэматыкі, хіміі ды іншых дысцыплін для беларускіх школ павінен змяшчаць руска-беларускі слоўнічак выкарыстанай у падручніку навуковай тэрміналогіі.*

*Вынікам стала тое, што прапанову майго даклада і прапанову Л. Мурынай паставілі на галасаванне як рэкамендацыі Міністэрству адукацыі, што і было падтрымана адзінагалосна.*

*Не ведаю, ці накіравалі арганізатары канферэнцыі тыя рэкамендацыі ў міністэрства. Але праз амаль год вырашыў пацікавіцца іх лёсам.*

*07.02.2011* *М. Булавацкі — Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь*

9 красавіка 2010 года на базе Нацыянальнага інстытута адукацыі адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя «Сучасная моўная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: праблемы, перспектывы», на якой быў зачытаны і мой даклад «Аб адным аспекце моўнай няроўнасці ў сістэме агульнай сярэдняй адукацыі» (тэкст дадаецца). Удзельнікі канферэнцыі актыўна падтрымалі прапанову аб тым, што настаўнікі розных вучэбных дысцыплін у рускамоўных школах павінны паведамляць сваім вучням, як гучаць новыя для іх навуковыя тэрміны на беларускай мове і нават некалькі разоў скарыстаць беларускі варыянт гэтага слова, каб ён запомніўся вучням. Бо інакш атрымліваецца, што беларускую мову ў школах вывучаюць у няпоўным аб'ёме. Аб гэтым павінна быць выдадзена адпаведная інструкцыя Міністэрства адукацыі.

Больш за тое, прафесар Л. Мурына дапоўніла гэтую ідэю наступнай прапановай, таксама падтрыманай канферэнцыяй: кожны рускамоўны падручнік для школ Беларусі павінен змяшчаць на фарзацах адмысловы руска-беларускі слоўнічак выкарыстаных у падручніку навуковых тэрмінаў. Гэта стала б прыкметным крокам у дасягненні пазначанай у Канстытуцыі Беларусі роўнасці беларускай і рускай моваў у нашай краіне.

Мяркую, што рэкамендацыі канферэнцыі перададзены Міністэрству. Хацелася б даведацца, як успрынятыя гэтыя рэкамендацыі адпаведнымі службамі Міністэрства адукацыі.

З павагай,

*Міхась Булавацкі*

*22.02.2011* *Міністэрства адукацыі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Булавацкі!

У сувязі з тым, што ў сваім звароце па пытанні ўключэння ў дзейнасць настаўнікаў агульнаадукацыйных устаноў з рускай мовай навучання функцыі па перакладзе на беларускую мову матэматычных, фізічных, хімічных і іншых навуковых тэрмінаў і іх выкарыстанні ў працэсе навучання Вы спасылаецеся на даклад, які быў

зачытаны 9 красавіка 2010 года на Рэспубліканскай канферэнцыі «Сучасная моўная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: праблемы, перспектывы», якая праводзілася ў навукова-метадычнай установе «Нацыянальны інстытут адукацыі», Ваша пісьмо накіравана для разгляду ў Нацыянальны інстытут адукацыі. [*Што называецца: спіхнулі праблему! Рэкамендацыі канферэнцыі былі адрасаваны міністэрству, а не інстытуту адукацыі. І міністр з сваімі намеснікамі не прыдумаў, што тут сказаць.*]

Паведамляем таксама, што на канферэнцыі не планавалася выпрацоўваць рэкамендацыі Міністэрству адукацыі аб выданні тых ці іншых інструкцый па ўжыванні і выкарыстанні беларускай мовы ў адукацыйным працэсе агульнаадукацыйных установаў з рускай мовай навучання.

*Першы намеснік Міністра А.І. Жук*

[*Вось як! — Нехта асмеліўся А. Жуку даваць рэкамендацыі! Гэта ж ён, першы намеснік, павінен даваць усім рэкамендацыі, парады і загады! А тут настаўнікі! Рэкамендацыі! Каму?! Міністэрству!!! Што гэта, свет дагары нагамі перакуліўся?*]

*25.03.2011 г.* *М. Булавацкі — Першаму намесніку Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Жуку А.І.*

Паважаны Аляксандр Іванавіч!

Вось перачытваю Ваш ліст ужо месяц і ніяк не магу ўцяміць некаторых рэчаў. Калі «на канферэнцыі не планавалася выпрацоўваць рэкамендацыі Міністэрству адукацыі», але канферэнцыя такія рэкамендацыі выпрацавала, то, па-Вашаму, канферэнцыя нешта парушыла? На мой погляд, любая канферэнцыя павінна заканчвацца рэкамендацыямі выканаўчым органам. Бо навошта тая навука, якая не выкарыстоўваецца на практыцы? Навуковая канферэнцыя (асабліва ў галіне адукацыі) без выпрацаваных рэкамендацый міністэрству — гэта проста балбатня. А планаваць рэкамендацыі бессэнсоўна, яны могуць з'явіцца толькі ў працэсе заслухоўвання і абмеркавання дакладаў.

Вы пераадрасавалі тыя рэкамендацыі Нацыянальнаму інстытуту адукацыі. Даволі дзіўнае рашэнне. У прынцыпе, інстытут адука-

цыі таксама можа нешта парэкамендаваць настаўнікам, але рэкамендацыі інстытута адукацыі і рэкамендацыі міністэрства маюць розную важкасць для настаўніка. Рэкамендацыі міністэрства ўсё ж хаця б заўважаюць.

І Вы абмінулі разумную прапанову прафесара Л. Мурынай аб неабходнасці друкавання на фарзацах рускамоўных падручнікаў руска-беларускіх слоўнічкаў выкарыстаных у падручніку адмысловых для дадзенай навукі тэрмінаў. Такім павінен стаць заказ міністэрства на падручнікі. Можа, на гэты год заказ ужо зроблены, тады давайце думаць пра наступныя гады. Але ідэя вартая, бо яна крыху дапаможа асвойванню беларускай мовы беларускімі школьнікамі.

Тое, што роўнасць беларускай і рускай моваў у Беларусі, замацаваная адпаведным рэферэндумам і пазней Канстытуцыяй, яшчэ не дасягнута ў нашай краіне, у тым ліку ў сістэме адукацыі, досыць відавочна. Дастаткова ўзяць любога навучэнца школы, ліцэя, гімназіі з аднолькавымі адзнакамі па беларускай і рускай мовах і, пагутарыўшы з ім на гэтых мовах, пераканацца, што ён ведае іх зусім не аднолькава. Я выказваю гэта не ў якасці папроку міністэрству, а ў якасці праблемы, важнай праблемы, над рашэннем якой патрэбна думаць усім, і міністэрству ў тым ліку.

Дзве пазначаныя ў рэкамендацыях канферэнцыі прапановы дазваляюць крыху наблізіцца да такога рашэння. Не адкідайце іх, калі ласка.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі*

*06.04.2011 г.* *Міністэрства адукацыі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Булавацкі!

У Міністэрстве адукацыі разгледжаны Ваш чарговы зварот. Паведамляем наступнае.

На пытанне, закранутае ў Вашым звароце, Вам раней быў дадзены пісьмовы адказ…

Лічым, што Ваш зварот разгледжаны ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. На падставе артыкула 14 Закона

Рэспублікі Беларусь «Об обращениях граждан» рашэнне, прынятае па Вашым звароце, Вы маеце права абскардзіць у судовым парадку.

*Намеснік Міністра К.С. Фарыно*

*Так і ўяўляецца: стаяць Жук, Фарыно з усім сваім міністэрствам як маналіт: паспрабуй зруш. І ўсміхаюцца: ідзі, беларус, у суд, шукай праўды пра сваю мову…*

*Парэкамендаваць настаўнікам даваць вучням пераклад навуковай тэрміналогіі на родную мову міністэрства не хоча. Але свае рэкамендацыі прадукуе. І што ж яно рэкамендуе настаўнікам?*

*5.08.2014 г.* *М. Булавацкі — Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Неяк трапілі мне на вочы рэкамендацыі Міністэрства адукацыі. Пачытаў і падзівіўся іх дробязнасці.

Вось ужо міністэрства (!!) пачынае вучыць настаўнікаў, як правільна сшыткі падпісваць. А чаму ж тады іх вучылі ў ВНУ?

Не «царская» (не міністэрская) гэта справа!

Увогуле, шаноўныя міністэрскія службоўцы, будзьце абачлівымі ў прадукаванні розных рэкамендацый. Бо інспектары, якіх шмат у вашай структуры, успрымаюць рэкамендацыі (г.зн. парады, **пажаданыя, але не абавязковыя для выканання**) як указы, абавязковыя для выканання, і караюць настаўнікаў за парушэнне гэтых рэкамендацый.

Вось убачыў інспектар, што на вокладцы сшытка вучні пішуць «… ученика…», і вымаўляе настаўніку, што трэба паправіць на «… учащегося…», бо так патрабуе міністэрства.

Ці вось такі выразны эпізод. Аднойчы я падарыў знаёмаму настаўніку матэматыкі дзве кнігі Марціна Гарднера, вядомага ў свеце папулярызатара матэматыкі, і сказаў: «Паставіце гэтыя кнігі ў кабінеце матэматыкі, можа, нехта з вучняў зацікавіцца, зазірне». — «Ну што вы! — сказаў настаўнік. — У кабінеце я іх ставіць не буду. Яны ж не ўваходзяць у спіс рэкамендаванай міністэрствам літаратуры». Выявілася, што яго калегу з іншай школы інспектары пакаралі за тое, што знайшлі ў кабінеце кнігі па матэматыцы (sic!!!), якіх не было ў адпаведным спісе міністэрства.

Вось так разумеюць вашы інспектары (вашы — значыць, інспектары гарадскіх, раённых, абласных аддзелаў, упраўленняў адукацыі): што «не рэкамендавана» міністэрствам, тое забаронена. Настаўнікі моўчкі ўспрымаюць гэтыя глупствы, бо «запярэчыш — сабе жыццё ўскладніш».

Міністэрству ўвогуле трэба адмовіцца ад падобных рэкамендацый. Напрыклад, замест спіса «рэкамендаванай» літаратуры можна выдаць невялікія спісы літаратуры, абавязковай для кожнага кабінета матэматыкі (хіміі, біялогіі, мовы…), пакінуўшы за настаўнікам права дапаўняць гэты спіс па сваім разуменні і паспрыяўшы таму, каб забяспечыць школы кнігамі з абавязковых спісаў.

Скажам, у маёй асабістай бібліятэчцы маюцца найцікавейшыя кнігі, якія могуць прывабіць навучэнцаў да матэматыкі і якія я мог бы падарыць разумнаму настаўніку для павышэння якасці яго працы. І дзе тады яму захоўваць гэтыя кнігі, як не ў кабінеце матэматыкі? А рэкамендацыі міністэрства, своеасабліва зразумелыя інспектарамі, перашкаджаюць гэта зрабіць.

Усе такія рэкамендацыі толькі ўскладняюць працу настаўніка, адбіраючы яго час на другасныя пытанні, час, які ён мог бы патраціць на больш грунтоўную падрыхтоўку ўрокаў, распрацоўку ўласных навучальных матэрыялаў ды інш. А яны замест гэтага вымушаны вучыць (потым перавучваць, бо з'явіцца новая міністэрская рэкамендацыя), дзе правільна ставіць дату дамашняй работы — на палях сшытка ці не на палях і пісаць там гарызантальна ці вертыкальна. Можа, няхай кожны настаўнік вырашае такія пытанні сам, як яму зручней?

Выданне падобных рэкамендацый хутчэй сведчыць аб тым, што ў міністэрстве шмат лішніх, не занятых карыснай працай, супрацоўнікаў і яны шукаюць сабе занятак, прадукуючы тое, што замінае настаўнікам паспяхова працаваць. Можа, тады варта скараціць лішніх — і адукацыйны конь, адпаведна Кандрату Крапіве, пабяжыць хутчэй?

З надзеяй на паразуменне,

*Міхась Булавацкі, настаўнік*

*Адказу не было. Міністэрства і надалей працягвала займацца падобнымі глупствамі.*

Далей дапаўненне ад Яўгена Лівянта:

По поводу орфографического режима проводятся многочасовые совещания учителей, многочисленные классные часы и родительские собрания. Толпы проверяющих скрупулёзно проверяют, на какой строчке ученик записал свою фамилию на обложке тетради, как он назвал себя — ученик, учащийся или обучаемый, как называется его школа (СШ № 5 или ГУО № 5), сколько строчек оставлено между домашней и классной работой, как в журнале сокращается слово «страница»: с. или стр., с какой буквы — прописной или заглавной — записан урок и домашнее задание в журнале и в дневнике (причём в дневнике домашнее задание надо записывать с маленькой буквы, а в журнале с большой) и многое, многое другое.

Вот изменения в орфографическом режиме, которые произошли перед текущим учебным годом:

— при выполнении контрольной работы по математике ученик должен будет писать в тетради «Вариант 1» вместо «1 вариант», как в прошлом году;

— учителя математики получили строжайшее указание не разделять предмет «математика» на части «алгебра» и «геометрия», поэтому в дневниках и на ученических тетрадках ни в коем случае не должно быть записей «алгебра» и «геометрия», а только «математика»;

— между названием вида работы и заголовком, а также между заголовком и текстом строки («линейки») не пропускаются, между заключительной строкой текста учебной или контрольной работы и датой следующей учебной или контрольной работы пропускаются две строки (две «линейки») независимо от того, сколько строк остается на странице тетради, если после работы остается одна строка на странице, дата записывается на верхней строчке следующей страницы.

*Балдзее міністэрства. Не ведае, чым заняць сваіх супрацоўнікаў. Вось і з'яўляецца такая імітацыя працы. А каб заняцца сур'ёзнымі праблемамі адукацыі — на тое не хапае ні розуму, ні здольнасцяў, ні жадання.*

*У 2017 годзе абвесцілі пра пераход з 10-бальнай на 5-бальную сістэму школьных адзнак. Потым абвесцілі, што застанецца 10 ба-*

*лаў. Нехта ж гэтай мітуснёй займаўся і зарплату атрымоўваў. А вось яшчэ найважнейшая праблема: пачынаць заняткі ў школах а 8-й гадзіне ці а 9-й? Няхай бы гэта вырашала адміністрацыя школы, кожная па-свойму. Навошта ўлазіць у гэтую драбязу «царскім палатам»? Але ж не — ну няма чым болей міністэрству заняцца! Калі бацькі ідуць на працу а 8-й гадзіне, дык куды дзець дзіця, якому ў школу а 9-й? Разумней было, калі б яны прывялі малое дзіця ў школу а 8-й і пайшлі самі на працу. Але ж міністэрскі ўказ — а 9-й! І прыдумляюць у школе нейкага дзяжурнага настаўніка, які прыходзіць у школу а 8-й, прымае дзяцей, якіх прывялі бацькі а 8-й, заводзіць іх у памяшканне, дзе яны будуць гадзіну чакаць пачатку заняткаў, вешае на шыю кожнаму бірку «3-А», «2-В», «4-Б», па гэтых бірках потым іх разводзяць па класах.*

*Вось і атрымоўваецца: калі б міністэрства зусім нічога не рабіла, то школам было б лепш, парадку там было болей. І настаўнікі займаліся б сваёй непасрэднай працай, а не вырашэннем навязаных міністэрствам праблем.*

*15.04.2011 г.* *М. Булавацкі — Дырэктару Нацыянальнага інстытута адукацыі Г. Пальчыку*

Паважаны Генадзь Уладзіміравіч!

Год назад на канферэнцыі, праведзенай у вашым інстытуце, у выніку абмеркавання майго даклада з’явіліся дзве разумныя прапановы, якія, на мой погляд, могуць дапамагчы вучням беларускіх навучальных устаноў у засваенні роднай мовы. Нядаўна я звярнуўся ў Міністэрства адукацыі з запытам аб лёсе гэтых прапаноў. З Міністэрства мне паведамілі, што мой ліст пераадрасавалі Нацыянальнаму інстытуту адукацыі, бо інстытут і займаецца падрыхтоўкай падручнікаў для школ Беларусі.

Прашу паведаміць, ці будзе выкарыстана ідэя Л. Мурынай аб руска-беларускіх слоўнічках адмысловых тэрмінаў на фарзацах рускамоўных падручнікаў. Свой ліст у Міністэрства і тэкст свайго даклада дадаю.

*Міхась Булавацкі*

*25.04.2011 г. Нацыянальны інстытут адукацыі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Нацыянальны інстытут адукацыі паведамляе, што на форзацы падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў выносіцца інфармацыя на той мове, на якой яны выдаюцца.

*Намеснік дырэктара інстытута М.Г. Яленскі*

*11.05.2011 М. Булавацкі — М. Яленскаму*

Паважаны Мікалай Георгіевіч!

Аб тым, што на фарзацы падручнікаў выносіцца інфармацыя на той мове, на якой яны выдаюцца, я ведаў і без Вашай падказкі. У тым жа і справа, што разумная жанчына, прафесар Л. Мурына прапанавала змяніць гэтую практыку дзеля таго, каб выпускнікі рускамоўных школ Беларусі ведалі, як гучаць па-беларуску розныя навуковыя тэрміны. Бо, па-першае, настаўнікі беларускай мовы ім гэтага не паведамляюць і не могуць паведамляць, а па-другое, дзяржаўную мову сваёй краіны (тым болей, мову тытульную) тыя самыя выпускнікі павінны ведаць у поўным аб'ёме, а не ў варыянце нейкага нацыянальнага бэйсіка, які сёння і выкладаецца ў рускамоўных школах. Спадзяюся, Вы не лічыце, што выконваць Канстытуцыю Беларусі павінны толькі Прэзідэнт і міністры, гэта і наш з Вамі абавязак.

Прапанова Л. Мурынай крыху палепшыць сітуацыю з вывучэннем роднай мовы. А на гэтам шляху каштоўны нават маленькі крок. Калі Вы яе прапанову не прымаеце, то цікава даведацца, чаму. А магчыма, у Вас ёсць іншыя варыянты вырашэння названай праблемы? Давайце іх шукаць разам, а не адкідаць знойдзенае.

*Міхась Булавацкі, настаўнік*

*Адказу на гэты ліст не было. М. Яленскі займаецца сур'ёзнымі навуковымі, дзяржаўнымі справамі — што яму нейкія слоўнічкі на фарзацах.*

*А мне ўспамінаецца адзін даўні артыкул з гучнай назвай «Падмурак нашай будучыні. Школы Беларусі павінны стаць бела-*

*рускімі». Двое аўтараў, члены часовага навукова-даследчага калектыву «Нацыянальная школа Беларусі» (!!) сцвярджалі:*

*«*Адукацыя…, адарваная ад нацыянальна-культурнага базісу, негатыўна ўплывае на фарміраванне асобы, і найперш на крызісных этапах псіхічнага і фізіялагічнага развіцця дзіцяці*».*

*І яшчэ: «*… лічым, што нацыянальнай беларускай школы да гэтага часу не існуе… Неабходна змест адукацыі і выхавання ў сучасных школах прывесці ў адпаведнасць з сутнасцю нацыянальнай школы, яе асноўнымі мэтамі, надаўшы ўсім школам Беларусі статус беларускіх [*разрадка аўтараў*]. Змест адукацыі ў беларускіх школах па прадметах гуманітарна-эстэтычнага цыкла… павінен грунтавацца на нацыянальна-культурнай аснове цалкам і непасрэдна; па прадметах фізіка-матэматычнага цыкла — часткова і апасродкавана: праз беларускую мову як сродак навучання, праз змест практычнага матэрыялу, звязаны з гісторыяй, прыродай, сучасным сацыяльна-культурным і вытворчым жыццём на Беларусі, укладам беларусаў у развіццё сусветнай цывілізацыі і інш.*».*

*І яшчэ: «*Вывучэнне рускай мовы і іншых замежных моў павінна грунтавацца на аснове роднай і праз родную, г.зн. уводзіць іх у навучальны працэс мэтазгодна толькі пасля таго, як вучні авалодаюць беларускай мовай (навучацца чытаць, пісаць)*».*

*І вось так — цэлая паласа газеты «Літаратура і мастацтва» ад 7 лютага 1992 года.*

*Сярод аўтараў гэтых смелых і яркіх думак — нехта Мікола Яленскі, кандыдат педагагічных навук. Заўважым: нават не Мікалай, а Мікола! Маўляў, людцы-беларусы, я ж ваш цалкам, з усёй душой і з усімі вантробамі.*

*І вось праз няпоўных дваццаць год той жа Мікола (ці ўжо не той?) не лічыць мэтазгоднымі нават руска-беларускія слоўнічкі на фарзацах падручнікаў. Дзіўныя справы Твае, Божа!*

*Як тут не ўспомніць маленькую жывёлу, якая змяняе колер сваёй скуры ў залежнасці ад сітуацыі.*

# МАГІЛЁЎ ЯК СЭРЦА

«…Эстрадный певец Паша Любченко, сочинивший его [слоган], в качестве главного приза получил ноутбук. Члены жюри рассмотрели всего 105 слоганов. Из их числа выбрали 15 лучших. 29 декабря 2010 г. в магазине «Азбука» их авторы получили поощрительные призы».

*5.01.2011 г.* *М. Булавацкі — Адміністрацыі Магілёўскага гарвыканкама*

Вычытаў на партале mycity.by, што складзень «Сердце Восточной Европы — ты, мой Могилёв!» прызнаны пераможцам конкурса «Город Могилёв — город уникальный». Не ведаю, як праводзіўся гэты конкурс і ці меў якое дачыненне да яго гарвыканкам. Не ведаю таксама, як будуць выкарыстоўвацца яго вынікі. Але мяркую, што зараз гэты складзень можа з'явіцца на біг-бордах, на расцяжках у нашым горадзе. І да таго, як гэта будзе зроблена, хачу паразмысліць над падзеяй.

Не ведаю, якім чынам журы конкурсу адбірала лепшыя складзені (15 з 105) і якія там былі іншыя складзені, але пераможца выглядае вельмі няўдалым варыянтам.

Па-першае, чаму Магілёў — сэрца, а не пячонка-селязёнка ці, напрыклад, рабрына Усходняй Еўропы? Сэрца — самы важны орган жывой істоты. І калі гэтае слова прымерыць да Усходняй Еўропы, то яе сэрцам хутчэй можна назваць Кіеў ці Маскву. Нават для Мінска гэта занадта. Нацягнуць такое на Магілёў — гэта нейкая мясцовая пыха, над якой варта пасмяяцца. Не трэба пыхлівасці!

Па-другое, складзень горада павінен быць простым, рытмічным, лёгказапамінальным, каб ён мог стаць часткай верша ці песні, прысвечанай гораду. У прыведзеным складзені рытмікі не адчуваецца.

І па-трэцяе (што можна было б назваць першым), складзень беларускага горада павінен быць на беларускай мове.

Таму павіншуем спадара Любчанку з перамогай у конкурсе, але для магілёўскіх вуліц трэба пашукаць нешта іншае. Што? Без прэтэнзій на нейкі прыз магу прапанаваць адзін з магчымых варыянтаў.

**Шлях твой адметны ў гісторыі, горад-змагар Магілёў!**

Патлумачу. Рытміка тут адчуваецца. Словы простыя, без залішняй прэтэнцыёзнасці. Але адметнасць горада адзначаецца. Самае выразнае слова «змагар». Але горад-змагар — гэта сапраўды так. Дастаткова ўспомніць пра пачатак апошняй вайны, пра тое, што так уразіла Канстанціна Сіманава. А падобных эпізодаў у гісторыі нашага горада шмат. Гонар і слава Магілёва найперш у яго доўгай і пакручастай гісторыі. Нездарма ж Магілёў мае сёння герб, якому амаль чатыры стагоддзі (тут гарвыканкам — дзякуй яму! — прыняў вельмі разумнае рашэнне). І нездарма частка магілёўцаў устурбавалася ініцыятывай надання гораду Магілёву звання «горад-герой». Мне асабіста не імпануе такое званне для любога горада (я лічу, што героем можа быць толькі чалавек), але калі такое здарыцца, то можна будзе змяніць у гэтым складзене адно слова: «Шлях твой адметны ў гісторыі, горад-герой Магілёў».

Як бы там ні было, але вуліцы Магілёва не трэба псаваць расцяжкамі з пыхлівымі і невыразнымі складзенямі, не адпаведнымі яго гісторыі.

Спадзяюся на паразуменне,

*Міхась Булавацкі*

*20.01.2011 г.* *Гарвыканкам — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Магілёўскі гарадскі выканаўчы камітэт у адказ на Ваш зварот паведамляе, што на працягу верасня-снежня 2010 г. па ініцыятыве крамы ноўтбукаў «Азбука» і ўстановы культуры «Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных публічных бібліятэк г. Магілёва» ў нашым абласным цэнтры праводзіўся творчы конкурс «Горад Магілёў — горад унікальны». Палажэнне аб правядзенні адкрытага творчага конкурсу было ўзгоднена з аддзеламі культуры і ідэалагічнай ра-

боты Магілёўскага гарвыканкама. Акрамя прадстаўнікоў арганізатараў у склад журы ўваходзілі асобы, вядомыя ў горадзе і вобласці сваёй працай па прапагандзе гістарычнай спадчыны і пашырэнню выкарыстання беларускай мовы.

Мэты, задачы і ўмовы конкурсу неаднаразова асвятляліся ў СМІ (гарадскі тэлеканал, мясцовы друк, інтэрнэт-сайты і г.д.), шырока рэкламаваліся ў бібліятэках, вучэбных установах.

Адной з задач конкурсу было развіццё творчай і грамадскай актыўнасці насельніцтва. Арганізатары лічаць, што гэта задача выканана, зыходзячы з дастатковай колькасці дасланых прапаноў, зробленых магілёўцамі рознага ўзросту, сацыяльнага становішча і інш.

Вынікі конкурсу былі падведзены 29 снежня 2010 года ў памяшканні крамы «Азбука» у прысутнасці аўтараў слоганаў. Журы адабрала 15 лепшых прапаноў, якія былі адзначаны арганізатарамі. З іх 5 аўтараў атрымалі падарункі ад крамы «Азбука», пераможца — ноўтбук.

Журы адбірала лепшыя слоганы згодна з умовамі конкурсу, уважліва аналізуючы, як будзе гучаць слоган на рускай і на беларускай мовах. Слоган, які прызнаны пераможцам, добра гучыць і па-беларуску: «Сэрца Усходняй Еўропы — ты, мой Магілёў» або «Магілёў — сэрца Усходняй Еўропы». У ідэі слогана журы пабачыла гістарычны шлях горада, неад'емны ад агульнага еўрапейскага развіцця. Абазначэнне «Усходняй» адпавядае ўмове конкурсу — «геаграфічныя асаблівасці» і дазваляе адзначыць, што ў Магілёве нарадзіліся, жылі, працавалі асобы, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё Беларусі, Еўропы і нават усяго свету.

Яшчэ адной умовай конкурсу было «пазіцыяніраванне горада Магілёва ў сусветнай прасторы». Гэта прадугледжвае стварэнне слогана, які адзначыў бы ролю і месца Магілева ў сусвеце.

Арганізатары конкурсу ўдзячны Вам за Ваш погляд і за прапанаваны слоган. Але ён, на жаль, складана перакладаецца на рускую мову, не кажучы ўжо пра замежныя, і тычыцца толькі ваеннай гісторыі Магілёва. А магілёўцы не толькі змагаліся, але і працавалі. Таму шырокавядомыя, у тым ліку і за межамі Беларусі, магілёўскія школы дойлідства, іканапісу, кніжнай гравюры, магілёўскае шкло, магілёўская кафля, магілёўская хроніка Т. Сурты і Трубніцкіх, твор-

часць паэтаў, пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, ураджэнцаў г. Магілёва.

Праца па стварэнню слогана аб Магілёве гэтым конкурсам не завяршаецца і будзе працягнута далей. Прапануем Вам удзельнічаць у далейшых конкурсах і ўносіць свае прапановы на разгляд журы.

*Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама І.У. Шардыка*

*31.01.2011* *М. Булавацкі — Шардыку І.У.*

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

У Вашым адказе на мой ліст мяне суцешыў апошні абзац, у якім гаворыцца аб тым, што праца над стварэннем складзеня Магілёва не закончана і будзе працягнута далей.

Пагаджуся з Вамі ў тым, што прапанаваны мною складзень адлюстроўвае толькі ваенную гісторыю Магілёва і таму трэба шукаць лепшы варыянт. Аднак складзень-пераможца ў конкурсе «Азбукі» не адлюстроўвае нават такой гісторыі. Там няма ніякай гісторыі. Толькі геаграфія — пазначана тое, што Магілёў знаходзіцца ва Усходняй Еўропе. А сцвярджэнне, што Магілёў з’яўляецца найважнейшым горадам (сэрцам) Усходняй Еўропы, зусім не адпавядае гісторыі, хутчэй, скажае яе. Таму, думаю, Вам не варта абараняць гэтую недарэчнасць, а засяродзіцца на стварэнні новага складзеня нашага старажытнага горада, дзе ў кароткай рытмічнай форме адлюстроўвалася б яго багатая гісторыя.

Прытым, на маю думку, не варта абмяжоўвацца роляй Магілёва ва Усходняй Еўропе, роля Магілёва мне бачыцца шырэйшай. Дастаткова ўспомніць Ота Шмідта, чыё імя носіць адзін з праспектаў горада, а яшчэ горад і выспа ў Азіі. Яго матэматычныя і геаграфічныя працы сталі набыткамі сусветнай навуковай класікі. Не стану доўжыць свой ліст іншымі прыкладамі падобнага роду, іх шмат.

І калі гарвыканкам сапраўды хоча правесці конкурс на стварэнне складзеня Магілёва (менавіта гарвыканкам, а не крама «Азбука»), то я гатовы папрацаваць над сваім варыянтам. Мяркую, што ён павінен адпавядаць наступным патрабаванням:

1. Невялікі тэкст (максімум два радкі нібыта верша, не абавязкова рыфмаваныя, нават лепш нерыфмаваныя);

2. Рытмічнасць, лёгкаўспрымальнасць і лёгказапамінальнасць;

3. Мова — беларуская; дадатковым плюсам стане беспраблемнае перастварэнне складзеня на рускай і ангельскай мовах (апошняе не абавязкова);

4. У складзені павінна адзначацца багатая гісторыя Магілёва;

5. Могуць быць геаграфічныя пазнакі з выкарыстаннем назваў «Еўропа» (пазначэнне «Усходняя» лішняе) ці «Беларусь».

Магчыма, спіс патрабаванняў можа быць падоўжаны.

Такім чынам, Магілёў атрымае вартасны складзень, які стане ўпрыгожваць вуліцы нашага горада. А складзень «Азбукі» няхай гэтая крама вывешвае ў сваёй вітрыне.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*14.02.2011 г.* *І. Шардыка — М. Булавацкаму*

Паважаны спадар Булавацкі!

Магілёўскі гарвыканкам даводзіць да ведама, што прапановы і заўвагі, агучаныя ў Вашым лісце, будуць абавязкова ўлічаны пры правядзенні краязнаўчых конкурсаў. Пры гэтым паведамляе, што ў бліжэйшы час падобных конкурсаў установа культуры «Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных публічных бібліятэк г. Магілева» праводзіць не плануе.

Разам з гэтым, прапануем Вам даслаць свае ідэі адносна слогана пра Магілёў на сайт цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя К. Маркса (csgpb@tut.by), або лістом па пошце (г. Магілёў, вул. Першамайская, 30).

Слоганы будуць уключаны ў буклет, які рыхтуецца да выдання ўстановай культуры «Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных публічных бібліятэк г. Магілева».

*Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама І.В. Шардыка*

*27.02.2011 г.* *М. Булавацкі — І. Шардыку*

Паважаны Ігар Уладзіміравіч!

Каб не паглядзеў на подпіс у Вашым лісце, дык мог падумаць, што мне адказвае дырэктар бібліятэкі. Што збіраецца і што не збіраецца рабіць бібліятэка — пакіньце вырашаць яе дырэктару. Я ж турбаваўся і турбуюся аб тым, каб неразумныя складзені не пераскочылі на расцяжкі вуліц нашага горада. А тут бібліятэка ні пры чым.

Таму свой удасканалены альтэрнатыўны складзень прапаную гарвыканкаму, а не бібліятэцы. Можна й без конкурсу, я на прыз не прэтэндую.

**Твой шлях у Еўропе авеяны славаю,**
**Творца-змагар-працаўнік Магілёў!**

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*15.03.2011 г.* *І. Шардыка — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Магілёўскі гарвыканкам даводзіць да вашага ведама, што мы турбуемся і будзем турбавацца аб тым, каб «неразумныя слоганы не пераскочылі на расцяжкі вуліц нашага горада».

Лічым, што дасланыя на конкурс слоганы, якія былі адобраны журы, маюць права на існаванне і могуць быць выкарыстаны ў практычнай дзейнасці.

Ваша прапанова альтэрнатыўнага слогана прынята да ведама.

*Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама І.В. Шардыка*

*Складзень пра Магілёў як сэрца на вулічных расцяжках горада не з'явіўся, хаця мне паведамілі, што такое планавалася. Мой варыянт таксама пыліцца ў архівах гарвыканкама. Так што наша спрэчка закончылася з лікам 0:0.*

*Варта спыніцца яшчэ на адной дэталі гэтай гісторыі. Журы конкурса складзеняў было даволі вялікім. Туды ўключылі нават двух вядомых у Беларусі магілёўскіх гісторыкаў, кандыдатаў гістарычных навук, дацэнтаў універсітэтаў, якія валодаюць і актыўна ка-*

*рыстаюцца роднай мовай. Болей за тое, нават часта выступаюць у яе абарону. І вось тут бы ім праявіць гэтую якасць сваёй грамадзянскай пазіцыі, выказацца на журы аб тым, што складзень для расцяжак на магілёўскіх вуліцах павінен быць на роднай мове. Не, і яны прагаласавалі за рускамоўны варыянт. Адзін з іх, пачуўшы маю крытыку ў бок выбранага журы варыянта, выказаўся, нібыта я займаюся драбязой.*

*Дык вось пра «драбязу». У розных творах ваеннай тэматыкі можна прачытаць, як тыя ці іншыя войскі змагаліся за нейкую вышыню. Тая вышыня для ўсяго фронта — драбяза. Здавалася б, кінь яе, абыдзі і рухайся далей. Але кладуць людзей, каб узяць вышыню. Бо зразумела, што не трэба пакідаць у сваім тыле варожыя войскі.*

*Дык тое ж на вайне, — скажуць мне. А ў нас і зараз ідзе вайна, вайна за нашу мову, без якой беларускі народ перастане існаваць як народ. І ў гэтай вайне любая самая маленькая перамога стане ўнёскам у перамогу вялікую. І тут нішто не драбяза. Без такога ўсведамлення прайграем гэтую вайну!*

# БЕРВЯНО НА ДАРОЗЕ

Не лучше ли при жизни быть
Приличным человеком?

*Владимир Высоцкий*

*14.02.2011 г.* *М. Булавацкі — Начальніку аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама*

Хаця я маю ўжо пенсійны ўзрост, але маё настаўніцкае майстэрства і мой досвед маюць попыт. Да мяне прыходзяць вучні, каб я дапамог ім падрыхтавацца да цэнтралізаванага тэставання па матэматыцы. Мая дапамога каштуе грошай, якія не кожная сям'я можа знайсці. Хацелася б дапамагчы бедным сем'ям, бо даволі часта там знаходзяцца таленавітыя дзеці, якія, не атрымаўшы своечасовай дапамогі, губляюцца ў жыцці. Я прапаноўваў некалькім дырэктарам школ весці свае пазаўрочныя заняткі матэматыкі для невялікіх груп (да 6 чалавек) бясплатна. Дырэктары сустракалі маю прапанову прыхільна, але кожны з іх казаў, што сам не можа вырашыць гэтае пытанне, патрабуецца дазвол упраўлення адукацыі.

Таму я звяртаюся да Вас: прашу даць дазвол на мае бясплатныя заняткі матэматыкай у падначаленых Вам школах з невялікімі групамі старшакласнікаў, якія рыхтуюцца да здачы тэстаў па матэматыцы. У выпадку станоўчага адказу ўсе астатнія пытанні, звязаныя з такімі заняткамі, я буду вырашаць з кіраўнікамі школ.

*Булавацкі М.П., настаўнік вышэйшай катэгорыі, індывідуальны прадпрымальнік у галіне матэматычнай адукацыі*

*23.02.2011 г.* *Аддзел адукацыі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхаіл Пятровіч!

Аддзел адукацыі Магілёўскага гарвыканкама, разгледзеўшы Ваш зварот, інфармуе наступнае.

У кожнай агульнаадукацыйнай установе горада арганізаваны, па запытах бацькоў, на бясплатнай аснове факультатыўныя заняткі для падрыхтоўкі вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы. Факультатыўныя заняткі праводзяцца з невялікімі групамі вучняў у пазаўрочны час.

Праводзіць заняткі па падрыхтоўцы вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы ў агульнаадукацыйных установах горада па запыту бацькоў могуць толькі настаўнікі ўстаноў адукацыі.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам Вы маеце права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама…

*Начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Я.І. Дуплеўскі*

*15.03.2011* *М. Булавацкі — Я. Дуплеўскаму*

Паважаны Яўген Іванавіч!

Правучыўшыся на ўроках і на факультатыўных занятках у настаўнікаў школ, гімназій, вучні ідуць да мяне за матэматычнымі ведамі і плоцяць за гэта немалыя для іх сямейнага бюджэту грошы. Па вельмі простай прычыне: я магу зрабіць тое ж значна лепш, чым гэта робяць мае былыя студэнты, якія працуюць у навучальных установах горада (выбачайце за нясціпласць).

Вы пішаце: «Праводзіць заняткі па падрыхтоўцы вучняў да цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы ў агульнаадукацыйных установах горада па запыту бацькоў могуць толькі настаўнікі ўстаноў адукацыі». Гэтая фраза мяне здзівіла. Я шмат разоў, будучы выкладчыкам універсітэта, праводзіў розныя заняткі ў школах горада, і тады гэта лічылася нармальным. Няўжо тут нешта змянілася? Калі працытаваная фраза адпавядае нейкай пастанове Міністэрства ці іншага адукацыйнага органа, тады назавіце мне тую пастанову з яе нумарам і датай, каб я мог перайсці на размову з гэтым органам. У іншым выпадку гэта становіцца асабіста Вашым рашэннем, на мой погляд, зусім неразумным. І калі Вы станеце ўпарціцца ў такім рашэнні, я буду змушаны перанесці размову на старонкі прэсы і звярнуцца да бацькоў тых вучняў, якія з маёй дапамогай маглі б атрымаць лепшую матэматычную адукацыю, але «дзякуючы Вам» не атрымаюць.

Думаю, што не варта Вам так рызыкаваць сваёй рэпутацыяй, ставіць пад сумненне свой аўтарытэт як кіраўніка органа АДУКАЦЫІ. Як я разумею, кіраўнік у сістэме адукацыі павінен выкарыстоўваць любыя магчымасці для таго, каб дзеці падначаленага яму рэгіёна атрымалі самую высокую адукацыю. Хіба Вы сваю ролю бачыце іншай?

Ваш недазвол на мае бясплатныя заняткі, натуральна, аблегчыць мне жыццё. Але ўскладніць жыццё нашай краіны, для якой несумненна лепш, калі яе грамадзяне атрымаюць больш грунтоўную адукацыю. Наўрад ці разумна Вам пачынаць сваю дзейнасць на такой высокай пасадзе з падобных непаразуменняў.

Таму я прашу ўдумліва аднесціся да маёй прапановы і вырашыць пытанне на карысць вучням і нашай краіны.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась (такое імя ў маім пашпарце) Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі, аўтар вучэбных дапаможнікаў «Матэматыка — 5бг», «Цалкам зразумелая трыганаметрыя» і чатырох дзясяткаў навукова-метадычных публікацый па праблемах выкладання матэматыкі, навуковы кіраўнік эксперымента па засваенні настаўнікамі г. Мінска наватарскіх тэхналогій навучання ды інш.*

P. S. Хачу звярнуць Вашу ўвагу на адну праблему, аб якой пачуў ад вучняў, што прыходзяць на мае заняткі. Вельмі часта ў выпадку хваробы настаўніка яго ўрокі ніхто не замяняе, урокі прападаюць. Што не на карысць якасці атрыманай вучнямі адукацыі. Упарадкуйце гэта, калі ласка. У Магілёве шмат беспрацоўных настаўнікаў, сярод якіх нават лепшыя з былых студэнтаў фізмата. Чаму б іх не скарыстоўваць для такіх часовых падмен?

*28.03.2011* *Я. Дуплеўскі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 5 ліпеня 2006 г. №141–3 «Аб агульнай сярэдняй адукацыі» да ўдзельнікаў адукацыйнага працэсу ва агульнаадукацыйных установах адносяцца: педагагічныя работнікі, вучні і іх законныя прадстаўнікі (гл. 6, арт. 43). Да педагагічных работнікаў агульнаадукацыйных устаноў адносяцца спецыялісты, якія ажыццяўляюць навучанне і выхаван-

не вучняў у гэтых установах адукацыі (гл. 6, арт. 46). Выкладчыкі вышэйшых навучальных ўстаноў маюць права ажыццяўляць педагагічную дзейнасць (пры наяўнасці вакантных гадзін) ва агульнаадукацыйных установах на ўмовах тэрміновага працоўнага дагавору па сумяшчальніцтву.

У час хваробы настаўніка заняткі ў абавязковым парадку праводзяцца другім педагогам дадзенай установы адукацыі. З мэтай выключэння такіх выпадкаў у далейшым просім назваць установу адукацыі, дзе мела месца апісаная ў Вашым звароце праблема.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам Вы маеце права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама…

*Начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Я.І. Дуплеўскі,*
*настаўнік вышэйшай катэгорыі, бакалаўр педагагічных навук,*
*пераможца абласнога конкурсу «Настаўнік-2004», пераможца*
*абласнога конкурсу «Лепшы педагог дадатковай адукацыі—2006»,*
*аўтар праграмы «Краіназнаўства англійскамоўных краін» ды інш.*

*30.03.2011 г.* *М. Булавацкі — Я. Дуплеўскаму*

Паважаны Яўген Іванавіч!

Агледзеўшы тытулы, якімі Вы падпісалі свой ліст, магу сказаць наступнае: калі б я быў начальнікам аддзела адукацыі, я б дазволіў Вам весці любыя заняткі ў любой школе, а калі без аплаты, то й з вялікай радасцю. Ніякіх перашкод такой ініцыятыве з майго боку не было б.

Што тычыцца канкрэтна майго запыту, то я нешта не зразумеў. Ці Вы не лічыце мяне педагагічным работнікам? Спецыяльнасць «настаўнік» пазначана ў маім дыпломе.

Я не прэтэндую на наяўнасць «вакантных гадзін» для працы па сумяшчальніцтве. Я не шукаю заробку. Я прапаную сваю працу без аплаты з тымі вучнямі, якія прыйшлі б да мяне дадому і плацілі б грошы за маю працу, калі б тыя грошы ў іх былі. Не могуць яны плаціць, бо бацькі небагатыя. Я ведаю, што менавіта ў такіх сем’ях бываюць найбольш таленавітыя дзеці. Дайце ім магчымасць навучыцца матэматыцы з маёй дапамогай. Яны гэтага хочуць, і бацькі іх гэтага хочуць, і дырэктары школ прыязна ставяцца да гэтага. Ні ад школы, ні ад гарвыканкама не спатрэбіцца нават капейкі за

дадатковую прыстойную матэматычную адукацыю для асобных вучняў. Ад Вас патрабуецца адно толькі слова: **згодзен.**

Акрамя матэматыкі, яны яшчэ і мову нашу родную засвояць, бо я выкладаю матэматыку ў беларускай мове. Яны хоць пачуюць, як яна, жывая, гучыць, якая яна прыгожая, і навучацца самі размаўляць гэтай мовай.

І я ўвогуле здзіўлены, што слова «згодзен» Вам так не хочацца вымавіць. Што ж перашкаджае?..

*М. Булавацкі*

*08.04.2011 г.* *Я. Дуплеўскі — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Аддзел адукацыі Магілёўскага гарвыканкама, разгледзеўшы Ваш зварот наконт дазволу правядзення бясплатных заняткаў па матэматыцы з вучнямі агульнаадукацыйных устаноў, інфармуе наступнае.

Па гэтаму пытанні Вам былі дадзены вычарпальныя тлумачэнні ў пісьмовай форме.

У выпадку нязгоды з дадзенымі адказамі Вы мелі права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама (у кожным адказе ўказаны канкрэтны адрас).

На жаль, Вашы довады разыходзяцца з дзеючым Заканадаўствам у сістэме адукацыі.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 6 чэрвеня 1996 г. № 407-XIII «Аб зваротах грамадзян» перапіска з Вамі па дадзеным пытанні спыняецца.

Дзеянні аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Вы маеце права абскардзіць ва ўстаноўленым парадку, у тым ліку ў судовых інстанцыях.

*Начальнік аддзела адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Я.І. Дуплеўскі*

*15.04.2011 г.* *М. Булавацкі — Я. Дуплеўскаму*

Яўген Іванавіч! Вы не любіце дзяцей. І ўсе тыя тытулы, якімі Вы падпісалі адзін з сваіх лістоў, зробленыя Вамі не для таго, каб дапамагчы дзецям у іх развіцці, а для ўласнай кар'еры. Зараз, калі Вы ступілі на прыступку кар'ернай лесвіцы, Вы баіцеся. У Вас паталагічны страх зваліцца з гэтай лесвіцы, бо Вы не любіце дзяцей і Вам вельмі не хочацца вяртацца ў іх бурлівае асяроддзе. Гэты страх і прымушае Вас паводзіць сябе вельмі асцярожна, каб не прагневаць тую «адвёртку», якая верціць Вамі, «вінцікам» гэтай бюракратычнай машыны. Вам хочацца залезці яшчэ вышэй, бо Вам здаецца, што гонар чалавека — у важкасці той пасады, якую ён займае. Гонар чалавека Вы ацэньваеце велічынёй матэрыяльнага дабрабыту, які дае пасада. Звычайная памылка маладога і няправільна выхаванага чалавека. Гэтая чалавечая паталогія робіць Вас нецікавым для мяне, таму і я спыняю кантакты з Вамі.

Такія тыпы людзей добра апісаны ў літаратуры. Калі Вы перачытаеце Гогаля ці Салтыкова-Шчадрына, то сярод іх герояў Вы пазнаеце сябе. Зычу Вам поспехаў у кар'ерным прасоўванні, бо чым вышэй Вы на гэтай лесвіцы, тым далей ад дзяцей, а гэта для іх лепш. Служыце!..

*М. Булавацкі*

*Варта прыгадаць І. Крылова:*
*«В природе и в чинах высокость хороша;*
*Но что в ней прибыли, когда низка душа?»*

*Чыноўнік Дуплеўскі так жаданай высокасці не дасягнуў. За фінансавыя махінацыі ён быў звольнены з пасады, яму пагражаў турэмны тэрмін. Але слёзным лістом да А. Лукашэнкі і вернутым накрадзеным ён вымаліў сабе «гасподскую літасць».*

*Цікавыя парадкі завяліся ў дзяржаўнай вертыкалі: можна красці, пакуль не зловяць. А калі зловяць, пакаянны ліст да галавы дзяржавы і адкупныя ў казну ўратуюць цябе ад заслужанага пакарання. Пазней, аддыхаўшыся ад непрыемнасцяў, можна будзе зноў якую пасаду заняць. Пачалося ад Галіны Жураўковай, кіраўніцы ўпраўлення справамі Прэзідэнта, якая прысабечыла некалькі мільёнаў долараў і тым не менш пазбегла турэмнага тэрміну. Каб не выдумляць, спашлюся на афіцыйнае паведамленне ў СМІ: «*Галину

Журавкову признали виновной в завладении имуществом в особо крупном размере с использованием служебных полномочий (речь шла не об одном миллионе долларов). Суд приговорил ее к 4 годам лишения свободы с конфискацией имущества и отбыванием наказания в колонии общего режима. Однако в колонию она так и не приехала — Лукашенко помиловал её. Журавковой запрещено занимать руководящие должности в течение 5 лет». *Зараз Жураўкова займае даволі «тлустую» пасаду ў Маскве. Зайздросная перспектыва для такіх, як Дуплеўскі. Вось і яму захацелася...*

*Увогуле, як часта трапляюць на прыступкі гэтай вертыкалі людзі, маральна не гатовыя займаць такія пасады. На вышыні, якая перавышае іх чалавечыя здольнасці, але на якую яны ўзняліся ці на якую іх узнялі, можа закружыцца галава, і адчуванне ўседазволенасці тлуміць розум і выпускае з душы самае гадкае. Вось і знаёмы нам ужо В. Багданаў не дажыў да пенсіі на высокай пасадзе начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі. Скатваючыся па прыступках уніз, ён спыніўся ў ролі дырэктара шахматна-шашачнага клуба.*

*І пакуль адукацыя ў Беларусі (у прыватнасці, у Магілёве) будзе залежаць ад раманавых-багданавых-дуплеўскіх, нічога добрага ад такой адукацыі чакаць не трэба.*

*Дуплеўскі ачомаўся даволі хутка. Зараз «бакалаўр педагагічных навук» зноў у сістэме адукацыі. І, па чутках, ужо прэтэндаваў на пасаду дырэктара адной з Магілёўскіх гімназій. Бацькі вучняў устурбаваліся гэтай навіной і пачалі пісаць пратэстныя лісты ў кіраўнічыя органы горада, вынікам чаго пасаду дырэктара заняў іншы чалавек. Вось як, яму б стаяць пакаяльна на каленях у царкве і замольваць грахі, а ён зноў хоча пралезці ў вертыкальную ўтульнасць. І пралезе ж! Але хай бы тое здарылася, бо зараз ён працуе непасрэдна з дзецьмі, ствараючы небяспеку для іх маральнаснага выхавання, а, падняўшыся на лесвіцу, будзе далей ад іх.*

*Адна мая знаёмая, азнаёміўшыся з гэтай перапіскай, паўшчувала мяне: «Ну чаму ж вы не звярнуліся да начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі?» Гэтая жанчына, мабыць, не мела вопыту стасункаў з чыноўнікамі. Што можна было чакаць ад абласнога начальніка? «Звяртайцеся да дырэктара школы, — скажа ён, — і з дырэктарам вырашайце пытанне». Дырэктар зноў пашле мяне да Дуплеўскага (таго самага ці іншага), а той — у абласное ўпраў-*

*ленне. І будзе чалавек круціцца, як вавёрка ў коле, пакуль не плюне і адступіцца, чаго й чакаюць дуплеўскія. Папулярны чынавенскі прыём, якім валодаюць чыноўнікі з «малалецтва», г. зн. з першых крокаў па чыноўнай лесвіцы. Не ведаю, ці іх адмыслова вучаць падобным прыёмам, ці гэта існуе ў іх генах. Мне ўжо колькі разоў давялося пакруціцца ў такіх колах, таму й не стаў турбаваць абласнога начальніка, губляць час на пустое.*

*Але адзначым: сёння дырэктар школы — зусім не гаспадар у сваёй школе, як тое было ў часы СССР. На любы «пук-пшык» ён павінен зараз атрымаць дазвол зверху. А паколькі працэдура атрымання дазволу груваасткая, то лепш абысціся без нейкіх новых ініцыятываў. Папулярная прымаўка: «инициатива наказуема!»*

*Неяк вычытаў у «Настаўніцкай газеце»:*

«Задайце пытанне Міністру адукацыі! Абвешчана наўпростая тэлефонная лінія з Міністрам адукацыі Сяргеем Маскевічам. Педагогі, вучні і бацькі змогуць задаць свае пытанні Міністру 20 красавіка, з 14 да 15 гадзін, праз нумар …Таксама можна папярэдне даслаць пытанні на паштовы адрас «Настаўніцкай газеты»… альбо на электронную пошту public@nastgaz.by з пазнакай «Наўпростая лінія з міністрам адукацыі»».

*Падумаў: няхай і над маім пытаннем міністр памудруе. Даслаў і на паштовы адрас, і на e-mail:*

«Я — вопытны настаўнік матэматыкі. Зараз, у пенсійным узросце я някепска зарабляю хатнім настаўніцтвам (рэпетытарствам), бо мае здольнасці і досвед даюць плён і гэта цэніцца ў горадзе. Але заняткі са мной каштуюць грошай, якія не кожная сям'я мае. Хацелася б дапамагчы дзецям з небагатых сем'яў, бо часта менавіта ў такіх сем'ях знаходзяцца таленавітыя дзеці. Дырэктарам некалькіх суседніх школ я прапанаваў весці ў пасляўрочны час свае **бясплатныя** заняткі з невялікімі групкамі старшакласнікаў, якія рыхтуюцца да здачы тэстаў. Дырэктары сустракалі маю прапанову прыхільна, але казалі, што на такія заняткі патрэбен дазвол вышэйшай інстанцыі. Паколькі такая сітуацыя можа ўзнікнуць не толькі ў мяне і не толькі ў нашым горадзе, я звяртаюся да Міністра: дазвольце дырэктарам школ карыстацца бясплатнай дапамогай вопытных настаўнікаў у пазаўрочны час. Пры Вашым дазволе ўсе астатнія пытанні, звязаныя з такімі заняткамі, яны змогуць вырашаць самі. З прывітаннем, Булавацкі М.П., Магілёў».

*У газеце з’явіліся адказы Міністра «на большасць зададзеных пытанняў». Маё пытанне ў тую большасць не ўвайшло.*

*Прашло 6 год…*

*9.03.2017 г.* *М. Булавацкі — Старшыні Магілёўскага гарвыканкама У. Цумараву*

«Хворая маральнасць адукацыі» — магчыма, так я назаву чарговы артыкул пра магілёўскую адукацыю. Нядаўна даведаўся, што бакалаўр Дуплеўскі, якога за фінансавыя махінацыі знялі з пасады начальніка ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму гарвыканкама, якому пагражаў турэмны тэрмін і які слёзным лістом да Прэзідэнта выпрасіў сабе даравання, прызначаны дырэктарам гімназіі № 4. Годам раней ён прэтэндаваў на пасаду дырэктара гімназіі № 3, але бацькі вучняў гэтай установы схамянуліся і пачалі актыўна пратэставаць. Прызначэнне не адбылося. У 4-й гімназіі бацькі, мабыць, не ведалі, каго іх дзецям прызначаюць у дырэктары.

Вось зараз думаю: няўжо прафесійная прастора магілёўскай адукацыі настолькі збяднела, што на пасаду дырэктара навучальнай установы даводзіцца прызначаць чалавека з бруднай маральнасцю?

У той жа струмень думак яшчэ адна. Час ад часу сустракаю былога начальніка абласнога ўпраўлення адукацыі. «Зялёны змей» не даў яму дапрацаваць на гэтай пасадзе да пенсіі. Ну і няхай бы дапрацаваў да пенсіі на пасадзе, не звязанай з дзецьмі. Няўжо цяжка было знайсці яму такую пасаду? Не, і гэты працягвае вучыць дзяцей! Хаця б шахматам…

Сапраўды, нешта ненармальнае з маральнасцю ў магілёўскай адукацыі! Я не пра маральнасць названых тут асоб. Я пра маральнасць тых людзей, якія прызначаюць гнілое на кіраўнічыя пасады. Пашкадуйце дзяцей! На каго яны павінны раўняцца ў сваім чалавечым развіцці?

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст*

P. S. Не здзіўлюся, калі пачую, што Дуплеўскі зноў стане начальнікам упраўлення адукацыі ў Магілёве. Няшчасныя магілёўскія дзеткі!..

*Падобныя лісты былі накіраваныя старшыні гарвыканкама, намесніку старшыні аблвыканкама і ў Адміністрацыю Прэзідэнта.*

*20.03.2017 г.* *Магілёўскі гарвыканкам — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Магілёўскі гарвыканкам на Ваш зварот, накіраваны ў адрас кіраўніцтва гарвыканкама, інфармуе.

Дуплеўскі Я.І. прызначаны на пасаду дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 4 г. Магілёва» 03.01.2017 у адпаведнасці з кадравым рэестрам Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта і парадкам прадстаўлення, узгаднення і прызначэння (вызвалення) на пасады, уключаныя ў яго, зацверджаным рашэннем Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 07.07.2010 № 16–50…

*Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама А.А. Галушка*

*12.04.2017 г.* *М. Булавацкі — старшыні Магілёўскага гарвыканкама У. Цумараву*

Паважаны Уладзімір Міхайлавіч!

Напачатку сакавіка я адправіў Вам ліст аб сваім здзіўленні наконт прызначэння Я. Дуплеўскага дырэктарам гімназіі № 4. На яго атрымаў адказ ад імя вашай намесніцы А. Галушка… у якім паведамлялася, што Дуплеўскі прызначаны дырэктарам «у адпаведнасці з кадравым рэестрам Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта…»

Тут можна было паёрнічаць: ці шмат у тым рэестры фінансавых махінатараў і чаму менавіта Дуплеўскага спадарыня Галушка палічыла ўзорам для выхавання навучэнцаў гімназіі № 4?

Але калі без гэтага, то хацелася б сказаць наступнае. Чуткі аб карупцыі ў структуры гарвыканкама — гэта чуткі, без якіх, магчыма, любы гарвыканкам не існуе. Але калі такія чуткі становяцца явай, калі падобнае робіцца нахабна-адкрыта, то імідж такой уладнай структуры рэзка апускаецца і ў далейшым пра яе кіраўніка

застануцца ўспаміны, на падставе якіх людзі створаць адпаведныя анекдоты. Старайцеся пазбягаць прыняцця такіх рашэнняў.

Прызначэнне Дуплеўскага на пасаду дырэктара менавіта з такіх. Успомніце, хто Вам параіў уключыць гэтую асобу ў памянуты рэестр і неяк угаварыў, магчыма, «забыўшы» патлумачыць, чым адметная гэтая асоба і якую рэакцыю яна выклікае ў грамадстве. Вам надалей не варта давяраць гэтаму чалавеку. Бо, мяркую, хутка ён прыйдзе да Вас з прапановай прызначыць гэтага бакалаўра кіраваць упраўленнем адукацыі гарвыканкама. І гэта будзе ўжо поўны «атас»!

Спадзяюся, Вы надалей будзеце ўстойлівымі перад такімі парадамі. Чаго і зычу.

*4.04.2017 г.* *Упраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Булавацкі!

Ваш зварот да намесніка старшыні Магілёўскага аблвыканкама А.М. Кунцэвіча па пытанні адукацыі на Магілёўшчыне разгледжаны ўпраўленнем адукацыі аблвыканкама. Паведамляем наступнае.

У Магілёўскай вобласці забяспечваецца стабільнае функцыянаванне і развіццё галіны адукацыі. Прымаюцца канкрэтныя арганізацыйна-практычныя меры па стварэнні ўмоў, умацаванні і развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы, павышэнні прафесійнага ўзроўню педагогаў, якія забяспечваюць бяспеку жыццядзейнасці ўстаноў адукацыі, павышэнне якасці адукацыі на ўсіх яго ўзроўнях, задавальненне запытаў насельніцтва ў адукацыйных паслугах.

Дуплеўскі Яўген Іванавіч прызначаны на пасаду дырэктара ДУА «Гімназія № 4 г. Магілёва»… 03.01.2017 у адпаведнасці з кадравым рэестрам Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта… зацверджаным рашэннем Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта ад 07.07.2010 № 16–50. Згодна з кадравым рэестрам, Магілёўскім гарвыканкамам адносна Дуплеўскага Я.І. былі накіраваны запыты ў Камітэт дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці, пракуратуру г. Магілёва і Магілёўскай вобласці, упраўленне ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама. Па выніках разгляду атрыманы адказы аб узгадненні. Акрамя гэтага, Я.І. Дуплеўскі прайшоў узгад-

ненне з старшынёй Магілёўскага гарвыканкама Цумаравым У.М., намеснікам старшыні Магілёўскага гарвыканкама Галушка А.А., першым намеснікам кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Мысліўцом С.С.

Дуплеўскі Я.І. мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю настаўніка, першую кваліфікацыйную катэгорыю педагога дадатковай адукацыі. Узнагароджаны нагрудным знакам «Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь», Граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Яўген Іванавіч з'яўляўся пераможцам конкурсу «Малады настаўнік года» ў 2003 годзе, пераможцам абласнога конкурсу «Настаўнік года — 2004», пераможцам конкурсу «Лепшы педагог дадатковай адукацыі — 2006».

Гімназія № 4 створана на базе сярэдняй школы № 30 г. Магілёва ў 1992 годзе і мае агульнагуманітарны профіль. У апошні час у гімназіі пашыраецца спектр вывучэння замежных моў, у прыватнасці англійскай і кітайскай. Я.І. Дуплеўскі як высокакваліфікаваны спецыяліст, які мае глыбокія веды па замежных мовах і методыках іх выкладання, здольны ўдасканальваць адукацыйны працэс у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі.

Даводзім да ведама, што калектыў гімназіі № 4 звярнуўся ва ўпраўленне адукацыі, спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама з лістом ад 21.02.2017, у якім выказаў усялякую падтрымку новаму кіраўніку.

Я.І. Дуплеўскі, у дачыненні да якога была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2. арт. 210 КК Рэспублікі Беларусь, звярнуўся на імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з прашэннем аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з добраахвотнай кампенсацыяй шкоды, якое было задаволена. Шкода, прычыненая ў выніку здзейсненага злачынства, кампенсавана ім у поўным аб'ёме.

Згодна з патрабаваннямі арт. 51 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі, педагагічную дзейнасць не могуць ажыццяўляць асобы, пазбаўленыя права займацца педагагічнай дзейнасцю, якія маюць судзімасць, а таксама асобы, якія не маюць права займацца педагагічнай дзейнасцю ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі.

Улічваючы, што вытворчасць па крымінальнай справе ў дачыненні да Дуплеўскага Я.І. спынена з вызваленнем яго ад крымінальнай адказнасці ў сувязі з прымяненнем мер адміністрацыйнага

спагнання, ён меў магчымасць звярнуцца ў органы кіравання адукацыяй за аказаннем садзейнічання ў працаўладкаванні ва ўстановы адукацыі.

Багданаў В.С. прызначаны на пасаду дырэктара Магілёўскай абласной спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву па шахматах і шашках 02.12.2013 па ўзгадненню з Магілёўскім аблвыканкамам. За час працы зарэкамендаваў сябе кваліфікаваным, ініцыятыўным кіраўніком. Валодае арганізатарскімі здольнасцямі, лідарскімі якасцямі, шырокім кругаглядам, уменнем бачыць перспектыву. Яго поспехі за час працы ў сістэме адукацыі адзначаны living рознымі ўзнагародамі на ўзроўні вобласці і рэспублікі…

*Начальнік упраўлення У.У. Рыжкоў*

*Каб лепей зразумець тое, аб чым гаворыцца ў лісце майго былога студэнта, заглянем у паведамленні БелаПАН (фактычна адзіная крыніца інфармацыі па дадзенай справе; ні адна з магілёўскіх газет не закранула гэтае слізкае пытанне, такая ў Магілёве дзіўная «чацвёртая ўлада»).*

08.10.2014 **Могилевский чиновник, которого подозревают в хищении, просит Лукашенко помиловать его**

Бывший начальник управления образования Могилевского горисполкома Евгений Дуплевский, подозреваемый в коррупционном преступлении, подал на имя Лукашенко прошение о помиловании.

В отношении него возбуждено уголовное дело по ч. 2 ст. 210 УК (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное повторно либо группой лиц по предварительному сговору). Санкция предусматривает до семи лет лишения свободы с конфискацией имущества.

Чиновник подозревался в том, что в соучастии с должностными лицами средней школы города совершил хищение путем злоупотребления служебными полномочиями. Было установлено, что в 2010–2013 годах он оформлялся в школу на работу по совместительству учителем факультативных занятий на условиях срочного трудового договора, при этом занятия не проводил. Ему фиктивно была начислена зарплата на общую сумму около 22 млн. рублей.

В 2007 году Евгений Дуплевский, занимая должность инспектора по делам несовершеннолетних, проводил допрос сына могилев-

ской оппозиционерки Кристины Шатиковой. Он интересовался у подростка, чем занимается его мать, с кем она встречается в Минске, по каким адресам проживает и кто числится среди ее знакомых.

04.12.2015 **Обвиненный в коррупции могилевский чиновник помилован Лукашенко**

Бывший начальник управления образования Могилевского горисполкома Евгений Дуплевский, обвиненный в коррупционном преступлении, помилован президентом…

«Помилован еще весной этого года. Это значит, что он возместил ущерб в двукратном или трехкратном размере», — заявил БелаПАН начальник отдела по борьбе с коррупцией прокуратуры Могилевской области Андрей Волков.

Санкция статьи, которая вменялась Дуплевскому, предусматривает до семи лет лишения свободы с конфискацией имущества.

17.02.2017 **В Могилеве обвинявшийся в хищениях чиновник возглавил гимназию.** *Назначение состоялось, невзирая на мнения общественности города и родителей учащихся.*

Бывший начальник управления образования Могилевского горисполкома Евгений Дуплевский, обвиненный в коррупционном преступлении и помилованный президентом, назначен директором гимназии № 4 Могилева.

В феврале 2014 года областная прокуратура сообщила о возбуждении в отношении чиновника уголовного дела по части 2 статьи 210 УК (хищение путем злоупотребления служебными полномочиями, совершенное повторно либо группой лиц по предварительному сговору)…

Впоследствии бывший чиновник, признав свою вину в хищениях, подал президенту прошение о помиловании. Прошение было удовлетворено весной 2015 года после возмещения Дуплевским суммы похищенного.

После помилования в Могилеве появилась неподтвержденная информация, что Евгений Дуплевский может быть назначен директором гимназии № 3. Родители и близкие учащихся были против такого назначения. Один из них — председатель Могилевской областной организации ОГП Владимир Шанцев обращался по этому

поводу к председателю Могилевского горисполкома Владимиру Цумареву с просьбой прояснить ситуацию с возможным назначением Дуплевского директором гимназии № 3. Градоначальник ответил, что данный вопрос не рассматривается, сказал *БелаПАН* Шанцев.

Как сообщили *БелаПАН* в гимназии № 4, новую должность Евгений Дуплевский занимает с начала января 2017 года.

Владимир Шанцев крайне негативно воспринял информацию о новой должности Евгения Дуплевского. «Коррупционеры не могут сеять разумное, доброе, вечное. Чего-то требовать от подчиненных учителей они не имеют никакого морального права. Тем не менее назначение состоялось. Это совершенно негодная практика борьбы с коррупцией. Я не сомневаюсь, что дети прочитали про него все, что написано в интернете. И что, он будет примером для подражания?» — сказал Шанцев.

Заместитель директора по воспитательной работе гимназии № 4 Алла Прибавкина заявила *БелаПАН*, что не готова выразить свое мнение относительно назначения Евгения Дуплевского. Сам же директор, по ее словам, находится в командировке.

*Зараз чакаю, калі недавучаныя ў гімназіі № 4 пачнуць звяртацца да мяне як да рэпетытара…*

# БАНК МОВУ ЗАСВОІЎ

*Давялося неяк займець кантакты з «Белінвестбанкам». І зноў тая ж праблема: ні беларускамоўных бланкаў, ні супрацоўнікаў, якія мовай валодаюць. Поўнае грэбаванне тытульнай мовай краіны, якая пазначана ў назве банка.*

*Далі запаўняць паперкі на мове, натуральна, не нашай.*

*— Тут бланкі на мове, якой я не карыстаюся. А на нашай ёсць?*

*— Нет.*

*— Чаму?*

*— Не напечаталі.*

*— Дык надрукуйце. Я пачакаю.*

*— У нас разработаны формы документов.*

*— Я не прапаную змяняць форму. Змяніце мову. А форма няхай застаецца.*

*— У нас два государственных языка.*

*— І што? Чаму вы карыстаецеся толькі адной з дзяржаўных моваў?*

*— У нас нет времені с вамі разговарівать.*

*— Сапраўды, мабыць, не паразумеемся. А дзе ваша кніга заўваг і прапаноў?*

*— У прыёмнай.*

*Зайшоў у прыёмную і пакінуў запіс.*

*31.10.2011 г.* *Белінвестбанк — М. Булавацкому*

Уважаемый Михаил Петрович,

Согласно статьи 8 Закона Республики Беларусь от 26.01.1990 №3094-Х1 (в редакции от 03.07.2011) «Об языках в Республике Беларусь» языками делопроизводства и документации, а также языками взаимоотношений государственных органов и других организаций являются белорусский и (или) русский языки.

Головной филиал по Могилевской области ОАО «Белинвестбанк» является структурным подразделением ОАО «Белинвестбанк» (220002, г. Минск, пр. Машерова, 29). В своей деятельности филиал выступает от имени Банка и руководствуется законодательством Республики Беларусь и локальными нормативными правовыми актами ОАО «Белинвестбанк».

При проведении депозитарных операций… филиал руководствуется «Инструкцией о порядке осуществления депозитарной деятельности» №143 от 22.11.2006 (с изменениями и дополнениями), утвержденной Постановлением Министерства финансов Республики Беларусь и «Регламентом депозитария ОАО «Белинвестбанк» № 81 от 29.12.2007 (с изменениями и дополнениями), утвержденным протоколом заседания Правления ОАО «Белинвестбанк».

*Управляющий филиалом А.С. Ковчур*

*13.11.2011 г.* *М. Булавацкі — А. Коўчуру*

Паважаны Аляксандр Сяргеевіч!

Ніякіх інструкцый ці пастаноў Міністэрства ці Праўлення вашага банка парушаць я Вам і не раіў. Гаворка ішла і ідзе толькі пра мову гэтых пастаноў, нават не саміх пастаноў, а бланкаў зыходнай дакументацыі, праз якую ваш банк кантактуе з грамадзянямі, у прыватнасці, са мной.

Ну вось што рабіць, калі супрацоўнікі банка не валодаюць беларускай мовай, а я не валодаю рускай мовай? Як паразумецца? Хто з нас вымушаны засвоіць другую мову?

На рэферэндуме 1996 года народ прагаласаваў за роўнасць дзвюх моваў. І дзе гэтая роўнасць у вашым банку? Я вам прапанаваў зрабіць маленькі крок насустрач нам, беларусам, якія яшчэ помняць, адкуль іх род, — падрыхтаваць беларускамоўныя бланкі некалькіх дакументаў (і нават выказаў гатоўнасць дапамагчы). Праца гэтая зусім нескладаная, але і на такую працу ваш банк (ці дакладней, ваш філіял) аказаўся няздольным.

Шаноўны Аляксандр Сяргеевіч! Уключыце ў штат супрацоўнікаў банка чалавека, які валодае тытульнай мовай нашага народа.

Магчыма, гэта будзе Ваш памочнік па ідэялогіі, магчыма, сакратарка. Ён ці яна дапамогуць вам падрыхтавацца да кантактаў з такімі аднамоўнымі людзьмі, як я. Тым самым Вы выкажаце мінімум павагі да краіны, у якой Вам давялося жыць, да яе старажытнага народа і яго мовы (на якой, дарэчы, створана адна з першых у свеце Канстытуцый — Статут Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага).

І калі ваш банк, як Вы пішаце, «руководствуется законодательством Республики Беларусь», то павінен адзначыць, што адзін закон гэтай рэспублікі вы ўсё ж парушылі. Гэта закон аб зваротах грамадзян, артыкул 18 якога патрабуе даваць адказы на звароты грамадзян на мове звароту. Я ж да вас звяртаўся не на рускай мове. І тут ваш новы мовазнаўца дапаможа ў далейшым.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*Спадар Коўчур вырашыў адмоўчацца. Давялося патурбаваць яшчэ раз.*

*13.02.2012 г.* *М. Булавацкі — А. Коўчуру*

Паважаны Аляксандр Сяргеевіч!

Спадзяюся, што Вы ўжо знайшлі для свайго банка спецыяліста, які валодае тытульнай мовай нашай дзяржавы. Вы не адказалі на мой ліст ад 13.11.2011 г., мяркую, па той прычыне, што не было чаго адказаць, а гэта значыць, што супрацоўніка, які валодае нашай мовай, у вашым філіяле не было. Зараз, магчыма, такі супрацоўнік у вас маецца і беларускамоўныя бланкі дакументацыі для «Белінвестбанка» ўжо не праблема. Вы не будзеце тут першапраходцам, бо ў іншых банках такія бланкі ўжо выкарыстоўваюцца. Адзін з такіх дакументаў дзеля пацверджання дасылаю.

Дапускаю ўсё ж, хаця імавернасць таго малая, што Вашы пошукі беларускамоўнага спецыяліста яшчэ не закончыліся. У гэтым выпадку гатовы ў меру сваіх магчымасцяў дапамагчы: сярод маіх знаёмых шмат тых, хто добра валодае нашай мовай і працуе ў фінансавай сферы.

У любым выпадку спадзяюся, што калі ў наступны раз мне давядзецца карыстацца паслугамі «Белінвестбанка», канфлікту на моўнай глебе паміж намі не будзе.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*29.02.2012 г.* *А. Коўчур — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхаіл Пятровіч!

Вашы звароты ў банк былі ўважліва разгледжаны. Хацелася б адзначыць, што наш адказ, дадзены 31.10.2011 на Ваш зварот у кнізе заўваг і прапаноў ад 21.10.2011, адпавядае патрабаванням дзеючага на той момант Закона «Аб зваротах грамадзян»…

У сувязі з унутранай рэарганізаныяй з 18.11.2012 структуры нашага банка адбыўся збой у дакументаабароце, і Ваш другі зварот сапраўды застаўся без адказу да сённяшняга дня, за што мы прыносім свае шчырыя прабачэнні. Да работніка, якім была дапушчана памылка, будуць ужытыя меры дысцыплінарнага спагнання.

У сувязі з гэтым выкладаем Вам нашу пазіцыю на пастаўленую ў Вашых зваротах праблему.

У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у якасці дзяржаўных замацаваны дзве мовы — беларуская і руская. Больш таго, кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання.

Законам Рэспублікі Беларусь ад 26.01.1990 N 3094-XI «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права карыстацца іх нацыянальнай мовай. Ім таксама гарантавана права звяртацца ў дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, у розныя арганізацыі і грамадскія аб’яднанні на беларускай, рускай ці іншай прымальнай для бакоў мове. У адпаведнасці з часткай 2 артыкула 3 Закона N 3094-XI «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» (з улікам усіх змяненняў) рашэнне па сутнасці звароту афармляецца на беларускай або рускай мове. І толькі ў Законе «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» ад 18 ліпеня 2011 № 300–3, які ўступіў у сілу з 22.01.2012, у артыкуле

18 была замацавана норма аб тым, што пісьмовыя адказы на пісьмовыя звароты выкладаюцца на мове звароту.

Згодна з артыкулам 8 гэтага ж Закона, у Рэспубліцы Беларусь мовамі справаводства і дакументацыі, а таксама мовамі ўзаемаадносін дзяржаўных органаў і іншых арганізацый з'яўляюцца беларуская і (або) руская мовы. Тэксты на пячатках, штампах, штэмпелях, фармулярах, афіцыйных бланках дзяржаўных органаў і іншых арганізацый выконваюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

Як відаць, закон дапускае афармленне бланкаў дакументаў на рускай мове.

Акрамя гэтага артыкулам 13 устаноўлена, што ў сферы абслугоўвання (напрыклад, на транспарце, у гандлі, у сферы медыцынскага і бытавога абслугоўвання) ужываецца беларуская (або) руская мова, а пры неабходнасці — іншыя мовы. З гэтага вынікае, што супрацоўнікі банка могуць прымяняць пры выкананні сваіх непасрэдных абавязкаў альбо беларускую, альбо рускую мову.

Традыцыі, якія склаліся на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь адносна раўназначнасці дзвюх моў, знайшлі сваё замацаванне ў Канстытуцыі РБ і іншых нарматыўных прававых актах. Лічым, што кожнаму грамадзяніну РБ неабходна валодаць абедзвюма мовамі ў ступені дастатковай, каб зразумець значэнне аформленых афіцыйных бланкаў ці вусныя адказы кампетэнтных прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і арганізацый. Пры неабходнасці супрацоўнікі гэтых органаў або арганізацый абавязаны дапамагчы з запаўненнем бланкаў устаноўленых формаў.

Адначасова выказваем Вам удзячнасць за Вашы звароты. Мы ўлічым Вашы пажаданні ў далейшай працы нашага банка, накіраваўшы прапановы адносна афармлення бланкаў на беларускай мове ў службы Цэнтральнага апарата ААТ «Белінвестбанк», якія ажыццяўляюць метадалагічную, арганізацыйную і дакументацыйную падтрымку структуры банка па ўсёй рэспубліцы.

На жаль, адносна памочніка па ідэалогіі ці сакратара, наш штат укамплектаваны, і падобных вакансій на сённяшні дзень няма. Спадзяемся, што Ваш беларускамоўны знаёмы зможа знайсці сабе дастойную працу ў адпаведнасці са сваёй адукацыяй і інтарэсамі.

*Кіраўнік дырэкцыяй А.С. Коўчур*

*24.03.2012 г.* *М. Булавацкі — А. Коўчуру*

Паважаны Аляксандр Сяргеевіч!

У Вашым допісе ўсё правільна, акрамя адной фразы. Вось гэтай: «Лічым, што кожнаму грамадзяніну РБ неабходна валодаць абедзвюма мовамі ў ступені дастатковай, каб зразумець значэнне аформленых афіцыйных бланкаў ці вусныя адказы кампетэнтных прадстаўнікоў дзяржаўных органаў і арганізацый». Вы, мабыць, самі разумееце, што дадзенае выказванне не адпавядае беларускаму заканадаўству, і таму дадалі на пачатку «Лічым, што…» Так лічыце Вы. Але так не лічаць ні ў тых краінах, дзе маецца не адна дзяржаўная мова, і так не лічаць у нашых судах. Патлумачу.

Да прыкладу, у Фінляндыі дзяржаўнымі мовамі з’яўляюцца фінская і шведская. Але ад грамадзян Фінляндыі не патрабуецца веданне абедзвюх моваў (хаця ўмовы для таго, каб ведалі абедзве, ствараюцца). А вось ад дзяржаўных органаў і арганізацый (і не толькі дзяржаўных, ад любых арганізацый, устаноў, якія працуюць з людзьмі) патрабуецца, каб там былі супрацоўнікі, якія ведаюць фінскую мову, і супрацоўнікі, якія ведаюць шведскую мову (супрацоўнікі, якія валодаюць абедзвюма мовамі, матэрыяльна заахвочваюцца).

Але вернемся з Фінляндыі ў Беларусь. У нас ужо было некалькі выпадкаў, калі на судовым працэсе беларускамоўны чалавек патрабаваў перакладчыка. І суддзі такое патрабаванне задавальняюць, бо суддзі (у адрозненне ад Вас) не лічаць, што кожны грамадзянін павінен валодаць абедзвюма мовамі. І я мяркую, што суддзі беларускае заканадаўства ведаюць крыху лепш, чым Вы.

Таму я ўдзячны Вам за тое, што Вы ўсё ж патурбуецеся аб нас, беларусах, наконт афармлення беларускамоўных бланкаў. І ўсё ж зноў выкажу параду знайсці ў банк хаця б аднаго супрацоўніка, які б валодаў тытульнай мовай нашай краіны. Вы гэтым, думаю, выйграеце, бо, па маіх назіраннях, людзі, якія валодаюць беларускай мовай, больш таленавітыя і больш працаздольныя.

У мяне няма знаёмага, які хацеў бы працаўладкавацца ў ваш банк. Але, калі пазначаная праблема для Вас акажацца цяжкавырашальнай, я мог бы паспрабаваць дапамагчы ў яе вырашэнні. Хаця, упэўнены, што пры Вашым жаданні Вы зможаце яе вырашыць і без маёй дапамогі.

Звычайна ў афіцыйных паперах у канцы дробнымі літарамі пазначаецца прозвішча і тэлефон таго, хто рыхтаваў дакумент. У Вашым лісце гэта не пазначана, таму раблю выснову, што дапамагаў Вам з перакладам чалавек з іншай установы. Ну вось Вам ужо адзін кандыдат маецца. Няцяжка знайсці і другога, і трэцяга…

Зычу поспехаў у гэтай справе.

*Міхась Булавацкі, аднамоўны грамадзянін Рэспублікі Беларусь*

*10.04.2012* *Белінвестбанк — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхаіл Пятровіч!

Для надання дакументу юрыдычнай сілы неабходна наяўнасць наступных абавязковых рэквізітаў: назва арганізацыі і (або) структурнага падраздзялення — аўтара; дата; рэгістрацыйны індэкс; подпіс (п. 18 Інструкцыі па справаводству ў дзяржаўных органах і арганізацыях Рэспублікі Беларусь, зацверджанай пастановай Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь 19/01/ 2009 N 4), якія ў нашым адказе на Ваш зварот прысутнічаюць.

Ваш зварот быу адрасаваны на імя кіраўніка дырэкцыяй Коўчура Аляксандра Сяргеевіча, які арганізуе работу па разгляду зваротаў грамадзян і накіраванню ім адказаў па сутнасці. Тэлефон прыёмнай і іншыя камунікацыйныя даныя ўказаны на бланку накіраванага Вам ліста. У цяперашні час магчымасці камп’ютарных тэхналогій (спецыяльныя электронныя слоўнікі, праграмы-перакладчыкі) дазваляюць зрабіць пераклад тэкстаў практычна на любую мову, не звяртаючыся да дапамогі спецыялістаў-работнікаў іншых арганізацый. Выканавец, які ажыццяўляе падрыхтоўку дакумента, адказвае за змест адказу па сутнасці пастаўленых пытанняў, а не за яго пераклад на беларускую мову.

Прадастаўленне перакладчыка пры разглядзе спраў у судзе прадугледжана спецыяльнымі нарматыўнымі прававымі актамі Рэспублікі Беларусь (напрыклад, Кодэкс РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях, Працэсуальна-выканаўчы кодэкс РБ аб адміністрацыйных правапарушэннях, Грамадзянскі працэсуальны кодэкс РБ, Крымінальна-працэсуальны кодэкс РБ, Гаспадарчы працэсуаль-

ны кодэкс РБ). Пры звароце грамадзян у арганізацыі прадастаўленне паслуг перакладчыка не прадугледжана.

Адказы па сутнасці на іншыя пытанні, пастаўленыя Вамі ў звароце, дадзены ў папярэднім лісце.

Яшчэ раз выказваем Вам удзячнасць за Вашы звароты і паведамляем аб тым, што намі вядзецца работа па ўдасканаленні якасці аказваемых банкам паслуг у частцы афармлення бланкаў на беларускай мове.

*Нам. кіраўніка дырэкцыяй М.Л. Калеснікава*

*Можна парадавацца хаця б таму, што «Белінвестбанк» пачаў набываць практыку адказаў на лісты грамадзян на беларускай мове. Як кажуць: ёсць пачатак, будзе і канчатак.*

# ДЗЯРЖАВА І ЧАЛАВЕК ЯК ВОРАГІ

*12.08.2014 г. М. Булавацкі — Міністэрству па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь*

Паважаныя супрацоўнікі Міністэрства!

Мне як індывідуальнаму прадпрымальніку штомесяц прыходзіцца запаўняць падатковую дэкларацыю, бланкі якой мне прапануюцца толькі на рускай мове. Паколькі маё асабістае справаводства вядзецца на беларускай мове, я вымушаны займацца перакладамі гэтых бланкаў на сваю мову. Але форма бланкаў у вас даволі часта змяняецца — і я штораз вымушаны зноў і зноў займацца перакладам. Нядаўна форма бланка была вамі чарговы раз зменена. З чатырох старонак, як было раней, яна зараз займае восем (!) старонак.

Вось задумаўся: навошта такія затраты паперы? Тое, што даводзіцца запаўняць мне (я займаюся аказаннем паслуг і не займаюся гандлем), змясцілася б на адной (максімум на дзвюх) старонках. Хапіла б аднаго аркуша, а я вымушаны скарыстоўваць чатыры. Гэта што: Год беражлівасці скончыўся і зараз можна не берагчы нашы лясы?

Для мяне ўзнікла праблема чарговы раз перакласці на нашу мову новы бланк дэкларацыі. Але рабіць мне гэтага не хочацца. Бо, памучыўшыся з гэтымі васьмю старонкамі, я не ўпэўнены, што праз невялікі час мне не давядзецца перакладаць новых дзесяць.

Узнікае канфліктная сітуацыя. Давайце пашукаем разумнае выйсце з яе.

Я бачу такія варыянты:

АБО **1**) вы дасылаеце на мой электронны адрас *bulavacki@gmail.com* беларускамоўны бланк дэкларацыі,

АБО (калі беларускамоўны бланк вамі не распрацаваны) **2**) вы дазваляеце мне запаўняць ранейшы бланк дэкларацыі, узор якога дасылаю.

Мяркую, што магчымы і іншыя варыянты. Напрыклад, вы падзеліце дэкларацыю на дзве часткі — асобна для паслуг, асобна для гандлю. Для паслуг хопіць аднаго аркуша, які я перакладу на сваю мову і буду запаўняць.

Вельмі хацелася б, каб гэтыя бланкі не змяняліся без асаблівай на тое патрэбы. Бо ствараецца ўражанне, што ў Міністэрстве маюцца супрацоўнікі, якім няма чаго рабіць і яны займаюцца прыдумваннем новых бланкаў дэкларацый, ускладняючы працу і індывідуальных прадпрымальнікаў, і вашых інспектараў.

З добрымі пажаданнямі,

*Булавацкі Міхась Пятровіч, індывідуальны прадпрымальнік*

Аркуш 3-гандаль-п

3. Звесткі аб гандлёвых аб'ектах, гандлёвых месцах на рынку і аб гандлі без наяўнасці гандлёвага аб'екта (далей – аб'ект)

| Код тыпу аб'екта | Месцазнаходжанне (адрас, назва) аб'екта | Код групы тавараў | Стаўка падатку (тыс.руб.) | Стаўка падатку па таварах, выробленых не ў Рэспубліцы Беларусь (тыс.руб.) | Колькасць каляндарных дней месяца (дней працы аб'екта для кодаў тыпаў аб'ектаў 2 і 4) | Каэфіцыэнты, адпаведныя артыкулам 298 і 299 Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | па агульнай плошчы гандлёвага аб'екта | па перыяду рэалізацыі тавараў | па ільготах (1 – Л/100, дзе Л – памер ільготы ў %) | Па таварах, не выробленых у Рэспубліцы Беларусь |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |

3а. Перыяд ажыццяўлення дзейнасці (пазначыць ×) для кодаў тыпаў аб'ектаў 2 і 4:

| Каляндарныя дні месяца | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

4. Разлік адзінага падатку (ПДВ у фіксаванай суме) па аб'екту:

| № радка | Паказнікі | тыс.руб. |
|---|---|---|
| 1 | Сума падатку з улікам павышальнага каэфіцыэнта ў залежнасці ад фактычнага памеру (агульнай плошчы) гадлёвага аб'екта (гр.4 п.3 × (гр.7 п.3 – 1)) | |
| 2 | Сума падатку з улікам павышальнага каэфіцыэнта, які выкарыстоўваецца пры рознічным гандлі таварамі, не выробленымі ў Рэспубліцы Беларусь (гр.4 п.3 × (гр.10 п.3 – 1); пры наяўнасці дадзеных па гр.5 п.3 (гр.5 п.3 × (гр.10 п.3 – 1) | |
| 3 | Сума падатку з улікам сум падатку, паказаных у радках 1 і 2 дадзенага разліку, і перыяду рэалізацыі ((гр.4 п.3 + р.1 + р.2) × гр.8 п.3) | |
| 4 | Усяго адзінага падатку па аб'екту (р.3 × гр.9 п.3) | |
| 5 | ПДВ у фіксаванай форме па аб'екту (гр.4 п.3 + р.1) × гр.9 п.3 × гр.8 п.3) × 2) | |

5. Звесткі для вяртання ці заліку падатку:

5.1. падставы для вяртання або заліку ў адпаведнасці з артыкулам 300 Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь

5.2. колькасць дней, у якія дзейнасць не ажыццяўлялася

5.3. сума адзінага падатку, якая належыць вяртанню ці заліку (р.4 п.4 × (р.5.2 п.5 / гр.6 п.3))

5.4. сума ПДВ у фіксаванай суме, якая належыць вяртанню ці заліку (р.5 п.4 × (р.5.2 / гр.6 п.3))

*Адна з васьмі старонак падатковай дэкларацыі, якую мне даводзілася перакладаць*

*01.09.2014* *МПЗ — М. Булавацкаму*

У Міністэрстве па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш зварот…

На 2014 год для індывідуальных прадпрымальнікаў-плацельшчыкаў адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб… форма падатковай дэкларацыі… зацверджана пастановай Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь… на рускай мове.

Такім чынам, у сілу патрабаванняў заканадаўства Вы не маеце права прадставіць падатковую дэкларацыю (разлік) па адзіным падатку на бланках нявызначанай формы, у тым ліку на бланках па формах, якія дзейнічалі ў папярэднія падатковыя перыяды.

Разам з тым, з улікам артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прызначаная форма падатковай дэкларацыі (разліку) па адзіным падатку можа быць запоўнена Вамі на беларускай мове…

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» адказ на зварот можа быць абскарджаны ў суд.

*Намеснік Міністра А.А. Дарашэнка*

*(Наступны ліст з адказам Міністэрства і маім каментаром надрукаваны ў газеце «Наша слова» 17.12.2014 пад назвай «Дзяржава і чалавек як ворагі»)*

…Ўвесь поўны смяротнай жуды,
Ты крыкнуць не вольны «Ратуйце!»
І мусіш ты «дзякуй» крычаць.
Пачуйце жа гэта, пачуйце,
Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!

*Максім Багдановіч*

*10.11.2014 г.* *М. Булавацкі — Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь*
*(копія: Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь)*

Хачу звярнуць увагу на стан ужывання роднай мовы ў нашай краіне. З боку кіраўнікоў нашай дзяржавы час ад часу агучваецца, што ў нашай краіне чалавек вольны выбіраць, якой з дзвюх дзяр-

жаўных моў карыстацца. Адносна рускай мовы тут ніякіх праблем не ўзнікае. Але той, хто паспрабаваў карыстацца беларускай мовай, адразу натыкаецца на істотныя бар'еры, якія паказваюць, што канстытуцыйны прынцып роўнасці дзвюх дзяржаўных моў парушаецца.

Я — індывідуальны прадпрымальнік у сферы аказання паслуг. Час ад часу мне даводзіцца запаўняць розныя фінансавыя дакументы. Я беларус, які жыве ў Беларусі, і мне хацелася б весці сваё справаводства на роднай мне мове. Але ні Міністэрства фінансаў, ні Міністэрства па падатках і зборах (дый іншыя міністэрствы таксама) беларускамоўных бланкаў не прадукуюць. Мне прапануюць запаўняць па-беларуску рускамоўныя бланкі. Пераканаўшыся ў марнасці маіх намаганняў атрымаць беларускамоўныя бланкі, я пачаў сам перакладаць гэтыя бланкі на родную мне мову. У прыватнасці, перакладаў бланк падатковай дэкларацыі, які мне даводзіцца запаўняць штомесяц. Форму гэтага бланка Міністэрства па падатках і зборах даволі часта змяняе, і пры чарговай такой змене я зноў садзіўся за камп'ютар, каб перакласці на нашу мову і змакетаваць новы бланк. Спачатку гэта былі тры старонкі, потым — чатыры, потым (у Год беражлівасці) зрабілі зноў тры. Год беражлівасці скончыўся і аб'ём дэкларацыі пачаў павялічвацца — пяць старонак, шэсць, сем. Хаця тое, што мне даводзіцца запаўняць, змесцілася б на адной ці на дзвюх старонках. Зараз мне прапануецца запаўняць бланк дэкларацыі аб'ёмам у восем старонак (мае раздзелы засталіся тыя ж — да дзвюх старонак, астатняе застаецца пустым). І я падумаў, што калі я зараз зраблю беларускі бланк дэкларацыі на восем старонак, дзе гарантыя, што праз колькі месяцаў мне не давядзецца рабіць новы — ужо на дзесяць старонак.

І я звярнуўся ў Міністэрства па падатках і зборах з просьбай — або даслаць мне беларускі варыянт новага бланка дэкларацыі, або дазволіць карыстацца папярэднім варыянтам, які ў мяне перакладзены на нашу мову (бо пазіцыі, якія мне трэба запаўняць, адны і тыя ж). Адказ, які я атрымаў за подпісам намесніка міністра А. Дарашэнкі, мяне збянтэжыў і выклікаў абурэнне. Намеснік міністра мне «літасціва» дазволіў запаўняць рускамоўны бланк дэкларацыі на беларускай мове, што я рабіў і раней. Бо (цытую адказ

А. Дарашэнкі) «…форма падатковай дэкларацыі (разліку) па адзіным падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў… зацверджана пастановай Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь ад 15.11.2010 № 82 (у рэдакцыі пастановы Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь ад 03.01.2014 № 1)… **на рускай мове**». (Апошнія словы выдзелены мною. — *М. Б.*)

Вось сяджу і думаю: чаму мне, беларусу, які нарадзіўся і жыве ў Беларусі, немагчыма атрымаць бланк дэкларацыі на роднай беларускай мове? Я ж не ў расійскага міністра гэта прашу, а ў свайго, беларускага. А ён мне: бяры рускамоўны бланк і не рыпайся! Можа, у беларускім міністэрстве ніхто не валодае беларускай мовай? Ці там адмысловая палітыка па знішчэнні беларускай мовы?

Нават у БССР, дзе адзінай дзяржаўнай мовай была руская, фінансавыя дакументы друкаваліся двухмоўнымі — паралельна рускай і беларускай мовай на адным бланку. Зараз нібыта дзве мовы роўныя, але ў міністэрскіх бланках адна з іх адсутнічае. Бо міністэрскаму чыноўніку наша мова не баліць, яму хапае адной мовы. «Права выбару» ён прысвоіў сабе.

Чаму мы, беларусы, у роднай краіне, кожны раз застаемся ў ролі папрашаек? І змушаны радавацца таму «аб'едку» мовы, які калі-нікалі дастаецца нам з барскага рускамоўнага стала? Дайце нам магчымасць карыстацца нашай мовай у поўным яе аб'ёме!

Прашу Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь прыняць меры для абароны канстытуцыйнага прынцыпу роўнасці дзвюх моваў у нашай краіне, каб кожны грамадзянін краіны мог атрымаць бланк афіцыйнага дакумента з любой дзяржаўнай установы на той дзяржаўнай мове, якую ён выбірае сам. Правам выбару павінен валодаць кожны грамадзянін, а не толькі дзяржаўны чыноўнік.

Спадзяюся на паразуменне.

*Міхась Булавацкі*

*27.11.2014 г.* *МПЗ — М. Булавацкаму*

У Міністэрстве па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь разгледжаны Ваш зварот, які паступіў з Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь 17.11.2014.

У адпаведнасці з артыкулам 7 Закона Рэспублікі Беларусь ад 26.01.1990 «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах.

З прычыны таго, што заканадаўствам не прадугледжана абавязка для дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаць і публікаваць нарматыўныя прававыя акты як на рускай, так і на беларускай мовах, форма падатковай дэкларацыі (разліку) па адзіным падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых асоб (далей — падатковая дэкларацыя) зацверджана пастановай Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь ад 15.11.2010 № 82 (у рэдакцыі пастановы Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь ад 03.01.2014 № 1) (дадатак 17) на рускай мове — дзяржаўнай мове, ужываемай большасцю насельніцтва краіны.

Выкарыстанне падатковых дэкларацый на бланках невызначальнай формы, у тым ліку на бланках па формах, якія дзейнічалі ў папярэднія падатковыя перыяды, не дапускаецца, аб чым Вам было растлумачана раней.

Разам з тым, улічваючы артыкул 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Вы маеце права запаўняць падатковую дэкларацыю на беларускай мове.

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18.07.2011 № 300–3 «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» адказ на зварот можа быць абскарджаны ў суд.

*Намеснік Міністра А.А. Дарашэнка*

*Намеснік міністра зноў літасціва дазволіў мне запаўняць рускамоўны бланк па-беларуску. Тут як бы трэба крыкнуць «Дзякуй». Той самы «Дзякуй» па Багдановічу, які замест «Ратуйце!» Але варта крыху падумаць над сітуацыяй.*

*Калі б з міністэрства мне даслалі макет дэкларацыі, які можна змяняць, то недзе за дзве гадзіны я перарабіў бы рускія словы ў беларускія. Гэтую працу мог бы зрабіць і міністэрскі апаратар, які валодае нашай мовай, калі б яму тое загадалі. Магчыма, нават зрабіў бы гэта хутчэй, чым я.*

*Што ж перашкаджае патраціць дзве гадзіны працы апаратара, каб выконваць Канстытуцыю? Ёсць тое, што перашкаджае: у*

*міністэрстве баяцца стварыць прэцэдэнт. Бо папусцішся з мовай у адной паперцы, тады і ў астатніх змушаны будзеш рабіць тое ж. А яны ж, чыноўнікі дзяржавы, назвы якой не разумеюць, менавіта і ўцiскалі гэтае «або» ў дужках побач з «і» («...на беларускай і (або) рускай мовах»), каб тытульнай мовай краіны не карыстацца ўвогуле, каб абараняць законам сваё невуцтва. А мова — няхай сабе гіне, мы не заплачам!*

*Калі так, тады я — вораг сваёй дзяржаве...*

*М. Булавацкі — Намесніку начальніка аддзела па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзян П. Елісееву*

29.10.2014 я звярнуўся ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь па пытанні, звязаным з выкарыстаннем (дакладней: невыкарыстаннем) беларускай мовы ў бланках афіцыйнай дакументацыі розных міністэрстваў ды іншых дзяржаўных органаў. У якасці прыкладу была прыведзена перапіска з Міністэрствам па падатках і зборах. Мой ліст быў Вамі, спадар Елісееў, перанакіраваны ў Міністэрства па падатках і зборах, адкуль я атрымаў адказ, ідэнтычны таму, які атрымаў раней.

Вось думаю, што Вы, спадар Елісееў, неглыбока ўспрынялі закранутую ў маім лісце праблему. Я не скардзіўся канкрэтна на Міністэрства падаткаў, я казаў аб тым, што гэткай заганнай практыкай карыстаюцца амаль усе дзяржаўныя органы і пытанне трэба ставіць на ўзроўні краіны, а не на ўзроўні аднаго міністэрства. Пераслаўшы ліст у Міністэрства падаткаў, Вы істотна звузілі праблему (магчыма, неўсвядомлена).

Таму зараз мяне цікавіць: а якое меркаванне па гэтай праблеме мае **непасрэдна** намеснік начальніка аддзела па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзян? Вы згодны з тым, што права выбару мовы прысвойваюць сабе дзяржаўныя чыноўнікі, ці Вы падтрымаеце думку, што такім правам павінен валодаць кожны грамадзянін Беларусі?

Свой ранейшы ліст у генпракуратуру (якога, мяркую, там ужо няма, бо перасланы ў іншае міністэрства) і адказ Міністэрства па падатках і зборах я дадаю да гэтага ліста.

*Гэты свой ліст, ужо падрыхтаваны, я не адправіў. Па-першае, меркаванне Елісеева я ведаю, бо яно не адрозніваецца ад меркавання Дарашэнкі ці любога іншага «вінціка-болціка» гэтай сістэмы. Па-другое, Елісееў усё адно яго адкрыта не выкажа, ён перакіне мой ліст свайму намесніку, які чарговы раз працытуе мне пра дзве дзяржаўныя мовы ў Канстытуцыі, ці зноў Дарашэнку, які адкажа, што меркаванне міністэрства мне ўжо выказана. Калі б у Елісеева было іншае меркаванне, то ён у тым крэсле не сядзеў бы.*

# НЕ ЎПІСВАЕЦЦА Ў КАНТЭКСТ…

Люты 2015 г.

Тэлефонная размова:

— Спадар Міхась, вам тэлефануе Ала К. з палаца культуры. Мы рыхтуем канцэрт да Дня роднай мовы. Ці не маглі б вы прачытаць там адзін з вашых перакладаў з Высоцкага? Напрыклад, «Коні наравістыя»?

— Натуральна, змог бы. Але ж «Коні наравістыя» — твор даволі сумны і таму не вельмі падыходзіць да гэтага святочнага дня. Можа, мне лепш прачытаць свой верш, прысвечаны мове?

— Добра. Але спачатку дашліце нам тэкст верша.

*Даслаў:*

## Сынкам Беларусі

— А что, эта мова нам колбасы добавит, что ли?

*Папулярная фраза пачатку 90-х гадоў*

Расла, квітнела і спявала,
Прыгожа, весела жыла.
Душы сваёй не замыкала,
Чужых ласункаў не жадала,
Да ўсіх спагадлівай была.

На свята знойдзе зоркі-краскі,
Да сэрца ў горы прыхіне,
Суцешыць боль сваёю ласкай,
Дзіця пацешыць байкай-казкай,
Старога песняй не міне.

І не цуралася павагі
Людзей сумленных пры зямлі…

Ды што там лёсу тыя сагі!
Свае ён мае шалі-вагі,
Свае ганяе караблі.

Вось так і тут: прыйшлі няўзгоды —
Да брата трапіла ў палон.
Цярпела здзекі год за годам,
Ды не зракалася народа,
Імя чыё ўзяла спакон.

Мінула тое ліхалецце.
Даў Бог да лепшага дажыць!
Але знядужала. А ўрэшце
І сонца хворым кепска свеціць…
«Сыночак мой, дапамажы!

Схадзі ў лякарню, купіш лекаў —
Палёў гаючую расу…
Я акрыяю… Не калека ж!..»
Сынок задумліва прамэкаў:
*«А хватит мне на колбасу?»*

Ўздыхнула. Болей ані слова
Не мовіла. Стаіла сум…
Пад бел-чырвона-белым сховам
Хварэе ціха Маці-мова…
*Сын уплетает колбасу.*

«Паважаны Міхась Пятровіч! Гэты верш не зусім упісваецца ў кантэкст нашай праграмы. Велізарнае Вам дзякуй. Выбачайце, што патурбавалі і парушылі Вашы планы. Дзякуй. З павагай, Ала».

*Калі верш пра мову не ўпісваецца ў кантэкст праграмы, прысвечанай Дню роднай мовы, то што ж гэта за «кантэкст». У прынцыпе, «кантэкст» тут зразумелы: Ала ні пры чым, яна — толькі шрубка сістэмы, у аснове якой такі «кантэкст».*

*Верш гэты ў свой час быў прысвечаны С. Габрусеву (газета аблвыканкама «Магілёўскія ведамасці» верш надрукавала, але прысвячэнне скінула).*

*Унікальны выпадак у гісторыі пачатку беларускай незалежнасці, калі сябра Сойму БНФ быў абраны старшынём гарвыканкама. Але, сеўшы ў высокае крэсла, ён рэзка змяніў арыенціры і стаў «традыцыйным» чыноўнікам, які можа раздаваць літасць і браць… У выніку пасля чарговай махінацыі з кватэрамі тымі ж дэпутатамі ад БНФ, якія й пасадзілі яго ў высокае крэсла, ён быў сапхнуты з пасады.*

*Характар яго кіравання (той самы «кантэкст») у адносінах да беларускай адукацыі праглядваецца з майго артыкула ў газеце «Ратуша» 19.02.1992 г. (падаецца ў правапісе газеты).*

## Ці сабе кілбаса, ці маці лякарства

Я не разумеў, што адбывалася…

Ішло чарговае паседжаньне савета па рэформе сістэмы адукацыі ў горадзе, куды я быў запрошаны С. Габрусевым, які, як высьветлілася, таксама старшыня і гэтага ж савета. Удзельнікі паседжаньня гаварылі кожны пра сваё, — хто пра музычную адукацыю, хто пра матэматычныя таленты, хто пра Закон Божы. Але бянтэжыла ня гэта. Бянтэжыла і нават насьцярожвала іншае: як толькі хто-небудзь закранаў праблемы беларускамоўя, старшыня ўскідваўся і з нейкім трагічным націскам задаваў адно і тое ж пытаньне: «А не является ли это дискриминацией русскоязычного населения?»

Рэктар педагагічнага інстытута гаворыць пра ўвядзеньне ўступнага іспыту па беларускай мове і чуе: «А не является ли это дискриминацией?..» — Не, не зьяўляецца, — цярпліва тлумачыць рэктар, — для тых, хто мову не вывучаў, гэты іспыт замяняецца іспытам па рускай мове.

Загадчык РАНА гаворыць аб плане адкрыцьця беларускамоўных класаў, — і тут: «А не является ли это дискриминацией…»

Гэта гучала так часта, што, калі б я быў крыху менш дасьведчаны ў гэтых пытаньнях, у мяне стварылася б уражаньне, быццам беларусы горада рыхтуюць нейкі нацыянальны пераварот. І вось старшыня гарсавета папярэджвае рускамоўных жыхароў аб небяспецы: «Внимание! Готовится дискриминация! Граждане, будьте бдительны!»

Тут нагнятаўся той самы нацыянальны псіхоз, аб недапушчальнасьці якога ня раз гаварыў сам Сяргей Арцёмавіч. Няўжо ён гэтага не разумее, — думаў я. І пачаў успамінаць, дзе і калі шаноўны старшыня турбаваўся аб дыскрымінацыі беларускамоўнага насельніцтва (гэта ж яму як бы і па статусе прызначана, — усё ж сябра Сойму БНФ!).

Але нічога такога не ўспаміналася. Наадварот, памяць даносіла іншае. Напрыклад, тое, што ў Магілёве за апошнія два гады адкрыта шмат навучальных установаў новага тыпу — гімназій, ліцэяў, каледжаў — больш, чым па ўсёй астатняй Беларусі, але ўсе рускамоўныя. Альбо тое, што гарвыканкам заснаваў газету «Вестник Могилева» чамусьці на рускай мове і г.д. Адкуль гэтая трывога пра дыскрымінацыю рускамоўнага насельніцтва? Якія для яе падставы?

Непрыемна зьдзіўлены, дачакаўся чаргі на сваё слова і прапанаваў стварыць пры гарвыканкаме ці гарана камісію па разьвіцьці сістэмы нацыянальнай адукацыі ў горадзе, бо праблема такая паўстае і рашаць яе кожнаму ў сваім кутку недарэчна.

Звычайна на прапановы стварыць нейкую камісію, камітэт, савет, старшыня гарсавета рэагаваў адназначна: «Стварайце!». Маўляў, хочаце працаваць — працуйце, гарвыканкам бласлаўляе. І тут: «Стварайце!» было б як індульгенцыя ад главы горада, чаго я і чакаў. Аднак атрымаў адказ не такі. Спачатку старшыня паспрабаваў прапусьціць міма вушэй маю прапанову, а калі я зноў вярнуўся да яе, адрэагаваў павучальнай сентэнцыяй: «Нет национального образования! Есть образование вообще, вот и давайте этим заниматься!» Тое ж падтакнуў і яго намеснік па культуры і адукацыі. Пасьля чаго я зразумеў, што на тым савеце мне няма чаго рабіць болей і пайшоў, крыху нярвова зачыніўшы дзьверы (за што прыношу і дзьвярам, і С. Габрусеву свае прабачэньні, бо дзьверы ж не вінаватыя).

Па дарозе дадому раздумваў аб гэтым здарэньні.

С. Габрусеў — папуліст, ён заўсёды імкнецца гаварыць тое, што добра кладзецца на душы большай часткі людзей. Вось і тут, можа менавіта такіх слоў ад яго чакаюць? Што ні кажы, а махавік нацыянальнага адраджэньня пачынае паволі набіраць абароты (нават ужо і ў гарвыканкаме вымушаныя заказаць дзьве пішучыя машынкі зь беларускім шрыфтам).

Пройдзе некалькі год — і беларуская мова стане верхавенстваваць у грамадзкім жыцьці, як тое і мае быць. Зразумела, што тыя, хто не сумее засвоіць яе, апынуцца ў крыху нязручных і няўтульных абставінах. Магчыма, непакоіць такая персьпектыва і С. Габрусева, які на першым зьезьдзе БНФ у Вільні сарваў апладысмэнты абяцаньнем праз год загаварыць на беларускай мове, але вось ужо амаль тры гады прайшло, і высьвятляецца, што не такая ўжо гэта простая справа. Але тут простае вяртаньне да нормы, бо так і ў Францыі няўтульна жыць чалавеку, які ня ведае францускай мовы.

Але ж, — скажуць мае апаненты, — француская мова заўсёды была ў Францыі, а беларускай мовы ў гарадах Беларусі ніколі не было (і, можа, не скажуць, але падумаюць: хай так будзе й надалей). Адразу зазначым, што «ніколі» — гэта няпраўда. Але сапраўды, з 1696 года, калі Сойм Рэчы Паспалітай забараніў выкарыстанне беларускай мовы, народ беларускі тры стагодзьдзі вядзе барацьбу за сваю мову. Трыста год яе спрабуюць замяніць, то польскай, то рускай, але яна жыве і — жыць будзе! Дарэчы, балгары былі пад турэцкім ярмом 500 год, балгарская мова захавалася толькі ў асобных цэрквах, нідзе болей яна не гучала, але ж вось — выжыла, адрадзілася. Пакуль ёсьць хоць адзін чалавек, які ведае мову — мова не памерла і, дзякуючы гэтаму, жыве народ. А ў нас, што ні кажы, не адзін такі. Сітуацыя на Беларусі сёньня лепшая, чым на часы адраджэньня ў Балгарыі.

Былі ў гісторыі гэтай барацьбы праблескі, напрыклад, беларускі «рэнесанс» 20-х гадоў — адваёваная ў Саветаў (хаця й ненадоўга) культурная прастора. Тыя 10–15 год паказалі, якім багатым патэнцыялам валодае народ беларускі, якія магутныя творчыя сілы тояцца ў ім. Тады не далі ім волі. Але ж гэта да пары…

І вось пара настала. Можна гэтаму радавацца ці абурацца, можна дапамагаць ці перашкаджаць, можна, пастараўшыся, нават прыглушыць і гэтую хвалю, — за ёю будзе новая…

І зноў чую голас апанентаў: вяртаньне да родных каранёў патрабуе сродкаў, — ці варта траціць іх на гэта сёньня?

Вось, уявіце сабе, у сям'і ляжыць хворая маці. На яе лячэньне патрэбныя сродкі, але тады астатнім членам сям'і прыйдзецца падцягнуць паясы. Пойдуць яны на гэта ці не — пытаньне іх сумленьня.

Вось і тут: родная мова не сказаць, каб хворая, але толькі што выйшаўшая з трохсотгадовай турмы. Падтрымаць яе, адмовіўшыся ад некаторых сваіх зручнасьцяў? — вось гэта С. Габрусеў і называе «дискриминацией русскоязычного населения».

Ён, далёкі ад адукацыі чалавек, сьпецыяліст у зусім не сумежнай вобласьці, бярэцца аднаасобна вырашаць, ёсьць нацыянальная адукацыя ці няма. Хаця гэта ўжо нават у міністэрстве адукацыі ўсьвядомілі і стварылі часовы навукова-дасьледчы калектыў (ЧНДК) «Нацыяльнальная школа Беларусі», якому й пастаўлена задача — распрацаваць канцэпцыю нацыянальнай адукацыі.

Зноў жа мае апаненты могуць кіўнуць тут на Францыю: маўляў, там няма нацыянальнай французскай школы, там гавораць пра дзяржаўную адукацыю Францыі. Тое ж у Англіі і іншых дзяржавах. Сапраўды так. Але ж там не стаіць праблема адраджэньня французскай ці ангельскай мовы, там няма падстаў засяроджваць увагу на французскім як нацыянальным, бо людзі жывуць у нармальным грамадзтве, дзе ніхто не сумняваецца, што французскае — гэта галоўнае.

Нам жа сёньня патрэбна канцэнтрацыя ўвагі на беларускім як нацыянальным, бо некаму ж трэба яшчэ даказваць, што беларускае на Беларусі — галоўнае. Тым болей, што ў нашай дзяржаве і дзяржаўнай адукацыі сваёй няма.

І таму ёсьць неабходнасьць і ў горадзе вярнуцца да пытаньня аб стварэньні камісіі па разьвіцьці сістэмы нацыянальнай адукацыі. Нацыянальнай, Сяргей Арцёмавіч, — не пужайцеся гэтага слова.

*М. Булавацкі, старшыня адукацыйнай камісіі гарадзкой арганізацыі ТБМ*

*Нічога падобнага, натуральна ж, не было зроблена. Бо пасля рэферэндуму-95 габрусеўства дамінуе ў краіне і — адпаведна — нацыянальнай адукацыі не існуе. Такі вось кантэкст!*

# КЛАС «ЯЛІНКА»

Вытапливай воск, но сохраняй мёд.

*Козьма Прутков*

*У 2010 годзе ў Магілёве з’явіўся адзін клас з беларускай мовай навучання. Зміцер і Надзея Салаўёвы змаглі выпатрабаваць для сваёй дачкі Ялінкі такой прывілеі — клас з адной навучэнкай. Напачатку Ялінка была не адна, да яе далучыліся яшчэ двое — брат і сястра, але тых праз год бацькі перавялі ў іншую школу, бліжэй да дома, і клас застаўся з адной Ялінкай. Працаваць з такім класам даверылі Наталлі Аржанавай, вопытнай настаўніцы, якая перайшла ў школу № 1 з іншай школы і даволі някепска (хаця й не ідэальна) валодала роднай мовай.*

*Па заканчэнні першага года я пагутарыў з настаўніцай, і мой тэкст надрукавала газета «Вечерний Могилёв» 22 чэрвеня 2011 года пад назвай «Настаўніцкае шчасце Наталлі Аржанавай». Вось гэты тэкст:*

«У школах закончыўся навучальны год. Закончыўся ён і для першакласнікаў адзінага на ўвесь Магілёў беларускага класа. Для мяне, настаўніка, які марыў выкладаць любімую мною матэматыку на не менш любімай роднай мове, было вельмі цікава даведацца, як закончыўся год менавіта ў гэтым класе.

— Добра закончыўся, — усміхаецца Наталля Аляксандраўна. — Праграму першага класа мы паспяхова закончылі датэрмінова. Апошнія некалькі месяцаў працавалі па праграме другога класа.

— Дык так вы праграму чатырох гадоў за тры гады асвоіце.

— Маглі б і за два. Але хто ж нам такое дазволіць?

Сакрэт поспеху класа Наталлі Аржанавай мае некалькі прычын. Але спачатку крыху гісторыі.

Пачатак беларускай незалежнасці 90-х гадоў суправаджаўся і нацыянальным адраджэннем. У школах Магілёва пачалі ствараццa

беларускамоўныя класы. Працэс гэты ішоў небеспраблемна. Былі тыя, хто супраціўляўся гэтаму, былі і тыя, хто радаваўся і ахвотна аддаваў сваё дзіця ў такі клас. У 1994 годзе 6 працэнтаў маленькіх магілёўцаў вучыліся па-беларуску. Але вынікі майскага рэферэндуму-95, адпаведна якому руская мова была прыроўнена да беларускай, і некаторымі ўпраўленцамі сістэмы адукацыі, і, на жаль, многімі дырэктарамі школ былі ўспрыняты своеасабліва. Беларускія класы сталі ў масавым парадку пераводзіць на рускую мову, і ў канцы стагоддзя беларускіх класаў у Магілёве не стала. Але людзі, якія хацелі, каб іх дзяцей вучылі на роднай мове, засталіся. І яны раз-пораз турбавалі і гарадскія, і абласныя адукацыйныя структуры сваімі просьбамі-прапановамі-патрабаваннямі. На жаль, такіх людзей было няшмат, на больш-менш прыстойны клас дзяцей не набіралася. А бацькі не былі дастаткова актыўнымі, каб патрабаваць выканання сваіх правоў болей энергічна.

Усё ж пад націскам Таварыства беларускай мовы ўлады пайшлі на саступкі. У 2002 годзе было абвешчана аб адкрыцці сёмага (!) матэматычнага (!) класа з беларускай мовай навучання на базе нацыянальнай гімназіі. Абвестка з’явілася ў сродках інфармацыі досыць позна, толькі ў чэрвені, але ўсё ж яе заўважылі. На вучобу ў такім класе паступіла 4 заявы. Сустрэча прадстаўнікоў ТБМ з галавой абласной адміністрацыі Б. Батурам закончыўся станоўча: згода на адкрыццё такога класа была атрымана. Але ў адміністрацыі Кастрычніцкага раёна сродкаў на такі клас не знайшлося.

Прайшло яшчэ некалькі гадоў. У маладой сям’і Надзеі і Зміцера Салаўёвых нарадзілася дачка Ялінка, і бацькі пачалі думаць, як дапамагчы Ялінцы атрымаць прыстойную адукацыю на роднай для іх мове. У гэтых людзей энергіі ўжо хапіла, каб пад іх націскам была створана беларуская група ў адным з дзіцячых садкоў, якую наведвалі чацвёра дзетак. І зараз адкрыты беларускі клас з трыма вучнямі. На гэты раз сродкі знайшліся.

Клас адкрыты на базе сярэдняй школы № 1. Выбар школы зроблены разумна. Школа знаходзіцца ў цэнтры горада, куды зручна дабірацца гарадскім транспартам з любога кутка горада. Праблема ўзнікла з настаўніцай. Сваіх настаўнікаў, якія прыстойна валодаюць мовай, у школе не было. Давялося шукаць у іншых школах. Знайшлі.

Наталля Аржанава ўжо працавала з беларускім класам на пачатку 90-х. І ў яе вуснах беларуская мова ажыла і загучала вельмі добра, хаця выгадавалася ў рускамоўнай сям'і. Генная памяць тут спрацавала. Дапамагла і другая, ужо філалагічная адукацыя: скончыла завочна беларускае аддзяленне Магілёўскага філфака.

Таму на працу з беларускім класам пагадзілася ахвотна, хаця вельмі не хацелася развітвацца з калектывам калег-настаўнікаў, з якімі працавала амаль дваццаць гадоў і, лічы, зраднілася.

— А як новы калектыў вас успрыняў? — цікаўлюся.

— Прыязна! Тут вельмі добрая дырэктарка. І вельмі прыемныя людзі працуюць.

— У класе толькі тры вучні. Лёгка працаваць?

— І так, і не. Працаваць прыемна і радасна, бо дзеткі разумныя. Добра ўспрымаюць, ахвотна выконваюць, што трэба. Але я б не сказала, што лёгка. Тое заданне, з якім я магла правазіцца доўга ў іншым класе, тут выконваецца хутка. А значыць, планаваць на ўрок я павінна болей. Планы павінны быць больш насычанымі і больш разнастайнымі, каб не стамляць дзяцей стандартнымі заданнямі, каб падтрымліваць іх увагу і зацікаўленасць.

— Вам хочацца, каб гэты клас папаўняўся?

— Несумненна. І я ўпэўнена, што ён будзе папаўняцца. Ужо маецца адна заява…

— Мне дзіўна, што толькі адна. Цікава, чаму бацькі так асцярожнічаюць. Можа, думаюць: вось аддадзім мы сваё дзіця ў гэты клас, і яно, побач з вашымі развітымі дзеткамі, будзе адчуваць сябе няўтульна.

— Такім бацькам я магла б сказаць вось што. Я дастаткова вопытная настаўніца, каб паўплываць на такую сітуацыю. Невялікія праблемы могуць быць толькі на самым пачатку года, бо яны заўсёды ўзнікаюць, калі вучань пераходзіць у іншы клас. Але калі яны хочуць, каб і такіх праблем не было, то магу сказаць, што ўвесь жнівень я буду працаваць. Прывядзіце сваё дзіця да мяне ў жніўні — і я падрыхтую яго да вучобы ў гэтым класе. Не будзе ні моўных, ні матэматычных, ні іншых праблем.

— Як ставіцца да вас і вашага класа адміністрацыя школы я ўжо ведаю. А больш высокае кіраўніцтва?

— Добра ставіцца. Мне падаецца, што для іх адкрыццё такога класа ў Магілёве — справа гонару. І я ўпэўнена, што хутка такі клас будзе не адзін.

Сапраўды, беларускамоўны клас у абласным цэнтры (не толькі ў Магілёве) — рэч пакуль унікальная. Лідарам тут з'яўляецца сталіца. У Мінску ўжо каля дзясятка школ, у якіх маюцца беларускія класы, і дзве беларускія гімназіі. Але мяне калісьці зацікавіла іншае. У сталічнай школе № 168 працуе настаўнік матэматыкі У. Мартысюк. Школа рускамоўная, але настаўнік вядзе свае ўрокі па-беларуску. Дырэкцыя школы спачатку супраціўлялася такой ініцыятыве настаўніка, але ўрэшце здалася, бо настаўнік дае добрыя веды сваім вучням і ў яго класы бацькі ахвотна аддаюць сваіх дзяцей. «У яго класы нават конкурс існуе», — не хаваючы здзіўлення, сказала мне адна з кіраўнікоў упраўлення адукацыі.

Мяркую, што тое, што ўжо зразумелі мінскія бацькі, хутка зразумеюць і ў Магілёве. Беларускамоўная адукацыя ніколькі не горшая за рускамоўную. А калі ўлічыць, што ў беларускамоўных класах працуюць людзі, для якіх Беларусь і яе мова — не проста гукі, а рэчы, дзеля якіх варта жыць, варта аддаваць свае сілы, свае таленты, то натуральна, што ў такіх класах больш спрыяльная атмасфера для поспеху.

Дарэчы, пачынальнікі беларускага руху ў Магілёве маюцца: адзін з найбольш папулярных магілёўскіх рэпетытараў па матэматыцы працуе з вучнямі на беларускай мове. Матэматыкі ўвогуле тут наперадзе. Шмат выкладчыкаў матэматыкі ў ВНУ Беларусі і Магілёва ў прыватнасці чытаюць лекцыі на беларускай мове.

Закончыць свае нататкі хочацца двума заклікамі.

Шаноўныя бацькі, чые дзеткі перайшлі ў другі клас! У вас яшчэ ёсць шанец аддаць сваё дзіця ў другі-Г клас сярэдняй школы № 1.

Шаноўныя настаўнікі! Праз тры гады гэты клас стане пятым класам, для якога спатрэбяцца беларускамоўныя настаўнікі матэматыкі, біялогіі, геаграфіі, іншых дысцыплін. Мяркую, што на працу ў гэтым класе будзе настаўніцкі конкурс. Рыхтуйцеся да ўдзелу ў такім конкурсе».

*Варта звярнуць увагу на словы настаўніцы, што праграму пачатковай школы яна магла б закончыць з Ялінкай за два гады, «але*

*хто ж нам такое дазволіць». У гэтых словах тупасць сучаснай адукацыйнай сістэмы, якая існуе па-за развіццём навук аб чалавеку — анатоміі, фізіялогіі, антрапалогіі, псіхалогіі, этыкі, філасофіі ды інш., пра гэта — у далейшых лістах. І яшчэ тут праглядваецца боязь сучаснай вярхушкі вертыкалі даць настаўніку свабоду. Настаўніку, абкладзенаму рознымі цыркулярамі, правіламі, распараджэннямі, «рэкамендацыямі», загадамі, ад якіх ні на крок, не да таго, каб паглыбляцца ў нюансы псіхалагічнага развіцця дзяцей таго ўзросту, з якімі ён працуе. І калі ў нармальнага дзіцяці пачынаюцца пратэставыя паводзіны супраць ненармальнай адукацыйнай сістэмы (у розуме дзіцяці — супраць ненармальнай настаўніцы), то да яго падключаюць рэпрэсіўны апарат — камісіі па справах непаўналетніх, ціск школы на бацькоў ды інш. Хаця часцей рэпрэсій (ці лепш істотнага рэфармавання) заслугоўвае як раз іншы бок.*

*Тое, што настаўніца шмат якія нюансы разумела і адпаведна дзейнічала, бачна з наступных яе слоў: «Працаваць… я б не сказала, што лёгка. Тое заданне, з якім я магла правазіцца доўга ў іншым класе, тут выконваецца хутка. А значыць, планаваць на ўрок я павінна болей. Планы павінны быць больш насычанымі і больш разнастайнымі, каб не стамляць дзяцей стандартнымі заданнямі, каб падтрымліваць іх увагу і зацікаўленасць». Карацей кажучы, настаўніца не тупа выконвала праграму, яна давала шмат пазапраграмнага. На жаль, яе досвед і яе розум у школе недаацанілі (хутчэй проста не зразумелі) і не зрабілі крыніцай кваліфікацыі для іншых настаўнікаў, найперш тых, хто далей працаваў з Ялінкай.*

*11 траўня 2013 года Таварыства беларускай школы правяло агульнарэспублікаснкі бацькоўскі сход, да ўдзелу ў якім былі запрошаны бацькі дзяцей, якія вучацца ў беларускіх класах, і беларускамоўныя настаўнікі. Там бралі ўдзел сярод іншых бацькі Ялінкі, яе настаўніца і аўтар гэтых радкоў. Натуральна, была размова і пра клас «Ялінка». У сваёй прамове я сказаў, што згодзен і нават хацеў бы працаваць з дзяўчынкай, калі яна дарасце да 5 класа, выкладаць ёй матэматыку. «Мы былі б вельмі рады, каб вы вучылі Ялінку», — сказала Надзея Салаўёва. Таму я чакаў, што вясной наступнага года бацькі Ялінкі звернуцца да мяне, каб абмеркаваць тое, як зрабіць наша агульнае жаданне рэальнасцю. Не звярнуліся. Калі праз пэўны час я пацікавіўся, чаму, то пачуў: «Вой, мы пра вас забылі!»*

*Што забылі — не веру. Хутчэй, маці падумала, што мой удзел у навучанні Ялінкі створыць пэўныя праблемы ў яе стасунках з кіраўніцтвам школы, якіх ёй не хацелася мець. Да таго ж, магла падумаць, што я буду «нагружаць» дзіця матэматыкай, а яны ўжо спланавалі будучыню Ялінкі, зусім не звязаную з матэматыкай. Так ці не — гэта толькі мае здагадкі.*

*Сам жа я, выкладаючы матэматыку навучэнцам розных узростаў з розных школ, гімназій, ліцэяў (у тым ліку «падпольнага» гуманітарнага) даўно вынайшаў у сваёй методзе, што чалавек можа і не ведаць тэарэму Піфагора, можа не ўмець развязваць дробна-рацыянальныя раўнанні ці вылічваць лагарыфмы, але любы чалавек павінен умець правільна мысліць. Гэтай мэце, як галоўнай, і прысвечаны найперш мае заняткі з вучнямі. Бо, пры адсутнасці логікі, якую выкінулі з савецкай школы (яе не змог засвоіць сімбірскі гімназіст Валодзя Ульянаў), матэматыка адзіная можа залапіць гэтую дзірку разумовага развіцця сучаснага школьніка.*

*Як бы там ні было, выкладаць Ялінцы матэматыку ў пятым класе стала маладая настаўніца, якая выкладала, як умела, «па праграме». Аднакласнікаў для Ялінкі так і не здолелі знайсці.*

*20.06.2015 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Новікавай І.Л.*

Паважаная Ірына Леанідаўна! У красавіку я зазірнуў да Вас для адной размовы. І Вы паабяцалі запрасіць мяне для гэтай размовы ў маі, дзеля чаго я пакінуў свае тэлефоны. Але май прайшоў і запрашэння я не дачакаўся. Таму вымушаны звярнуцца яшчэ раз.

Гаворка, нагадаю, пра нейкі парадокс у магілёўскай адукацыі: у адзіны ў горадзе беларускамоўны клас кіраўніцтва школы не можа набраць вучняў, там вучыцца толькі адна дзяўчынка, а ў беларускамоўнага хатняга настаўніка («рэпетытара») вучні знаходзяцца ў вялікай колькасці, у тым ліку з той самай школы. Яны гатовы авалодваць матэматыкай на беларускай мове і плоцяць за гэта немалыя грошы. Чаму ж бацькі не аддаюць сваё дзіця ў той клас? Прычына мне бачыцца толькі адна, яна — у даверы да настаўніка.

Калі, напрыклад, у магілёўскай прэсе з’явіцца аб’ява аб тым, што ў школе № 1 (або іншай) адкрываецца шосты клас з беларускай

мовай навучання для дзяцей з высокімі здольнасцямі да матэматыкі, дзе матэматыку будзе выкладаць настаўнік вышэйшай катэгорыі Імярэк, настаўнік з багатым досведам і шматлікімі заслугамі ў выкладанні матэматыкі, то гэтую аб'яву не пакінуць без увагі. Прозвішча настаўніка, якое будзе названа ў аб'яве, павінна быць вядомым у горадзе і выклікаць давер. Аўтар гэтага ліста — адзін з магчымых прэтэндэнтаў на такую ролю.

Я пагутарыў з дырэктаркай школы № 1 Мачэкінай А.Г. на гэты конт. Алена Генадзеўна, выказаўшы кампліменты маім настаўніцкім здольнасцям, усё ж адмоўна ўспрыняла магчымасць маёй працы з праблемным класам па прычыне таго, што настаўнікам яе школы не хапае вучэбнай нагрузкі і змяншэнне гэтай нагрузкі на 4–5 гадзін створыць пэўныя праблемы для настаўнікаў. У той жа момант яна выказала жаданне перадаць гэты клас у іншую навучальную ўстанову (напрыклад, у гімназію № 3), і такое змяншэнне вучэбнай нагрузкі яе чамусьці не турбуе. Да таго ж, яна сказала, што памяшканне, дзе займаецца беларускамоўны клас з адной дзяўчынкай, вельмі маленькае, там могуць размясціцца не болей за дзесяць вучняў. Усё ж дзесяць вучняў — гэта не адна дзяўчынка і для асобнай ролі такога класа (нагадаю, што я прапаную сабраць у гэты клас вучняў з павышанымі здольнасцямі і схільнасцямі да матэматыкі) гэта было б аптымальным.

Зараз з дзяўчынкай займаецца адна настаўніца, малады спецыяліст з нулявым настаўніцкім досведам. Яна валодае беларускай мовай (хаця і недасканала) і, мяркую, прыкладае пэўныя намаганні, каб дапамагчы здольнай дзяўчынцы авалодаць матэматыкай. Але… Я пагутарыў з Ялінкай Салаўёвай і ўбачыў, што гэтае дзіця мае незвычайна высокія разумовыя здольнасці, якія яе маладая настаўніца не цалкам выкарыстоўвае. Настаўніца робіць метадычныя памылкі (такія памылкі робяць амаль усе маладыя спецыялісты і я праз гэта прайшоў у свой час), якія на дадзеным этапе не ствараюць сур'ёзных праблем, але пазней, калі курс матэматыкі стане больш насычаным і разгалінаваным, праблемы ўзнікнуць.

Таму, паважаная Ірына Леанідаўна, я паўторна прапаную правесці міні-нараду, прысвечаную беларускамоўнаму класу, з удзелам усіх зацікаўленых бакоў (мужа і жонкі Салаўёвых, дырэктара школы, ці, магчыма, некалькіх школ, дзе можа быць такі клас, на-

стаўнікаў, якія, магчыма, будуць працаваць з гэтым класам, прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы ды інш.).

Калі праблема не можа быць вырашана ў бліжэйшы час, то пра яе варта думаць праз год, бо першыя сур'ёзныя праблемы з вывучэннем матэматыкі пачынаюцца менавіта ў сёмым класе.

З добрымі пажаданнямі, Міхась Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі, удзельнік некалькіх міжнародных канферэнцый па праблемах выкладання матэматыкі, аўтар вучэбных дапаможнікаў «Матэматыка — 5бг», «Цалкам зразумелая трыганаметрыя» і чатырох дзясяткаў навукова-метадычных публікацый, прысвечаных праблемам выкладання матэматыкі, навуковы кіраўнік эксперымента па засваенні настаўнікамі г. Мінска наватарскіх тэхналогій навучання (1987–1992) ды інш.; зараз — індывідуальны прадпрымальнік у галіне матэматычнай адукацыі

*Паралельна вырашыў падключыць і больш высокія інстанцыі. Начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі ў студэнцкія гады быў сярод лепшых у матэматыцы. Але добрыя веды ў матэматыцы яшчэ не гарантуюць высокіх маральных якасцяў чалавека.*

*20.06.2015 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Рыжкову У.У.*

Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч!

Мяркую, што без Вашага ўдзелу гэтую праблему вырашыць не атрымаецца. Аб якой праблеме гаворка — Вы дазнаецеся з майго ліста да Новікавай І.Л. Вось гэты тэкст (*цытуецца ліст да І. Новікавай*).

Шаноўны Уладзімір Уладзіміравіч! Вы займаеце пасаду, даволі высокую і гістарычна прыкметную. Усё зробленае Вамі будзе разглядаць і ацэньваць гісторыя (у прыватнасці, гісторыя магілёўскай адукацыі), як яна ацэньвае дзейнасць Вашых папярэднікаў. Калі Вам удасца вырашыць праблему першага ў Магілёве беларускага класа і тым самым распачаць у горадзе беларускамоўную адукацыю, то гэта стане вялікім плюсам у ацэнцы Вашай дзейнасці. Да таго ж, нагадаю, гаворка ідзе аб адукацыі дзяцей з высокімі разумовымі здольнасцямі, да якіх адносіцца Ялінка Салаўёва. Вас як настаўні-

ка матэматыкі гэта, думаю, турбуе не менш за мяне. Давайце разам шукаць шляхі вырашэння гэтай праблемы. Для пачатку паспрыяйце, калі ласка, каб памянутая ў маім лісце да І. Новікавай нарада адбылася.

З пажаданнямі поспехаў у Вашай дзейнасці,

*Булавацкі Міхась Пятровіч*

*30.06.2015 г.* *І. Новікава — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Упраўленне адукацыі, спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама… па Вашым звароце наконт узнятых пытанняў, якія датычацца яго ведамства, інфармуе.

Ва ўстановах адукацыі горада на бацькоўскіх сходах у красавікумаі 2015 года была арганізавана тлумачальная работа з бацькамі аб магчымасці выбару мовы навучання. Да гэтага часу запытаў на навучанне на беларускай мове ад іншых бацькоў не паступала.

У чэрвені 2015 года ўпраўленне выказала ініцыятыву аб распрацоўцы плана мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю магчымасці выбару мовы навучання ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі горада. Рэалізацыя плана пачнецца ў ліпені 2015 года.

У час сустрэчы ва ўпраўленні наконт Вашага працаўладкавання Вам было прапанавана звярнуцца да дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школа № 1 г. Магілёва» (далей — СШ № 1) Мачэкінай А.Г., якая з’яўляецца наймальнікам.

Па інфармацыі аддзела адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва, прыняць Вас на працу ў СШ № 1 няма магчымасці па прычыне адсутнасці вакансій.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам, у адпаведнасці з ч.1 арт. 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18.07.2011 № 300–З «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб», Вы можаце абскардзіць яго ва ўпраўленні адукацыі Магілёўскага аблвыканкама (212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 71).

*Начальнік упраўлення адукацыі спорту і турызму гарвыканкама*
*І.Л. Новікава*

*30.06.2015 Аддзел адукацыі Ленінскага раёна — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Аддзел адукацыі, спорту і турызму Ленінскага раёна г. Магілёва, разгледзеўшы зварот, накіраваны Вамі ў адрас упраўлення адукацы спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама, у частцы, якая датычыцца нас, паведамляе наступнае.

З мэтай разгляду фактаў, абазначаных у звароце, праведзена гутарка з дырэктарам дзяржаўнай установы адукацыі «Сярэдняя школ №1 г. Магілёва» Мачэкінай А.Г.

Першы беларускамоўны клас у сярэдняй школе №1 г. Магілёва быў адкрыты ў 2010 годзе па запытах бацькоў. Была праведзена неабходная інфармацыйная праца: аб'явы на бацькоўскіх сходах агульнаадукацыйных установ, у сродках масавай інфармацыі.

Штогод з мэтай камплектавання беларускамоўнага класа па ранейшаму даюцца аб'явы ў сродках масавай інфармацыі.

У дзяржаўнай установе адукацыі «Сярэдняя школа № 1 г. Магілёва» створаны ўмовы для навучання Салаўёвай Ялінкі. Заняткі праводзяцца ў адпаведнасці з распрацаваным раскладам у розных вучэбных кабінетах. Выкладанне прадметаў, за выключэннем матэматыкі, ажыццяўляюць настаўнікі вышэйшай і першай кваліфікацыйных катэгорый. Настаўнік матэматыкі Шашкова Т.С. працуе чатыры гады. У 2014/2015 навучальным годзе яе навучэнцы сталі пераможцамі раённай алімпіяды сярод вучняў 4–9 класаў па матэматыцы і гарадскога конкурсу даследчых работ. Факультатыўныя заняткі з Салаўёвай Я. праводзіць настаўнік матэматыкі вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі Грымберг Г.А.

З боку бацькоў вучаніцы Салаўёвай Я. у адрас адміністрацы школы, аддзела адукацыі, спорту і турызму Ленінскага раёна г. Магілёва зваротаў па пытаннях арганізацыі і правядзенні адукацыйнага працэсу ў беларускамоўным класе не паступала.

Прыём на работу педагагічных работнікаў, размеркаванні педагагічнай нагрузкі ажыццяўляюць установы агульнай сярэдняй адукацыі.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам Вы маеце права звярнуцца ва ўпраўленне адукацыі, спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама (г. Магілёў, вул. Першамайская, д. 28а).

*Начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму А.Ф. Любянкоў*

*6.07.2015 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Рыжкову У.У.*

Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч!

Я атрымаў адказ на свой запыт (знаёмы і Вам) ад І.Л. Новікавай. Ірына Леанідаўна «не заўважыла» маёй прапановы наконт класа для дзяцей з павышанымі здольнасцямі да матэматыкі і адказала стандартнай адпіскай: «Прыняць Вас на працу ў СШ № 1 няма магчымасці па прычыне адсутнасці вакансій». Патлумачу яшчэ раз Вам тое, чаго «не змагла зразумець» І.Л. Новікава: я не прасіўся на працу, мой заробак разам з пенсіяй дае мне дастатковыя матэрыяльныя ўмовы для нармальнага пражывання. Я казаў пра тое, як адкрыць паўнавартасны беларускі клас, чаго ў спадарынь Новікавай і Мачэкінай ужо пяць год не атрымліваецца. І з тымі ж намаганнямі, якія яны прыкладваюць, не атрымаецца і далей. Яны робяць усё, каб такога класа не было і каб потым гаварыць, што «ў магілёўскіх бацькоў няма патрэбы ў такім класе». А людзей, якія маглі б стварыць такі клас, яны нават выслухаць не хочуць.

Паважаны Уладзімір Уладзіміравіч, я мяркую, што свой адказ яна ўсё ж узгадніла з Вамі, бо ведала, што такі ж ліст накіраваны і Вам. Таму імаверна, што з гэтым адказам Вы згодны. Калі гэта так, калі той адказ адлюстроўвае і Ваша меркаванне, то Вы можаце мне не адказваць. Маўчанне — прызнак згоды. І мы хаця б крыху паперы зэканомім. Калі ж Ваша меркаванне іншае, то мне цікава было б з ім азнаёміцца.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст*

*8.07.2015 г.* *У. Рыжкоў — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

Ваш зварот, які паступіў 24.06.2015 па пытанні функцыянавання ў г. Магілёве беларускамоўнага класа, разгледжаны. Паведамляем наступнае.

У адпаведнасці з заканадаўствам адкрыццё беларускамоўнага класа можа быць арганізавана на аснове заяў законных прадстаўнікоў вучняў. Дзеля гэтага былі прыняты пэўныя меры, якія далі

магчымасць у 2010 годзе адкрыць на базе ДУА «Сярэдняя школа №1 г. Магілёва» першы беларускамоўны клас у горадзе. На дадзены момант у ім навучаецца толькі адна дзяўчынка — Салаўёва Ялінка. Ва ўстанове створаны неабходныя ўмовы для навучання дзяўчынкі. Заняткі праводзяцца ў адпаведнасці з распрацаваным раскладам у розных вучэбных кабінетах. Выкладанне прадметаў ажыццяўляецца пераважна настаўнікамі вышэйшай і першай кваліфікацыйных катэгорый у адпаведнасці з вучэбнымі планамі і праграмамі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Настаўнік матэматыкі, Шашкова Таццяна Сяргееўна, працуе чатыры гады, добрасумленна ставіцца да справы і ўжо мае пэўныя вынікі. У 2014/2015 навучальным годзе яе навучэнцы сталі пераможцамі раённай алімпіяды па матэматыцы сярод вучняў IV-IX класаў і гарадскога конкурсу даследчых работ «Гульні розуму».

З боку бацькоў у адрас адміністрацыі школы, аддзела адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Ленінскага раёна г. Магілёва зваротаў па арганізацыі адукацыйнага працэсу і правядзенні заняткаў ў беларускамоўным класе не паступала.

Ва ўстановах адукацыі горада Магілёва вядзецца тлумачальная работа з бацькамі і грамадскасцю аб магчымасці выбару мовы навучання: арганізуюцца бацькоўскія сходы, змяшчаюцца аб’явы на сайтах установ і аддзелаў адукацыі. Аднак да гэтага часу заяў ад вучняў і іх законных прадстаўнікоў вывучаць школьныя прадметы на беларускай мове не паступала.

У сувязі з гэтым упраўленнем адукацыі, спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама распрацаваны і рэалізуецца з ліпеня 2015 года план мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю беларускай мовы і яе выбар у якасці мовы навучання.

Пытанне Вашага працаўладкавання ў ДУА «Сярэдняя школа № 1 г. Магілёва» можа быць вырашана дырэктарам установы (наймальнікам) пры ўмове наяўнасці вакансіі.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам у адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэепублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 г. № 300–3 «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Вы маеце права абскардзіць яго ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь .(220010, г. Мінск, вул. Савецкая, д. 9).

*Начальнік упраўлення У.У. Рыжкоў*

*22.07.2015 г.* *У. Рыжкоў — М. Булавацкаму*

Паважаны Міхась Пятровіч!

У дадатак да раней накіраванага Вам адказу паведамляем, што згодна з п. 1 арт. 90 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адукацыі асноўнымі мовамі навучання і выхавання з'яўляюцца дзяржаўныя мовы Рэспублікі Беларусь (беларуская, руская). Мова навучання і выхавання вызначаецца заснавальнікам установы адукацыі з улікам пажаданняў навучэнцаў (іх законных прадстаўнікоў).

Органамі кіравання адукацыяй прымаюцца пэўныя меры па павелічэнні колькасці класаў з беларускай мовай навучання ў агульнаадукацыйных установах гарадской мясцовасці.

3 ліпеня 2015 г. рэалізуецца распрацаваны упраўленнем адукацыі, спорту і турызму Магілёўскага гарвыканкама План мерапрыемстваў, накіраваных на папулярызацыю беларускай мовы і яе выбар у якасці мовы навучання ва ўстановах адукацыі.

У адпаведнасці з ім на красавік-май 2016 г. запланавана вывучэнне запытаў вучняў, іх законных прадстаўнікоў на прадмет атрымання агульняй сярэдняй адукацыі на беларускай мове. У выніку вывучэння будуць прыняты неабходныя кіраўніцкія рашэнні.

У выпадку нязгоды з дадзеным адказам у адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 г. № 300–3 «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Вы маеце права абскардзіць яго ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (220010, г. Мінск, вул. Савецкая, д. 9).

*Начальнік упраўлення У.У. Рыжкоў*

*6.08.2015 г.* *М. Булавацкі — Начальніку ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама Рыжкову У.У.*

Добры дзень, Уладзімір Уладзіміравіч!

Хаця на слове «добры» я спатыкнуўся, бо наўрад ці ён для нас з Вамі добры. Вашы лісты — і першы (ад 8.07), і другі (ад 22.07) — не змяшчаюць нічога новага ў параўнанні з тым, што я прачытаў у адказе І. Новікавай, таму можна было зэканоміць паперу. Але, калі Вы захацелі прадоўжыць размову, давайце паспрабуем нешта зразумець.

З гэтых лістоў (і Новікавай, і Вашых) вынікае, што нічога дзейснага ў кірунку пашырэння беларускамоўнай адукацыі ў Магілёве і вобласці зроблена не будзе. І ўсе гэтыя «пэўныя меры», «вывучэнні запытаў» і «планы мерапрыемстваў» скончацца тым жа бюракратычным пшыкам, як гэта было ўсе апошнія гады.

20 гадоў назад каля 7% магілёўскіх школьнікаў вучыліся ў беларускамоўных класах. І калі б гэтыя класы пераводзіліся на рускамоўнае навучанне тымі ж «мерамі», то беларускамоўныя класы дагэтуль у горадзе існавалі б. Але там знаходзілі больш дзейсныя захады. Там мазгі чыноўнікаў ад адукацыі і школьных адміністратараў знаходзілі такія»пераканаўчыя аргументы» і «спосабы ўздзеяння», што не прыняць іх ніяк нельга было. Знаходзілі, бо вельмі хацелася. А тут не хочацца — і таму не знойдзеце. А каб адчапіцца ад запытаў жменькі беларусаў, якія яшчэ не забылі, хто яны ёсць, праводзіцца гэткая імітацыя дзейнасці — нібыта і «планы» ёсць, і «запыты», і «меры», а «бацькі не хочуць». І ўсё тут! Маўляў, «чаго вы ад нас яшчэ хочаце»? — пытанне закрыта.

Тое, што «нічога не атрымаецца, бо не хочацца» — гэта тэарэма. А вось яе доказы.

Па-першае, нічога не атрымліваецца ўжо пяць год (пяць год школа не можа набраць нармальны беларускамоўны клас), а спадарыні Новікава і Мачэкіна нават абмяркоўваць праблему не хочуць, таму што такі стан рэчаў іх цалкам задавальняе. Вось і Вы следам за імі «не заўважылі» маёй прапановы сабраць нараду дзеля такога абмеркавання. Для Вас такой праблемы не існуе. Бо **не хочацца** аб ёй думаць.

Па-другое, і сп-ня Новікава, і Вы неяк ціха абмінулі самую істотную частку майго ліста — канкрэтную прапанову, **як** зрабіць клас паўнавартасным. Адпаведна І. Крылову: «Слона-то я и не заметил». Вы ўсё звялі да пытання майго працаўладкавання, хаця я настойліва падкрэслівала, што ні праца, ні заробак мне не патрэбныя, я іх маю. Вось жа, Уладзімір Уладзіміравіч, будучы ў свой час адным з лепшых студэнтаў курса (амаль нароўні з Вашым сябрам Пятровым), Вы ўмелі заўважаць і самае істотнае, і тонкія нюансы ў матэматычных разважаннях. Дзе ж Вы расцярушылі гэтую сваю якасць? Ці гэта чарговы доказ таго, што існаванне ў бюракратычна-чыноўніцкім асяродку прытупляе розум чалавека?

А не заўважылі вы маёй прапановы менавіта таму, што адчулі яе дзейснасць. А дзейснага **вам не хочацца** (я маю на ўвазе не толькі Вас асабіста).

І па-трэцяе, Вам нават не захацелася хаця б паразмаўляць з чалавекам, у якога такое атрымліваецца (я пачынаў з відавочнага парадокса: у беларускамоўны клас пяць год не могуць набраць вучняў, а ў беларускамоўнага рэпетытара іх аж залішне). Калі Вы сапраўды заклапочаны якасцю адукацыі, то досвед такіх настаўнікаў грэх не скарыстоўваць. Але зноў жа — вам гэтага **не хочацца**.

Таму, паважаны Уладзімір Уладзіміравіч, пакуль вы не пусціце на поле беларускамоўнай адукацыі людзей, падобных мне, людзей, кроўна зацікаўленых у тым, каб гэтае поле было засеяна, ні да чаго добрага ваша імітацыя дзейнасці на гэтым полі не прывядзе. А вы нас туды не пусціце, бо гэтага не хочуць тыя, хто вас пасадзіў у высокае крэсла і каму вы зараз і служыце. І будзеце служыць, бо — «сям'ю ж карміць трэба».

Але мы, беларусы, яшчэ не паўміралі, яшчэ сядзім на гэтай святой для нас зямлі. І будзем змагацца **за сваё**. У тым ліку змагацца з Вамі. На жаль, мы з Вамі ў гэтым змаганні па розныя бакі барыкад.

З прывітаннем,

*Міхась Булавацкі*

*У сярэдзіне жніўня я папрасіў А. Дзьячкова сабраць інтэлектуальную эліту нашай арганізацыі (ТБМ) для брэйнстомінга (мазгавога штурму) па пытанні з класам «Ялінка». Мае радыкальныя прапановы сябры адхілілі як непрыдатныя. Вырашылі яшчэ раз патурбаваць кіраўніцтва аблвыканкама.*

*20.08.2015 г.* *М. Булавацкі — Намесніку старшыні Магілёўскага аблвыканкама В. Малашку*

Паважаны Валеры Анатольевіч!

Мабыць, без Вашага ўдзелу гэтую праблему вырашыць не ўдасца.

Гаворка пра беларускамоўную адукацыю ў Магілёве, якая сёння зводзіцца да аднаго класа ў школе № 1, у якім вучыцца адна дзяўчынка Ялінка Салаўёва.

Клас з адным вучнем — гэта даволі затратная справа для гарадскога бюджэта, але адміністрацыя школы і гарадскія адукацыйныя органы ўжо пяць год не могуць папоўніць клас вучнямі, каб зрабіць яго паўнавартасным класам. Міжволі задумаешся: не могуць, мо таму што не хочуць? Да такой думкі вымушае звярнуцца яшчэ і той факт, што прапанову прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы ды іншых грамадскіх аб’яднанняў абмеркаваць праблему, супольна пашукаць разумныя шляхі яе вырашэння і дырэктар школы, і кіраўнікі органаў адукацыі катэгарычна адхіляюць.

Між тым, праблема ўжо дайшла да вушэй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і выклікала яго здзіўленне. Няўжо ж гэтую праблему можна вырашыць толькі на ўзроўні Прэзідэнта?

Паважаны Валеры Анатольевіч, я далучаю сюды тэкст майго звароту да начальніка гарадскога ўпраўлення адукацыі і тэкст адказу спадарыні І. Новікавай, у якім яна нават не закранула маёй канкрэтнай прапановы, а звяла размову да пытання майго працаўладкавання. Але ні працы, ні заробку я не шукаю, бо маю і працу, і заробак, якія цалкам мяне задавальняюць. Калі не знойдзецца другога настаўніка, які б адпавядаў патрэбам такога класа, я гатовы працаваць з гэтым класам без аплаты.

Спадзяюся, што з Вашай падтрымкай такая нарада з удзелам усіх зацікаўленых бакоў адбудзецца. Праблема маецца — і варта шукаць шляхі яе вырашэння.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*Нараду выціснулі. 8 верасня патэлефанаваў Алег Дзьячкоў, старшыня гарадской арганізацыі ТБМ, і паведаміў, што «заўтра ў школе № 1 адбудзецца нарада па беларускамоўным навучанні». Спяшаліся. Такія нарады трэба рыхтаваць грунтоўна, паведамляючы ўдзельнікам загадзя, каб кожны мог прадумаць пераканаўчыя аргументы для сваіх прапаноў, але тут, мабыць, спяшаліся выканаць загад Малашкі, да таго ж, выканаць яго фармальна, і грунтоўная падрыхтоўка «не планавалася».*

*Вось паведамленне аб падзеі на сайце svaboda.org.*

«У Магілёве за «круглым сталом» прадстаўнікі гарвыканкаму, грамадзкасьці і настаўнікі абмеркавалі стан беларускамоўнага на-

вучаньня ў мясцовых установах адукацыі. Гаварылі пра тое, што сабою ўяўляе беларускамоўнае школьніцтва і як яго ўратаваць. Сустрэча адбылася ў першай магілёўскай школе. У ёй адзіная на ўвесь горад беларускамоўная кляса з адной вучаніцай.

Нагодай для дыскусіі стаўся ліст былога выкладчыка Дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Куляшова, а цяпер рэпэтытара матэматыкі Міхася Булавацкага ў аблвыканкам. У лісьце руплівец беларускай мовы зьвінаваціў гарадзкія адукацыйныя органы ў тым, што яны пяць год ня могуць папоўніць беларускамоўную клясу вучнямі і зрабіць яе паўнавартаснай. Булавацкі сьцьвярджае: кіраўнікі мясцовай сыстэмы адукацыі катэгарычна адхіляюць прапановы Таварыства беларускай мовы і іншых грамадзкіх арганізацыяў супольна абмеркаваць праблему. «А між тым, — даводзіў у лісьце намесьніку старшыні аблвыканкаму Міхась Булавацкі, — праблема ўжо дайшла да кіраўніцтва краіны і выклікала зьдзіўленьне».

Ужо падчас сустрэчы Міхась Булавацкі прапанаваў скарыстаць ягоныя веды і досьвед, каб бацькі аддалі сваіх дзяцей у адзіную ў горадзе беларускамоўную клясу. На ягоную думку, праблема непапулярнасьці беларускамоўнага навучаньня ня будзе вырашацца, пакуль «на поле беларускамоўнай адукацыі ня пусьцяць людзей кроўна зацікаўленых, каб беларусы ня зьніклі зь зямнога шару і ня вымерлі, як маманты».

«Сярод такіх — я, — заяўляў на сустрэчы Міхась Булавацкі. — Прапануючы свае паслугі, я не шукаю вакансіяў ці заробку — ён у мяне ёсьць. Гатовы працаваць з гэтай клясай без аплаты і сьцьвярджаю: кляса ў гэтым выпадку напоўніцца вучнямі».

Намесьнік старшыні гарвыканкаму Андрэй Кунцэвіч не пагадзіўся з выказваньнямі Булавацкага і іншых прадстаўнікоў грамадзкасьці, што кіраўніцтва магілёўскіх школ і аддзелы адукацыі нічога ня робяць дзеля пашырэньня беларускамоўнага навучаньня. «Гаварыць пра тое, што беларуская мова ў заняпадзе ў навучальным працэсе, я б ня стаў гэтак катэгарычна, як тут гучала, — казаў службовец на сустрэчы. — Адзінае, з чым бы я пагадзіўся — гэта тое, што мы павінны адказаць на адно пытаньне: чаму ў беларускамоўным клясе адна вучаніца і што трэба зрабіць, каб колькасьць гэтай клясы павялічылася». На думку Андрэя Кунцэвіча, нягледзячы на тое, што навучальны год ужо пачаўся, нічога не перашкаджае

папоўніць вучнямі беларускамоўную клясу. «Калі будуць ахвотныя ў ёй вучыцца», — заўважыў, аднак, ён. На пытаньне, ці праблема тое, што ў абласным горадзе існуе адна беларускамоўная кляса з адным вучнем, Андрэй Кунцэвіч адказаў: «У гэтым я ня бачу вялікай праблемы. Але, на маю думку, пытаньне тут у жаданьні бацькоў, каб іхныя дзеці вучыліся на беларускай мове».

«Беларускамоўная кляса з адным вучнем сьведчыць, што дзяржава пры жаданьні бацькоў і дзіцяці здольная забясьпечыць неабходныя ўмовы навучаньня нават для аднаго школьніка. Гэта вельмі важны пасыл», — казаў Андрэй Кунцэвіч.

На сустрэчы прадстаўнікі грамадзкасьці выказвалі незадаволенасьць тым, як інфармуюць бацькоў пра беларускамоўную клясу. Паводле іх, замала рэклямы пра яе. У адказ чулі: сайты навучальных установаў разьмяшчаюць такія абвесткі. Зьяўляюцца абвесткі і ў мясцовых газэтах. На бацькоўскіх сходах таксама інфармуюць пра беларускамоўную клясу.

Надзея Салаўёва, маці адзінай беларускамоўнай вучаніцы, са скрухай адзначыла: рэклямны ролік пра клясу, зроблены летась, паказалі толькі адзін раз на прыватным тэлевізійным канале «Магілёў-2». На сустрэчы пагадзіліся, што рэклямаваньне беларускамоўнай клясы варта аднавіць.

Надзея Салаўёва зазначыла, што ў яе няма прэтэнзіяў да настаўнікаў і адміністрацыі школы, дзе вучыцца ейная дачка: «Я дужа ўдзячная адміністрацыі школы, што наша Ялінка вучыцца ў добрых умовах. У яе добрыя настаўнікі. У нас не перарываюцца стасункі з пэдагагічным калектывам», — казала Надзея Салаўёва.

Яна падтрымала прапанову, каб на наступны год паспрабаваць зрабіць беларускамоўную клясу экспэрымэнтальнай ці профільнай, напрыклад, з матэматычным ухілам. На яе думку, такі падыход паспрыяе папулярнасьці клясы сярод тых вучняў, якія захочуць зьвязаць сваю будучыню з найноўшымі тэхналёгіямі.

Дырэктарка школы Алена Мачэкіна заўважыла: праблемаў з сацыялізацыяй Ялінкі Салаўёвай зь дзецьмі іншых клясаў няма. Некаторыя прадметы, дзе няма беларускай мовы, казала пэдагог, па згодзе бацькоў Ялінка вывучае разам з вучнямі адной з клясаў.

…

Кіраўнік магілёўскай суполкі Таварыства беларускай мовы Алег Дзьячкоў на сустрэчы выказаў незадавальненьне, як зь беларускай мовай знаёмяць выхаванцаў дзіцячых садкоў. Абавязковы дзень вывучэньня роднай мовы, паводле актывіста, у шмат якіх садках ігнаруецца. «Я праводжу экскурсіі для вучняў пачатковых клясаў і дзіцячых садкоў. Дык многія, калі я гавару зь імі па-беларуску, пытаюць: „А чаму вы з намі размаўляеце па-ангельску?» Я перакананы: дзеці зь дзіцячых садкоў, калі ідуць у школу, павінны быць прызвычаеныя чуць беларускую мову, а яны яе ўспрымаюць як замежную. Большасьць беларускую мову проста не разумеюць», — казаў Алег Дзьячкоў.

На гэта пэдагогі і чыноўнікі адказалі: «Пашырэньне беларускамоўнага навучаньня — справа агульная». Актывістам Таварыства беларускай мовы, казалі яны Дзьячкову, варта актыўней далучацца да такой справы, а ня толькі крытыкаваць.

Паводле супрацоўнікаў гарвыканкаму і настаўнікаў, выпускнікі школ паказалі някепскія вынікі па беларускай мове на цэнтралізаваным тэставаньні. Сярэдні бал па беларускай мове і літаратуры, казалі яны, быў сярод найвышэйшых сёлета.

На сустрэчы выказвалася пажаданьне, каб у Магілёве штогод адкрывалі адну беларускамоўную клясу.

Вынікі сустрэчы падсумаваў Андрэй Кунцэвіч. Паводле яго, у наступным годзе высілкі варта засяродзіць на тым, каб папоўніць вучнямі беларускамоўную клясу, якая ўжо існуе. «Я разумею, што гэта складана, але паспрабаваць трэба», — выказаўся ён. «Другое пытаньне, — працягнуў намесьнік старшыні гарвыканкаму. — Варта прыкласьці намаганьні, каб у наступным годзе набраць вучняў у першую беларускамоўную клясу. Для яе базавай школай павінна стаць першая. У ёй назапашаны адпаведны досьвед».

Удзельнікі дыскусіі дамовіліся сустрэцца яшчэ раз у студзені.

Кляса зь беларускай мовай навучаньня зьявілася ў Магілёве пасьля амаль дзесяцігадовага перапынку дзякуючы намаганьням грамадзкасьці. Калі надышоў час запісваць у яе дзяцей, гэта зрабіла толькі сям'я Салаўёвых. Непрацяглы час разам зь Ялінкай вучыліся яшчэ двое дзяцей, але з-за праблемаў у сям'і іх перавялі ў іншую школу. Ялінка Салаўёва цяпер у шостай клясе».




*Зафіксую сваю прамову на гэтай нарадзе:*

«Пачну з некалькіх хвілін самарэкламы, якая, на жаль, неабходная.

1987 год. Час актыўнай перабудовы. З'яўляецца новая інфармацыя, адкрываюцца новыя магчымасці… І вось настаўнікі горада Мінска запатрабавалі ад свайго ўпраўлення адукацыі, каб ім дапамаглі засвоіць наватарскія тэхналогіі навучання матэматыцы. Адукацыйнае кіраўніцтва пайшло насустрач настаўнікам і звярнулася… не да прафесароў і дацэнтаў, якіх і ў сталіцы, і ў іншых гарадах шмат, не да дактароў і кандыдатаў педагагічных навук, а да сціплага выкладчыка Магілёўскага педінстытута, звярнулася з просьбай ажыццяўляць навуковае кіраўніцтва эксперыментальнай працай мінскіх настаўнікаў. Пяць год я кіраваў гэтай працай, ездзячы ў Мінск па некалькі разоў штомесяц. Пачыналася праца яшчэ ў Савецкім Саюзе, заканчвалася ўжо ў незалежнай Беларусі. У чэрвені 1992 года была праведзена заключная канферэнцыя, якая для мяне прайшла як песня. Шкадую, што не ўзяў з сабой магнітафон, каб запісаць тое, што гучала з вуснаў настаўнікаў. Мне на памяць засталася Ганаровая грамата з падзякай ад упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама.

У тым жа 1987 годзе ў Магілёве быў праведзены трохдзённы семінар для настаўнікаў вобласці, пра які з захапленнем крычалі ў газетных публікацыях і ў справаздачах кіраўнікі ўпраўлення аду-

кацыі і гаркама партыі (не буду казаць, якой): маўляў, вось якія ў нас выкладчыкі і якія настаўнікі — на семінар было запрошана 40 настаўнікаў, а прыехалі 120, большай часткай за свае грошы, без камандзіровак. Акрамя магілёўскіх настаўнікаў на той семінар прыехалі, як бы цяпер сказалі, настаўнікі замежжа: з Латвіі, з Масквы і з Казані. Перад вамі чалавек, які праводзіў той семінар, што выклікаў такую вялікую цікавасць.

Чаму да маіх лекцый, да маіх семінараў была такая зацікаўленасць настаўнікаў? Таму што ў той час, як мае калегі па кафедры сядзелі ў бібліятэках і выпісвалі цытаты з Леніна, Маркса і класікаў педагогікі для сваіх дысертацый, я ездзіў па вялікіх прасторах СССР у пошуках лепшых настаўнікаў, каб разабрацца, якім чынам яны дасягаюць высокіх вынікаў сваёй працы. І я знаходзіў тых настаўнікаў: Энгельсон, Хазанкін, Макараў, Шаталаў… Апошні асабліва.

І я нёс сваім студэнтам не засушаную ў кнігах інфармацыю, а жывую справу, свежанькую, цёпленькую. Зараз сярод лепшых настаўнікаў горада і вобласці шмат маіх былых студэнтаў. Я дзяліўся сваімі вышукамі на старонках газет і часопісаў. Потым пайшлі запрашэнні на лекцыі і семінары: Смаленск, Казань, Калінінград, Курган, Казахстан, Крым, Беларусь…

Я мог бы доўга пералічваць іншыя фрагменты сваёй настаўніцкай біяграфіі, але абмяжуюся гэтымі, бо і з іх відаць, што перад вамі настаўнік, які нешта разумее ў выкладанні матэматыкі. У 1998 годзе я пакінуў універсітэт і звярнуўся ў Ленінскі і Кастрычніцкі аддзелы адукацыі нашага горада з заявамі аб працаўладкаванні. Гэтыя заявы потым некалькі разоў паўтараў. На свае заявы атрымліваў адно і тое ж: «няма вакансій», «няма вакансій», «няма вакансій». І вось так ужо 17 гадоў для мяне няма вакансій. Зараз я пенсіянер і мне тая вакансія ўжо не патрэбна. Не патрэбна, маючы на ўвазе заробак. Зарабляць я навучыўся, стварыўшы сам сабе вакансію. Я — індывідуальны прадпрымальнік у галіне матэматычнай адукацыі. Навучаю матэматыцы тых, каго не давучыла школа. Яны прыходзяць ка мне за ведамі і плоцяць за гэта немалыя па сённяшніх мерках грошы. Вучняў у мяне шмат, нягледзячы на такую плату і на тое, што заняткі вяду на беларускай мове. Прыходзяць і з ліцэяў, і з гімназій, і з школ, у тым ліку з школы № 1. У поспехах вашых, Алена Генадзеўна [*зварот да дырэктара школы № 1*

*А. Мачэкінай*], выпускнікоў пры паступленні ў ВНУ ёсць заслуга не толькі вашых настаўнікаў.

Неяк здарылася так, што прыйшлі да мяне мацяркі дзвюх дзяўчынак гэтай школы, але, пачуўшы памер платы, замяліся: такія траты былі ім непасільныя. Тады я прыйшоў да дырэктара школы Л. Белісавай з прапановай праводзіць свае бясплатныя заняткі для невялікіх груп навучэнцаў выпускных класаў школы. Дырэктара мая прапанова зацікавіла, але, сказала яна, патрэбен дазвол гарадскога ўпраўлення адукацыі. Я звярнуўся пісьмова за гэтым дазволам да тагачаснага кіраўніка ўпраўлення Дуплеўскага. У нас была даволі працяглая перапіска, вынікам якой стала тое, што ён дазволу не даў. Не ведаю, дзе цяпер той Дуплеўскі, зняты з пасады за фінансавыя махінацыі, але перапіска з ім «упрыгожыць» кнігу па гісторыі магілёўскай адукацыі, якая рыхтуецца.

Паколькі зараз і кіраўніцтва ўпраўлення адукацыі, і кіраўніцтва школы новыя, то я паўтараю ім сваю прапанову весці бясплатныя заняткі для выпускных класаў з мэтай падрыхтоўкі да ЦТ. Заняткі будуць на беларускай мове, удзел у іх чыста добраахвотны. Ад школы патрабуецца толькі выдзеліць мне невялікае памяшканне ў прадвячэрні час. І нічога болей.

Апошнія пяць год я з цікавасцю назіраю за адзіным у горадзе беларускім класам з адной навучэнкай Ялінкай Салаўёвай. Паважаю яе бацькоў за настойлівасць у дасягненні гэтай мэты. Але з году ў год нарастае неўразуменне: чаму ў гэтым класе навучэнка толькі адна?

Вымушаны тут адхіліцца ў гістарычны экскурс. Дваццаць год таму каля сямі працэнтаў магілёўскіх школьнікаў вучыліся ў беларускамоўных класах. Пасля сумнавядомага рэферэндума, вынікам якога руская мова была прыроўнена ў дзяржаўных правах з беларускай (я падкрэсліваю: **прыроўнена**), колькасць такіх класаў пачала імкліва скарачацца. Беларускія класы сталі ў масавым парадку пераводзіць на рускую мову, і ў канцы стагоддзя беларускіх класаў у Магілёве не стала. Але людзі, якія хацелі, каб іх дзяцей вучылі на роднай мове, засталіся. І яны раз-пораз турбавалі і гарадскія, і абласныя адукацыйныя структуры сваімі просьбамі-прапановамі-патрабаваннямі. На жаль, такіх людзей было няшмат, на больш-менш прыстойны клас дзяцей не набіралася. А бацькі не

былі дастаткова актыўнымі, каб патрабаваць выканання сваіх правоў болей энергічна.

Усё ж пад націскам Таварыства беларускай мовы ўлады пайшлі на саступкі. У 2002 годзе было абвешчана аб адкрыцці сёмага (!) матэматычнага (!) класа з беларускай мовай навучання на базе нацыянальнай гімназіі. Абвестка з’явілася ў сродках інфармацыі досыць позна, толькі ў чэрвені, але ўсё ж яе заўважылі. На вучобу ў такім класе пайшлі заявы. Іх было няшмат, але яны былі. Сустрэча прадстаўнікоў ТБМ з галавой абласной адміністрацыі Б. Батурам закончыўся станоўча: згода на адкрыццё такога класа была атрымана. Але сённяшні дырэктар шахматнага клуба, які на той час кіраваў абласным упраўленнем адукацыі, зрабіў усё, каб такі клас не быў адчынены, маўляў, няма сродкаў. Потым палавіна з тых, хто падаў заявы ў беларускі клас, займаліся са мной індывідуальна.

І вось зараз клас маецца. Заззяла адна маленькая кропелька беларускасці. Чаму ж толькі адна?

У красавіку гэтага года я зайшоў да спадарыні Новікавай [*начальніца ўпраўлення адукацыі горада*] з прапановай сабраць нараду, прысвечаную праблеме беларускага класа. Ірына Леанідаўна абяцала запрасіць мяне для больш дэтальнай размовы ў маі. У маі я запрашэння не дачакаўся і зайшоў пагутарыць з дырэктарам школы. Наша прыязная размова скончылася нічым. Вось сяджу і думаю: ну чаму, не могучы за пяць год напоўніць клас вучнямі, адукацыйныя кіраўнікі не бачаць тут праблемы і не хочуць гэтага абмяркоўваць? Чаму для таго, каб сабраць такую нараду, трэба падключаць самых высокапастаўленых асоб вобласці і нават рэспублікі? Чуткі пра гэты клас ужо дайшлі да вушэй Прэзідэнта і выклікалі яго здзіўленне.

Ірына Леанідаўна адказала мне на мой пісьмовы запыт, што, маўляў, прымаюцца меры, вывучаюцца запыты, складаюцца планы… Мне відавочна, што гэтыя меры, запыты і планы ні да чаго іншага не прывядуць. Калі б такім мерамі дваццаць год таму пераводзілі беларускамоўныя класы на рускамоўныя, то беларускія класы дагэтуль у Магілёве існавалі б. Бо меры гэтыя відавочна нядзейсныя. І нічога ў вас, Ірына Леанідаўна [*замест гэтага ківок у бок Т. Кандрацьевай, намесніцы начальніка ўпраўлення адукацыі, якая прысутнічала на нарадзе*], не атрымаецца, пакуль Вы не пусціце на гэтае поле (поле беларускамоўнай адукацыі) людзей, кроўна

зацікаўленых у тым, каб беларусы не зніклі з зямнога шара, не вымерлі, як маманты. Перад Вамі — адзін з такіх. Прапануючы Вам свае паслугі, я не шукаю вакансіі, я не шукаю заробку (ён у мяне ёсць). Я гатовы працаваць з адным гэтым класам без аплаты (Вам, Алена Генадзеўна, дарэчы, яшчэ й прэмію выдзеляць за эканомію сродкаў). І я адказна сцвярджаю, што ў гэтым выпадку клас напоўніцца вучнямі. Калі Вы хочаце, каб такое было. Калі не хочаце, то пакінеце ўсё, як ёсць — з вашымі мерамі і планамі.

На заканчэнне ў дадатак цікавая інфармацыя. У школе № 168 г. Мінска матэматыку выкладае Уладзімір Мартысюк. Школа рускамоўная, але Мартысюк матэматыку выкладае па-беларуску. Спробы адміністрацыі націснуць на яго прывялі да таго, што Мартысюк паабяцаў звольніцца і перайсці ў іншую школу. Але тут загудзелі бацькі. Каб не ствараць канфлікту, адміністрацыя пайшла на кампраміс і пакінула настаўніка ў спакоі. У класы, дзе працуе Мартысюк, бацькі імкнуцца аддаваць сваіх дзяцей, бо ведаюць, што матэматыцы яны будуць навучаныя найлепшым чынам. Аналагічная сітуацыя з гімназіяй горада Глыбокае на Віцебшчыне, дзе працуе беларускамоўны настаўнік матэматыкі Іван Храпавіцкі, найцікавейшыя артыкулы якога я часта чытаю ў педагагічным часопісе і на яго даволі папулярным сайце. Мяркую, што такія выпадкі не толькі з матэматыкай, але там я не сачу. Проста матэматыка для мяне прафесійна цікавая.

А што ў Магілёве? Для мяне зноў «няма вакансій»?

Дзякую за ўвагу, якой я цягам сямнаццаці год усё ж дамогся».

*14.03.2016 г. М. Булавацкі — Начальніку галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама сп. Кунцэвічу А.М.*

Народ, не имеющий национального самосознания, есть навоз, на котором произрастают другие народы.

*Пётр Столыпин*

Мова, культура, традыцыі, нацыянальныя каштоўнасці — гэта падмурак, без якога немагчымае існаванне ні народу, ні краіны. Гэта скарб, якім мы павінны ганарыцца. Сёння сам час патрабуе

ад нас не толькі звярнуцца да нашых вытокаў, але і паглыбляць знаёмства з традыцыямі, развіваць пачуццё грамадзянскасці і любоў да радзімы.

*Уладзімір Макей, Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь*

Паважаны Андрэй Міхайлавіч!

Нагадваю, што ў верасні мінулага года ў сярэдняй школе № 1 адбылася нарада з Вашым удзелам па пытанні адзінага ў Магілёве беларускага класа. Тады было прынята рашэнне сабрацца для канчатковага рашэння такім жа «круглым сталом» у студзені-лютым. Студзень і люты ўжо прайшлі. Але за гэты час адбыліся пэўныя змены. Напрыклад, Вы занялі новую, больш высокую пасаду. І ў кароткай гутарцы пры сустрэчы на адной з выставак я зразумеў (магчыма, памылкова?), што займацца гэтым пытаннем у Вас няма болей намеру. «Пытаннямі адукацыі я ўжо не займаюся», — сказалі Вы. Гэтая фраза мяне крыху здзівіла, бо дзе ж павінны быць галоўныя інтарэсы ўпраўлення ідэалогіі, калі не ў сферы адукацыі і культуры.

Але ў нашым выпадку размова нават не столькі пра адукацыю, колькі пра мову — ці не галоўны ідэалагічны чыннік любой дзяржавы. Вы любіце паўтараць знакамітае выказванне Францішка Багушэвіча «Не пакідайце ж мовы нашай нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» Дык і не пакідайце ж! Давядзіце пачатае Вамі да лагічнага канца.

З свайго боку адзначу, што мне здаецца, нібыта адміністрацыя школы не зацікаўлена ў тым, каб папоўніць гэты клас іншымі вучнямі і не збіраецца прыкладваць намаганняў у гэтым кірунку. Пытанне можа быць вырашана толькі ў тым выпадку, калі за справу возьмецца чалавек, якому беларускае баліць. Адзін з такіх — аўтар гэтага ліста. Калі я пачну выкладаць матэматыку ў беларускім класе, то ў класе будзе не адна навучэнка. Я не бачу іншага варыянта вырашэння праблемы. Але магчыма ён знойдзецца, калі мы зноў збярэмся за «круглым сталом».

Тут я зноў вяртаюся ў думках да пытання: чаму Вы, выказаўшы напачатку такую вялікую зацікаўленасць да вырашэння названай праблемы, раптам сталі ўхіляцца ад яе? Магчыма, Вы абмеркавалі

пытанне з вышэйшымі кіраўнікамі гар- і аблвыканакама, і тыя «параілі» Вам прыглушыць сваю актыўнасць? Развіваючы далей гэты варыянт, можна дайсці да цікавых высноў. Але я пакуль устрымаюся ад гэтага. Меркаванні меркаваннямі, а справу трэба рабіць. Прапаную рабіць разам…

*Міхась Булавацкі*

*30.03.2016* *А. Кунцэвіч — М. Булавацкаму*

Паважаны спадар М. Булавацкі!

Тэма пашырэння выкарыстання беларускай мовы, якую мы абмяркоўвалі з Вашым удзелам падчас вераснёўскага «круглага стала», безумоўна, заслугоўвае ўвагі з боку шырокага кола людзей: прадстаўнікоў выканаўчай улады, грамадскіх арганізацый і проста звычайных грамадзян. Цалкам падзяляю Ваша жаданне «рабіць справу разам» і заклікаю Вас да актыўнага ўдзелу ў мерапрыемствах і праектах, якія ладзяцццца пад эгідай галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама, дзе я зараз маю гонар працаваць. Тым больш, што ў абласным Плане мерапрыемстваў, прымеркаваным да сёлетняга Года культуры, гэтай тэме прадугледжаны асобны раздзел «Пашырэнне выкарыстання беларускай мовы».

Што датычыцца беларускамоўнага навучання ў школах Магілёва, я з вялікім задавальненнем гатовы прадоўжыць абмеркаванне гэтай тэмы з усімі зацікаўленнымі бакамі ў межах маёй службовай кампетэнцыі.

Прынамсі, змест Вашага пісьмовага звароту даведзены да кіраўніцтва ўпраўлення адукацыі аблвыканкама.

У выпадку нязгоды з атрыманным адказам на Ваш зварот Вы маеце права яго абскардзіць у Магілёўскім аблвыканкаме.

*Начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта*
*А.М. Кунцэвіч*

*26 мая 2016 года чарговая нарада ў школе № 1 усё ж адбылася. Вяла яе новая намесніца старшыні гарвыканкама А. Галушка, якая*

*змяніла А. Кунцэвіча. Большая частка нарады была прысвечана інфармаванню аб тым, што робіцца ў школах і дзіцячых садках горада па папулярызацыі беларускай мовы. Пад канец перайшлі да магчымага беларускамоўнага класа. Нагода: дзве заявы ад бацькоў горада. Прысутнічаў на нарадзе І. Якіменка, нядаўна пераведзены дырэктарам школы № 34 (да таго быў дырэктарам гімназіі № 3). Ён заявіў, што гатовы, каб у яго школе быў адкрыты такі клас.*

*Свае думкі аб тым, што пачуў на нарадзе, я выклаў у чарговым лісце.*

*20.06.2016 г.* *Начальніку галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама А. Кунцэвічу, намесніку старшыні Магілёўскага гарвыканкама А. Галушка, намесніку начальніка ўпраўлення адукацыі Магілёўскага гарвыканкама Т. Кандрацьевай, дырэктару сярэдняй школы № 1 г. Магілёва А. Мачэкінай*

Думкі з нагоды нарады 26.05.2016 — для азнаямлення (адказ не абавязковы)

26 мая ў школе № 1 адбылася нарада, прысвечаная беларускамоўнай адукацыі ў беларускім горадзе Магілёве. Калі Алег Дзьячкоў запрасіў мяне на гэтую нараду, то я падумаў, што яна будзе ў працяг нарады, якая адбылася ў гэтай школе ў верасні мінулага года і была прысвечана праблеме адзінага ў горадзе беларускага класа з адзінай вучаніцай.

Нагадаю, што ў лісце, адрасаваным намесніку старшыні аблвыканкама В. Малашку, быў выказаны папрок дырэктару школы А. Мачэкінай пра яе няздольнасць і неруплівасць папоўніць гэты клас іншымі вучнямі, каб зрабіць яго паўнавартасным класам. Прапаноўвалася далучыць да гэтай праблемы грамадскасць, напрыклад, сілы Таварыства беларускай мовы. Як паведамлялася ў СМІ: «Вынікі сустрэчы падсумаваў Андрэй Кунцэвіч. Паводле яго, у наступным годзе высілкі варта засяродзіць на тым, каб папоўніць вучнямі беларускамоўны клас, які ўжо існуе. «Я разумею, што гэта складана, але паспрабаваць трэба», — выказаўся ён. «Другое пытанне, — працягнуў намеснік старшыні гарвыканкама. — Варта прыкласці намаганні, каб у наступным годзе набраць вучняў у першы беларускамоўны клас. Для яго базавай школай павінна стаць

першая. У ёй назапашаны адпаведны досвед». Удзельнікі дыскусіі дамовіліся сустрэцца яшчэ раз у студзені».

Але другой сустрэчы не было ні ў студзені, ні ў лютым, ні пазней. А. Кунцэвіча павысілі па службе, перавялі ў аблвыканкам начальнікам упраўлення ідэалогіі, і тым самым ён адасобіўся ад пазначанай праблемы («я справамі адукацыі ўжо не займаюся»), а іншым удзельнікам нарады з кіраўнічых структур горада (і ў прыватнасці, школы), беларускае, мабыць, не «баліць», і займацца вырашэннем праблемы яны не мелі намераў.

Новая намесніца старшыні гарвыканкама, прызначаная на месца А. Кунцэвіча, мяркую, нават не ведала пра існаванне такой праблемы. Так у нас часта бывае, што правая рука не ведае, што робіць левая.

Таму майская нарада, як выявілася, ніяк не была звязана з нарадай вераснёўскай, а была прысвечана найперш агульным пытанням. Удзельнікі даведаліся, што ў дзіцячых садках штотыдзень праводзіцца дзень роднай мовы, паглядзелі відэаролікі з розных школ аб тым, як папулярызуецца родная мова. Усё гэта як бы павінна было пераканаць прысутных, што з беларускай мовай у магілёўскіх школах поўны «окей».

Гэтым бадзёрым рапартам усё ж слаба верылася, бо галоўнае ў тым, што дваццаць год таму каля 7% магілёўскіх школьнікаў вучыліся ў беларускамоўных класах, а зараз на ўвесь Магілёў адзін такі клас з адной дзяўчынкай. І шэсць год ні адміністрацыя школы, ні кіраўніцтва ўпраўлення адукацыі не прадпрымаюць намаганняў, каб папоўніць гэты клас іншымі вучнямі. Бо не зацікаўлены. Сёння магілёўскай адукацыяй кіруюць людзі, якія даўно забылі мову, тую мову, якую на апошнім перапісе больш за палову грамадзян нашай краіны назвалі роднай. Ім, гэтым кіраўнікам, паўтаруся, беларускае не баліць. Мабыць, орган, які павінен тут балець, ужо атрафіраваўся. Калі знікне «гэтая мова», то яны ўздыхнуць з палёгкай, бо знікне праблема (прынцып Джугашвілі: ёсць чалавек — ёсць праблема, няма чалавека — няма праблемы; тут тое ж пра мову). Але калі знікне мова, то знікне і народ.

І ўсё ж ёсць у Магілёве бацькі, якія ганарацца сваёй прыналежнасцю да беларускага народа і хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускіх класах. На сёння маюцца дзве заявы ад бацькоў будучых

першакласнікаў. Што рабіць у такім выпадку? — пытанне другой часткі нарады. Яно нібыта мае пазітыўны працяг: дырэктар 34-й школы гатовы адкрыць беларускі клас у сваёй школе. Але пытанне ў тым, ХТО і ЯК будзе з гэтым класам працаваць?

Для таго, каб прывабіць іншых дзяцей (дакладней, іх бацькоў) у гэты клас, трэба паставіць адукацыйную працу ў класе на самым высокім узроўні. Тое, з чым не змаглі справіцца ў 1-й школе. Настаўніца, якая працавала з дзяўчынкай у 1–4 класах, Н. Аржанава, адпавядала такім патрабаванням — і мовай валодала, і досвед вялікі мела, і разумела аспекты працы з такім незвычайным класам. У 5-м і 6-м класах адпаведных настаўнікаў не знайшлі. Ці знойдуць іх у 34-й школе?

Пра што гаворка? Справа ў тым, што досведу працы з маленькімі класамі (нават з супермаленькімі! — у адзін-два вучні) у школах горада няма. Паспрабуем зразумець, чым павінна адрознівацца праца ў такіх класах.

Міністэрствам адукацыі распрацаваны навучальныя праграмы, якія акрэсліваюць тэматыку, аб'ём і тэрміны навучання ў кожнай навучальнай дысцыпліне. Гэтыя праграмы арыентаваныя на так званы сярэднястатыстычны клас з 20–25 вучняў звычайных здольнасцяў. А калі ў класе сабраліся вучні здольнасцяў ніжэй звычайных? Ці, наадварот, вышэй звычайных? У такіх класах жорсткае выкананне праграмы будзе памылкай (не буду тут падрабязна тлумачыць чаму, бо такое патлумачваюць, прынамсі, павінны патлумачваць будучым настаўнікам у педагагічных ВНУ). І нават калі вучні звычайных здольнасцяў, але іх не 25, а значна меней. Паспрабуйце ўявіць, што кожнага з гэтых 25 навучаюць асобна — няцяжка зразумець, што праграма асобным вучнем будзе засвоена нашмат хутчэй. Асабліва калі вучань здольны. І што тады рабіць?..

Для параўнання сітуацыя ў спорце: хлопец прыйшоў да трэнера па скачках у вышыню. Трэнер яму ставіць планку на вышыні 1 метр. «Я магу два метры ўзяць», — гаворыць хлопец. «Не-не, — пярэчыць трэнер, — у нас маецца праграма. Трэба ўсё паслядоўна». Назаўтра ставіць яму метр-пяць, на наступнай трэніроўцы — метр-восем. І гэтак далей, набаўляючы па 2–3 см. Калі чарга дойдзе да 1,70–1,80 м, хлопец не зможа ўзяць гэтую вышыню, бо ў яго ра-

заўецца апатыя цягліц (мышцаў). Ён не напружваў свае цягліцы на мяжы магчымасцяў, і тым самым растрэніраваў іх.

Тое ж адбываецца і з мозгам. Калі здольнаму, разумнаму вучню даваць заданні, якія ён «шчоўкае» лёгка, без напружвання, у яго паступова разаўецца апатыя мозга. І ён страціць значную частку сваіх разумовых здольнасцяў.

Вось гэта і адбылося з Ялінкай. Малавопытныя настаўнікі матэматыкі (магчыма, і іншых дысцыплін, але я буду гаварыць пра матэматыку, як блізкую мне дысцыпліну, якая да таго ж фармуе, парадкуе розум…) не думалі пра развіццё розуму дзяўчынкі, яны тупа выконвалі праграму.

На пачатку 5-га класа бацька Ялінкі папрасіў мяне папрацаваць з дзяўчынкай, каб падрыхтаваць яе да алімпіяды па матэматыцы. Я пераканаўся, што разумовыя здольнасці дзяўчынкі вышэй за сярэднія. З якім апетытам яна бралася за рашэнне складанай задачы! І як свяціліся яе вочы, калі рашэнне знаходзілася! Працаваць з ёй было суцэльным задавальненнем. І вось сустрэча з ёй праз паўтара года. «Колькі будзе, калі пяць падзяліць на адну пятую?» — «Адзін». — «А калі пяць падзяліць на пяць?» — «Адзін». Я раблю паўзу, бо разумны чалавек павінен схамянуцца: там адзін і там адзін — нешта не так. Але Ялінка нічога ненармальнага не заўважае, спакойна глядзіць на мяне. Я спрабую падштурхнуць: «Там адзін і там адзін?» — «Так», — адказвае Ялінка. І толькі ўбачыўшы здзіўленне ў маіх вачах, схамянулася: «Ой, там жа трэба перавярнуць дроб, — задумалася, — будзе дзесяць. — Праз паўзу: — Ой не, дваццаць пяць».

Гэта толькі адзін з некалькіх прыкладаў, па якіх я зразумеў, што ў развіцці розуму дзяўчынкі дапушчаны істотныя хібы, у яе ўжо маюцца прыкметы апатыі мозгу. А справа ж у тым, што развіццё клетак кары галаўнога мозгу чалавека заканчваецца прыблізна ў 12-гадовым узросце. 11–12 год — самы спрыяльны перыяд для развіцця розуму, тое, што ўпушчана ў гэтым узросце, ужо не можа быць выпраўлена пазней. Папрок гэты я адрасую не толькі школе, але і бацькам дзяўчынкі, бо маці — настаўніца і павінна была б ведаць пра такія аспекты фізіялагічнага развіцця дзіцяці.

Мяркую, што настаўнікі Ялінкі не цікавіліся самымі сучаснымі эфектыўнымі метадамі навучання, не ведалі досведу вядомага са-

вецкага настаўніка В. Шаталава, не знаёміліся з працамі савецкіх псіхолагаў (у прыватнасці, Л. Занкова, сярод важнейшых прынцыпаў навучання якога — прынцып хуткага руху наперад). І дырэктар школы не змагла дапамагчы ім у гэтым, бо сама ўжо адасобілася ад навучальнага працэсу і зараз ёй не да таго, што´ там казалі нейкія псіхолагі, хай сабе й сусветна вядомыя.

І як будзе з гэтым у школе № 34? Тое, што дырэктар школы некалі быў пераможцам рэспубліканскага конкурсу «Настаўнік года», яшчэ не гарантуе, што ён патрэбнымі навуковымі ведамі валодае, бо сёння справа дырэктара школы — найперш гаспадарчая, а не адукацыйная. Нездарма ж, дырэктарка 1-й школы цалкам адмовілася ад вядзення ўрокаў, «бо шмат праблем па гаспадарцы».

І ў сёмым класе, дзе вучыцца Ялінка Салаўёва, зноў застанецца адна вучаніца, якую будуць вучыць «па праграме». Пра гэта на майскай нарадзе пагаварыць не захацелі. Бо — каму гэта трэба!

Сумна.

Не ведаю, на што тут можа паўплываць новая намесніца старшыні гарвыканкама А. Галушка, якая будзе рэгуляваць пытанні ідэалогіі, адукацыі і якая не валодае тытульнай мовай нашага народа. Цікавае пытанне: чаму на такія ключавыя кіраўнічыя пасады прызначаюцца людзі без валодання мовай? Але, мабыць, у яе маюцца іншыя кіраўнічыя вартасці. Пaглядзім…

Думаецца, усё ж ёй варта засвоіць мову нашага народа (А. Кунцэвіч выглядаў у гэтым аспекце вельмі прывабна), бо без гэтага яна на такой пасадзе будзе выглядаць дзіўнавата, неадпаведна.

Для яе я паўтару свой ліст, які зачытаў на памянёнай вераснёўскай нарадзе.

*Міхась Булавацкі, настаўнік вышэйшай катэгорыі, журналіст, пісьменнік*




*Клас з трыма навучэнкамі ў школе № 34 адкрыты. Настаўніца Лідзія Пятроўна Ціханоўская — вопытная і руплівая, адданая сваёй справе, пераведзена з школы № 41, дзе*

*раней былі беларускія класы. Бацькі трох дзяўчынак задаволеныя вучобай сваіх дзетак.*

*Ялінка заканчвае восьмы клас адна. Намер Зміцера і Надзеі Салаўёвых — аддаць яе ў ліцэй імя Я. Коласа.*

*Перад самым выхадам кнігі прышло нечаканае паведамленне: у школе № 1, дзе заканчвае вучыцца Ялінка, адкрыты першы **беларускі** клас, у якім аж два вучні.*

*У добры шлях, беларускія першакласнічкі!*

*З Богам!..*

# ХТО КАК ХАЦІТ…

Ну а в нашем Ейске
Всё по-европейски:
Свобода слова, если это мат.

*Владимир Высоцкий*

*Магілёўскі гісторык Алесь Агееў пацікавіўся ў кіраўнікоў Міністэрства спорту і турызму, чаму на сайце міністэрства скарыстоўваецца толькі руская мова. Атрымаў вось такі адказ:*

*17.08.2016 г.* *Мінспорту — А. Агееву*

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29.04.2010 № 645 вызначаны парадак функцыянавання афіцыйных сайтаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання. У адпаведнасці з якім інфармацыя на інтэрнэт-сайтах дзяржаўных устаноў і арганізацый размяшчаецца на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь, а пры неабходнасці таксама на адной або некалькіх замежных мовах. Мінспортам інфармацыя на інтэрнэт-сайце размяшчаецца на рускай і англійскай мовах.

Разам з тым Міністэрствам спорту і турызму з другога жніўня 2016 года абноўлена версія інтэрнэт-сайта і вядуцца тэхнічныя працы па забеспячэнні магчымасці размяшчэння інфармацыі таксама і на беларускай мове.

Міністэрства спорту і турызму дзякуе Вам за актыўную грамадзянскую пазіцыю.

*Намеснік Міністра М.П. Партны*

*Звернем увагу: пастанова Саўміна адпавядае Канстытуцыі — «інфармацыя на інтэрнэт-сайтах дзяржаўных устаноў і арганізацый размяшчаецца на дзяржаўн**ых** мов**ах** Рэспублікі Беларусь». Тут не напісана — «на адной з дзяржаўных моваў», тут множны*

*лік — «на дзяржаўных мовах». Але ў Мінспорта множны лік не заўважылі, не прачыталі. І зрабілі сайт на адной з дзяржаўных моваў. На якой — не пытайцеся: славутае «права выбару». Класічны прынцып Мікалая Дзямянцея: «Хто как хаціт, тот так і гаварыт».*

*Алесь Агееў так пракаментаваў адказ намесніка міністра: «І падзяку ад міністэрства атрымаў і нібыта ўсё правільна, але здзек па сутнасці. На сайце беларускай мовы няма. А так неўміручае: «Мовы няма, а вам Добрага здароўя і харошага настрою!»*

*Версія інтэрнэт-сайта абноўлена, але зноў жа без мовы. Абяцанне «вядуцца тэхнічныя працы», хутчэй, для супакаення Агеева. Такія абяцанні ў міністэрствах амаль адразу забываюцца. Ці стане Мінспорта выключэннем? Пачакаем.*

*Адзначым адну прыемную дэталь: прозвішча ў рускай мове «Портной» у беларускай мове падаецца правільна «Партны» (успомнім: пісьменнік Л. Талстой не пішацца ў нашай мове як Талсты і тут узнікаюць праблемы са склонамі прозвішча: хто — Талстой, каго — Талстоя, каму — Талстою… Бо менавіта так у нас скланяюцца назоўнікі на -ой, напрыклад, габой, двубой, гной, прыбой. А прыметнікаў з канчаткам -ой у нашай мове няма.)*

*Наконт гэтага славутага «права выбару», якім часта казыраюць, варта зазірнуць у практыку іншых краін, дзе маецца не адна дзяржаўная мова. Такую магчымасць дае нам Якуб Лапатка ў газеце «Наша ніва» 22.01.2015 г.*

«Аднойчы мой знаёмы завітаў у жыллёвы аддзел, каб атрымаць даведку з месца жыхарства. Здаецца, простая справа: прыйшоў, сказаў, атрымаў. Аднак гэтая простая справа ператварылася ледзь не ў палітычную дэманстрацыю, бо ён папрасіў даведку на беларускай мове.

Такая просьба не гэтулькі здзівіла, колькі ўразіла і нават абурыла пашпартыстку. «Мушчына, што вы хаціця? Бярыця, што вам дают. У нас все языкі равныя». І ў якасці апошняга непрабіўнога аргументу дадала: «Эта пракціка ва всём міры».

Мой знаёмы скептычна паставіўся да сусветнай практыкі, а заадно і да юрыдычнай дасведчанасці абуранай службовай асобы, і дабіўся сустрэчы з начальнікам, хаця ў таго — па словах той жа пашпартысткі — быў «непраёмный дзень».

Начальнік, мужчына ўжо сталага веку, лагодна павыхоўваў «зарваўшагася акстраміста-нацыяналіста» і, нібыта робячы вялікую паслугу, уласнаручна засведчыў (на беларускай мове!), што дадзены экстрэміст пражывае там і там.

На развітанне ён гэтак жа лагодна сказаў: «Вот вы, маладой чалавек, всё вазмушчаецесь, а вець мая работніца права, такая пракціка прынята ва всём міры. Беларусь ведзь не ядзінсьцьвенная страна, гдзе імеецца па два языка».

Што й казаць, начальнік-ліберал меў рацыю: Беларусь не адзіная краіна з дзвюма дзяржаўнымі мовамі. А вось што тычыцца сусветнай практыкі, то давайце паглядзім і параўнаем.

Адной з такіх краін з'яўляецца Фінляндыя. Насельніцтва яе складае пяць з паловай мільёнаў чалавек. З іх недзе дзевяноста чатыры працэнты, або звыш пяці мільёнаў чалавек, этнічныя фіны, і роднай мовай яны лічаць фінскую мову. Крыху больш за шэсць працэнтаў, або недзе каля трохсот сарака тысяч чалавек, складаюць этнічныя шведы, роднай мовай якіх з'яўляецца шведская. Аднак, нягледзячы на такі вялікі дысбаланс па колькасці, у краіне прынятыя дзве раўнапраўныя дзяржаўныя мовы: фінская і шведская. Так што, пакуль што тэзы ліберальнага начальніка наконт сусветнай практыкі пацвярджаюцца.

Такім чынам, 77% беларусаў і 6,5% шведаў маюць роўныя правы перад Законам. Аднак беларуская практыка і сусветная практыка кардынальна адрозніваюцца, таму што фінскія шведы і фінскія чыноўнікі раўнапраўныя перад Законам.

А беларускія грамадзяне аказваюцца тварам да твару з чыноўнікам, які лічыць сябе ўвасабленнем Закону і роўнасць моў перад Законам талкуе на свой одум. І тут пачынаецца тое, што ніяк не стасуе беларускую практыку з практыкай іншых краін.

Па фінскім Законе аб мовах усе бланкі ў дзяржаўных установах, установах сацыяльнага абслугоўвання, аховы здароўя і гэтак далей, складаюцца абавязкова на фінскай і шведскай мовах. Шыльды на ўстановах таксама пішуцца на дзвюх мовах. На дзвюх мовах робяцца надпісы ў метро, чыгуначных станцыях, трамвайных і аўтобусных прыпынках.

Мову надпісаў і запаўнення гэтых бланкаў вызначае не чыноўнік. Кліент сам, не пытаючыся дазволу ні ў каго, запаўняе патрэбны

бланк на сваёй мове — фінскай або шведскай. Болей таго, чыноўнік абавязаны запытацца ў кліента, на якой мове той хоча атрымаць дакумент. Такая ж практыка прынятая і ў банках, хаця яны з'яўляюцца і недзяржаўнымі прадпрыемствамі.

Такім чынам, права меншасці карыстацца сваёй роднай мовай абаронена Законам.

…

Нельга не звярнуць увагу і на ўнікальнасць выкарыстання двухмоўя ў беларускай прэсе. Тут таксама яскрава праяўляецца своеасаблівае разуменне роўнасці моў: у газеце можа быць беларускі загаловак, але пераважная большасць матэрыялаў падаецца па-руску. Здаецца, журналісты павінны быць болей дасведчаныя адносна сусветнай практыкі, чым чыноўнікі. Такой практыкі няма нідзе ў свеце. Газеты выдаюцца на адной мове, няхай сабе на фінскай або шведскай. Некалькі гадзін у дзень тэлебачанне працуе па-шведску. Калі ж выступы ў фінскай моўнай праграме робяцца па-шведску, то знізу падаюцца субтытры перакладу. Апраўданні няведаннем адной з дзяржаўных моў гучаць проста недарэчна. Кожны фінскі журналіст аднолькава добра валодае абедзвюма дзяржаўнымі мовамі.

І тут час распачаць радасны крык: «Вось бачыце, гэта і ёсць двухмоўе! Хто как хаціт так і гаварыт!» Правільна, шаноўныя таварышы, правільна!

Кто как хаціт так і гаварыт, але толькі дома або на вуліцы. Дзяржаўныя ж чыноўнікі ў **абавязковым парадку** здаюць экзамен на валоданне дзвюма дзяржаўнымі мовамі. Прычым выключэнне не робіцца ні для дэпутатаў парламента, ні для прэзідэнта.

А каб чалавек меў магчымасць падацца на дзяржаўную службу, у школах і ліцэях фінскіх дзяцей не вызваляюць ад вывучэння шведскай мовы па надуманых нагодах накшталт перагружанасці школьных праграм або заняткаў хакеем ці музыкай.

Нават невялічкі народ фінскіх саамаў, колькасцю 6 тысяч чалавек, мае сваю афіцыйную мову ў трох камунах (раёнах па нашых мерках). Існуе літаратура, газеты, школы.

А галоўнае — гэта тое, што Закон абараняе права грамадзяніна карыстацца сваёй мовай і не падлягае талкаванню на свой лад і разуменне чыноўнікамі, незалежна ад іх рангу і пасады. Нават прэ-

зідэнт, звяртаючыся да народа Фінляндыі, прамаўляе па-фінску і па-шведску, не спасылаючыся на веліч той ці іншай мовы.

А потым ужо хто как хаціт, так і гаварыт…

*Якуб Лапатка, Хельсінкі*

*Варта ўхвальна адзначыць эпісталярныя ініцыятывы спадара Агеева. Стукайце — адчыняць. Мне шмат разоў даводзілася пераканацца ў слушнасці гэтай біблейскай парады.*

*Самы яскравы прыклад з часоў СССР — змаганне Настаўніка В. Шаталава за свае ідэі. Так атрымалася: шараговы настаўнік распрацаваў новую, даволі эфектыўную сістэму навучання, зрабіў тое, чаго не змаглі зрабіць ні супрацоўнікі Міністэрства народнай адукацыі СССР, ні акадэмікі Акадэміі педагагічных навук СССР, ні навуковыя супрацоўнікі розных НДзІ. Калі б ён прынёс зробленае ў акадэмію — вось, вазьміце тое, што я зрабіў, — яму б вяла падзякавалі, паклалі працу пад сукно, магчыма, штосьці надрукавалі б, магчыма, нейкі супрацоўнік абараніў дысертацыю на гэтых матэрыялах. Урыўкі ідэй, магчыма, дайшлі б да вушэй настаўнікаў.*

*Настаўнік гэтага не захацеў, ён лічыў патрэбным давесці да настаўнікаў ідэі новай педагагічнай сістэмы ў цэласнасці. І пачаў прапагандаваць яе сам. Акадэмія і міністэрства раз'ятрыліся і пачалі сапраўдную вайну з выскачкам. Але яны крыху запазніліся: новыя ідэі ўжо былі агучаныя ў СМІ і зацікавілі, прывабілі актыўных настаўнікаў. Настаўнікі масава пачалі ездзіць у Данецк на семінары В. Шаталава. Тыя семінары не толькі дапамагалі настаўнікам засвоіць новыя цікавыя элементы працы з вучнямі, але (з майго погляду гэта нават важней!) вучылі настаўнікаў абараняцца ад самадурства адукацыйнага чынавенства. І паколькі настаўнікі-«шаталаўцы» былі раскіданыя па ўсім СССР, то галоўнай формай такой абароны было ліставанне.*

*«Пі-шы-це лісты!!» — кожны раз заклікаў Віктар Фёдаравіч. І ўрэшце стварыў даволі эфектыўную сістэму ліставання. У свой час і мне гэта дапамагло. Калі я ў 1984 годзе быў звольнены з інстытута, інфармацыя пра гэта ад Шаталава разышлася па адрасах яго карэспандэнтаў, і адтуль пайшлі лісты ў цэнтральныя газеты, у Цэнтральны камітэт КПСС, у міністэрства. Тыя (асабліва газеты) пачалі рэагаваць. У выніку я быў адноўлены на*

*працы і працягваў знаёміць студэнтаў педагагічнага інстытута з новымі педагагічнымі ідэямі.*

*Зараз сам хачу заклікаць тых, каму баліць беларускае: ПІ-ШЫ-ЦЕ ЛІ-СТЫ!!! Убачылі нешта несправядлівае, незаконнае, неразумнае, — не трэба моўчкі абурацца і плакацца некаму ў камізэльку, напішыце ці ў кнізе заўваг і прапаноў, ці лістом. Калі такіх лістоў будзе не адзін, а, напрыклад, хаця б дзясятак, то адрасаты задумаюцца і пачнуць нешта змяняць. Вашы лісты пачнуць выпраўляць неразумнае. Пішыце!..*

# НЯХАЙ СКАЖА НАРОД

[*Публікацыя з такой назвай з'явілася ў газеце «Ратуша» 13.05.1993 г.*]

Гэтай зімой мая сям'я адзначыла чорны юбілей: 20 студзеня 1943 года фашысты спалілі вёску Восы, што прытулілася сярод балот і лясоў Глушчыны. Спалілі разам з жыхарамі — старымі і малымі. Там забітыя і згарэлі мая бабуля Каця і дзве маленькія сястрычкі Рая і Маруся (якіх я так і не пабачыў, бо нарадзіўся ўжо пасля вайны), а маці з старэйшым сынам уратаваліся, схаваўшыся ў лесе…

Я даведаўся пра гэта, калі мне было гадоў трынаццаць. Тады здавалася, што я ўсё сваё жыццё буду ненавідзець нямецкі народ, Нямеччыну і ўсё, што з ёю звязана. Падросшы, зразумеў, што ненавідзець народ неразумна, што такая нянавісць можа прывесці толькі да новых няшчасцяў. Немцы, што прыязджаюць да нас у Магілёў, напрыклад, з дапамогай «Дзецям Чарнобыля», — добрыя і спагадлівыя людзі. І ўсё ж нешта перашкаджае мне адносіцца да іх з адкрытай душой, як да сяброў, не знікае насцярожанасць. Чаму? Шукаючы адказ на гэтае балючае пытанне, прабегся ў думках па гісторыі адносін паміж беларускай і нямецкай дзяржавамі. Набегі крыжакоў у XII-XVI стагоддзяў — адкуль! З тых земляў, германскіх. Дзве сусветныя вайны XX стагоддзя, якія прынеслі столькі гора Беларусі, — адкуль пачаліся! Зноў жа адтуль. Лічы: амаль усё апошняе тысячагоддзе самай пагрозлівай небяспекі можна было чакаць адтуль, з земляў, якія насяляў нямецкі народ. Дзе гарантыя, што пройдзе некаторы час і зноў адтуль жа, па нейкаму прыроднагістарычнаму закону, не ўздымецца якая-небудзь новая сусветная навала? А з другога боку: як жыць без веры ў розум чалавечы? Як жыць пад цяжарам падазронасці і насцярожанасці?

З такога роздуму нарадзілася ідэя: хай **кожны** народ шляхам рэферэндуму прыме прысягу аб адмове ад захопніцкіх войнаў.

Магчыма, гэта крыху ўмацуе мір на зямлі, дабавіць згоды ў адносінах паміж народамі наогул і паміж беларускім і нямецкім народамі ў прыватнасці.

Усё ж народ павінен несці нейкую адказнасць (хай сабе толькі маральную) за тых атаманаў, якіх ён (народ!) саджае на трон, за тых павадыроў, якім ён дае лейцы ў рукі. «Гэта не народ Германіі, гэта Гітлер!», «Гэта не савецкі народ, гэта Сталін!», — такога роду апраўданні не супакойваюць душы тых мільёнаў пакутнікаў, якіх ужо няма з намі. Не супакойваюць, бо не даюць гарантыі, што з іх нашчадкамі не паўторыцца тое ж. Прапануемая клятва ў выпадку прыняцця яе народамі шляхам усенароднага галасавання створыць аснову, хай сабе й зыбкую, для такой гарантыі. І мне думаецца, што такую клятву павінны прыняць нават тыя народы, чыя гісторыя не заплямлена падобнымі войнамі (напрыклад, народ Беларусі).

Вось магчымы варыянт тэксту такой прысягі:

КЛЯТВА АБ АДМОВЕ АД ЗАХОПНІЦКІХ ВОЙНАЎ

Мы, Народ дзяржавы …, перад усім міралюбным чалавецтвам і перад Госпадам Богам лічым сваім святым абавязкам прысягнуць, што ніколі ў будучым наша дзяржава не распачне вайны з другой дзяржавай дзеля вырашэння тэрытарыяльных спрэчак, ніколі наш народ не пойдзе вайной на другі народ з мэтай яго заняволення або знішчэння.

Усякі палітык, які заявіць іншае, будзе пазбаўлены права займаць дзяржаўныя пасады ў нашай дзяржаве.

І калі гэтая клятва будзе парушана, хай спасцігне нас Божая кара і пагарда рода чалавечага.

КЛЯТВА ОБ ОТКАЗЕ ОТ ЗАХВАТНИЧЕСКИХ ВОЙН

Мы, Народ государства …, перед всем миролюбивым человечеством и перед Господом Богом считаем своим святым долгом присягнуть, что никогда в будущем наше государство не начнет войны с другим государством для разрешения территориальных споров, никогда наш народ не пойдёт войной на другой народ с целью его порабощения или уничтожения. Всякий политик, заявивший иное, будет лишён права занимать государственные посты в нашем государстве.

И если эта клятва будет нарушена, то пусть падёт на нас Божье проклятие и презрение рода человеческого.

Гэтая прапанова была накіравана ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь для вырашэння пытання аб яе мэтазгоднасці. Вось які адказ прыйшоў з міністэрства:

«Паважаны Міхась Пятровіч! У сваім лісце Вы прапануеце варыянт тэксту прысягі, якую, на Ваш погляд, было б мэтазгодным прыняць народамі ўсіх краін… У сувязі з гэтым варта адзначыць, што па сутнасці сваёй аналагічная прысяга была ўжо прынята супольнасцю нацый у 1945 годзе, калі была створана ААН. Яна змешчана ў прэамбуле да Статута гэтай арганізацыі і гучыць так: «Мы, народы Аб'яднаных Нацый, поўныя рашучасці пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны, якая двойчы ў нашым жыцці прынесла чалавецтву невыказнае гора… І з гэтай мэтай праяўляць цярпімасць і жыць разам, у міры адзін з другім, як добрыя суседзі, аб'яднаць нашы сілы для падтрымання міжнароднага міру і бяспекі і забяспечыць прыняццем прынцыпаў і ўстанаўленнем метадаў, каб узброеныя сілы прымяняліся не інакш, як у агульных інтарэсах… вырашылі аб'яднаць нашы намаганні для дасягнення гэтых мэт». Пад гэтым дакументам сёння стаяць подпісы прадстаўнікоў больш чым 170 дзяржаў свету, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь, якая з'яўляецца членам ААН з моманту яе заснавання, і Германіі. Такім чынам, у цяперашні час няма неабходнасці ў прыняцці новай прысягі або якой-небудзь дэкларацыі згаданага зместу. Галоўнае цяпер — садзейнічаць намаганням па вырашэнню палажэнняў гэтага дакумента.

З павагай Намеснік міністра А. Сычоў».

Мне здаецца, што ў Міністэрстве замежных спраў не прынялі да ўвагі дзве акалічнасці.

1) ААН стваралі не народы, а ўрады адпаведных дзяржаў. У маіх бацькоў, напрыклад, ніхто не пытаў, як яны адносяцца да членства Беларусі ў ААН. Зразумела, я не маю намеру сказаць, што яны былі б супраць, але проста трэба адрозніваць дзяржаўна-ўрадавую дыпламатыю і дыпламатыю народную. Пагадненні, прынятыя народамі, і пагадненні, прынятыя кіраўнікамі ўрадаў, — гэта далёка не адно і тое ж. Тут розная вагавая катэгорыя.

2) Статут ААН пачынаецца так: «Мы, народы, поўныя рашучасці пазбавіць будучыя пакаленні ад бедстваў вайны…» Цудоўны

намер! Але: ЯК гэта зрабіць?! Прапанова аб прыняцці кожным народам (заўважце: не ўрадам і не прадстаўніком народа, а народам!) прысягі аб адмове ад захопніцкіх войнаў дае магчымасць зрабіць маленькі крок на гэтым шляху. Але на гэтым шляху нават маленькі крок дорага каштуе. І нават маленькай магчымасцю прасунуцца да мэты (да будучыні без войнаў) не трэба грэбаваць.

*Я невыпадкова змясціў тэкст народнай клятвы на беларускай і рускай мовах (у лісце, адрасаваным міністэрству, была яшчэ і на англельскай). Бо не толькі Германія мяне турбавала, як магчымая агрэсіўная дзяржава, яшчэ больш мяне насцярожвала наша ўсходняя суседка. Ужо тады, калі аскаболкі разбуранага СССР пачыналі ствараць уласныя сістэмы гаспадарання без аглядкі на Маскву, я разумеў ці, лепш бы сказаць, адчуваў нейкім жывёльным інстынктам, што маскоўская палітычная эліта не змірыцца з новай рэальнасцю, што, ачуняўшы, яна будзе прадпрымаць спробы сабраць пад свой сцяг хаця б частку страчаных тэрыторый. І чамусьці быў упэўнены, што любы народ можа падпісацца пад такой клятвай, толькі не народ Расіі ў сваёй агрэсіўнай большасці.*

*Зараз бачна, што мая трывога была слушнай. Гэта ўжо адчулі Малдова, Грузія, Кыргызстан, нарэшце Украіна. З цягам часу мая трывога нарастала, і праз сем год вылілася тэкстам «Расея як міфатворца», змешчаным у газеце «Тыднёвік Магілёўскі» 25.02.2000 г. Рэдактар «Тыднёвіка» Г. Суднік, чалавек асцярожны, бо біты («Тыднёвіку» давялося пераажыць некалькі судовых працэсаў), палічыў вартым надрукаваць гэты тэкст без ніякіх скарачэнняў (тут ён падаецца ў правапісе газеты).*

## Расея як міфатворца

У апошні час мяне не пакідаюць думы пра Расею — нашага вечнага спадарожніка і неадчэпнага сябра. Неадчэпнага, нібыта катаржнік і канваір, скаваныя наручнікамі. І нельга разняць наручнікі, бо заржавеў ключ ад доўгага некарыстання ці ўвогуле згубіўся. І брыдуць цяпер двое небаракаў у часе і прасторы, і ўсё вымушаны рабіць разам, нават да ветру схадзіць. І ўсё адзін пра аднаго ведаюць наскрозь. Усё прадказальна без слоў і без доўгага роздуму. І

гэта ўжо выклікае раздражненне, што другі пра цябе ўсё ведае, да дна душы, куды й самому заглядваць не вельмі хочацца…

З боку дык і не разбярэш, хто там катаржнік, а хто канваір. Правы той, хто мацнейшы, як заўжды ў прыродзе. Але ў чым моц?..

Дзіўная краіна Расея. Яна падаравала свету шмат людзей высокага духу. І найбольшую колькасць зла, крыві і войнаў. Цяжкое мінулае цісне, гняце, не дае спакою. А спакою хочацца. Век такі, не маладзенькая ўжо. І Расея стварае міфы пра сваю дабрыню.

## I. Ахвяры міратворчасці

Вось адзін міф: Расея як міратворца ў Югаславіі. Колькі ляманту пра міратворчую місію! Колькі паказальных мерапрыемстваў!..

А калі проста задумацца над пытаннем: што было б у Югаславіі, калі б Расея не ўмешвалася? Адказ тут доўга шукаць не трэба, ён навідавоку: вайна скончылася б тым жа — капітуляцыяй Мілошавіча, толькі нашмат раней. Бо Мілошавіч, разлічваючы на больш істотную падтрымку Масквы, адцягваў гэткі канец, колькі можна было. Без Расеі вайна скончылася б нашмат раней, а таму нашмат менш было б ахвяраў, нашмат менш было б разбурэнняў. І калі гэта ўсвядоміць, то выказванні пра міратворчую ролю Расеі набываюць адценне нейкага цынічнага блюзнерства.

Расея не можа **быць** міратворцам. Гэтая нямогласць абумоўленая не толькі яе сучасным матэрыяльным станам, але больш — прычынамі гісторыка-генетычнымі. Краіна-заваёўнік, якая ўнесла ў гісторыю цывілізацыі ці не найбольшую колькасць войнаў, наўрад ці можа ўсведамляць сабе сутнасць і ступень маральнасці міратворчай місіі. Хаця я мог бы назваць шмат расейскіх славутасцяў, якія і па духу свайму, і па норме паводзін міратворцы ў самым высокім сэнсе гэтага слова, але такія людзі (як, напрыклад, А. Сахараў) ніколі не стаялі, не стаяць сёння і мне здаецца, што й не будуць стаяць у стырна расейскай палітыкі.

Цяпер вось Чачня. «*Мачыць* зладзеяў, тэрарыстаў!» — хто б не падтрымаў такое. Але зноў жа азірнемся.

Першую чачэнскую вайну Расея прайграла. Прычына навідавоку: стомлены расейскі народ не любіў сваю абгаджаную камуністамі радзіму. Такой радзімы яму не хацелася. Народ быў супраць

дзяржавы, якая яшчэ не паспела змяніць камуністычнага аблічча. Салдаты не хацелі ваяваць за яе. Журналісты іранізавалі з няўдалых генералаў. Грамадства вагалася паміж п’янствам і смехам. Паяцы ратавалі ад адчаю. За гэта іх, паяцаў, выбіралі ў Думу, ім, паяцам, дазвалялася красці болей, чым чалавеку звычайнаму. Паяцы сталі камерсантамі і палітыкамі. Паяцы сталі сілай. Народ піў, смяяўся і… яшчэ болей не любіў такую радзіму.

Тую вайну Расея і не магла выйграць. Не дапамагло (ды й не магло дапамагчы) і подлае забойства Джахара Дудаева. Трэ было шукаць прыстойную форму для паразы.

Можна было пайсці па шляху, пратаптаным іншымі каланіяльнымі краінамі: саступіць і дапамагчы былой калоніі, занядбанай і пакрыўджанай, дасягнуць прыстойнага жыцця. Але гэты шлях быў не для ганарлівай Расеі. У яе заўсёды «свой» шлях, хай гэты шлях будзе сцежкай праз сметнік, але важна, што свой.

Расея прыдала сваёй паразе форму нічыёй. Расейскія войскі зыходзілі з Чачні, але пытанне аб самастойнасці Чачні адкладвался на няпэўны час. І нібыта вольную Чачню пачалі душыць эканамічным кляпам: маўляў, паспрабуйце вольнага жыцця — самі папросіцеся назад, да сякой-такой кармушкі!

Чачня апынулася ў цісках. Ёй не маглі дапамагаць іншыя дзяржавы, бо Чачня не набыла статуса вольнай краіны і дапамога ёй не праз Маскву выглядала б як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы Расеі. З другога боку ёй не дапамагала Расея. Як у такіх варунках існаваць маленькай вольналюбівай краіне? Ці здацца, як таго й чакала Масква, ці імкнуцца вырваць права на сваю волю зубамі. Чачэнцы выбралі другое.

Цяпер можна доўга разважаць пра прыстойнасць, пра справядлівасць, пра чалавечнасць, пра дапусцімасць, пра маральнасць выбраных імі метадаў. Можна доўга разважаць аб тым, ці быў у Чачні іншы выбар…

Магчыма, яны пераацанілі свае сілы, адначасова недаацаніўшы сілы каварна прыціхлай перад драпежным скачком Расеі. Але вылаз у Дагестан і тэрарыстычныя выбухі (калі да іх спрычыніліся чачэнцы — усё ж тут у мяне дагэтуль ёсць сумненні) сталі крокамі адчаю, гэта быў выпад загнанага ў куток звера, выпад, справакаваны Расеяй. Справакаваны менавіта дзеля таго, каб «атрымаць мараль-

нае і юрыдычнае права» ўвесці ў Чачню адмабілізаваныя войскі з процьмай ваеннай тэхнікі і дадушыць вальналюбства маленькага народа, адбіваючыся ад абурэння міжнароднай супольнасці правам «мачыць бандытаў і тэрарыстаў».

Якія вушы тырчаць за паказным гневам расейскага бамонду відаць хаця б па тым, з якой паспешнасцю скарыстала Расея «падараваную» чачэнскімі бандытамі падставу. Можна было б паспрабаваць вырашыць пытанне аб пакаранні бандытаў разам з прэзідэнтам Масхадавым. Не сумняюся, што ён пайшоў бы на такое ўзаемадзеянне, бо ў яго былі на тое свае прычыны (упэўнены, што Масхадаў не пасылаў чачэнскія войскі ў Дагестан і не ўхваляў гэтай інтэрвенцыі).

Але пайсці на перамовы з Масхадавым азначала, па-першае, прызнаць яго як прэзідэнта дзяржавы, раўнапраўнай з Расеяй, што для гонару Расеі было ну аніяк немагчыма. Па-другое, навошта расейскім генералам толькі бандыты, ім падавай усю Чачню цалкам. А што сваіх хлопцаў пакладзеш, дык і што з таго — у Расеі народу шмат. І расейскія войскі пайшлі «мачыць» нібыта бандытаў, а насамрэч Масхадава, уся бяда якога, што ён не стаў кланяцца і ўдыгаць перад Масквой.

«Россия — неделима!» Гэты замшэлы ад царскіх часоў лозунг пачырваніла свежая кроў тысяч расейскіх і чачэнскіх хлопцаў. Цяпер расейскі мужык ці расейская баба і сапраўды нейкі час будуць лічыць чачэнскую зямлю сваёй, пакуль не сцячэ з яе кроў расейскіх салдатаў, іх сыноў.

Але Расея падзельная. Пра гэта ведаюць фіны, палякі, эстонцы, латышы і літоўцы, ведаюць жыхары Аляскі і Сярэдняй Азіі. І XXI стагоддзе гэта пакажа яшчэ лепш. Толькі для лёсу Беларусі было б лепш трымацца ад братняй Расеі адасоблена, каб і яе ў чарговы раз не падзялілі.

### II. Гарматы і штыкі дабрачыннасці

Расея паспрабавала быць дэмакратычнай. Атрымалася кепска. Цяпер і свабодныя расейскія журналісты вымушаныя славасловіць сваіх цароў і баяраў. І не зможа Расея існаваць у дэмакратычным стане, пакуль з галоў яе насельнікаў не выветрыцца дух імперскасці.

Гаворка тут не ідзе пра Пуціных-Зюганавых ці іншых стырнавых. Гаворка пра расейца звычайнага, шараговага.

Людзі Расеі самі па сабе ўжо й не здольныя заўважаць ступень гэтай сваёй хваробы. А чалавеку з боку яна кідаецца ў вочы амаль ці не пры кожным кантакце з расейцам.

Вось багатая газета «Новые известия» падаравала малым дзецям чачэнскіх уцекачоў месячны адпачынак на Чорным моры. Рассаджваюць па аўтобусах і абураюцца: «Гэта ж трэба! Ніводзін з дзяцей не ведае расейскай мовы!» На думку прадстаўнікоў даволі прагрэсіўнай газеты, шасцігадовае чачэнскае дзіця абавязана ведаць расейскую мову. А якую мову павінен ведаць шасцігадовы татарын ці карэл? Таксама расейскую? А куды ж дзяваць мову родную, на якой размаўляюць іх бацькі? Ну ніяк не лезе ў галаву расейскага абывателя думка аб тым, што гэта нармальная з’ява, калі маленькі чалавек ведае толькі родную мову. А расейская мова, як ні круці, не родная. Цікава, колькімі мовамі валодае звычайны шасцігадовы расейскі хлопчык ці дзяўчынка? Няўжо ж дзвюма ці трыма?!

Вось вядомы пісьменнік-гумарыст М. Задорнаў, гастралюючы ў Менску, завітаў у «Макдональдс» падсілкавацца і ўбачыў там на цэнніку слова «чызбургер», натуральна напісанае па-беларуску з літарай «ы». Але чалавеку не прыйшло (і, мабыць, не магло прыйсці) да галавы, што слова напісана не па-расейску. На яго думку, у Менску і не могуць пісаць не па-расейску. Ён палічыў, што гэта такая дзіўная памылка ў расейскай мове і дапоўніў ёю сваю калекцыю падгледжаных недарэчнасцяў. Цяпер ці не на кожным з сваіх выступленняў ён распавядае пра менскі «чЫзбургер». Вось так бывае, што беларуская мова і ўласная абмежаванасць дапамагае расейскім майстрам слова зарабляць грошы. Сумнае «ха-ха!»

Вось вядомы расейскі пісьменнік, Нобелеўскі лаўрэат, выказаўся наконт таго, як «обустроить» Расею. І, «абустройваючы» Расею, ён заадно «абустройвае» і Беларусь з Украінай як дзве часткі Расеі.

А вось расейскі радыёжурналіст распавядае пра тое, як Зюганаў адзначаў дзень смерці Леніна. Перадаючы словы лідара камуністаў, журналіст хоча выказаць сваю нязгоду з імі. І ён нагадвае слухачам пра тое, як Ленін гандляваў «исконно русскими землями», падпісваючы «Брестский мир». Журналісту няўцям, што ён тым самым квапіцца на тэрытарыяльную цэласнасць суседняй дзяржавы. Для

яго Беларусь як асобная краіна не існуе. Ён мысліць катэгорыямі і маштабамі Расеі вялікай, і яму няма справы да пачуццяў нейкіх там беларусаў, чачэнцаў, удмуртаў.

Больш за тое, нават гэтыя пачуцці расеец трактуе на прыемны для сябе лад, яму хочацца (а таму ён так і бачыць), каб усе гэтыя «малыя народы», на чыіх землях ён гаспадарыць і пануе, былі ўдзячныя яму. І ствараецца чарговы міф — пра дабрачыннасць заваёўніцкай дзейнасці Расеі, пра тое, што народы толькі й чакалі «выратавальнага» прышэсця расейскіх войскаў і сустракалі Ермака, Суворава і г.д. хлебам-соллю з мокрымі ад удзячнасці вачыма і з паклонамі да зямлі. «А хіба не так?!» — чую я здзіўленае пытанне аднаго з маіх расейскіх сяброў.

Гэты міф найбольш выразна адлюстраваны ў гістарычным трактаце («опыте исторической публицистики») нейкага Ф. Несцерава, выдадзеным у 80-х гадах аж трыма буйнымі выданнямі і ўзнагароджаным прэміяй ці не раней, чым ён паступіў у кнігарні. Нягледзячы на адыёзнасць гэтай кнігі, адзін сказ адтуль заслугоўвае, каб яго працытаваць: «В целом для России XIII–XVIII веков состояние мира было скорее исключением, а война — жестоким правилом». Шэсць стагоддзяў амаль бесперапынных войнаў!!! А ці нашмат лепшыя наступныя два? Толькі для Ф. Несцерава гэта правільныя войны, з карысцю і для Расеі, і для заваяваных ёю народаў.

Але ж як была Расея пры царызме «жандармам Еўропы», такой яна засталася і пры саветах. Праўда, не для ўсёй Еўропы, а для «сацыялістычнага лагера». Наствараўшы лагераў на сваёй тэрыторыі, расейскія старшыні стварылі лагер і ў Еўропе. Ім здавалася, што ў іх лагеры жыць будзе добра. І яны абураліся няўдзячнасцю вугорцаў, чэхаў, палякаў, якія раз-пораз спрабавалі вызваліцца з гэтага лагера. Абураліся настолькі, што зацiскалі гэтую няўдзячнасць узброенымі войскамі і танкамі.

Міф аб дабрачыннасці расейскіх войнаў развіваецца ў другім міфе — аб тым, як народы, абласканыя Расеяй, хутка развіваюць сваю культуру, сваю прамысловасць, народную гаспадарку, мастацтва. Маўляў, без Расеі нічога гэтага не было б (проста дзіву даешся, як гэта незаваяваная Расеяй Японія яшчэ неяк развіваецца).

Але было б ці не было б, — не будзем спрачацца. Важней тое, што дабрачыннасцю тут і не пахне. Плата за такую дапамогу звыш

меры! Якуцкае золата і алмазы, чачэнская нафта, крымскія ўзбярэжжы, карэльскія лясы, чукоцкія цюлені і каляровыя металы, мардоўскі мёд, эвенкійская пушніна — усё гэта папаўняе чэрава Расеі, даволі часта не на карысць ні ёй, ні абрабаваным народам. Варта тут успомніць, што культурныя каштоўнасці, вывезеныя пры эвакуацыі на пачатку вайны з Беларусі, дагэтуль не вернутыя нашай краіне. Яскравы прыклад дзяржаўнага рабаўніцтва.

Расея скарыстоўвае нават душы прысвоеных народаў. «Вялікі рускі пісьменнік Чынгіз Айтматаў»! Так, гэты кыргыз пісаў на мове расейскай. Але для таго, каб пракрычаць на ўвесь свет (найперш, на расейскамоўны свет) кыргызскае паданне пра манкуртаў (ці не расейскамоўным кыргызам адрасаванае?) і ўстурбаваць гэты свет лёсам каня Гульсары, у вобразе якога толькі глухі, сляпы і бяздушны не адчуе болю і енку Кыргызстана, што ціха канаў у расейскім палоне.

Як добра жывецца народам пад расейскім крысом, якога росквіту яны дасягнулі, мы бачым на прыкладах з жыцця крымскіх татараў, карачаеўцаў, чаркесаў, паволжскіх немцаў, карэйцаў, туркаў-месхетынцаў, балкарцаў, курдаў, тых жа інгушоў і чачэнцаў. Гэта пра іх, вышэйпералічаных, гаворыцца ў справаздачы Хельсінскай групы па правах чалавека (1991 г.):

«Як правіла, дэпартацыі праходзілі без папярэджання. Перасяленню падлягалі ўсе прадстаўнікі вызначанай народнасці — мужчыны, жанчыны, старыя, хворыя, інваліды. Некаторым удавалася сабраць за выдзеленыя хвіліны сякія-такія пажыткі, іншым увогуле нічога не дазвалялася браць з сабой. Аўтаматчыкі заганялі іх спачатку ў грузавікі, а затым у таварныя вагоны, у якіх іх чакаў шлях працягласцю ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў у далёкія раёны Сярэдняй Азіі. Там іх выгружалі і пакідалі на волю лёсу з мізэрнымі запасамі. Многія тысячы паміралі ў дарозе. Яшчэ болей загінулі ад голаду, холаду і хваробаў у месцах высылкі…»

А што вы ведаеце пра чукчаў, акрамя зняважлівых анекдотаў? І, магчыма, мала хто ведае пра нацыянальна-вызвольнае, залітае крывёю, паўстанне тывінцаў у 30-х гадах. Але я не веру, што гэтага не ведае адданы служка Пуціна Сяргей Шойгу. Скарыліся тывінцы? Спытацца б у іх. Але адказ ужо вядомы. Бо сёння насельніцтва Тывы больш чым напалову складаюць чыстакроўныя арый… пра-

бачаюся, расейцы. Магчыма, удзячныя Расеі карэла-фіны? Ці іжорцы? Ці нанайцы? Ці вепсы, якіх засталося не болей за сотню і якія так і не змаглі пад апякунствам Расеі стварыць сваёй пісьмовасці?

А вось — дадзеныя перапісаў: у 1929 годзе на абсягах расейскай федэратыўнай дзяржавы існавала 191 народнасць, у 1979 годзе іх было ўжо 132. Удзячныя Расеі народы зыходзяць у нябыт. Застаюцца няўдзячныя. Яны хочуць волі. І яны яе здабудуць.

*У 2013 годзе магілёўскія пісьменнікі пачалі выданне свайго альманаха «Брама». У першы выпуск я прапанаваў і тэкст «Расея як міфатворца». Як мне бачылася, нягледзячы на аддаленасць у часе пазначаных у тэксце падзей, якія ўжо шмат хто і не памніць, тэкст не страціў сваёй актуальнасці. А насцярожанасць да расійскай палітыкі працягвала нарастаць. Мае сябры па пісьменніцкай арганізацыі, мабыць, не адчувалі такой насцярожанасці і прагаласавалі супраць публікацыі тэкста ў альманаху («бо гэта палітыка, а не літаратура»), нягледзячы на меркаванні такіх вядомых асоб, як У. Арлоў, Л. Баршчэўскі, У. Някляеў, П. Садоўскі, якія выказаліся ў падтрымку публікацыі тэксту. Пазней тэкст быў надрукаваны з невялікімі скарачэннямі ў газеце «Літаратурная Беларусь» 27.09.2013 г. Там я дадаў вось гэты пастскрыптум:*

P. S. Сумны жарт з інтэрнэт-каментароў да сёлетняга Еўрабачання (там беларуская спявачка Алена Ланская атрымала ад Расіі нуль): «Беларусь расейцы лічаць сваёй тэрыторыяй і таму не галасавалі за Алену. За спявачку ж ад сваёй краіны галасаваць нельга». Я не збіраюся абараняць спявачку. Магчыма, яна і заслугоўвала такой адзнакі. Я — пра жарт. У кожным жарце, кажуць, ёсць доля праўды. Тут гэтая доля досыць вялікая. Паглядзіце расійскі «Словарь иностранных слов». Там знойдзеце словы, запазычаныя з розных моваў, у тым ліку моваў народаў СССР — казахаў, украінцаў ды іншых. Але не знойдзеце слоў, запазычаных з беларускай мовы, хаця такіх слоў насамрэч шмат. Гэта ж не «иностранные» словы. Паглядзіце расійскі «Мифологический словарь». Там знойдзеце артыкулы пра багоў ды іншых міфалагічных істотаў розных народаў, нават удмуртаў, эскімосаў і чамораў, але не знойдзеце багоў беларускай міфалогіі. Беларусі як асобнай краіны для расійцаў дагэтуль не існуе.

*Калі ў наступным годзе пачалася ўкраінска-расійская вайна, меркаванні маіх сяброў пісьменнікаў адносна агрэсіўнай палітыкі Расіі змяніліся. І зараз яны такі тэкст, хутчэй, прынялі б да публікацыі. Бо Беларусь была і застаецца вабным кавалкам для «русского мира». Хіт-парад славаслоўяў аб еднасці нашых двух народаў узначальвае ўжо не лозунг «Мы — братнія народы», а іншы: «Мы — адзіны народ». Чарговы раз я пачуў яго там, дзе ўжо ніяк пачуць не чакаў, — на вечарыне да 80-годдзя кінарэжысёра В. Турава. Не стрымаўся, даслаў у «Народную волю» свой водгук, напісаны рускай мовай, бо адрасаваны тым, хто беларускай не разумее і не чытае. Надрукаваны з скарачэннямі 9 лістапада 2016 г.*

## Бурляевщина

Давайте представим: живут три брата. И вот как-то один из них, самый толстый, говорит: «Мы не трое, мы — один человек с одной на всех головой, с одним языком, с одним на всех детородным органом…» Думаю, что в такой ситуации двум другим нашлось бы что возразить своему брату.

Примерно то же получается с легендой о едином народе, которая на знамени у «русского мира». Последний раз я её услышал там, где уж никак не ожидал услышать.

25 октября в столичном кинотеатре «Центральный» прошёл вечер, посвящённый 80-летию замечательного белорусского кинорежиссёра Виктора Турова. Вечер открыл Министр культуры Борис Светлов. Дальше люди, близко знавшие Турова, выходили с воспоминаниями, с посвящениями, с песнями… Выступали актёры и народные, и заслуженные, выступали коллеги режиссёра, его однокурсники, его ученики. Закончилось всё трогательными словами сына, дочери и внучки.

И всё было бы замечательно, если бы не испортили впечатление российские гости Владимир Гостюхин и Николай Бурляев.

Гостюхин не говорил о своих творческих контактах с Туровым. Это как-то не отложилось в его памяти или показалось ему несущественным. Он говорил о том, как Туров его в бане веничком… Или вот такой пассаж: «…Отъезжаем… Жена просит: “Ну вы там не напивайтесь”. — “Нет-нет”, — говорит Виктор. И я говорю: “Не

беспокойтесь, я прослежу”. И вот едем, поворачиваем на лесную дорожку и там, на полянке… из багажника… достаётся скатерть-самобранка… И такое началось!.. И потом уже едем дальше… Как приятно! Как замечательно! Какое удовольствие!»

Последнее говорилось с таким придыханием, что ясно было: лучшего удовольствия у Гостюхина не бывает. Удовольствие было у Гостюхина. А какое удовольствие было у жены Турова? Или у самого Турова, оставившего это мир на 61-м году жизни?

За Гостюхиным на сцену вышел Николай Бурляев, тоже известный человек из киноискусства, много снимавшийся, в том числе и у Турова. И тут началось… Прежде всего он предал анафеме «трёх иуд, разваливших в Вискулях великую страну», потом завёл ту самую песню о едином народе, в чём «никто не сомневается», тут вспомнил о «горстке националистов», не согласных с теорией единого народа и начал бомбить эту горстку такими словами, что если бы это было не на культурном мероприятии, то припечатал бы бедную горстку всей мощью российского мата. По крайней мере, к этому было близко. Люди сидели какими-то угнетёнными и кто-то из зала не выдержал, осадил народного артиста: мол, тут не время и не место заниматься пропагандой. С нескольких мест выкрик поддержали. Это немного умерило пыл оратора и он закончил своё выступление стихотворением А. Пушкина, тоже выбранном соответственно.

Вот теперь сижу и думаю: неужто народный артист не понимает, что эта назойливость, даже нахрапистость в пропаганде «русского мира» всюду, где только можно и даже, где нельзя, отталкивает людей? Получается результат, противоположный тому, какого они, апологеты этого «мира», хотят достичь. А если считать, что в «русский мир» входит большая часть населения России, кроме (по Путину) «отдельных представителей либеральной интеллигенции», то пора бы этому населению вздрогнуть и задуматься.

Знакомый предприниматель, бывающий часто за границей, недавно признался, что сейчас ему становится неловко, когда его там по языку воспринимают как русского, и он поправляет: мол, я не из России, я из Беларуси. И отношение сразу же меняется. Русских не любят, и это уже в массовом порядке на бытовом уровне. «Не любят», впрочем, неточное слово. К русским относятся как к людям,

обделённым разумом. Я даже не о высокой политике, где разума тоже меньше, чем хотелось бы. Я о том, как видят обыкновенного русского за границей. Вот чрезвычайно типичное.

Как-то смотрел в интернете один сюжет. В Турции российский турист с женой и ребёнком двенадцати лет зашёл в секс-шоп. Продавец его остановил у входа: мол, к нам с детьми нельзя. «Да что вы нас, русских, всё одёргиваете, что можно, что нельзя!..» Ему ещё раз (кстати, на русском языке, чем он мог бы и возгордиться) повторили, что детей в этот магазин не пускают. Но «Остапа уже понесло». Он матом и силой начал требовать «уважения» к себе. Всё закончилось тем, что после короткой драки покупателя и его растерянное семейство выдворили из магазина. А хозяин магазина потом выложил это видео на ютубе.

Я несколько раз в разное время посмотрел эту запись в надежде увидеть среди откликов такой: «Мне, русскому, стыдно за поведение этого недоумка, называющего себя русским». Не дождался. Ведь тут что важно: он же не говорит от своего имени, чего вы, мол, меня, не пускаете! Он говорит от имени своей нации: «Что вы нас, русских…» Он свою хамоватость возводит в ранг какого-то национального достоинства. И русские молчат. Соглашаются, что ли?

Один бывший могилевчанин, который сейчас живёт в Монреале, как-то попросил своих русскоязычных знакомых назвать несколько характерных русских привычек, «не затрагивая такие очевидные, как пить, красть, не улыбаться, делать на авось, любить тиранов и своё рабство и др.» Вот что он получил в ответ:

вера в начальство («начальник от Бога!»);

отсутствие критического мышления, отчего вера в то, что говорят по телевизору;

морализм (мы знаем, как правильно жить);

гордиться своей «русскостью» как бы приобщением к высокому клану, свирепеть до драки от малейшего посягательства на этот клан;

сорить деньгами («шиковать»), даже если они у него последние; показное презрение к богатству и вообще к хорошей жизни, святость нищеты;

сморкаться в два пальца и вытирать палец о стену, загорать в семейных трусах;

обзывать всех черножопыми, чурками, хохлами, нигерами, жидами и пендосами;

свято верить в широту русской души;

присесть дома перед выходом в дорогу;

петь песни хором на семейных застольях;

дарить подарки учителям на все праздники и окончание года («затрахала меня эта привычка», — добавляет автор);

фразочки «а нам до фени!», «а мне похер!»;

вылезть впереди всех зрителей и долго и нагло фотографироваться всей семьёй на фоне Джоконды или Венеры Милосской, мешая всем остальным…

Я понимаю, что отвечали не русофилы, хотя и не всё тут в негативе, некоторые из названых привычек вряд ли относятся к «характерно русским» и всё же, всё же…

В последнее время я замечаю ещё одну любопытную пропагандистскую деталь: цитирование русских классиков, особенно стихов. Выбираются стихи, конечно же, воспевающие, возвеличивающие. Или угрожающие. Но русская литература (и поэзия в частности) богатая и там при желании можно найти совсем другое.

Начиная от М. Лермонтова, которому надоела жизнь без смысла, жизнь «из любопытства» и который захотел быть убитым на дуэли, потому что закончить самоубийством было противно его христианской душе:

> «Прощай, немытая Россия,
> Страна рабов, страна господ,
> И вы, мундиры голубые,
> И ты, им преданный народ…»

Кстати, Н. Бурляев когда-то поставил фильм «Лермонтов», где сам же сыграл главную роль и потому знает и судьбу поэта, знает и эти четыре строчки. Знает, но не цитирует.

…Продолжая Б. Чичибабиным, который за свои стихи отсидел в сталинском концлагере:

> «Я родом оттуда, где серп опирался на молот,
> А разум на чудо, а вождь на бездумие стай…»

Или его же:

«Я дышал историей России.
Все листы в крови — куда ни глянь!..»

…Продолжая О. Мандельштамом, который, по М. Дудину, «был рождён не для тюрьмы, а умер около параши»:

«Мы живём, под собою не чуя страны
(великой по Н. Бурляеву),
Наши речи за десять шагов не слышны…»

…Продолжая Б. Окуджавой:

«Я живу в ожидании краха,
унижений и новых утрат.
Я, рождённый в империи страха,
даже празднествам светлым не рад.
Всё кончается на полуслове
раз, наверное, сорок на дню…
Я, рождённый в империи крови,
и своей-то уже не ценю».

… И продолжая сегодняшним днём, когда за стихи в России уже судят (судят, например, учителя из Орловской области Александра Бывшева за стихи в связи с событиями в Украине «России с нелюбовью», в которых он назвал Россию подлой… «Мне Россия больше не Родина — столько крови уже на ней»).

Битва, в которой оружием является слово, продолжается. Но если бы только словом и ограничивалось…

И вот же думается, что патриотизм авторов процитированных тут стихов намного выше и чище, чем показной и примитивно-навязчивый патриотизм Н. Бурляева. К сожалению, в головах многих россиян сегодня царит бурляевщина.

*Михаил Булавацкий, учитель*

*Праз тыдзень, 18 лістапада, «Народная воля» надрукавала водгук С. Букчына пад назвай «Критикуя «русский мир» не следует впадать в русофобию. Вопрос не только для школьного учителя».*

*Потым 23 снежня ў газеце з’явіўся мой адказ «Услышать боль, а не фобию». Рэдактар гатовы быў даць слова С. Букчыну і на гэтым закрыць спрэчку, але С. Букчын пакрыўджана адмовіўся ад такой магчымасці. Зацікаўленых адсылаю да старонак газеты, каб зэканоміць аб’ём гэтай кнігі.*

*Пазней у інтэрнэце знайшоў тэкст С. Букчына «*К истории окончания моего сотрудничества в «Народной воле».

*7.01.2017 г.* — *М. Булавацкі — Галоўнаму рэдактару «Народнай волі» І. Сярэдзічу*

Паважаны спадар Сярэдзіч! Калі Букчын настойваў на публікацыі гэтага ліста, то варта было тое зрабіць. Натуральна, з каментарам газеты, у якім патлумачыць Букчыну, што газета можа друкаваць розныя меркаванні, у тым ліку меркаванні ксенафобаў, бо гэта сродак ускалыхнуць грамадскую думку, засярodзіць увагу грамадства на балючай праблеме. Вы маглі б паведаміць Букчыну, што чытачы адгукнуліся, ёсць і такія, што падтрымліваюць Булавацкага ў яго «ксенафобіі». Маглі б сказаць, што не хацелі друкаваць адказ Булавацкага, але яго патрабаванне падтрымалі такія вядомыя людзі, як… (я іх Вам называў). Вы маглі б звязацца з імі, каб атрымаць кароткі каментар да нашай з Букчыным палемікі. Таму не ўсё так адназначна з «ксенафобіяй» ці «русафобіяй», як гэта бачыцца Букчыну.

Далей маглі б узгадаць нядаўнюю заяву дырэктара Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў Л. Рашэтнікава аб дзіцячым узросце беларускай мовы і аб Беларусі як гістарычнай частцы Расіі. Калі такое гучыць з боку высокапастаўленых асоб Расіі, то што можна пачуць ад шараговага расіяніна. Хіба там не беларусафобія? Мы вымушаны абараняцца ад гэтага! Асабліва ад такіх візіцёраў, як Бурляеў.

І можаце дадаць, што Булавацкі так і не зразумеў, што «вляпался в примитивную ксенофобию», ён лічыць, што калі большасць расіян падтрымліваюць сённяшнюю пуцінскую палітыку ў адносінах да Украіны, тады ён сапраўды русафоб.

І ўвогуле, сёння так званую «русафобію» (па Букчыну) можна знайсці ў выказваннях шмат якіх расійскіх дзеячаў, у тым ліку паэтаў. Вось, да прыкладу, верш вядомага расійскага паэта-песенніка Мікалая Зіноўева.

В степи, покрытой пылью бренной,
Сидел и плакал человек.
А мимо шёл Творец Вселенной.
Остановившись, он изрек:
«Я друг униженных и бедных,
Я всех убогих берегу,
Я знаю много слов заветных.
Я есмь твой Бог. Я всё могу.
Меня печалит вид твой грустный,
Какой бедою ты тесним?»
И человек сказал: «Я — русский»,
И Бог заплакал вместе с ним…

Па Букчыну гэта русафобія. А мне ўсё ж чуецца тут боль чалавека, які любіць Расію і хоча бачыць яе іншай. Боль, якую Букчын ніяк не можа пачуць. Бо ён з той большасцю. А гісторыя паказвае, што праўда часцей за меншасцю. Гэта большасць смяялася з ідэяў Капэрніка і Галілея і патрабавала іх пакарання. Гэта большасць расп'яла Хрыста на крыжы. Падобных выпадкаў у гісторыі чалавецтва процьма. Пакутаў Хрыста чалавецтва пакуль так і не адчула. Як не адчуў Букчын пакутаў расійскіх паэтаў.

І «скандалец», патрэбны газеце, Букчын няправільна разумее. Скандал заўсёды з'яўляецца тады, калі газета публікуе неагульнапрынятае меркаванне і выклікае грамадскае хваляванне і водгукі. І гэта нармальна, бо навошта друкаваць тое, з чым усе згодныя і што ніякай рэакцыі не выклікае. Таму газета павінна правакаваць скандалы, якія закранаюць істотныя для грамадства праблемы.

*Змаганне «беларускага свету» супраць «русского мира» на нашай тэрыторыі працягваецца…*

# НЕПАЖАДАНЫ ВЫСОЦКІ

*Напрыканцы 2015 года зрабіў справу, якой магу ганарыцца, — выдаў зборнік сваіх перакладаў з У. Высоцкага. Фактычна, гэта перапрацаваны і дапоўнены варыянт зборніка, выдадзенага яшчэ ў 1999 годзе. Той зборнік абласная бібліятэка набыла ў колькасці 200 асобнікаў. Такі набытак стаў магчымым таму, што кошт я назваў зусім мізэрны, фактычна бібліятэка набыла тыя кнігі амаль задарма. Мне хацелася, каб той зборнік быў у кожнай бібліятэцы вобласці.*

*І зараз, ужо з новым зборнікам, я завітаў у бібліятэку дамовіцца аб прэзентацыі. Загадчыца аддзела беларускай літаратуры Т. Калініна паабяцала запланаваць такую прэзентацыю на вясну. Але мінула вясна, мінула лета, мінала восень… Я нагадаў загадчыцы пра нашу размову сваім лістом, але Т. Калініна адмоўчалася. Мабыць, прыгожая жанчына лічыць, што на дамаганні мужчын не трэба саступаць адразу, але ж тут не тая сітуацыя. Потым быў электронны ліст дырэктару бібліятэкі, зноў жа без адказу. Чарговы запыт я накіраваў ужо заказным лістом і, калі б ён застаўся без адказу, наступны ліст быў бы адрасаваны ўжо пракуратуры. Такое ў мяне ўжо не раз было.*

*11.12.2016 г.* *М. Булавацкі — Дырэктару Магілёўскай абласной бібліятэкі І. Сарокінай*

Шаноўная Ілона Уладзіміраўна!

17 лістапада я накіраваў на электронны адрас абласной бібліятэкі свой запыт, адказу на які не атрымаў. Падумалася: магчыма, Вас не часта турбуюць праз электронны адрас і Вы не заглядваеце ў сваю паштовую скрынку. Таму паўтару сваю прапанову ў форме, якая абавязкова будзе заўважана Вамі.

17 кастрычніка мой ліст з гэтай прапановай быў накіраваны на імя загадчыцы аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры

Т. Калінінай. На жаль, Тамара Міхайлаўна не палічыла патрэбным нешта адказаць на мой ліст і я вымушаны патурбаваць больш высокапастаўленую асобу.

Вось змест ліста да Т. Калінінай:

Паважаная Тамара Міхайлаўна!

У канцы мінулага года выдавецтва «Кнігазбор» выдала зборнік твораў У. Высоцкага «Пра жыццё, пра волю, пра сябе…» у маіх перакладах на беларускую мову. У студзені мы з Вамі размаўлялі аб прэзентацыі гэтага зборніка ў бібліятэцы. Тады Вы сказалі, што люты ўжо заняты іншымі мерапрыемствамі, можна планаваць прэзентацыю на сакавік ці красавік. Прайшоў сакавік, прайшоў красавік, прайшло яшчэ паўгода… Мабыць, Вы пра мяне забылі? Таму нагадваю.

Зборнік прадаецца ў магілёўскіх кнігарнях. Не сказаць, каб актыўна, але пастулова разыходзіцца. Зараз афармляецца паўторны заказ на зборнік. Таму шмат хто з магілёўцаў з маімі перакладамі знаёмыя. Атрымліваю прыемныя водгукі.

Прэзентацыі зборніка прайшлі ў Брэсце, у Мінску (тройчы), у Глуску, Асіповічах, некаторых іншых раённых цэнтрах вобласці. Напрыканцы мінулага года я быў запрошаны на міжнародны бард-форум імя У. Высоцкага ў Брэсце, дзе з поспехам чытаў свае пераклады.

Думаю, што варта і чытачам вашай бібліятэкі азнаёміцца з гэтай працай.

Нагадаю, што Уладзімір Высоцкі — зараз адзін з самых папулярных паэтаў і бардаў свету, яго творы перакладзены ўжо больш чым на дзвесце моваў. Каля паўсотні гарадоў свету (не толькі Расіі) маюць вуліцы імя У. Высоцкага. А наш горад можа ганарыцца тым, што яго ўраджэнец, славуты кінарэжысёр Віктар Тураў зняў чатыры кінафільмы з удзелам акцёра У. Высоцкага ці з яго песнямі. Дарэчы, у гэтым годзе Віктару Тураву, народнаму артысту Беларусі, народнаму артысту СССР, споўніцца 80 год. Адзін з яго фільмаў да 100-годдзя кінематаграфіі рашэннем UNESKO ўключаны ў сотню самых значных фільмаў свету пра вайну.

Спадзяюся, юбілей В. Турава бібліятэка нейкім чынам адзначыць. Там можна ўспомніць і пра У. Высоцкага, з якім В. Турава звязвала глыбокае сяброўства.

Паважаная Ілона Уладзіміраўна! Пра юбілей В. Турава ўжо позна гаварыць, але 25 студзеня дзень нараджэння У. Высоцкага. Магчыма, у гэты дзень варта ўзгадаць знакамітага савецкага барда.

З добрымі пажаданнямі,

*Міхась Булавацкі*

*У панядзелак 26 снежня патэлефанавала Аксана Дабравіцына, паведаміла, што І.Сарокіна даручыла ёй размаўляць са мной наконт прэзентацыі. У аўторак я завітаў у бібліятэку і мы абмеркавалі, калі і як тое можа быць. Прапанаваная назва вечарыны «Паміж двума юбілеямі» мне спадабалася. Мелася на ўвазе, што юбілей В.Турава ўжо мінуў, а юбілей У.Высоцкага праз год. Адштурхнуцца ад Турава і плаўна перайсці да Высоцкага. Ідэя прыдатная.*

*Дамовіліся, што вечарына адбудзецца ў канцы студзеня, блізка да дня нараджэння У.Высоцкага. Далей пачалі абмяркоўваць дэталі. «Мы павесім афішу ў бібліятэцы... Мы размесцім абвестку на сайце бібліятэкі... Мы запросім прадстаўнікоў ТБМ, аднаго і другога саюза пісьменнікаў...» — «Трэ будзе запрасіць Сяргея Ўкраінку, — прапанаваў я, — ён рэдагаваў мой зборнік». — «Так, канечне, мы запросім Сяргея праз яго жонку, якая ў нас працуе». Пасля размовы з спадарыняй Дабравіцынай прышоў дадому задаволены. І стаў чакаць абяцанага.*

*3.01.2017 г.* *А. Дабравіцына — М. Булавацкаму*

уважаемый Михаил Петрович! поздравляю Вас с новым годом! наша встреча ориентировочно намечена на 20.01.2017 на 15.00. позже мы не можем — зал занят мероприятиями.

*Оксана Борисовна.*

*3.01.2017 г.* *М. Булавацкі — А. Дабравіцынай*

Добры дзень, Аксана Барысаўна! І я Вас віншую з Новым годам, які, спадзяюся, прынясе нам больш прыемных хвілін, чым мінулы.

Раздумваю над фразай «позже мы не можем». Маецца на ўвазе пазней у гэты дзень ці пазней па даце? Лепш, канечне, калі будзе

час бліжэй да вечара. Назва мерапрыемства «Паміж юбілеямі» мне падабаецца…

*5.01.2017 г.* *А. Дабравіцына — М. Булавацкаму*

день добрый! по дате позже не получается [*чаму не атрымліваецца?*]. а по времени — 20.01 библиотека работает до 15.00 [*як гэта — да 15.00?*]. к нам попросились на мероприятие учащиеся лицея БРУ, хотят почитать стихи Высоцкого. хотим еще пригласить учащихся, а они могут только в 14.30–15.00. с 9.01.17 будем уточнять с аудиторией и к этому дню надо определиться и с датой и с временем.

*5.01.2017 г.* *М. Булавацкі — А. Дабравіцынай*

Для абвесткі дасылаю рэцэнзію Магілёўскай пісьменніцы Тацяны Барысік з выявай вокладкі зборніка. Чакаю тэкст запрашэння, якое я буду рассылаць знаёмым.

*Далей быў доўгі перыяд маўчання. Блізілася прызначаная дата, і я вырашыў патурбаваць супрацоўніцу бібліятэкі.*

*16.01.2017 г.* *М. Булавацкі — А. Дабравіцынай*

Чакаю тэкст запрашэння. Трэба як раней, бо часу мала засталося.

*17.01.2017 г.* *А. Дабравіцына — М. Булавацкаму*

Уважаемые читатели и гости библиотеки!

Литературно-творческая гостиная «Вдохновение» УК «Могилёвская областная библиотека им. В. И. Ленина» приглашает посетить поэтический вечер памяти В. Высоцкого «Поэты всегда возвращаются», который состоится 20.01.2017 в 15.00

В программе вечера: чтение стихов, презентация сборника стихов В. Высоцкого «Пра жыццё, пра волю, пра сябе» в переводе на белорусский язык Михаила Буловацкого.

*Ужо не «Паміж двума юбілеямі». Такім чынам, размовы пра В. Турава не будзе. Што ж, гэты тэкст я стаў рассылаць знаёмым. Людзі здзіўляліся, чаму «поэтический вечер» адбудзецца днём, у працоўны час, калі большасць людзей занятыя і не могуць прыйсці. Я, таксама азадачаны гэтым пытаннем, нічога не мог патлумачыць.*

*У прызначаны дзень (пятніца, 20 студзеня) падышоў да бібліятэкі і спатыкнуўся аб паперку на дзвярах: «Сегодня в библиотеке выходной день». Азадачаны, штурхануў дзверы, яны адчыніліся. Каля ўвахода мяне сустрэла жанчына. «Што, у вас выходны?» — «Так, па пятніцах у нас выходны. Але гэта для наведвальнікаў. Службы бібліятэкі працуюць». — «У вас жа сёння запланавана мерапрыемства». — «Так. Мы вас чакаем. Праходзьце ў актавую залу». — «Тады, можа, абвестку аб выходным трэба зняць? Бо людзі будуць падыходзіць, пабачаць абвестку і сыдуць». — «Не, яны ж ведаюць пра сустрэчу. Чаго ж сыдуць?»*

*Але так і было. Вечарам пазванілі двое знаёмых з пытаннем, чаму не было абяцанай прэзентацыі. «Была, — кажу. — Але ж там быў выходны!»*

*Аксана Барысаўна не выканала амаль нічога з абяцанага. Ні абвесткі на сайце, ні запрошаных прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Нават майго рэдактара «забылі» запрасіць.*

*На прызначаны час у зале сядзелі 12 чалавек. Раптам адчыняюцца дзверы, і ў залу заходзіць група школьнікаў разам з маладым настаўнікам. Імпрэза пачалася. Хвілін пятнаццаць спадарыня Дабравіцына распавядала пра Высоцкага, пра яго творчасць, выбіраючы не самае вострае. Прагучаў кліп на песню «Мая каляіна». Далей яна паведаміла пра тое, што тут прысутнічае пісьменнік, які выдаў зборнік сваіх перакладаў з Высоцкага і — «няхай ён паслухае вершы Высоцкага ў выкананні вучняў 10 класа ліцэя Беларуска-Расійскага ўніверсітэта». Юнакі і дзяўчаты выходзілі на сцэну і, хто лепш, хто горш, чыталі вершы, відавочна, нядаўна вывучаныя, бо чыталі невыразна і з запінкамі. Настаўнік, стоячы каля сцэны з кніжкай у руках, падказваў тым, хто забываў радок…*

*З гэтага моманту я пачаў разумець, што адбывалася.*

*Мабыць, атрымаўшы мой заказны ліст, кіраўнікі бібліятэкі зразумелі, што маўчаннем ад мяне не адчапіцца, і селі «думу думаць»: як зрабіць так, каб і правесці і не правесці, бо — панабягуць усякія бээнэфаўцы з сваім «Жыве Беларусь!» — адны непрыемнасці. Задачка, як у той сялянкі з казкі братоў Грым, якой цар загадаў прыбыць да яго і не голай і не адзетай, і з падарункам і без падарунка. Разумная вясковая дзяўчына, як вы ведаеце, задачку развязала файна.*

*Але й нашыя жанчыначкі не лыкам шытыя. Добрыя дарадчыцы ў нашае загадчыцы! Сядзелі яны, сядзелі, думалі яны, думалі — і прыдумалі: а прызначым-ка мы тую прэзентацыю на пятніцу ды сярод працоўнага дня, прыдуць якіх пара пенсіянерак, ну й няхай. Пятніца — выходны дзень для наведвальнікаў, «лішняга» народу не будзе. А яшчэ запросім мы студэнтаў і школьнікаў Высоцкага пачытаць, няхай перакладчык паслухае. Няма чаго яму самому распінацца, бо ён жа павыбірае з Высоцкага самае абы-што.*

*Зацягнуць на «вечарыну» студэнтак бібліятэчнага тэхнікума неяк не атрымалася. А вось дзесяцікласнікаў ліцэя праз БРСМ удалося ўгаварыць. Меркавалася, што яны і займуць асноўны час мерапрыемства, чытаючы вершы Высоцкага, а маленькую рэшту часу аддаць перакладчыку. У выпадку чаго яго можна й спыніць: маўляў, працоўны час заканчваецца, трэба закрываць бібліятэку.*

*І вось я слухаў, як юнакі і дзяўчаты чытаюць Высоцкага. У некаторых гэта атрымлівалася някепска, часцей было няўдала, простае «бу-бу-бу» без нейкіх прэтэнзій на мастацкае чытанне. Трэці выканаўца, чацвёрты, пяты... Колькі ж іх будзе? Няўжо ўвесь клас? Але на дзясятым нумары «канцэрт» скончыўся. Настаўнік з пачуццём выкананага абавязку адышоў ад сцэны і сеў у зале.*

*Мабыць, ініцыятары «канцэрта» меркавалі, што ён займе амаль гадзіну, у Высоцкага ж творы не маленькія. Але выканаўцы выбіралі вершы кароткія і чыталіся яны няўмела, без сэнсавых націскаў, без паўз, без пачуцця. У варыянце «бу-бу-бу» гэта заняло менш за паўгадзіны. І вядоўца ўрэшце дала слова мне. Часу заставалася дастаткова, каб распавесці пра гісторыю з'яўлення зборніка, пра Высоцкага і яго творчасць, пра яго песні свабоды, бо жыў у несва-*

*боднай краіне, пра тое,* ***як*** *трэба чытаць Высоцкага, і паказаць нейкі «майстар-клас», прачытаўшы некаторыя з сваіх перакладаў.*

*Два ўражанні засталіся ў мяне пасля «вечарыны». Пачну з прыемнага.*

*Абмазгаваўшы тое, што адбылося, я вырашыў, што дасягнуў большага, чым планавалася. Вынік заслугоўвае ўвагі. Цэламу класу ліцэя загадалі прачытаць вершы У. Высоцкага, загадалі выбраць сабе які-небудзь твор, прымусілі гэты твор вывучыць на памяць і расказаць са сцэны. Не важна, што дэкламацыя была няўмелай. Гэтым вывучаным творам яны некалі будуць ганарыцца. І, магчыма, не раз яшчэ дэкламаваць. Я б сам і не прыдумаў, як такое зрабіць. А тут вось — добрая справа пад прымусам. Гэта ж як кацяня пысай тыцнулі ў сподачак з малаком. Да таго ж, яны яшчэ паслухалі іншыя творы Высоцкага, на якія, магчыма, самі і не звярнулі б увагі. І пра самога Высоцкага пачулі. Нешта з гэтага застанецца ў памяці і прозвішча ўжо будзе наслуханым, знаёмым. Адна карысць!*

*А другое ўражанне непрыемнае. Як бы ўжо й ведаеш, што ў нас нібыта прыстойныя людзі могуць рабіць непрыстойныя рэчы. Напрыклад, хлусіць. Але ж хочацца бачыць у кожным сустрэчным чалавеку найперш годнасць, а не нягоднасць.*

*Па заканчэнні імпрэзы я падышоў да спадарыні Сарокінай: «Ну і чаму ж вы так доўга супраціўляліся гэтай прэзентацыі?» — «Ды не, не супраціўляліся, — адказала яна. — У нас зала пастаянна занятая рознымі мерапрыемствамі». Мяне зацікавіла гэтая «пастаянная занятасць» залы, і на працягу наступных двух тыдняў я некалькі разоў заходзіў па вечарах у бібліятэку, каб папрысутнічаць на нейкім мерапрыемстве. Але ў тыя дні ніякіх мерапрыемстваў чамусьці не было. Тады я звярнуўся да супрацоўніцы бібліятэкі: «Скажыце, калі ласка, якія мерапрыемствы праводзіліся ў вашай актавай зале за апошнія тыдзень-два?» Яна задумалася: «Ну вось нядаўна была нейкая прэзентацыя...» — «Можа, прэзентацыя зборніка Высоцкага?» — «Во-во, — ажывілася яна, — менавіта Высоцкага». — «Дык гэта было два тыдні таму. А пазней?» — «Пазней, здаецца, нічога не было. Але, можа, я што прапусціла...»*

*Грамадства хворае на хлусню. Людзі хлусяць, бо хлуснёй спрабуюць ад нечага ўратавацца. За праўду яны могуць быць пакаранымі,*

*напрыклад, звальненнем з пасады ці хаця б дэпрэміраваннем. А за хлусню — наадварот, могуць і прэмію даць, і павысіць.*

*І хлусяць… Хлусіць чыноўнік людзям, хлусіць міліцыя ў судах, хлусіць суддзя, хлусіць настаўнік вучням, хлусіць доктар, выпісваючы пенсіянеру танныя лекі, бо «лепшых няма», хлусіць бібліятэкар. Ствараецца «культура хлусні». У гэтае шырокае, але досыць закрытае кола «сваіх» людзей, здольных да хлусні, не кожнага могуць прыняць. Не схлусіш — не патрапіш туды. І тады не бачыць табе «цёплай» пасады ці іншых жыццёвых прывілей.*

*Што ці хто прымушае хлусіць? Няўжо адзін чалавек ці нейкая купка людзей могуць так шалёна заразіць грамадства? Няўжо ў нашага народа такі слабы імунітэт да гэтай хваробы?*

*І вось жа яшчэ. Магілёўскі пісьменнік выдаў кнігу. Абласная бібліятэка павінна б ухапіцца за гэтую падзею, сабраць у зручны час магілёўскі народ шырокай і шыкоўнай рэкламай, каб з піетэтам паведаміць: вось наш пісьменнік, а вось яго кніга — слухайце, чытайце і ганарыцеся нашым земляком! Тым болей, што кніга — зборнік перакладаў выбітнага паэта з блізкай краіны, што ўмацоўвала б сувязі з братнім народам.*

*Замест гэтага — тупое маўчанне, якое доўжылася б і далей, каб не настырнасць перакладчыка.*

*O tempora! O mores!*

# МОВА ЎРАТАВАЛА АД ШТРАФА

*Хочацца скончыць гэтую сумную кнігу на нейкай прыемнай ноце. І такія выпадкі, на шчасце, бываюць... Але і гэты нібыта пазітыўны факт паказвае сённяшняе месца роднай мовы, якая палкоўніка здзівіла. Чалавек у сваім асяродку яе, мяркую, ніколі не чуў.*

*C'est la vie.*



Нeяк Алесь Агееў (адзін з герояў гэтай кнігі) ехаў на ровары. Як і патрэбна, ехаў па ходніку. Але людзей на ходніку было шмат, і, каб аб'ехаць нейкую групку, Алесь, паглядзеўшы, што машын няма, выехаў на праезную частку. Праехаў якіх дваццаць метраў і вярнуўся на ходнік. Але гэты яго кароткі манеўр адсачыў супрацоўнік ДАІ, спыніў і выпісаў штраф. Далей паслухаем спадара Агеева.

«І хто казаў, што нашыя праваахоўнікі не любяць беларускую мову?

Прыйшоў я сёння ў ДАІ па штраф. Вялізная чарга. Усім даюць штраф. Зайшоў. Там усе паперы на адну базавую ўжо падрыхтаваныя. Я, шчыра кажучы, маральна таксама гатовы. Але як толькі міліцыянты зразумелі, што ў пратаколе мае тлумачэнні напісаны не па-ўкраінску, а па-беларуску, то адразу заўсміхаліся, сталі тлумачыць мне, чаму яны вымушаныя выпісаць мне штраф.

Я стаяў на сваім: «Зразумейце мяне, калі ласка. Калі б пратакол быў складзены па-беларуску, то я б з задавальненнем заплаціў максімальны штраф. Я б у гісторыю ўвайшоў як першы чалавек, якому ў Магілеве пратакол і штраф выпісалі на беларускай мове!

А так можна абмежавацца папярэджаннем. Бо я законапаслухмяны грамадзянін, першы раз памыліўся, ды і аварыйнай сітуацыі не стварыў»…

Пасля паўзы яшчэ дадаў: «Да таго ж мне цікава, чым гэта скончыцца. Бо вы ж героі майго апавядання! Пачатак я напісаў, калі пратакол склалі, а фінал дапішу сёння ў залежнасці ад рашэння. Вось Вы, капітан, у мяне будзеце злым паліцэйскім, а вы, старшы лейтэнант (той хто вёў маю справу і ўсміхаўся), відаць, будзеце добрым!»

Для выгляду яны паспрачаліся, што адзін раз будзеш добрым і папярэдзіш, другі раз, а потым можа быць сур'ёзная аварыя… А затым «добры паліцэйскі» пайшоў па начальстве. Схадзіў у адзін кабінет безвынікова і пайшоў вышэй. Ці то старлей не хацеў стаць кепскім героем апавядання, ці то беларускай мовы ён таемны аматар, але вярнуўся з усмешкай і кажа: «Падпісвайце». Я адказваю, што яшчэ нічога не зразумеў, падпішу, а потым высветліцца, што я кватэру вам падарыў.

Ён смяецца і зноў: «Падпісвайце. Палкоўнік сказаў, што ўжо за адну мову можна абмежавацца папярэджаннем».

Карацей, выпісалі мне афіцыйнае папярэджанне, а не штраф, менавіта дзякуючы беларускай мове. Віват мове! Малайцы і разумныя міліцыянты. Адно я прайграў, бо так і не дабіўся, каб пратакол аб адміністрацыйным парушэнні на мяне склалі на беларускай мове».

# РАЗВІТАЛЬНАЕ СЛОВА



*Вось такое сёння жыццё беларуса ў роднай Беларусі. Я адрасую гэтую кнігу тым, хто сцвярджае, быццам у нас зацверджаная ў Канстытуцыі роўнасць моваў, якая і рэалізуецца. Наш спагадлівы народ на рэферэндуме прагаласаваў за роўнасць. Але тым, хто ініцыяваў той рэферэндум, ніякая роўнасць не была патрэбнай. Гэтай нібыта «роўнасцю» яны прыкрывалі галоўнае: «Цяпер мы маем права выбару!» І «права выбару» яны прысвоілі сабе. Ніякага такога права ў беларуса сёння няма.*

*Бланкі фінансавай дый любой іншай дакументацыі толькі на рускай мове! «Мы маем права выбару!» А маім правам выбару грэбуюць настолькі, што нават прапанова без аплаты зрабіць беларускамоўны бланк адхіляецца катэгарычна. Літасцівы дазвол: запаўняйце рускамоўны бланк па-беларуску. Спытаеш у гэтага начальніка: а чаму б не зрабіць беларускамоўныя бланкі, няхай іх запаўняюць па-руску? — ён проста не зразумее пытання і паглядзіць на цябе як на вар'ята.*

*Школа амаль цалкам рускамоўная. Беларуская мова вывучаецца ў форме «бэйсіка». Прапановы хаця б крыху пашырыць сферу прымянення (напрыклад, руска-беларускімі слоўнічкамі асноўных тэрмінаў на фарзацах рускамоўных падручнікаў ці хаця б рэкамен-*

*дацыяй да настаўнікаў паведамляць беларускія варыянты скарыстанай тэрміналогіі) адкідаюцца катэгарычна.*

*Беларускамоўных настаўнікаў (нават самых вопытных і кваліфікаваных) у школу не пускаюць, хаця б для дадатковых заняткаў на грамадскіх пачатках, без аплаты (!). Беларускія класы (там, дзе бацькі змаглі выціснуць) імкнуцца не папаўняць іншымі вучнямі, спыняючы спробы грамадскіх аб'яднанняў неяк паўплываць на гэты працэс.*

*Тэставыя, алімпіядныя ды іншыя заданні прапануюцца толькі на рускай мове. На патрабаванне змяніць такую практыку абяцаюць змяніць, але тут жа абяцанне забываюць.*

*Чалавек, які не валодае беларускай мовай, сёння нікога не дзівіць, а на чалавека, які не валодае рускай, паглядзяць з неўразуменнем: чаго ты прыдурваешся!*

*У выбарчыя камісіі (і кандыдатамі ў дэпутаты) беларускамоўных грамадзян не пускаюць, пад рознымі надуманымі прычынамі. Маўляў, звяртайцеся ў суд. І суд нават калі-нікалі можа дзейнасць чыноўніка прызнаць няправільнай. Але выпраўляць яе позна.*

*Можна доўга пералічваць аспекты такой дзяржаўнай палітыкі, якая цягнецца з часоў Кацярыны II (верны слуга якой А. Сувораў заваяваў нашы землі для Расіі), і пазней Мураўёва-вешальніка: «Што на гэтай зямлі не дарабіў рускі штык, даробяць руская школа і рускі чыноўнік».*

*У свой час, звяртаючыся да прадстаўнікоў беларускага дваранства, гэты граф настаўляў: «Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край».*

*І вось ужо дзвесце год верныя паслядоўнікі вешальніка адбіраюць у нас мову, веру, традыцыі, гісторыю, памяць, прымушаюць пакінуць свой край. Ці ж атрымаецца?..*

*Вось гэта ўсё, аб чым вы прачыталі ў «эпісталярыях», магло быць і ва Украіне, калі б там своечасова не схамянуліся. Зараз, калі ўкраінцы заплацілі за сваю волю вялікай крывёй, «прыручыць» іх*

*зноў, вярнуць ім савецкія парадкі і звычкі не атрымаецца. Дарога наперадзе ў іх яшчэ цяжкая і пакручастая. Але не збочаць!..*

*І яшчэ адно. Родныя браткі палякі! Усё тое, пра што распавядаецца ў гэтай кнізе, магло быць пры іншых гістарычных калізіях адрасаваным не рускай мове і рускаму народу, а польскай мове і польскаму народу. Здрыганіцеся, усвядоміўшы такое. І надалей давайце суіснаваць у сяброўстве і ўзаемнай павазе да мовы, гісторыі, традыцый кожнага з братніх народаў.*

*Некалі С. Шушкевіч прапанаваў мне напісаць тэкст на тэму «Як я абараняю родную мову пры панаванні іншамоўя». Тэкст быў надрукаваны ў зборніку «Ненасілле і Беларусь» (Варшава, 1999). Гэтую кнігу можна разглядаць як працяг таго тэксту. Працяг, у якога, мяркую, таксама будзе працяг…*

## Іменны паказальнік

## Змест

**Булавацкі, М.**

Б90 Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць / Міхась Булавацкі. — Смаленск : Інбелкульт, 2017. — 336 с.

ISBN 978-5-00076-040-6.

У вашых руках кніга рэдкаснага жанру — зборнік ліставанняў чалавека, беларуса, з інстанцыямі па статусе беларускімі, але па сваёй дзейнасці пераважна антыбеларускімі, хаця і тут ёсць прыемныя выключэнні. Размова ідзе пра камфортнасць ці дыскамфортнасць пражывання беларуса на сваёй зямлі, пра яго змаганне з бюракратычнай сістэмай за беларускую мову, якая спрабуе выжыць ужо 320 гадоў, і пра маральны змест барацьбы за яе. Кніга будзе карыснай асабліва тым, хто вядзе гэткую ж барацьбу ці гатовы да яе падключыцца, а таксама навукоўцам, якія даследуюць аспекты гісторыі Беларусі апошніх трыццаці год, найперш яе сістэмы адукацыі.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(4Беи)**

Пры аздабленні вокладкі выкарыстаны фрагмент карціны Базыля Камарова «Белае жарабятка».


*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Булавацкі** Міхась

**Беларус у Беларусі**

*Эпісталярыі пра мову і маральнасць*

Адказны за выпуск Аляксандр Пашкевіч
Рэдактар Барыс Пятровіч
Вёрстка Антона Ласевіча
Карэктар Юлія Аляксандрава

Падпісана да друку 18.09.2016. Фармат 84×108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 17,64. Ул.-выд. арк. 14,7.
Наклад 200 ас. Зак. 317.

ТАА «Інбелкульт».
АДРН 1136733002120.
Пас. Малкамбіната, д. 21, 216790, г. Рудня Смаленскай вобласці,
Расійская Федэрацыя

Паліграфічнае выкананне
ВУП «Воля»
Вул. Каперніка, 118-2, Львоў, Украіна